*А. Ф. Рогалеў*

# СЦЕЖКІ Ў ДАЎНІНУ

**Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся**





МІНСК "ПОЛЫМЯ" 1992

ББК 63.3(2Б)
Р 59

Рэцэнзенты: *А. Грыцкевіч, П. Лойка*

Книга представляет собой своеобразное путешествие в историческое прошлое Полесского края. В географических названиях городов — Гомель это или Мозырь, Кобрин или Брагин, Лоев или Лельчицы, Ленин или Клецк — "зашифрована" жизнь наших предков. Разгадать их смысл пробует автор — топонимист А. Рогалев. Он дает свое разъяснение загадки дреговичей, полесских мордвинов, высказывает собственное мнение о происхождении названий Князь-озеро, Сож, Припять и др.

**Рогалеў А. Ф.**
Р 59 Сцежкі ў даўніну: Геагр. назвы Беларус. Палесся. Мн.: Полымя, 1992. —159 с.
ISBN 5-345-00398-Х.
Рогалев А. Ф. Дороги в старину: Геогр. названия Белорус. Полесья.
Кніга ўяўляе сабой своеасаблівае падарожжа ў гістарычнае мінулае Палескага краю. У геаграфічных назвах гарадоў — Гомель гэта ці Мазыр, Кобрын ці Брагін, Лоеў ці Лельчыцы, Ленін ці Клецк — "зашыфравана" жыццё нашых продкаў. Разгадаць іх сэнс спрабуе аўтар — тапаніміст А. Рогалеў. Ён дае сваё тлумачэнне загадкі дрыгавічоў, палескіх мардзвінаў, выказвае асабістую думку наконт паходжання назваў Князь-возера, Сож, Прыпяць і інш.
Для шырокага кола чытачоў.

Р $\frac{0503020903—081}{М 306(03)—92}$ 10—91 ББК 63.3 (2Б)

ISBN 5-345-00398-Х

## АД АЎТАРА

Цікавасць да гісторыі Радзімы, свайго народа, роднага горада, роднай вёскі ўласціва чалавеку па самой яго сутнасці: кожны з нас, разумее ён гэта ці не, вырастае на спадчыне, у якой сканцэнтраваны векавы вопыт, светапогляд і духоўнае багацце народа.

Але ці заўсёды правільна мы разумеем гісторыю? Ці ўмеем адрозніваць у ёй галоўнае ад другараднага? У час маіх паездак па Палессі, ды і ў іншых сітуацыях мне нярэдка даводзілася чуць, што ў многіх з нашых малых палескіх гарадоў і вёсак няма багатай і выразнай гісторыі. Той, хто прытрымліваецца такой думкі, за ўзор сапраўднага гістарычнага месца звычайна прымае шэры колер сярэдневяковых пабудоў, шпілі гатычных сабораў, вузкія вулачкі-тунелі, базарную плошчу з натоўпамі турыстаў... Бясспрэчна, усё гэта робіць вялікае ўражанне. Аднак наўрад хто можа не пагадзіцца з тым, што гісторыя цікавая не толькі знешнімі прывабнымі атрыбутамі, а перш за усё сваім зместам, сваёй сутнасцю, захаванасцю ў чалавечай памяці. І ў гэтым сэнсе няма гісторыі беднай ці багатай, яна — усюды свая, непаўторная. Дзе б ні жыў чалавек, гісторыя — побач з ім. Трэба толькі прыглядзецца, пашукаць, знайсці і абавязкова захаваць.

Праўда, калі няма ніякіх фактаў, летапісных звестак ці іншых архіўных матэрыялаў, паведамленняў падарожнікаў мінулага, народных легенд і паданняў, гісторыя маўчыць, спіць і разбудзіць яе вельмі цяжка. А калі такія факты і паведамленні ёсць, здаецца няма нічога больш цікавага, чым звязаць іх у адпаведны лагічны ланцужок, знайсці нехапаючыя звенні. У гэтай кнізе чытач сустрэнецца з гісторыяй асобных гарадоў і вёсак Палесся. Нас цікавяць, перш за ўсё, вытокі адпаведных населеных пунктаў, іх пачатковыя старонкі, менавіта тыя далёкія гістарычныя падзеі, ледзь адчувальны водгук

якіх вельмі слаба чуваць ў калейдаскопе стагоддзяў, бо яны (гэтыя падзеі) недастаткова, фрагментарна адлюстраваны ў дакументах і легендах.

Магчыма, сёй-той і палічыць такую накіраванасць пошуку трохі дзіўнай і не вартай увагі. Але не трэба спяшацца, лічыць такі падыход да праблемы рызыкоўным ці абмяжоўвацца заўвагай, што падобнае падарожжа ў мінулае магчыма толькі ў фантастычных летуценнях або ў мастацкім творы. Калі толькі спасылацца на недахоп фактаў і па гэтай прычыне адмаўляцца ад глыбокага экскурсу ў мінулае, мы так ніколі і не даведаемся аб поўнай драматызму старажытнай беларускай гісторыі. Больш таго, мы можам страціць нават тое, што маем зараз.

Жывая гісторыя менавіта тая, што была на самай справе, а не нарадзілася за пісьмовым сталом, заўсёды абавязкова фіксуецца ў адпаведнай мясцовасці. Праявы яе могуць быць самымі разнастайнымі і нечаканымі. У гісторыі, напрыклад, ёсць свая "мова". Гэта — "мова Зямлі", або геаграфічныя назвы, тапонімы (ад грэчаскіх слоў topos — "месца" і onoma/onyma — "імя, назва"). Здараецца так, што нават за адным толькі словам — назвай адпаведнага месца — стаяць надзвычай захапляючыя гістарычныя падзеі. Яны толькі да часу схаваны ад вачэй, як быццам бы тыя рэшткі старажытнага жытла, знайсці якія заўсёды марыць археолаг. Менавіта тапонімы часам даносяць да нас такія звесткі, якія не заўсёды дадуць самыя лепшыя археалагічныя знаходкі. Справа ў тым, што геаграфічныя імёны, асабліва старажытныя, уяўляюць сабой сабраны ў адно слова, зашыфраваны ў мінуўшчыне "тэкст". У гэтым тэксце ёсць тры роды інфармацыі. Першая — *уласна лінгвістычная*, якая дазваляе зразумець моўную прыналежнасць назвы і яе будову. Другая інфармацыя — гэта інфармацыя *энцыклапедычная*, якая захоўвае падрабязнасці нараджэння слова, расказвае аб гістарычных і геаграфічных умовах яго першапачатковага існавання. Інфармацыя трэцяга роду — *сітуатыўная* — апавядае пра адносіны тых, хто даваў імя, да аб'екта, яго назвы. Яна дапамагае даследчыку ўзнавіць сітуацыю, у якой носьбіты пэўнай мовы выбіралі слова для наймення адпаведнай мясцовасці ці аб'екта на ёй.

Геаграфічная назва — гэта не толькі адрасны знак, з дапамогай якога мы адрозніваем адзін аб'ект ад другога, дакладна ўказваем іх месцазнаходжанне. Адрасная функцыя тапонімаў самая першая, спрадвечная, але не адзіная. Кожнае геаграфічнае імя валодае немалым пазнавальным патэнцыялам, нясе вялікі зарад культурнага і ідэалагічнага ўздзеяння, выхоўвае любоў і пашану да роднага краю,

яго мінулага і сучаснага. Назвы — гэта неад'емная частка нашай спадчыны, своеасаблівы сімвал, у якім спалучаюцца гістарычныя здабыткі і светапогляд народа, гэта той таямнічы запіс, які апавядае нам пра мінулыя падзеі і здарэнні, яны — такі ж помнік нашай гісторыі, як і высечаныя з граніту манументы і абеліскі. Нездарма першыя айчынныя тапанімісты яшчэ ў XIX ст. называлі геаграфічныя імёны "мовай Зямлі". Гэтае метафарычнае абазначэнне ўпершыню выкарыстаў выдатны вучоны М. І. Надзеждзін, які ў адной са сваіх прац заўважыў: "Тапаніміка — гэта мова Зямлі, а Зямля ёсць кніга, дзе гісторыя чалавечая запісваецца ў геаграфічнай наменклатуры".

З лінгвістычнага пункту гледжання геаграфічныя найменні ўяўляюць сабой словы, якія трапілі на геаграфічную карту, адарваліся ад пэўных умоў і часу, што стварылі іх. Жывуць такія словы, выконваюць сваю службу і ўспрымаюцца як звычайныя, нягледзячы на тое, што ўзніклі яны ў розныя гістарычныя перыяды і захавалі ў сабе ў той ці іншай форме подых розных часоў. Вывучаюцца тапонімы, як і агульныя словы, лінгвістычнымі метадамі. Іх неабходна аналізаваць у прасторы і часе, гэта значыць, трэба рэканструяваць гістарычны фон, на якім адбывалася нараджэнне назвы, і ўсвядоміць асаблівасці самога геаграфічнага аб'екта. Без гэтых умоў самыя вытанчаныя спробы зразумець імя будуць дарэмнымі. Вось чаму, калі ніжэй ў асобных нарысах мы з дапамогай геаграфічных назваў будзем пракладваць сцежкі ў даўніну нашых палескіх гарадоў і вёсак, размова пойдзе не толькі пра ўласна тапонімы, але і пра разнастайныя гістарычныя падзеі. Такім чынам, гісторыя — у назвах, назва — у гісторыі.

У кожнага тапоніма свой лёс. І кожны з іх адлюстроўвае такую характэрную асаблівасць аб'екта, якая была найбольш выразнай, важкай, самай адметнай яго рысай у момант узнікнення назвы. А такой прыкметай, якая кідаецца ў вочы, можа быць пэўнай падзея, імены першых пасяленцаў ці ўладальнікаў вёскі, рамёствы жыхароў, а то і зусім выпадковае здарэнне. Кожнае новае пакаленне ўспрымае імёны сваёй мясцовасці па-рознаму, з уласцівым яму бачаннем свету. І можа здарыцца так, што імя, якое стала цьмяным, раптам адгукнецца нейкай здагадкай найбольш дапытліваму чалавеку, і тады народзіцца паданне ці легенда пра паходжанне назвы яго роднай мясцовасці.

Паданні, як і назвы, бываюць таксама рознымі — даўнімі, старажытнымі і новымі. І не ўсякае паданне — гэта абавязкова фантазія. У любой казцы ёсць доля ісціны, а самая фантастычная легенда заўсёды абапіраецца на канкрэтныя падзеі, рэальныя факты. Яшчэ старажытныя грэкі

гаварылі: каб зразумець рэч, трэба паглядзець на яе вачамі яе стваральнікаў. Бясспрэчна, цяжкая гэта справа, але ці можа быць інакш? У той галіне лінгвістычнай навукі, якая займаецца вывучэннем уласных імён, геаграфічных назваў, задача тым больш нялёгкая: каб высветліць паходжанне старажытных тапонімаў, трэба знайсці версію, якая б мела права на існаванне, зрабіць яе культурна-гістарычнае пацверджанне. І ў гэтай справе нельга не звяртаць увагі на так званае народнае тлумачэнне геаграфічных назваў, бо яно і ёсць той самы позірк стваральніка імя.

У нашым падарожжы ў мінулае мы будзем абавязкова абапірацца на народныя паданні, аналізаваць легендарныя сюжэты, шукаць у іх адлюстраванне сапраўдных гістарычных падзей.

Калі чытача зацікавяць такія напрамкі нашага апавядання, ён абавязкова прачытае кнігу да канца. Яна складаецца з асобных раздзелаў, кожны з якіх мае сваю назву. Але ўсе раздзелы, хоць і ўяўляюць сабой самастойны расказ, аб'ядноўваюцца адзінай ідэяй і адзінай тэмай. Кніга, такім чынам, успрымаецца як "падарожжа" па Палессі ў прасторы і часе. Мы не ставім задачу прааналізаваць усе старажытныя назвы Палесся. Галоўнае для нас тое, каб чытач пасля знаёмства з кнігай звярнуў увагу на геаграфічныя імёны, зацікавіўся краязнаўчай тэматыкай. Магчыма, хто-небудзь успомніць паданні сваёй роднай мясцовасці, пажадае больш глыбока пазнаць мінулае свайго горада ці сваёй вёскі. Калі ўсё будзе менавіта так, аўтар будзе лічыць, што дасягнуў пастаўленай мэты*.

---

* На жаль, некаторыя з тых мясцін Гомельскага Палесся, якія вывучаў аўтар у пошуках легенд і паданняў пра вытокі геаграфічных найменняў, хутка, магчыма, назаўсёды абязлюдзеюць. Прычынай таму наша агульная бяда — Чарнобыльская трагедыя. Тым больш каштоўным здаецца нам матэрыял, сабраны аўтарам. — *Рэд.*





# ПАЛЕССЕ І ПАЛЕШУКІ Ў ГІСТАРЫЧНАЙ РЭТРАСПЕКТЫВЕ

Першае ўпамінанне Палесся адносіцца да 1274 г. у Іпацьеўскім летапісу і звязана з тэрыторыяй вакол сучаснага г. Капыля. Але ў далейшым пісьмовыя крыніцы XIV — XVII стст. і працы XVI — XIX стст. вельмі супярэчліва лакалізуюць геаграфічную назву *Палессе*. Яе размяшчаюць у розных частках даволі шырокага арэала — ад Падляшскага ваяводства і Берасцейскай зямлі да Валыні і Кіеўшчыны. Тлумачыцца такая нявызначанасць, на наш погляд, акрамя лінгвістычных і гістарычных прычын яшчэ і геаграфічнымі абставінамі. Справа ў тым, што Палессе — гэта не толькі пэўная гісторыка-этнаграфічная вобласць, але і тып ландшафту, які ўяўляе сабой пакрытыя лесам і моцна забалочаныя ў выніку празмернага атмасфернага ўвільгатнення нізіны. Палескі тып ландшафту характэрны не толькі для парэчча Прыпяці, але і для басейнаў Дняпра, Дзясны, для Мяшчэрскай нізіны ў басейне Акі, а таксама для ўсходніх раёнаў Польшчы. Мы лічым, што ўжо шмат стагоддзяў назад славянскі па ўтварэнню геаграфічны тэрмін *Палессе* выкарыстоўваўся ў мове носьбітаў славянскіх гаворак і як абагульненае найменне лясной і балоцістай тэрыторыі, і як уласная назва канкрэтнай мясцовасці з дакладнай лакалізацыяй тапоніма. На вялізнай тэрыторыі з палескім тыпам ландшафту існавала сваё разуменне *Палесся*. Дазваляюць зразумець гэта прыклады з сучасных палескіх гаворак. Напрыклад, на Тураўшчыне пад *Палессем* разумеюць толькі тую лясную і

балоцістую мясцовасць, якая размяшчаецца на поўдзень ад ракі Сцвігі. На нашу думку, і геаграфічную назву *Падляшша* (гістарычна — *Падлясcе*) таксама трэба разумець як "зямлю пад лесам", г.зн. "пакрытую лесам". Часам сустракаецца і іншае тлумачэнне. Лічаць, напрыклад, што *Падляшша* — гэта літаральна "зямля пад ляхамі, паблізу Польшчы". Але пры такім тлумачэнні не ўлічваецца тое, што ў XVI ст., менавіта ў той час, калі звесткі аб Падляшшы пастаянна з'яўляюцца ў пісьмовых крыніцах, дадзеная геаграфічная назва перакладалася на лацінскую мову як subsilwānus — "зямля пад лесам".

Такім чынам, у многіх частках адзначанага вышэй арэала ўзнікненне тапонімаў тыпу *Палессе, Падляшша* магло адбывацца зусім незалежна і самастойна. Менавіта таму ў крыніцах XIII — XIX стст. няма адназначнага адказу на тое, дзе ж знаходзілася Палессе. Аднак прычынай гэтаму акрамя геаграфічных умоў былі і гістарычныя падзеі.

У трэцім томе "Живописной России", шматтомнай манументальнай гісторыка-геаграфічнай і этнаграфічнай працы рускіх вучоных канца XIX ст. мы сустракаем яшчэ адно цікавае разуменне *Палесся*. Аўтары даследавання апісваюць два Палессі: *Беларускае Палессе* (губерні Мінская, Магілёўская, Віцебская, Смаленская) і *Літоўскае Палессе* (губерні Гродзенская, Віленская, Ковенская). Калі з найменнем *Беларускае Палессе* ўсё больш-менш зразумела, то найменне *Літоўскае Палессе*, на першы погляд, даволі незразумелае і нечаканае. Калі паўднёвая частка былой Гродзенскай губерні сапраўды размяшчалася ў цяперашняй заходняй частцы Беларускага Палесся, то для тэрыторыі былых Віленскай і Ковенскай губерняў зусім не з'яўляўся характэрным палескі тып ландшафту. Аднак і простай аналогіяй геаграфічнаму паняццю *Беларускае Палессе* ўзнікненне назвы *Літоўскае Палессе* тлумачыць нельга.

На наш погляд, у апошнім геаграфічным абазначэнні ўскосна адлюстравалася старое найменне даволі загадкавай зямлі *Pollexia*, якое з'явілася ў пісьмовых крыніцах на рубяжы XII і XIII стст. Зямлю *Pollexia* насялялі *pollexiani*, ці палясяне, падлясяне. Жылі гэтыя плямёны прыкладна ў раёне сучаснага польскага горада Аўгустоў. Больш дакладна іх тэрыторыя вызначаецца наступнымі межамі: Мазурскія азёры на захадзе, левабярэжжа Нёмана на ўсходзе, парэчча Бебжы на поўдні і басейн ракі Шашупы на поўначы. Першыя звесткі пра гэтых *падлясян* (палясян) адносяцца да 1192 года. У польскіх хроніках расказваецца пра бітвы польскага караля Казіміра Справядлівага з "*гетамі*" і "*падлясянамі*", або з *прусамі* і *яцвягамі*.

Тэрыторыя *яцвягаў-падлясян (палясян)* уваходзіла ў сферу інтарэсаў польскіх каралёў. З XIII ст. яцвягі, як і іншыя заходнебалтыйскія плямёны — прусы, борці, скалвы, вымушаны былі ратавацца ад знішчэння яшчэ і з боку крыжаносцаў. Частка яцвягаў-палясян перамяшчаецца на поўдзень, у прыватнасці, на параўнальна неабжытыя прасторы будучага Падлясся (Падляш-

ша). У склад Падляшша ўваходзілі землі Драгічынскага, Мельнікскага, Бельскага, Берасцейскага, Камянецкага і Кобрынскага паветаў. З XIV ст. зрэдку ў адносінах да названых зямель пачынаюць ужывацца геаграфічная назва *Падляшша* і этнічнае найменне *палясяне*, якое абазначала жыхароў Падляшша, у тым ліку і жыхароў сучасных заходніх раёнаў Беларускага Палесся. Цікава, што канчатковае ўсталяванне найменняў *Падляшша, палясяне* адносіцца да XVI ст., калі значна актывізавалася польскае засяленне Бельскага, Мельнікскага і суседніх паветаў. І гэта зразумела, бо этнічнае найменне *палясяне* справядліва лічыцца старапольскім найменнем яцвягаў. Этнаграфічныя матэрыялы XIX ст. (П. В. Баброўскі) адзначаюць сярод народнасцей Гродзенскай губерні *падлясян рускага* і *падлясян польскага* паходжання. Гэта былі славянскія этнаграфічныя групы, якія, аднак, сфарміраваліся на яцвяжскім субстраце. Аб гэтым сведчыць не толькі іх найменне, але і такая моўная асаблівасць, як замена гукаў *ж, ш, ч*, на *з, с, ц*, што характэрна для заходнебалтыйскіх гаворак. Захаваліся звесткі аб асобных групах яцвягаў паблізу Скідзеля, Навагрудка. Неабходна сказаць і аб тым, што на тэрыторыі былой Гродзенскай губерні зафіксавана 10 назваў пасяленняў тыпу *Ятвезь, Ятвязь, Ятвеск* (Гродзенскі, Ваўкавыскі, Свіслацкі, Дзятлаўскі, Карэліцкі, Івацэвіцкі, Баранавіцкі раёны). Што ж датычыць падлясян рускага і польскага паходжання, то для чытача, відаць, будзе цікавым іх апісанне. "Падлясяне рускага паходжання маюць твар круглы, смуглявы, нос прамы, вочы чорныя, зрэдку блакітныя, позірк хмурны, валасы цёмна-русыя; некаторыя носяць густыя бароды". "Падлясяне польскага паходжання (мазуры) — высокага росту, моцнага і правільнага целаскладу, вочы шэрыя і блакітныя, нос прамы, рэдка задзёрты, усе брыюць бароды і носяць вусы"*.

У 1978 г. на хутары ля пасёлка Новы Двор Пружанскага раёна на гары хаты старога дзеда-палешука быў знойдзены рукапіс, прыплецены да кнігі, выдадзенай у Варшаве ў XVIII ст. "Яцвяжскі слоўнік" — так назвалі вучоныя гэтую знаходку. У "Слоўніку" старанна запісаны словы яцвяжскай мовы. Зрабіў гэта нейкі цікаўны чалавек, якому зусім не абыякавай здавалася мова старажытнага народа, на якой размаўлялі, відаць, яе апошнія носьбіты.

Такім чынам, у XIV — XVI стст. у заходняй частцы сучаснага Беларускага Палесся выкарыстоўваўся этнонім *палясяне*. Ён быў даволі аўтаномным, раўнапраўным, напрыклад, з такімі этнічнымі найменнямі, як *літвіны, мазуране, валыняне*.

Што ж датычыць цэнтральнай і ўсходняй частак сучаснага Беларускага Палесся, то тут да канца XVI — пачатку XVII стст. для абазначэння спрадвечнага мясцовага славянскага насельніцтва выкарыстоўваўся агульны этнонім русіны (з варыяцыямі, у прыватнасці, чарнарусы), а таксама шэраг мясцовых (лакальных) найменняў тыпу тураўцы, рэчычане, піняне, ма-

---

* *Бобровский П. О.* Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 1. СПБ., 1863. С. 623,651.

зы*ране*. З канца XIV і ў XV стст. тут пачаў ужывацца і этнонім літвіны, якім у наступныя стагоддзі карысталася ўкраінамоўнае і рускамоўнае насельніцтва для абазначэння беларусаў. У XVII ст. дакументы пачынаюць фіксаваць і найменне паляшук, якое ў далейшым, у XVIII — XIX стст., шырока распаўсюджваецца па ўсяму Палессю.

З'яўленне гэтага наймення трэба звязваць з украінамоўнымі перасяленцамі, якія з XVI ст. пранікалі на поўнач з Валыні, Падоліі, Палтаўшчыны, Кіеўшчыны, Чаркашчыны. *Валынцамі і чаркасамі* называлі гэтых перасяленцаў "маларускага племені". Ад гэтых найменняў на тэрыторыі Беларусі ў далейшым ўтварылася 16 назваў населеных пунктаў (гэта тапонімы тыпу *Валынцы, Чаркасы, Валынцішкі* ў Кармянскім, Верхнедзвінскім, Ашмянскім, Смаргонскім, Докшыцкім, Лiёзненскім і іншых раёнах). Ёсць на Беларусі і такія назвы, якія ўскосна ўказваюць на тых жа ўкраінскіх перасяленцаў: *Харкаў* (Хоцімскі раён), *Вінніца* (Навагрудскі раён), *Кіевец* (Валожынскі і Краснапольскі раёны), *Харкаўка* (Горацкі, Чавускі, Аршанскі раёны), *Галішчына* (Клімавіцкі раён) і іншыя.

Тыя ўкраінскія перасяленцы, якія асядалі на землях Палесся, часцей за ўсё называліся *палешукамі, пінчукамі* ці *бужанамі* (два апошніх найменні — больш у Заходнім Палессі). У сваю чаргу, палешукі-маларосы сваіх паўночных суседзяў звычайна называлі *літвінамі*.

Граніца паміж *палешукамі* і *літвінамі* (маюцца на ўвазе перш за ўсё менавіта назвы) праходзіла прыкладна ад Белавежскай пушчы праз Пружаны, Бярозу, далей па рэках Шчары і Бобрыку да Лунінца і Прыпяці, і па гэтай рацэ да яе ўпадзення ў Днепр. На поўдзень пераважна жылі *палешукі*, на поўнач — *літвіны — беларусы*.

Не трэба аднак прамалінейна разумець палешукоў як "чыстых маларосаў" — украінцаў. Палешукі — гэта вельмі неаднародная этнаграфічная група, якая складалася на працягу доўгага часу на даволі стракатай этнічнай аснове. Даследчык беларускай гісторыі У. І. Пічэта справядліва выдзяляў у Палессі так званы *паўднёвы этнічны дабеларускі цэнтр*, дзе ўзаемадзейнічалі патомкі *дрыгавічоў, драўлян, валынян-бужан і яцвягаў* (апошнія — у заходняй частцы арэала). У далейшым у Беларускім Палессі пачаў пераважаць беларускі этнічны кампанент, на Украінскім Палессі — украінскі. Але ж палітычныя межы ў нейкай ступені ўмоўныя, бо не заўсёды супадаюць з этнічнымі. Ва ўсякім разе, трэба лічыцца з тым, што ў паўднёвай частцы сучаснага Беларускага Палесся гістарычна пераважаў украінамоўны кампанент. Не выпадкова этнонім палешукі па сваёй структуры (суфікс — ук, параўн. пінчук, сяўрук) указвае на гэта. Больш таго, гэты этнонім не мог узнікнуць з нічога. Калі ў заходняй частцы Палесся этнічнае найменне палясяне, ці падлясяне прынеслі з сабой яцвягі, то найменне палешукі, хутчэй за ўсё, прыйшло на змену старажытнарускаму этноніму драўляне (дзераўляне). Іншымі словамі, найменне палешукі ("жыхары лесу") у мове ўкраінскіх перасяленцаў замяніла больш старое этнічнае абазначэнне драўляне, дзераўляне. Гэты

вывад робіцца на той падставе, што старажытнае зборнае слова "дерева" ("лес") папярэднічала слову "лес" у сучасным яго значэнні. Да такой жа думкі схіляюцца і ўкраінскія тапанімісты*.

Вось такой уяўляецца гісторыя геаграфічнай назвы *Палессе* і этнічных найменняў *палясяне, палешукі*. Як бачым, няма падстаў, каб лічыць палешукоў асобным народам, як нельга праводзіць занадта выразную граніцу паміж палешукамі-беларусамі і палешукамі-ўкраінцамі. Калі глядзець у гістарычнай рэтраспектыве на такі, здавалася б, зусім яшчэ нядаўна ізаляваны самой прыродай ад усяго іншага свету куток Зямлі, як Прыпяцкае Палессе, то і тут мы ўбачым, як узнікалі і фарміраваліся глыбокія карані роднасці народаў Усходняй Еўропы.

---

* Гідронімія України в її міжмовних і міждіалектних зв'язках. Київ, 1981. С. 90—92.





## ЗАГАДКА ДРЫГАВІЧОЎ

Старажытнай летапіснай племянной групоўкай, якая насяляла землі Палесся, былі дрыгавічы. "Повесть временных лет" адводзіць дрыгавічам прастору паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной: "...седоша межю Припетью и Двиною и нарекошася дреговичи". Этнічнае імя дрыгавічоў традыцыйна разумеюць толькі як вытворнае ад слова "дрыгва". Гэтае тлумачэнне фармальна робіцца на той падставе, што Прыпяцкае Палессе, асноўная тэрыторыя племені, спрадвеку з'яўлялася сырой і балоцістай мясцовасцю. Аднак такая прастата разумення этнічнага імя, як гэта ні дзіўна, і прымушае сумнявацца ў яго правільнасці.

Першае, што адразу кідаецца ў вочы пры дэталёвым знаёмстве з тэрыторыяй дрыгавічоў, — гэта поўная адсутнасць геаграфічных найменняў, якія б адлюстроўвалі дадзены этнонім. Атрымліваецца дзіўная карціна: дрыгавічы быццам бы жылі на сваёй зямлі, аднак не пакінулі пасля сябе ніводнай назвы, якая б была напамінам аб іх. Праўда, зрэдку там-сям, асабліва ў папулярных гістарычных працах, можна прачытаць, што, напрыклад, назва *г. Драгічына* якраз і ўтварылася ад этнічнага наймення *дрыгавічы*. На самай справе, назва райцэнтра Брэсцкай вобласці *г. Драгічына* з'яўляецца так званым перанесеным тапонімам, гэта значыць, яе прынеслі з сабой перасяленцы, якія рухаліся з захаду дзесьці на заранку старажытнарускага часу. Гэтымі перасяленцамі былі заходнеславянскія плямёны, бо *г. Драгічын* існуе таксама і на тэрыторыі Польшчы. На карысць

такога тлумачэння гаворыць і паходжанне назвы гэтага горада ад мяркуемага ўласнага імя *Даргут*. На думку польскага даследчыка Я. С. Атрэмбскага, тапонім Драгічын трэба разумець як "мясцовасць, якая належыць нейкаму чалавеку па імені Даргут", пры гэтым корань адзначанага асабовага імя такі ж, як і ў польскіх імёнах *Драгамысл, Драгавіт* і нават у паўднёварускім *Дарагабыт* (ад апошняга ўтварылася назва горада *Драгобыча*). Значэнне ж нагаданых імёнаў адпавядае значэнню, напрыклад, прыметніка *дарагі*.

У апошні час беларускі даследчык М. І. Ермаловіч імкнуўся давесці, што з этнічным найменнем *дрыгавічы* звязаны такія геаграфічныя найменні, як *Драгуны* (вёска Міёрскага р-на), *Дрэгі, Дрэгелі* (былы Дзвінскі павет), *Дрыгучы* (в. Міёрскага р-на)*. Тапонім *Драгуны* ўтварыўся ад прозвішча *Драгун*, тапонімы *Дрэгі, Дрэгелі* — ад агульных слоў са значэннем "балота, багна, дрыгва" ці ад уласных імён і прозвішчаў *Дрэг (Дрэк), Дрэга (Дрэка)*. Назва *Дрыгучы* ўтварылася ад верагоднага прозвішча *Дрыгуч* ці ад тых жа *Дрэг, Дрэга*.

Ды і наогул, шукаць тапанімічныя "сляды" дрыгавічоў далёка ад граніц гэтага тэрытарыяльнага аб'яднання — марная справа.

Другой акалічнасцю, якая ставіць пад сумненне правільнасць тлумачэння этноніма *дрыгавічы* ад слова *дрыгва* з'яўляецца тое, што ён (этнонім) адзначаецца ў пісьмовых крыніцах і на іншых славянскіх землях, прычым у некалькі зменёным гукавым выглядзе. Візантыйскія крыніцы XII ст. ведаюць *славян-драгувітаў*, ці *драгавітаў*, на Балканскім паўвостраве. Племя драговічаў мелася і сярод палабскіх славян. Супастаўленне наймення надпрыпяцкіх дрыгавічоў са словам *дрыгва* па знешняму падабенству адбылося ўжо ў новы час, і, як мы лічым, было штучным. Сапраўдныя вытокі гэтага этнічнага імя губляюцца ў глыбіні стагоддзяў. Відаць, маюць рацыю тыя даследчыкі, якія лічаць, што ў склад дрыгавічоў, як і заходнеславянскіх драговічаў і паўднёваславянскіх драгувітаў (драгавітаў), увайшлі розныя адгалінаванні ад даволі старажытнага славянскага этнаплемяннога ўтварэння з блізкай па гучанню назвай, дакладныя першапачатковыя граніцы якога не зусім зразумелыя. Магчыма тэрыторыя гэтага аб'яднання знаходзілася дзесьці паблізу дунайскай прарадзімы славян, з якой разыходзіліся, як апавядае "Повесть временных лет", розныя славянскія плямёны. Гэты ж гісторыка-літаратурны помнік старажытнарускага часу ў сваёй недатаванай частцы ўспамінае сярод іншых усходнеславянскіх "княжэнняў" і палітычнае аб'яднанне дрыгавічоў. Летапісныя "плямёны" княжэнні ўзнікалі, як правіла, у працэсе кансалідацыі некалькіх асобных плямён. Дрыгавіцкая племянная групоўка не была выключэннем. А калі гэта так, дык неабходна вызначыць тыя часткі дрыгавіцкага этнапалітычнага аб'яднання, якія абумовілі яго ўзнікненне.

---

* *Ермаловіч М. І.* Старажытная Беларусь//Маладосць. 1988. № 7. С. 120.

Вядомы савецкі археолаг В.В.Сядоў, абапіраючыся на археалагічныя і антрапалагічныя матэрыялы, прыйшоў да думкі, што зямля дрыгавічоў дзялілася на дзве часткі. Дрыгавіцкае насельніцтва паўночнай паловы Прыпяцкага Палесся і бассейна Бярэзіны фарміравалася ў выніку асіміляцыі мясцовых балцкіх плямён. У паўднёвых раёнах тэрыторыі дрыгавічоў пераважала славянскае насельніцтва.

Усё гэта, верагодна, так і было, тым больш, што пацвярджаецца мясцовымі геаграфічнымі назвамі, перш за ўсё воднымі імёнамі, найменнямі рэчак басейна Прыпяці. Але для нас у дадзеным выпадку важна іншае. Мы павінны знайсці адказ на наступнае пытанне: калі, у выніку якіх падзей усталявалася этнічнае імя дрыгавічы; як дагэтуль называліся славянскія плямёны, што жылі на берагах Прыпяці. Адказ на гэтыя пытанні дапаможа вызначыць вытокі аднаго з буйнейшых племянных аб'яднанняў Старажытнай Беларусі.

Але пошукі адказу на пастаўленыя пытанні мы пачнем не з аналізу нейкіх гістарычных крыніц ці загадкавых геаграфічных назваў, а з... літаратурнага твора.

У беларускага паэта К.Каганца ёсць верш "Сцяты камень", напісаны па матывах старажытнага падання. Пачынаецца верш як звычайны рамантычны твор:

Засвітала раніца
После веснавое ночы,
Князь дулебаў, сам Кумар,
Працірае сосну вочы.
І, накінуўшы кажух,
У поле выйшаў падзівіцца,
Свежым ветрам веснавым
Сосну крыху асвяжыцца...

Раптам князь Кумар убачыў варожы след, кліча свайго баярына-ваяводу і мяркуе разам з ім, як перасцерагчы напад чужынцаў. Наступае кульмінацыйны момант, бо дулебы неўзабаве ўбачылі, "што падняў бой люты Гуд, сам наперад з агнём у воку". Як бачым, апісанне выгляду варожага князя Гуда не пазбаўлена фантастычных рысаў, што характэрна для паўлегендарных гістарычных апавяданняў, асабліва тых, якія датычацца старажытных плямён. Каб зберагчы свой люд, дулебскі князь Кумар выходзіць сам-на-сам на паядынак з Гудам.

У мечы тнуць,
Іскры б'юць...
Ой, заўзяты бой вядуць,
Князям рукі ўжо памлелі,
Сабе спуску не даюць,
Хоць з труду саўсім счарнелі.

У кожнага з князёў свае мэты (гэта вельмі важны момант для разумення агульнага зместу і сэнсу легенды).

Славы траціць Гуд не хоча,
З нічым да хаты ад'язджаць,
За другіх Кумар біцца,
Каб іх у палон не аддаць.

Бой цягнецца вельмі доўга (!)

Чуць жывуць,
А ўсё тнуць...

Нарэшце, Гуд перамагае. Але здарылася нечаканае.

З заўзятасці абодвы
Зысці з места не маглі, —
Пазастылі бо князі
Як першы, так другі.
І Кумар
Ды і Гуд
Разам скамянелі.

З таго часу прайшло многа гадоў. А адбываліся гэтыя падзеі ў паўднёва-усходняй частцы Магілёўскай вобласці, на землях сучаснай Бабруйшчыны, у тых мясцінах, дзе

Ольса-рака, як тады,
І цяпер там працякае
Ды ў Бярозу, у раку,
Сіву воду заганяе...

У паданні, такім чынам, апавядаецца пра войны паміж *дулебамі* і *гудамі* (князь Гуд увасабляе адпаведныя племянныя групоўкі). Але ж, хто такія дулебы і гуды? *Дулебамі* называлі буйнейшую ўсходнеславянскую племянную групоўку, якая ў дакіеўскі перыяд займала прасторы ў вярхоўях Заходняга і Паўднёвага Буга, прыкладна ў раёне Валыні. У такім выпадку незразумела, як аказаліся дулебы на сярэднім цячэнні Бярэзіны.

Тут магчыма наступнае тлумачэнне. У сярэдзіне VI ст. дулебы падвергнуліся нападу з боку качавых плямён *авараў*, ці *абраў*. Насілле, якое чынілі обры дулебам, было працяглым і нясцерпным. Вось што піша "Повесть временных лет": " ... обры "прымучылі" дулебаў і чынілі насілле жонам дулебскім: калі паедзе куды обрын, то не дазваляў запрагаць каня ці вала, а загадваў упрагаць у цялегу трох, чатырох ці пяцёрых жон дулебскіх і везці яго — обрына". Магчыма, частка дулебаў з Валыні ў пошуках паратунку і вымушана была перасяліцца на поўнач, у прыватнасці на сярэднюю Бярэзіну. Але чаму так далёка? Чаму дулебскія перасяленцы не аселі дзесьці на Палессі, на Прыпяці, дзе было значна больш незаселеных тэрыторый? Што ж датычыцца сярэдняй Бярэзіны, то археолагі лічаць, што на гэтых землях у VI ст. жылі балтыйскія плямёны, славяне ж з'явіліся пазней. Такім чынам, у VI — VII стст. пасяліцца тут перасяленцы-дулебы не маглі. Аднак, як гэта не дзіўна, якраз на сярэдняй Бярэзіне фіксуюцца цікавыя дулебскія "сляды" ў выглядзе геаграфічных назваў. Маюцца на ўвазе вёскі *Дулебы* (Бярэзінскі р-н) і *Дулебня* (Клічаўскі р-н). Як жа растлумачыць гэты факт?

Мы лічым, што адказ на пытанне крыецца не столькі ў саміх назвах, колькі ў тэрытарыяльным іх размяшчэнні. Вескі *Дулебы* і *Дулебня* знаходзяцца на старажытнай паўночна-ўсходняй племяннай граніцы дрыгавічоў, якая прыходзіла па водападзелу Друці і Бярэзіны і накіроўвалася далей на поўнач да ломанай

лініі, якую праводзяць умоўна паміж Оршай, Барысавам і Заслаўлем. Калі ж улічыць, што этнічныя геаграфічныя імёны ўзнікалі часцей за ўсё на пагранiччы, то застаецца наступнае рашэнне: найменне *дулебы* было звязана не з кім іншым, як з дрыгавічамі. Назвы *Дулебы* і *Дулебня*, а таксама *Дулебка* (рака ў сістэме Бярэзіны-Дняпроўскай), з аднаго боку, з'яўляюцца цікавымі і ў нейкай ступені унікальнымі тапанімічнымі "слядамі" на старой племяннай граніцы, якая падзяляла дрыгавічоў і крывічоў, а з другога боку, прымушаюць меркаваць, што пэўная частка дрыгавіцкага насельніцтва захоўвала найменне *дулебы* па меншай меры да канца X ст., бо менавіта да гэтага перыяду адносіцца нагаданая племянная граніца.

Да X—XIII стст. адносіцца асвойванне славянамі Верхняга Панямоння, і далёка не апошнюю ролю ў гэтым працэсе адыгрывалі дрыгавічы. Перасяленцы-дрыгавічы, па ўсёй верагоднасці, неслі з сабой і старое этнічнае найменне — *дулебы* аб чым (зноў-такі толькі ўскосна) сведчаць дзве геаграфічныя назвы ў Гродзенскай вобласці — *Дуляўцы* (Ваўкавыскі р-н) і *Дуляўшчына* (Мастоўскі р-н).

Але чаму этнічнае найменне *дулебы* мела дачыненне менавіта да дрыгавічоў? Вось тут нам спатрэбяцца некаторыя археалагічныя факты. Вядома, што рассяленне дрыгавічоў у басейне Прыпяці ішло з поўдня. Адзін з вядучых савецкіх археолагаў В. В. Сядоў лічыць, што з былога племяннога саюзу дулебаў у выніку рассялення ў VIII — IX стст. вылучыліся асобныя тэрытарыяльныя групоўкі ўсходніх славян — у далейшым вядомыя як *валыняне, драўляне, паляне і дрыгавічы*. Ёсць падставы лічыць, што гэтаму рассяленню дало штуршок якраз нашэсце авараў, ці обраў. Але на тэрыторыю Беларусі з'явіліся ўжо не ўласна дулебы, а іх патомкі — новая групоўка — *дулебы-дрыгавічы*. Дарэчы, імя дулебскага князя Кумара з легенды вельмі нагадвае цюркскае па паходжанні імя. Дастаткова параўнаць яго, напрыклад, з сучасным нагайскім іменем *Кумараш*. Відаць, узаемадзеянне дулебаў з цюркскім качавым народам авараў знайшло адбітак у мове нашчадкаў валынскіх дулебаў. Нагадаем у гэтай сувязі цікавую геаграфічную назву на гістарычнай зямлі дрыгавічоў — *Камарын* (гарадскі пасёлак Брагінскага раёна).Камарын — гэта "горад *Камара (Кумара?)*". Аднак ёсць і іншае тлумачэнне. Аснова гэтага тапоніма — *Камар* — поўнасцю адпавядае слову *камар, кемер*, якое ў цюркскіх і іранскіх мовах народаў СССР азначае "схіл гары, пакат, уступ, бераг, абрыў, узгорак, гара". Такое тлумачэнне падходзіць для назвы Камарына, бо гарадскі пасёлак размешчаны на высокім беразе Дняпра. У іншым кутку Беларускага Палесся, на паўночным беразе Князь-возера (возера Чырвонае), ля вёскі Рог, у 70-ых гадах XIX ст. мясцовыя сяляне, капаючы карчы на лучыну ў моцна забалочаным лесе Камароў Мох, знайшлі вялікую судзіну старажытных часоў. Яна была гружана соллю, адзін з сялян нават набраў гэтай солі. У іншы час там жа былі знойдзены тры лодкі звычайнай велічыні. Калі іх адкапалі і далі высахнуць, лодкі рассыпаліся ў парахню. Запісаныя расказы мясцовых старажылаў сведчаць, што ад Князь-возера

праз Камар-Мох у напрамку на паўночны захад да вёскі Даманавічы (цяпер — Салігорскі р-н) праходзіла шырокая рэчка ці вузкае возера. Вось адкуль тут старажытныя судны.

Лес Камароў Мох, ці Камар-Мох... ці не назва гэта той рэчкі, якая знікла? У гэтым цікавым тапоніме мы зноў бачым аснову *камар* — толькі ўжо ў некалькі іншым значэнні — "упадзіна, прамытая вадой у рацэ". Такое значэнне таксама ўласціва цюркска-іранскаму слову *камар, кемер*. Абедзве назвы — *Камарын і Камар-Мох* — узыходзяць да часоў дулебаў-дрыгавічоў.

Але вернемся да разгляду далейшага лёсу дулебаў. На рубяжы VIII — IX стст. паўночная граніца рассялення дулебаў-дрыгавічоў абмяжоўвалася лініяй, якая пачыналася прыблізна ў вусця Гарыні і праходзіла трохі на поўнач ад парэчча Прыпяці ў напрамку Дняпра. З пачатку IX ст. надпрыпяцкія плямёны пачынаюць актыўна прасоўвацца ў паўночным і паўночна-заходнім напрамку, паступова ўключаюць у свой склад і асімілююць мясцовае, пераважна балцкае і радзей славянскае насельніцтва. Хутка дулебы-дрыгавічы дасягаюць той граніцы, якую мы нагадалі вышэй. Такім чынам, дзесьці да IX ст. і адносяцца тыя драматычныя падзеі, аб якіх апавядаецца ў легендарным творы Каруся Каганца.

Але ж давайце праананалізуем гэты твор да канца. Дулебы-дрыгавічы, як падае нам легенда, падвяргаліся нападам з боку ваяўнічых гудаў. Рабунак, уводы ў палон, разарэнне і знішчэнне дулебскіх вёсак, як можна меркаваць, гуды чынілі рэгулярна. Нездарма князь Гуд "не хоча з нічым да хаты ад'язджаць", а князь Кумар "за другіх баіцца, каб іх у палон не аддаць". Заўвага ж наконт таго, што "бой цягнецца вельмі доўга", сведчыць аб працягласці нападаў гудаў. Дык, хто такія гуды?

Адказ дапамагаюць знайсці зноў-такі геаграфічныя назвы. На тэрыторыі Беларусі ёсць населеныя пункты Гуды (Валожынскі, Лідскі р-ны), Гудоўшчына (Маладзечанскі р-н), Гудаўшчына (Ашмянскі р-н), Гудзішкі (Шчучынскі, Іўеўскі р-ны), Гудава (Верхнядзвінскі р-н) і іншыя. Гэтыя вёскі знаходзяцца ў тых раёнах, дзе ў мінулым пражывалі значныя групы літоўскага насельніцтва. Геаграфічныя назвы тыпу Гуды, Гудава, Гудзішкі сустракаюцца ў паўночна-заходняй частцы Беларусі (Верхнядзвінскі р-н), амаль на ўсім працягу беларуска-літоўскага пагранічча (Пастаўскі р-н, былы Дзісненскі павет, Ашмянскі, Воранаўскі, Лідскі р-ны), а таксама ў Вілейскім, Маладзечанскім, Валожынскім, Стаўбцоўскім, Іўеўскім і Шчучынскім р-нах).

З даўніх пор *гудамі, гудаямі, гудасамі* называлі беларусаў літоўцы, прычым якраз тых беларусаў, якія пражывалі на беларуска-літоўскай граніцы. Аднак найменне гуды выкарыстоўвалася і для абазначэння пэўных літоўскіх груп з боку літоўцаў жа, а таксама палякаў, аднак не ўсіх літоўцаў і палякаў, а толькі тых, якія пражывалі на былой прускай этнічнай тэрыторыі (Калінінградская вобласць, паўночная частка мазавецкіх зямель Польшчы).

Сівая легенда, як бачым, дзіўным чынам данесла да нас водгалас падзей, аб якіх няма звестак у пісьмовых крыніцах. Яна

апавядае нам аб войнах паміж славянскім насельніцтвам, якое прасунулася на сярэднюю Бярэзіну і займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбнай лоўляй, і ваяўнічымі плямёнамі, уладанні якіх пачыналіся паблізу сучаснай беларуска-літоўскай граніцы і працягваліся далей на захад і паўночны захад (сучасная Калінінградская вобласць і паўночная частка польскіх мазавецкіх зямель). *Гуды* — гэта не саманайменне, а абазначэнне, дадзенае з боку, якое выкарыстоўвалася суседзямі, напрыклад, тымі ж дулебамі. У кожнага з плямён аб'яднання гудаў было сваё ўласнае этнічнае імя. Што ж датычыць існавання адзінага этнічнага абазначэння *(гуды)* для насельніцтва адзначанага рэгіёна, то трэба заўважыць, што яно сваімі вытокамі ўсходзіць у яшчэ больш раннюю эпоху, у першыя стагоддзі новай эры, і звязана са знаходжаннем тут *готаў*, перайначанае імя якіх і адлюстравалася потым у найменні *гуды*. Тыя *гуды*, якія рабілі напады на сярэднебярэзінскіх дулебаў, у пачатку IX ст., відаць, уяўлялі сабой аб'яднанне, якое складалася на балцкай і славянскай асновах. У склад легендарных гудаў у адзначаны час уваходзіла і частка крывічоў. Можна меркаваць, што тымі гудамі, з якімі сутыкнуліся дулебы-дрыгавічы на водападзеле Друці і Бярэзіны, і былі менавіта крывічы.

Зразумела, усё, аб чым мы тут пішам, гэта толькі меркаванні. Ніякіх гістарычных крыніц аб тых далёкіх часах не захавалася.

Мы ўпамянулі аб сутыкненні крывічоў і дулебаў-дрыгавічоў на сярэдняй Бярэзіне. Аднак крывічы ў літаральным сэнсе цяснілі сваіх паўднёвых суседзяў і ў іншых месцах. На поўначы Гомельскай вобласці, у Курганскім сельсавеце Рагачоўскага раёна, існуюць дзве вёскі — *Стары Крыўск* і *Новы Крыўск*. Цэнтр сельсавета, у які ўваходзяць адзначаныя вёскі, называецца *Курганнем* зусім не выпадкова. Побач адкрыты цэлы археалагічны комплекс — 26 курганоў, якія датуюцца XI — XII стст. і дзе знаходзяцца радзіміцкія пахаванні. У наваколлі вёскі Новы Крыўск археолагі знайшлі яшчэ больш курганоў — 44 насыпы. У курганах пры раскопках даследчыкі адшукалі, на першы погляд, звычайныя ў помніках такога тыпу рэчы — кольцы, шкляны бісер, пацеркі, абломкі глінянага посуду, жалезны нож, шыферныя прасніцы. Але вось што цікава і вельмі знамянальна: калі курганы X і пачатку XI ст. належалі радзімічам, то ў курганах XI і пачатку XII ст. з'яўляюцца рэчы, характэрныя толькі для крывічоў. Крывічы былі тут прышэльцамі.

Мясцовыя старажылы тлумачаць назву Крыўск ад вялікай дугі — крывізны, якая ўтваралася ад павароту шляху, што вёў у вёску. Невядома, калі з'явіўся тут гэты шлях, вядома толькі, што вытокі вёскі *Крыўск* трэба шукаць у старажытнарускі перыяд, а яе назву вельмі праўдападобна тлумачыць у сувязі з этнічным найменнем крывічоў.

Крывічы глыбока пранікалі на поўдзень і ў іншых раёнах Беларускага Палесся: вёскі пад назвай *Крывічы* існуюць у Салігорскім раёне Міншчыны і Пінскім раёне Брэсцкай вобласці. Апошняя вёска — сапраўды "рэліктавая" кропка на карце. Размешчана яна на левым беразе Прыпяці, на высокім месцы,

якое акружана з усіх бакоў балотамі. Таму і сувязі з вёскай ажыццяўляюцца толькі праз Прыпяць на лодках. Можна толькі ўявіць, што было тут 300, 500 гадоў назад! На жаль, цяпер з кожным годам колькасць хат у вёсцы змяншаецца, людзі перасяляюцца ў іншыя месцы, і ўсяго ў Крывічах на сённяшні дзень жыве каля 60 чалавек і захавалася 38 двароў.

Аднак вернемся зноў да дрыгавічоў-дулебаў, бо наш расказ пра іх яшчэ далёка не завершаны. Аб тым, што дрыгавічоў, прынамсі ў IX — пачатку X ст., называлі дулебамі, сведчаць не толькі легенда, расказаная К.Каганцом, і геаграфічныя назвы *Дулебы* і *Дулебня* Бярэзінскага і Клічаўскага раёнаў. Гэта недвухсэнсава зафіксавана і ў "Повести временных лет". У 907 г. кіеўскі князь Алег пайшоў паходам на грэкаў "і ўзяў з сабой мноства варагаў, і славен, і чудзь, і крывічоў, і меру, і драўлян, і радзімічаў, і палян, і севяран, і вяцічаў, і харватаў, і дулебаў, і ціверцаў..." Як бачым, у вялікі паход паднялася ўся падуладная ў той час Кіеву Русь. *Дулебамі*, якія прынялі ўдзел у паходзе, былі менавіта дрыгавічы. Імі не маглі быць першапачатковыя дулебы, якія ў VI ст. жылі на Валыні, бо ў пачатку X ст. яны ўжо не існавалі, а на іх былых землях пражывалі *бужане* і *валыняне*. Пад найменнем *дулебы* ў летапісным паведамленні маглі разумецца разам з дрыгавічамі таксама гэтыя народы. Такім чынам, мы яшчэ раз упэўніліся ў тым, што этнічным саманайменнем дрыгавічоў было імя *дулебы*. Гэтае імя існавала, згодна з летапісамі, да пачатку X ст., таму ўдзел дулебаў у паходзе князя Алега з'яўляецца амаль ці не апошнім упамінаннем гэтага этноніма.

Цяпер мы павінны адказаць на пытанне аб тым, калі, пры якіх абставінах за асноўнай славянскай племяннной групоўкай паўднёвай Беларусі замацавалася яшчэ адно найменне, менавіта тое, пад якім гэтая групоўка ўвайшла ў гісторыю. Размова ідзе пра этнонім *дрыгавічы*. Тое, што гэтае імя мае несумненную паралель з заходнеславянскай племяннной назвай *драговічы*, выпадковасцю лічыць нельга. Пісьмовыя крыніцы канца VIII ст. (789 г.) называюць імя князя *Драгавіта*, які "значнасцю рода і аўтарытэтам старшынства намнога ўзвышаўся над астатнімі старшынамі вялетаў". Племяннное аб'яднанне *вялетаў*, ці *люцічаў*, існавала ў той час на ніжнім Одэры. У помніках вялеты характарызуюцца як "слаўныя храбрасцю", бо на іх долю выпала найбольшае супраціўленне нямецкаму наступленню на славянскія землі ў VIII ст. Не ведаем, як у плане гістарычным, але ў лінгвістычных адносінах этнонімы *драгавіты (драгувіты)*, *дрыгавічы*, *драговічы*, несумненна, суадносяцца з імем князя вялетаў *Драгавітам*. Гэтая адпаведнасць, аднак, не павінна служыць падставай для таго, каб лічыць дадзеныя этнічныя імёны вытворнымі ад імя князя. Хутчэй за ўсё сам Драгавіт насіў імя, якое ўтварылася ад этноніма. Успомнім у гэтай сувязі легендарнага князя Гуда, у імені якога ўвасоблена абагульненае абазначэнне шэрагу плямён. Аднак у дадзеным выпадку галоўнае зусім не гэта.

Гісторыя вялетаў, як і гісторыя іншых палабска-прыбалтыйскіх (паморскіх) славян, дае нямала прыкладаў трагічнага

гераізму і бязлітаснай, адчаяннай барацьбы за сваю незалежнасць. Пад націскам захопнікаў асобныя плямёны паморскіх славян перамяшчаліся на ўсход, у тым ліку і на тэрыторыю сучаснай Беларусі. Яны ратаваліся ад знішчэння, шукалі новыя месцы для сталага жыхарства сярод неабжытых прастораў Панямоння, Прыдзвіння, Падняпроўя і нават Палесся. "Сляды" паморскіх перасяленцаў, як дарэчы і іншых заходнеславянскіх (ляхіцкіх) плямён, знаходзяць і на Украіне. Украінскія даследчыкі зрабілі для гэтага пэўныя намаганні. Яны, напрыклад, супастаўляюць тапанімію тэрыторый старажытнарускіх плямён *палян і драўлян* і аднанайменных заходнеславянскіх плямён *(паляне, драване)*. У беларускай гістарыяграфіі такіх даследаванняў няма. Таму мы спынімся на некалькіх уласных меркаваннях.

На Тураўшчыне запісана некалькі варыянтаў падання аб прыходзе на Палессе князя Тура з вялікім войскам. Гэты факт ускосна пацвярджае і "Повесть временных лет", якая падкрэслівае "заморскае" паходжанне першага легендарнага тураўскага князя. Падрабязны аналіз гэтых паведамленняў робіцца намі ніжэй ў спецыяльнай главе. Тут жа скажам толькі, што як летапіс, так і легенда адзначаюць, на наш погляд, рэальныя падзеі, а менавіта перасяленне часткі паморскіх, палабска-балтыйскіх ці іншых заходнеславянскіх плямён на тэрыторыю дулебаў-дрыгавічоў. Такія перасяленні ў пэўных выпадках маглі адыграваць кансалідуючую ролю і ствараць умовы для ўзнікнення палітычных цэнтраў-княжэнняў. Нездарма легендарны князь Тур лічыцца стваральнікам моцнага княжацкага цэнтра ў Тураве — сталіцы надпрыпяцкіх дрыгавічоў. Мы мяркуем, што перамяшчэнні частак заходнеславянскіх плямён на тэрыторыю Беларусі пачаліся ў IX ст. З гэтымі падзеямі звязана ўзнікненне летапісных паданняў не толькі аб князю Туру, але і аб прыходзе ў Полацк "з-за мора" князя Рагвалода, а таксама аб "ляшскім" паходжанні радзімічаў, а яшчэ і аб з'яўленні на Русі легендарнага Рурыка з братамі Сінявусам і Труварам і "радамі сваімі".

У сувязі з мяркуемымі паморска (і больш шырока — заходнеславянска — палескімі, або беларускімі) этнічнымі сувязямі выклікае цікавасць яшчэ шэраг тапонімаў Беларускага Палесся і іншых раёнаў Беларусі. Так, адзначым гукавое падабенства з заходнеславянскім этнонімам *ленчычане* геаграфічнай назвы *Лельчыцы (Ленчыцы)* (падрабязна аб гэтай назве гл. у раздзеле Лельчыцы — Ленчыцы). Этнонім сербскай групы заходніх славян *лупагалоўцы* мог адлюстравацца ў назве вёсак *Новыя / Старыя Галоўчыцы* Петрыкаўскага р-на і *Галоўчыцы* Нараўлянскага р-на, а таксама ў назве ракі *Лупагалова (Луппа)*, прытоку *Мярэі* (Магілёўшчына). Вёскі тыпу *Галоўчыцы* маюцца і ў іншых месцах Беларусі — у Драгічынскім, Пружанскім, Камянецкім, Расонскім, Чэрыкаўскім раёнах, і да іх гісторыі трэба ўважліва прыглядзецца гісторыкам і мясцовым краязнаўцам. У назве вёскі Лельчыцкага раёна — *Ліпляны* вельмі верагодна шукаць адлюстраванне наймення заходнеславянскага племя *ліп'ян (ліпян)* (аб'яднанне *вялетаў-люцічаў*).

Нагадаем яшчэ некалькі верагодных паралеляў: этнонім *люцічы (вялеты)* — тапонім *Лучыцы* (вёскі Петрыкаўскага і Асіповіцкага р-наў); *Лютовічы, Лютавічы* (вёска Капыльскага р-на); паморскі этнонім *гліняне* — тапонім *Гліняны* (вёска Гродзенскага р-на), *Глінічы* (вёска Шчучынскага р-на); этнонім *семчыцы* — тапонім *Сенчыцы* (вёска Драгічынскага р-на); этнонім *нудзічы* (сербская група заходнеславянскіх плямён) — тапонім *Нудзічы* (вёска Брагінскага р-на); паморскі этнонім *вагры* — тапонімы *Багрымавічы* (вёска Петрыкаўскага р-на), *Вагараўшчына* (вёска Ліозненскага р-на); этнонім *сербы* — тапонімы *Сербіна* (вёска Вілейскага р-на), *Сербінішкі* (вёска Воранаўскага р-на); этнонім *ліп'яне (ліпяне)* — тапонімы *Ліпляні* (вёска Глыбокскага р-на), *Ліпяні* (вёска Мінскага р-на), *Ліплянск* (вёска Сенненскага р-на); этнонім *серадзяне* (ляхіцкая група плямён) — тапонімы *Серадзіна* (вёска Докшыцкага р-на), *Сеорадзін* (вёска Пухавіцкага р-на); этнонім *памаране* — тапонімы *Памараўшчына* (вёска Мядзельскага р-на), *Паморшчына* (вёска Валожынскага р-на); этнонім *кашубы* (усходняя частка польскага Помор'я) — тапонім *Кашубінцы* (вёска Гродзенскага р-на); этнонім *вялеты* — тапонім *Вялетава* (вёска Карэліцкага р-на); этнонім *рачане* (саюз вялетаў-люцічаў) — тапонім *Рачаны* (вёска Пастаўскага р-на); этнонім *калездічы* (сербская група) — тапонімы *Калядзічы* (вёска Ваўкавыскага р-на, вёскі Пружанскага і Пінскага р-наў), *Калацічы* (вёска Глускага р-на); этнонім *мільчане, мільцы* (сербская група) — тапонім *Мільцэі* (вёска Астравецкага р-на).

Зразумела, што не ўсе нагаданыя паралелі з'яўляюцца ў аднолькавай ступені пераканаўчымі. Некаторыя з іх даволі спрэчныя. Аднак ужо сам факт іх існавання ў вялікай колькасці прымушае звярнуць пільную ўвагу на гэты, даволі нечаканы напрамак далейшых даследаванняў. Верагодныя "сляды" шэрагу заходнеславянскіх плямен на тэрыторыі Беларусі не азначаюць, што многія з адзначаных вёсак былі заснаваны менавіта перасяленцамі. Такі прымітыўны, фармальны падыход быў бы памылковым. У большасці выпадкаў сувязь паміж этнічнымі і геаграфічнымі назвамі з'яўляецца апасродкаванай, у прыватнасці ўласнымі імёнамі ці групавымі прозвішчамі, мянушкамі ўласна беларускага насельніцтва тых ці іншых вёсак. Аднак і ўласныя імёны і групавыя мянушкі, якія звычайна існуюць многія стагоддзі і перадаюцца з пакалення ў пакаленне, утварыліся ад старых этнонімаў. У гэтым і заключаецца сутнасць "слядоў" таго ці іншага народа ў тапаніміцы.

Цікава адзначыць вось яшчэ што. З нагаданых вышэй тапонімаў прыкладна 17 назваў размяшчаюцца на старажытнай тэрыторыі дрыгавічоў, 11 назваў — у межах былой Полацкай зямлі. Яшчэ 5 — 6 тапонімаў знаходзяцца паблізу этнічнага пагранічча крывічаў і дрыгавічоў. Этнічныя, палітычныя, гаспадарчыя сувязі Полацкага княства з Польшчай, скандынаўскімі і нямецкімі землямі добра вядомыя. Цяпер мы можам сцвярджаць, што і Дрыгавіцкая зямля не ўступала палачанам ў гэтым плане.

Важнасць адзначаных паралелей тым большая, што яны недвухсэнсава сведчаць аб найбольш старажытных сувязях заходнеславянскіх зямель і Палесся. Дарэчы, на гэтыя сувязі ўказваюць і іншыя, больш вядомыя ў літаратуры тапанімічныя факты. Маюцца на ўвазе геаграфічныя назвы, утвораныя ад этнічных найменняў *ляхі і мазуры*. Такія назвы сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі Беларусі, і іх даволі многа. Напрыклад, толькі ад этноніма *ляхі* ўтворана 20 геаграфічных назваў, якія служаць найменнямі 73 населеных пунктаў Беларусі. Падобным тапонімам на тэрыторыі Палесся прысвечаны асобныя раздзелы гэтай кнігі (гл. "Ля вытокаў назвы Мазыр" і "Слянзакі-сілезцы Петрыкаўскага раёна").

Такім чынам, прыведзеныя факты даюць падставы сцвярджаць, што найменне *дрыгавічы* замацавалася ў паўднёвым арэале славянскіх плямён, якія жылі на тэрыторыі Беларусі, значна пазней этноніма *дулебы*, выступаўшага ў якасці саманайменне старажытных жыхароў Палесся. Новая назва — *дрыгавічы* — мела не столькі этнічны, колькі этна-палітычны характар, паколькі яе паступовае замацаванне адбывалася ў час дрыгавіцкага княжэння. У палітычны саюз дрыгавічоў увайшлі мясцовыя ўсходнеславянскія (дулебскія) і балцкія плямёны, а таксама групы заходнеславянскага насельніцтва (галоўным чынам, паморскія і палабскія славяне). Апошнія і прычыніліся да ўзнікнення ўсходнеславянскага этноніма дрыгавічы.





## ЗЯМЛЯ, ДЗЕ ЖЫЛІ ЧАРНАРУСЫ

Русь Белая і Русь Чорная... З даўніх часоў існавалі два гэтыя паняцці на нашай старажытнай зямлі. Мінулі стагоддзі, і лёс двух назваў аказаўся розным. Першая з іх цяпер вядома амаль ва ўсім свеце. Аб другой успамінаюць хіба толькі гісторыкі ды мовазнаўцы.

У сярэдзіне XV ст. (больш дакладная дата заблытана ў розных крыніцах) пры двары партугальскага караля Альфонса V з'явілася геаграфічная карта, складзеная манахам Фра Маура, на якой сярод іншых краін значылася *Rossia negra*, ці *Русь Чорная*. Але дакладнага адказу на пытанне, дзе знаходзілася Чорная Русь, у гэтай першай вядомай нам фіксацыі назвы няма. Не даюць такога адказу і польскія хронікі наступнага, XVI ст., у якіх Чорная Русь размяшчалася то на тэрыторыі Галіцыі і Валыні, то на захад ці на поўдзень ад Кіева.

Дакладная геаграфічная праекцыя назвы Чорная Русь з'яўляецца толькі ў XVIII — XIX стст. У гэты перыяд пад Чорнай Руссю разумеліся ваяводствы Навагрудскае і Мінскае, паветы Слуцкі, Слонімскі, Ваўкавыскі, Мінскі, Мазырскі і Рэчыцкі*. У далейшым тэрыторыя Чорнай Русі ў розных пісьмовых крыніцах звузілася і часцей за ўсё абмяжоўвалася Навагрудскім

* *Карпинский М.* Географический словарь. Вильно, 1766, на польском языке.

і Слуцкім паветамі Мінскай губерні, Ваўкавыскім і Слонімскім паветамі Гродзенскай губерні. Некаторыя аўтары XIX ст. працягвалі далучаць да Чорнай Русі таксама Мазырскі і Рэчыцкі паветы Мінскай губерні*.

У адным з самых аўтарытэтных выданняў канца XIX ст. змешчана нават апісанне чарнарусаў. "Гэтыя чарнарусы адрозніваюцца сваім касцюмам, які складаецца, як ў мужчын, так і ў жанчын, з чорнага колеру. У жанчын, за выключэннем адной кашулі, усё чорнае: галаўны ўбор, світка, спадніца, шырокае пакрывала, усё — з чорнага тоўстага палатна. Мужчыны носяць чорныя світкі, штаны, нават капелюшы. Ва ўсім астатнім чарнарусы нічым не адрозніваюцца ад беларусаў. Чарнарусы жывуць у Лідскім павеце, ад возера Дуп па граніцы Гродзенскай губерні, і займаюць прыходы Лідскі, Навагародскі і Заблоцкі"**. П. В. Баброўскі, ведаў чарнарусаў у Слонімскім, Ваўкавыскім, частках Беластоцкага, Сакольскага і Гродзенскага паветаў. Ён адзначыў, што "чарнарусы размаўляюць па-беларуску, але з невялікімі змяненнямі; яны моцнага і правільнага целаскладу, вочы маюць шэра-блакітныя, твар прадаўгаваты, нос арліны, валасы светла-русыя; носяць бараду і вусы"***.

Як бачым, невялікія кампактныя групы чарнарусаў, якія яшчэ жылі ў асобных мясцовасцях у другой палове XIX ст., сапраўды ўяўлялі сабой пэўныя этнаграфічныя адзінкі. Відаць, у папярэднія стагоддзі этнаграфічныя асаблівасці чарнарусаў былі яшчэ больш выразнымі. У прыватнасці, звяртае на сябе ўвагу іх чорная вопратка. У гісторыі ёсць вельмі красамоўныя паралелі гэтай прыкмеце.

Яшчэ у V ст. да новай эры грэчаскі гісторык Герадот, які падарожнічаў па многіх краінах і наведаў сярод іншых Паўночнае Прычарнамор'е, пісаў аб народзе *меланхленаў*, якія жылі прыкладна ўздоўж сярэдняга цячэння Дона. Гэтыя меланхлены, па Герадоту, усе насілі чорную вопратку. Само ж іх імя было грэчаскім перакладам нейкай мясцовай этнічнай назвы, якая мела значэнне "тыя, хто носіць чорнае адзенне". У III ст. да новай эры антычныя аўтары ведалі дзесьці ў Прычарнамор'і яшчэ адзін народ, які носіць чорнае адзенне, — племя *саўдаратаў. У I ст. нашай эры пісьменнік Дзіон Хрысастом, які наведаў Ольвію, расказваў, што мясцовыя жыхары насілі чорныя плашчы на манер аднаго з суседніх плямён. У сярэдзіне V ст. новай эры, пасля распаду імперыі гунаў, ва ўсходнееўрапейскіх стэпах сумесна з іншымі ордамі качавала племя савіраў*, імя якіх у перакладзе з іранскіх моў азначала "чорныя". Гэтым жа іменем — *савіры* — візантыйскія аўтары, у

---

* *Зеленский И.* Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Минская губерния. Ч. 1. СПб., 1864. С. 406—409.

** Живописная Россия. Т. 3, Ч. 1, СПб., М., 1882. С. 13—14.

*** *Бобровский П. В.* Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 1. СПб., 1863. С. 622, 650.

прыватнасці Пракопій Кесарыйскі, называлі пазней хазар. У "Повести временных лет" сярод шматлікіх народаў, якія змянялі адзін другога на Дунаі, называюцца чорныя угры, ці венгры. І яшчэ адна паралель, на гэты раз больш блізкая да гісторыі Старажытнай Русі. У сярэдзіне XII ст. у лесастэпавых раёнах Кіеўскай дзяржавы (пераважна ў басейне ракі Рось) існавала племяннное аб'яднанне *чорных клабукаў*, ці *каракалпакаў*. (У перакладзе з цюркскіх моў літаральна — "чорныя шапкі".) У склад аб'яднання чорных клабукаў, вайсковыя атрады якіх знаходзіліся на службе ў кіеўскіх князёў і абаранялі паўднёвыя рускія рубяжы ад нападкаў полаўцаў, увайшлі рэшткі качавых плямёнаў печанегаў, торкаў, кавуяў, берандзеяў, якія ў розныя перыяды мелі дачыненне да гісторыі старажытнарускай дзяржавы.

Вядома, некаторыя з адзначаных паралеляў могуць быць выпадковымі. Напрыклад, мы далекія ад думкі генетычна звязваць чарнарусаў канца XIX ст. са старажытнымі плямёнамі Паўночнага Прычарнамор'я. Гаворка можа ісці толькі аб тыпалагічным падабенстве імёнаў розных народаў у розныя гістарычныя перыяды. Што ж датычыць паралеляў з этнічнымі найменнямі старажытнарускага часу, то тут можна гаварыць не толькі аб нейкай традыцыі, якая мае вельмі далёкія вытокі ў глыбіні стагоддзяў, але і аб прамых, рэальных кантактах плямён, аб іх узаемаўздзеянні, узаемаўплыве.

У гэтай сувязі карысна звярнуць увагу на старажытнарускіх *северан*, якія жылі ў басейне Сейма, Сулы і Дзясны, і племяннымі цэнтрамі якіх з'яўляліся Ноўгарад-Северскі і Чарнігаў. У навуцы даўно існуе перакананне, што фарміраванне северан як асобнай групы адбывалася якраз на адзначанай тэрыторыі. Тут, на левабярэжжы Сярэдняга Падняпроўя, выяўлены старажытнасці, якія ў VII — VIII стст. належалі славянізаванаму насельніцтву, роднаснаму алана-балгарскай салтаўскай культуры. У паўднёвай частцы северанскай тэрыторыі даславянскім насельніцтвам былі іранцы. *Северанамі*, такім чынам, першапачаткова называлася племянная групоўка іранамоўнага насельніцтва, якая жыла ў дняпроўскім лесастэпавым левабярэжжы. Гэтая групоўка растварылася сярод славян, якія і ўспрынялі старую этнічную назву. *Север*, *сявер* ці *савір* — так прыблізна павінна было гучаць даславянскае этнічнае найменне. Цікава, што той жа корань, што і ў гэтай этнічнай назве, маецца ў такіх найменнях водных аб'ектаў, як рака *Сев* ці *Сева* ў басейне Дзясны і рака *Сейм (Семь)* — прыток Дзясны ў арэале северан. Значэнне гэтых назваў тлумачыцца з іранскіх моў як "цёмны, чорны". Адсюль, відаць, і своеасаблівы "пераклад" назвы г. Чарнігава (яе, дарэчы, некаторыя даследчыкі тлумачаць ад быццам бы страчанага слова *чарніга* — "чорная зямля") і імя легендарнага князя Чорнага, заснавальніка Чарнігава.

Шэраг тапанімічных фактаў, якія маюцца ў распараджэнні аўтара, сведчаць аб пэўных сувязях паміж раёнамі Чорнай Русі і тэрыторыяй старажытнарускіх северан. Гэта перш за ўсё населеныя пункты Севярынава і Севярыны ў былым Слуцкім павеце, Северск ў былым Рэчыцкім павеце і Севярынаўка ў

былым Мазырскім павеце. Гэтыя назвы з вялікай доляй упэўненасці можна тлумачыць ад этнічнага наймення *севяране.* У Нясвіжскім раёне ёсць вёска *Сноў*, рэчка *Сноўка* (прыток Ушы) маецца ў сістэме Нёмана. На тэрыторыі севяран гэтым назвам адпавядае рачное імя *Снава* (басейн Сейма). Нагадаем яшчэ некалькі цікавых паралелей: *Сула* (рака ў басейне Дзясны) — *Сула* (рака, прыток Нёмана) — Сула (вёска Стаўбцоўскага раёна Міншчыны); *Івот, Івотка* (басейн Дзясны) — *Івота, Івата* (басейн Дняпра); *Оленка* (басейн Дзясны) — *Ольніца* (басейн Прыпяці); *Уліца* (басейн Дзясны) — *Уліца* (басейн Дняпра) — *Ульʼянка* (басейн Сожа) — *Улла* (басейн Нёмана); *Капылка* (басейн Дзясны) — *Капылка* (басейн Дняпра) — *Капыл, Капылка* (басейн Сожа) — г. *Капыль* (райцэнтр Мінскай вобласці); *Лоша* (басейн Дзясны) — *Лоша* (басейн Нёмана) — *Лоша* (прыток Віліі) — *Лоша* (басейн Сожа) — *Лоша* (басейн Прыпяці); *Дзітва* (басейн Нёмана) — *Цітва* (басейн Дзясны); *Уса* (басейн Бярэзіны) — *Уса* (басейн Сожа) — *Уса* (басейн Сейма) — *Усса* (басейн Нёмана); *Морач* (прыток Случы, басейн Прыпяці) — *Мароча* (басейн Сейма); *Няміга* (гістарычная рэчка на тэрыторыі Мінска) — *Няміга* (басейн Дзясны) — *Нямігля, Немягелька* (басейн Прыпяці); *Смаргоўка, Шмаргоўка* (басейн Дзясны) — г. *Смаргонь* (райцэнтр Гродзенскай вобласці) — *Смагораўка* (басейн Дняпра); *Мухавец* (басейн Заходняга Буга) — *Мухавец* (басейн Дзясны, Сейма); *Піна* (басейн Прыпяці) — *Пянейка* (басейн Дзясны).

Такім чынам, нагаданыя факты гавораць на карысць таго, што севяране ці нават іх іранамоўныя патомкі мелі кантакты з насельніцтвам, якое пражывала на тэрыторыі Беларусі яшчэ да ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы. Гэтыя сувязі не перапыняліся і ў пазнейшы час. У XIV — XVII стст. у басейнах Дзясны, Сулы, Псла і Ворсклы існавала этнаграфічная група сеўрукоў. Найменне *сеўрукі* разумеецца як "жыхар Сяверыі, Северскай зямлі". Гэта былі прамыя нашчадкі летапісных севяран. У паслямангольскі час геаграфічныя найменні тыпу *Сеўрукі* фіксуюцца на Палтаўшчыне, на ўкраінскім Правабярэжжы, дасягаюць Падолʼя і басейна Акі. З гэтага часу ўзнікаюць тапонімы тыпу *Сеўрукі* і на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Маюцца на ўвазе вёскі *Сеўрукі* Баранавіцкага, Воранаўскага і Гомельскага раёнаў, *Сеўрукоўшчына* былога Ашмянскага павета, *Сеўрукі* Віленскага павета. У Польшчы, Літве, Беларусі шырока распаўсюджваюцца прозвішчы *Сяўрук* (падрабязней аб гэтым гл. раздзел "Хто такія Сеўрукі?").

Падставы для ўзнікнення назвы *Чорная Русь*, як бачым, закладваліся на працягу некалькіх стагоддзяў. Тапанімічныя факты, на нашу думку, дазваляюць меркаваць аб кантактах насельніцтва гістарычнай Чорнай Русі з іранамоўнымі патомкамі наддзяснянскіх севяран, а потым і з самімі севяранамі. Іранамоўныя плямёны зʼяўляліся носьбітамі "чорнай", "цёмнай" колеравай сімволікі. Вытокі гэтай сімволікі шукаюць у вельмі глыбокай старажытнасці. На думку вядомага ўкраінскага даследчыка этнічных назваў А.С.Стрыжака, найменне самага старажытнага з вядомых народаў Паўночнага Прычарнаморʼя —

*кімерыйцаў* (канец II — пачатак I тысячагоддзя да новай эры) таксама тлумачыцца як "чорныя", цёмныя"*. Праўда, такое "колеравае" тлумачэнне ў дадзеным выпадку разумеецца ў геаграфічным сэнсе: чорны колер у старажытнасці суадносіўся з паўночнымі краінамі і плямёнамі, якія іх насялялі. Кімерыйцы жылі, як лічылі іх паўднёвыя суседзі — грэкі, у краіне вечнай цемнаты, далёка на поўначы, куды не дасягае нават сонечнае святло; за *паўночным, Чорным морам*. Існуюць і іншыя тлумачэнні этнічнага найменне *кімерыйцы*. Таму думка А. С. Стрыжака, хоць і вельмі цікавая, застаецца толькі гіпотэзай. Аднак справа не толькі ў гэтым. Галоўнае тое, што кімерыйцы складаліся з розных этнічных груповак, а вядучая роля сярод іх належала *іранамоўным плямёнам*. Зноў з іранамоўным этнічным кампанентам мы сустракаемся ў перыяд нашэсця авар (абраў) і прыгнечання імі дулебаў (гл. папярэдні раздзел). Авары першапачаткова ўяўлялі сабой не "чысты", а этнічна змешаны народ. Звычаі ўладкоўваць вялікія могільнікі, хаваць коней асобна ад чалавека сведчаць аб тым, што сярод прышэльцаў-авар былі мангалоіды; "частковыя" ж пахаванні коней (толькі ногі і чэрап) — аб іранскіх звычаях**. Уздзеянне абраў на дулебаў, іх узаемасувязі ўскосна адлюстраваліся праз пэўны час у мове і паданнях дрыгавічоў. Ці не з'яўляецца адным з праяўленняў старажытных дулеба-аварскіх кантактаў і назва *Чорная Русь*? На самай справе, яшчэ даследчыкі XIX ст. вельмі слушна заўважылі, што геаграфічнае паняцце *Чорная Русь* з самага пачатку яго існавання распаўсюджвалася на гістарычныя дрыгвіцкія землі. Выпадковасцю такое супадзенне лічыць цяжка. Аднак нельга настойваць толькі на адным тлумачэнні гэтай назвы. У нашай версіі паказаны толькі магчымы напрамак такога даследавання.

---

* *Стрижак О. С.* Етнонімія Геродотовоі Скіфіі. Киів, 1988. С. 24—27.

** *Эрдели И.* Авары //Исчезнувшие народы. М. 1988. С. 102.





## ШТО У НАЗВЕ ТВАЁЙ, ПРЫПЯЦЬ?

Палессе... У каго пры гэтым слове не ўзнікаюць асацыяцыі з бязмежнымі водамі і туманамі, камарамі, пясчанымі выспамі, мохам на комлях старых ялін. Шырокая Прыпяць цячэ між зялёных берагоў на ўсход, да Дняпра, а з усіх бакоў да яе накіроўваюцца бясконцыя вялікія і малыя прытокі. Веснавой паводкай, калі берагі ракі абазначаны паласой тырчашчых з вады дрэў і хмызняку, Прыпяць нагадвае мора, і толькі дзесьці ўдалечыні, на пясчаных узвышшах, ледзь прыкметна сінее лес.

Як сведчаць рускія географы XIX ст., балоты ў даліне Прыпяці займалі чвэрць усёй тэрыторыі. Большасць з іх была зусім непраходнай, хіба што ў час засухі ці моцных маразоў. Але і ў сухі перыяд года берагі Прыпяці, напрыклад на ўсход ад Пінска да вусця Лані, у многіх месцах ледзь узнімаліся над вадой, утвараючы вузкую палоску, за якой пачыналіся суцэльныя балоты. У былым Мазырскім павеце толькі левы бераг ракі, а таксама наваколле Турава і Мазыра было больш узвышаным і зручным для пражывання.

Цікава, што агромністыя балотныя масівы Палесся мелі ў мінулым, магчыма, і дагэтуль захавалі свае гістарычныя назвы. Гэтыя старадаўнія геаграфічныя назвы, якія змешчаны ў старых пісцовых кнігах, актах, імянных і геаграфічных паказальніках да гэтых дакументаў, у апісаннях прыроднага ландшафту, у даследаваннях па геаграфіі краю, уяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць.

Асаблівыя назвы ў мясцовых жыхароў атрымлівалі, перш за ўсё, тэрыторыі, прыгодныя для засялення і апрацоўкі зямлі, а таксама тыя, якія былі зусім недаступнымі, занятымі непраходнымі багнамі. Сухі і больш узвышаны раён знаходзіўся паміж рэкамі Ясельдай і Пінай, каля горада Пінска. Уся тэрыторыя на захад ад горада яшчэ параўнальна нядаўна называлася *Загароддзем*, а жыхароў Піншчыны называлі *загародцамі*. Супрацьлеглая Загароддзю прастора, прымыкаўшая да Пінска з паўднёвага ўсходу, паміж паўднёвым берагам Піны, часткай Ясельды і Прыпяці і ракі Стыр, называлася *Зарэччам*, а мясцовыя жыхары — *зарачанамі*. Лясы і балоты, што раскінуліся з другога боку па берагах рэк Цна, Лань, Морач і Случ, у канцы мінулага стагоддзя мелі назвы *Стрыж, Адрына, Жарнова, Гайдзін, Гвозса, Одр*. Самае вялікае балота ўздоўж ракі Морач называлася *Люцень*.

На тэрыторыі сучасных Жыткавіцкага, Салігорскага і Слуцкага раёнаў знаходзілася вялізнае адкрытае і непраходнае балота *Грычын*, якое рускія географы XIX ст. лічылі астаткам палескага возера. Каб зразумець, што гэта за "палескае возера", трэба зноў звярнуцца да даследаванняў па гістарычнай геаграфіі, згодна з якімі даліна Прыпяці ў далёкім мінулым была дном возера. У яго ўпадалі шматлікія рэкі, якія адкладвалі ў дэльтах розны наносны матэрыял і такім чынам як бы адбіралі ў возера тэрыторыю. Так працягвалася да таго часу, пакуль паўночныя і паўднёвыя прытокі не сустрэліся ў цэнтральнай частцы возера і не ўтварылі адну агульную раку, якая панесла свае воды ў даліну Дняпра*.

Рэдкае насельніцтва, якое жыло побач з балотам *Грычын* і на навакольных тэрыторыях, звалася *замшукамі*. Мясцовасць па цячэнню Сцвігі ў XIX ст. была пакрыта амаль безупыннымі балотамі, якія называліся *Волхавымі*.

Дзяленне геаграфічнай прасторы на прыгодныя для апрацоўкі і пражывання землі і непрыгодныя ўскосна ўздзейнічала на сістэму назваў шматлікіх рэк, ручаёў басейна Прыпяці. Суседнія рэкі, а нярэдка левыя ці правыя прытокі ракі мелі аднолькавую назву. Такая з'ява называецца "люстраной" тапаніміяй.

Асабліва часта паўтараюцца такія назвы, як *Турыя (Тур'я, Турэйка)* — каля дваццаці разоў, *Жалонь (Жалонка, Жалонька, Зольня)* — каля дзесяці разоў, а таксама *Бобрык, Вет (Віць), Маства, Сцвіга* (з ранейшай формы *Мсцвіга*) і іншыя.

Існаванне аднолькавых назваў рэк, акрамя іншых прычын, тлумачыцца яшчэ і вопытам рэгулярнага выкарыстання іх як шляхоў зносін, што пацвярджаецца падобнымі з'явамі ў іншых рэгіёнах. Густая рачная сетка Палесся давала магчымасць з даўніх часоў выкарыстоўваць рэкі і як магістральныя водныя

---

* *Танфильев Г. И.* Географические работы. М., 1953. С. 39—40.

шляхі, і для мясцовых зносін. Галоўнай транспартнай магістраллю з'яўлялася Прыпяць, якая то разгаліноўвалася на шматлікія рукавы, то зноў злучалася, прымаючы ў сябе 123 ракі і рэчкі*. У мінулым яна мела некалькі назваў. У верхнім цячэнні ў розных месцах яе называлі па-рознаму — *Пірок, Стаход і Струмень*. Імя *Прыпяць* рака атрымлівала ў прамежку ад месца злучэння яе з Ясельдай і Стырай.

Вядомыя нам назвы пэўных рэк узнікалі заўсёды ў якім-небудзь адным месцы і потым паступова распаўсюджваліся на ўсю раку.

Сістэма рэканструяваных старажытных водных шляхоў Беларусі паказвае, што асноўны транспартны кірунак у Палессі праходзіў па ніжняму цячэнню Прыпяці аж да ўпадзення ў яе ракі Пціч, далей уверх па цячэнню Пцічы, дзе існаваў волак, які злучаў вярхоўі Пцічы і Нёмана. Далейшы свой працяг гэты магістральны кірунак атрымліваў па цячэнні Нёмана з выхадам у прывісленскія землі**. Сярэдняя частка цячэння Прыпяці, ад упадзення Пцічы да ўпадзення Ясельды, і мела найменне ўласна *Прыпяць* (ці *"Припеть"* — старая форма). Гэтая частка ракі ўяўляла сабой водны шлях мясцовага значэння. У верхнім цячэнні, асабліва да ўпадзення ракі Піны, Прыпяць не была суднаходнай, тут яна месцамі забалочана і распадаецца на некалькі рукавоў, чаму і насіла ў мінулым назву *Стаход* (літаральна — "рака са шматлікімі адгалінаваннямі"; аднайменны прыток Прыпяці дагэтуль існуе ў яе верхнім цячэнні). Яшчэ адна назва верхняй Прыпяці — *Струмень*. Падобнае найменне маюць невялікія лясныя рэчкі і ручаі, якія працякаюць у забалочанай мясцовасці. Трэцяя ранейшая назва верхняга цячэння Прыпяці — *Пірок* — у сучасны момант не мае "празрыстага" значэння. Тым не менш яна адпавядае, як можна меркаваць, найменню Перга (правы прыток Убарці ў басейне Прыпяці), якое мае варыянтныя формы Вялікая Бабровая Банька і Перагон. Сапраўды, у вярхоўях Прыпяці і па яе прытоках ёсць значныя калоніі баброў, а "бабровыя" рэчкі з'яўляліся зручным сродкам перагону, перацягвання лодак і невялікіх суднаў, выконвалі ў мінулым ролю волакавых шляхоў. Цікава, што ў канцы XIX ст. Прыпяць у верхнім цячэнні да месца ўпадзення ў яе ракі Піны выкарыстоўвалася яе сплаўная***. Што ж датычыць назвы Пірок, як і Перга, то яны ўзыходзяць да старажытнай асновы перт, якая выкарыстоўвалася на тэрыторыі Усходняй Еўропы для наймення рэчак, на якіх знаходзіліся пасяленні баброў. Не выпадкова слова перт (у сучасны момант яно вядома толькі ў фінскіх мовах) мела значэнне "дом, хата, лазня".

---

* Гэты і іншыя факты ў даным раздзеле ўзяты намі ў кнізе "Живописная Россия" (Т. 3. Ч. II. С.-Птб., М., 1882. С. 340—343).

** *Жучкевич В. А.* Дороги и водные пути Белоруссии. Историко-географические очерки. Мн., 1977. С. 20.

*** Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб., 1905. С. 320

Дарэчы, варыянтная назва ракі Перга — *Вялікая Бабровая Банька* — якраз і з'яўляецца дакладным перакладам асноўнага найменне.

У старажытнасці галоўнай ракой лічыўся той участак воднага шляху, па якому ажыццяўляўся перавоз грузаў. У нашай схеме — гэта *Пціч* з выхадам у ніжняе цячэнне Прыпяці. Што ўяўляе сабой з лінгвістычнага пункту гледжання назва *Пціч* (у старых напісаннях — "*Пътичь*, "*Бъчичь*")? Кожная назва ляжыць на перакрыжаванні радоў, якія ўтвараюцца назвамі з аднолькавай асновай і назвамі з аднолькавым суфіксам — фармантам. У прыпяцкім басейне і шырэй — у Верхнім Падняпроўі сустракаюцца рачныя імёны тыпу *Добрыч, Несвіч, Ведрыч*, якія дазваляюць вылучыць у назве *Пціч* аднолькавы суфікс -іч (ичь). З другога боку, тая частка назвы, што засталася (пц-, път-, у мінулым таксама "бъч"-і, магчыма, "пят-", "пет-", "*пат-*"), суадносіцца з другой часткай назвы *Пры-пяць* (гістарычна *При-петь*). Калі зыходзіць з таго факта, што ўласна *Прыпяццю* рака называлася ад месца ўпадзення Ясельды, то ў такім выпадку ўчастак ракі ад Ясельды да ўпадзення Пцічы можна разумець як *Пры-пяць (При-петь)*, г.зн. літаральна "тая, што знаходзіцца побач з ракой *Пет (Пець, Пяць)*, упадае ў гэту раку". Для параўнання: *Прыжалонак* — прыток *Жалоні*; *Прышчанка* — прыток *Шанкі* (басейн Прыпяці). Падобны структурны тып рачных імён ёсць і ў іншых раёнах Верхняга Падняпроўя.

Трэба заўважаць, што большасць са шматлікіх тлумачэнняў назвы Прыпяць зыходзіць з члянення імені на *Пры-пяць (При-петь)*.

Даныя гістарычнай геаграфіі і гістарычнай тапаніміі Палесся пацвярджаюць такое лінгвістычнае тлумачэнне рачной назвы, незалежна ад значэння і моўнай прыналежнасці асновы — *пяць (-петь, -пет, -пят)*.

Зрэшты, матэрыял, які ёсць у нашым распараджэнні, дазваляе зрабіць некаторыя меркаванні наконт першапачатковага значэння асновы. Нагадаем рачныя імёны, родныя, на наш погляд, разглядаемай назве: *Педань* (басейн Дзясны), *Пядынка* (басейн Бярэзіны Дняпроўскай), *Убедзь, Убець* (басейн Дзясны), *Педня* (басейн Масквы-ракі), *Пятуш, Пячка, Пет, Петас, Пііна, Пятай* (басейн Акі), *Пят, Гнілапяць* (басейн Росі, Сярэдняе Падняпроўе), *Гнілыя Пяты, Паты* (басейн Паўднёвага Буга) і іншыя. Усе гэтыя назвы вельмі верагодна лічыць утворанымі ад старажытнага слова *пет* (* pet) са значэннем "пашырэнне, расцяканне, распаўсюджванне". Гэтае слова было ўласціва яшчэ старажытным індаеўрапейскім гаворкам. Праўда, некаторыя тапаністы (у прыватнасці, Я. М. Паспелаў) лічаць, што гідранімічная аснова *пет-* распаўсюджана і на Рускай Поўначы і сустракаецца ў складзе так званых субстратных (гэта значыць найбольш старажытных) тапонімаў, моўную прыналежнасць і значэнне якіх высветліць пакуль немагчыма.





## ЛЯ ВЫТОКАЎ НАЗВЫ МАЗЫР

На паўднёвы ўсход ад Мазыра па праваму берагу Прыпяці ўніз па цячэнню да вёскі Барбароў цягнецца Мазырскае ўзвышша. Вакол яго, і справа і злева, раскінулася вялікая нізіна. Наваколле Мазыра рэзка адрозніваецца ад суседніх мясцін. Яшчэ ў канцы XIX ст., згодна з геаграфічнымі апісаннямі даследчыкаў, чатыры пятыя тэрыторыі былога Мазырскага павета Мінскай губерні займалі непраходныя балоты. Пасяленні былі аддалены адно ад аднаго на дзесяткі вёрст і, здаралася, доўгі час паміж імі адсутнічалі ўсялякія зносіны. А што было тут у старажытныя часы? Цяжка адказаць дакладна, але, думаецца, мы не зробім памылкі, калі скажам, што існавала тут вялікая краіна лясоў, вод і туманаў, у якой, здавалася, насуперак разумнаму сэнсу сяліліся людзі, вялі гаспадарку, гандлявалі з суседзямі. Неверагодна, але амаль на кожным грудку ўздоўж Прыпяці адшукваюцца месцы старажытных паселішчаў, аб якіх сведчаць абломкі гаршкоў, крамянёвыя вырабы, рэшткі вогнішчаў. Не з'яўляецца выключэннем і Мазырская града. У межах сучаснага Мазыра археалагічныя даследаванні выявілі месца былога гарадзішча і селішча, якія існавалі прыкладна ў VIII — XI стст. Відаць, гэтыя пасяленні былі правобразам будучага горада.

Звесткі аб старажытнай гісторыі Мазыра захаваліся, як гэта звычайна бывае, у фрагментах, якія, калі іх размясціць у храналагічнай паслядоўнасці, апавядаюць выключна пра княжацкія сваркі, войны, знішчэнне і адбудову горада. Вось асноўныя

здарэнні ў даўняй гісторыі Мазыра, згодна з адным з самых аўтарытэтных выданняў канца XIX ст.* 1155 год — князь Юрый Даўгарукі аддае горад тагачаснаму чарнігаўскаму ўладару Святаславу Вольгавічу. Гэта — першае летапіснае паведамленне аб Мазыры. На працягу XII ст. горад пераходзіць ад аднаго князя да другога. У XIII ст. трапляе пад уладу літоўскіх правіцеляў. У 1241-ым горад быў разрабаваны і спалены атрадамі татарскіх ханаў Гаюка і Кайдгана. 1497, 1521, 1534 гады — зноў рабаўнічыя набегі, на гэты раз крымскіх татар, зноў льецца кроў, зноў застаўшыеся ў жывых мазыране адбудоўваюць горад нанава. У 1508 і 1535 гадах Мазыр аказваецца аб'ектам спрэчак паміж уладарамі Літоўскай і Маскоўскай дзяржаў і зноў церпіць ад нападаў, пажараў і разбурэнняў. 1569 год — Мазыр прызначаецца павятовым горадам Мінскага ваяводства ў складзе толькі што ўтворанай новай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. 1609 год — страшэнны пажар, які знішчыў увесь горад. У 1648 — 1654 гадах жыхары Мазыра і сяляне павета змагаюцца супраць польскага панавання. У 1793 годзе горад далучаецца да Расіі і з 1796-га становіцца цэнтрам павета Мінскай губерні.

Кожны з прыведзеных фактаў годны ўвагі і пры ўмове дэталёвага даследавання можа стаць асновай цікавага краязнаўчага ці, мабыць, літаратурнага апісання. Нас жа ў дадзеным выпадку цікавяць тыя падзеі, якія не адлюстраваліся ў адзначаных фактах і адлюстраванымі быць не маглі. Гэта — пачаткі горада, яго вытокі, яго ўзнікненне і звязанае з гэтым пытанне аб паходжанні яго назвы. Назва — гэта своеасаблівая загадка. І калі разгадаць яе, яна раскажа пра тых людзей, якія засялілі мазырскія ўзвышшы, і пра тое, чаму, як і калі яны ўжылі слова *Мазыр* для наймення пасялення над Прыпяццю.

Згодна з найбольш абгрунтаваным на сённяшні дзень тлумачэннем назвы Мазыр, яе вытокі ўзыходзяць да наймення этнаграфічнай групы заходнеславянскага (польскага) насельніцтва — мазураў **. Такое тлумачэнне сапраўды мае важкія падставы. Даследаванні апошніх гадоў сведчаць аб этнічных кантактах паміж усходнімі і заходнімі славянамі яшчэ ў VIII — X стст. У XI — XII стст. актывізуюцца гандлёва-эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі заходніх славян з насельніцтвам Беларусі. У адзначаны час, як можна меркаваць, закладваліся асновы для ўзнікнення шматлікіх геаграфічных назваў Беларусі ад этнічных найменняў ляхі і мазуры. Толькі на Палессі ёсць 12 такіх назваў. Гэта вёскі Ляхавічы (Жыткавіцкі, Драгічынскі, Іванаўскі раёны), Ляхаўцы (Кобрынскі, Маларыцкі раёны), хутар Ляхава (Пінскі раён), горад Ляхавічы (Брэсцкая вобласць), вёскі Мазуры (былы Мазырскі павет, Ельскі, Кобрынскі раёны), Мазуркі (Ляхавіцкі раён), Мазуршчына (Светлагорскі раён). Гэтыя геаграфічныя назвы маглі ўзнікнуць толькі пры наяўнасці большых ці меншых груп польскага насельніцтва або асобных перасяленцаў у адзначаных

---

* Живописная Россия. Т. 3. Ч. II. СПб., М., 1882.

** *Жучкевич В. А.* Мозырь и мазуры //Неман. 1972. № 3. С. 188—189.

раёнах. Аднак зусім не абавязкова ўсе назвы адносіць да старажытнарускага часу, да VIII — XII стст.

У другой палове XIV ст. палякі з'явіліся на землях Вялікага княства Літоўскага ў якасці палонных пасля ваенных паходаў літоўскіх князёў на Польшчу. Ёсць даныя, якія сведчаць, што колькасць палякаў у межах тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў той час складала каля 23 тысяч чалавек*.

Ці адбываліся перасяленні палякаў на ўсход і паўднёвы ўсход (на тэрыторыю Беларусі, Падолля і Валыні) пасля заключэння ў 1386 годзе так званай Крэўскай уніі, згодна з якой у асобе Ягайлы спалучаўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі, і асабліва пасля Люблінскай уніі 1569 года, калі ўсе беларускія землі ўвайшлі ў склад Рэчы Паспалітай? Адназначны адказ на гэта пытанне даць цяжка. Заканадаўства Вялікага княства Літоўскага (статут 1588 года, артыкул 12, раздзел III) не дазваляў палякам мець землі ў межах Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, забараняў ім набываць тут маёмасць, маёнткі і г.д. Між тым, некаторыя ўскосныя факты, у прыватнасці вялікая колькасць геаграфічных назваў на тэрыторыі Беларусі, утвораных ад этнічных найменняў *ляхі, мазуры, палякі* (па нашых даных, толькі адна этнанімічная аснова лях- выяўляецца ў 20 геаграфічных найменнях, якія сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі рэспублікі і служаць для назвы 73 населеных пунктаў), а таксама географа-статыстычныя звесткі XIX стагоддзя дазваляюць меркаваць, што пранікненне польскага насельніцтва, асабліва пад этнічным абазначэннем *ляхі*, якое з'яўляецца больш старадаўнім, чым, напрыклад, этнонім *палякі*, адбывалася, няхай і не ў масавым парадку, а паступова, і ў XVI і ў наступныя стагоддзі.Відаць, пэўныя заканадаўчыя акты ў Вялікім княстве Літоўскім таму і прымаліся, што міграцыі заходнеславянскага насельніцтва (палякаў, галоўным чынам) сапраўды мелі месца.

Каб вызначыць дакладны час паходжання таго ці іншага населенага пункта, у назве якога адлюстраваліся найменні *ляхі* і *мазуры*, патрэбна карпатлівая работа ў архівах і на месцы, гэта значыць у самім населеным пункце. Але ёсць і іншыя магчымасці, не менш надзейныя. Напрыклад, вядома, што этнічнае найменне *мазуры* сустракаецца ў пісьмовых крыніцах толькі з XV ст. Адсюль вынікае, што вёскі *Мазуры, Мазуршчына, Мазурышкі* і іншыя па ўсёй Беларусі не маглі атрымаць сваю назву раней гэтага часу.

Мазуры былі адной з самых шматлікіх польскіх груп. Яны засялялі зямлю Мазоўша на паўночным усходзе Польшчы. Рускія князі хадзілі ў гэтую зямлю з войскам яшчэ ў XI ст. Але тады было вядома толькі найменне *мазаўша́ны*. Кіеўскія дружыны звычайна прыводзілі з паходаў палон, які потым рассяляўся на ўскраінах Кіеўскага княства. А паколькі шлях на Мазоўша пралягаў па Прыпяці, то зусім верагодна, што мазаўшаны маглі асесці на сталае жыхарства ў асобных незаселеных раёнах Палесся яшчэ ў XI ст.

---

* Этнаграфія беларусаў. Мінск, 1985. С. 93—94.

У наступным стагоддзі ўпершыню ўпамінаецца Мазыр (1155 год). Аднак ці можна яго назву звязваць з мазаўшанамі, палонёнымі палякамі ці перасяленцамі? На нашу думку, наўрад ці. І галоўная перашкода на гэтым шляху — фіксацыя формы *мазур* толькі з XV ст., калі Мазыру ішло па меньшай меры ўжо чацвёртае стагоддзе. Да таго ж структура геаграфічнай назвы *Мазыр* вельмі нетыповая, каб бачыць у ёй адлюстраванне этнічнага наймення. Паходжанне ж назвы горада ад больш старажытнай формы наймення аднаго і таго ж народа — *мазаўшаны* зусім немагчыма.

Як жа ў такім разе тлумачыць загадкавую геаграфічную назву, дзе шукаць яе вытокі?

Пры разгадванні старажытных найменняў, якія даўно страцілі свой першапачатковы сэнс, геаграфічную назву нельга разглядаць асобна, без сувязі з іншымі назвамі. Кожнае імя абавязкова паўтараецца ў такім жа ці трохі ў змененым выглядзе на суседніх тэрыторыях, прычым нярэдка ў якасці наймення аб'ектаў іншага роду — не толькі населеных пунктаў, але і азёр, рэк і г.д.

Такія акалічнасці справы і ў нашым прыкладзе. У басейне Дняпра на тэрыторыі Украіны ёсць рэчка *Мазырка (Мазірка)*. На Гомельшчыне каля вёскі *Рудня* Калінкавіцкага раёна вядома *Мазырскае балота*. На поўначы Беларусі, у Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці, а таксама на Ушаччыне размяшчаюцца дзве вёскі з аднолькавай назвай — *Мо́сар*. Урочышча *Мо́сар* ёсць і ля вёскі *Свяча* Нараўлянскага раёна. Вёска *Мaсо́ры* фіксуецца ў Сенненскім раёне Віцебскай вобласці, а ў Шумілінскім раёне той жа вобласці — вёска *Мосарава*. Сенажаць *Масаро́ўка* адзначаецца побач з вёскай *Закаблукі* Мінскага раёна.

Назвы тыпу *Мосар, Масоры* і *Мазыр* можна лічыць роднаснымі, нягледзячы на розныя зычныя гукі [с] і [з] у іх складзе. Такое гукавое чаргаванне сустракаецца і ў іншых назвах: рака *Уза* — рака *Уса*, рака *Со́ленка* — рака Зо́ленка, рака *Ведрач* — рака *Ветрыч* (у апошняй назве адбываецца чаргаванне іншых гукаў, але таксама звонкага і глухога зычнага).

Як вядома, у беларускім вымаўленні націск у назве *Мазы́р* падае на другі склад, у рускім жа вымаўленні — на першы *(Мо́зырь)*. Параўнанне з роднаснымі геаграфічнымі імёнамі сведчыць, што нефіксаваны націск у назве *Мазы́р — Мозырь* мае працяглую гісторыю. Першая фіксацыя назвы — *Мозырь* (1155 год), відаць, прадугледжвала націск на першым складзе. У фіксацыях XII — XIV стст., па сведчанню В. А. Жучкевіча, можна сустрэць *Мозър* і *Мазър*, дзе літара [ъ] (у першым выпадку па ўсёй верагоднасці абазначае ненаціскны гук, у другім — націскны (магла передаваць гукі *[ы, о, а]*).

Параўнанне з яшчэ адной назвай — *Замосарск* (хутар да 1936 г. у Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці) — дазваляе зразумець, што можа ляжаць у аснове як слова *Мазыр*, так і іншых нагаданых імён. Назву хутара *Замосарск* трэба разумець як "аб'ект, што знаходзіцца за мосарам". Дык што ж такое *мосар*? Па ўсёй верагоднасці, гэта балота, балоцістая нізіна, старое рэчышча, якое парасло кволай раслiннасцю. Хутар Замосарск

знаходзіўся побач з вёскай Колкі. *Колкамі* ж называюць бярозавае рэдкалессе, хмызняк часцей за ўсё на балоце, сырой западзіне. Успомнім і нагаданае вышэй *Мазырскае балота.* Назву ж рэчкі Мазыркі на тэрыторыі Украіны ў басейне Дняпра належыць разумець як "тая, што працякае праз балота, нізіну".

Тлумачэнне назвы Мазыра ад слова мосар матывуецца асаблівасцямі геаграфічнага ландшафту. Згодна з апісаннямі другой паловы XIX ст., большая частка Мазырскага павета ўяўляла сабой непраходную нізіну. Толькі левы бераг Прыпяці, а таксама месцы вакол Мазыра і Турава былі зручнымі для жыхарства. У астатніх частках пасяленні знаходзіліся адно ад другога на дзесяткі вёрст і былі пазбаўлены часам на доўгі тэрмін усялякіх паміж сабой зносін. Аднак людзі тым не менш са старажытных часоў насялялі Палессе і мелі паміж сабой сталыя і трывалыя сувязі. Яны абжывалі Палессе, як і іншыя лясныя раёны, з дапамогай водных шляхоў — самых старажытных ліній камунікацыі. У гэтай даўняй сістэме шляхоў зносін немалую ролю адыгрывалі волакі.

Мы нездарма падкрэсліваем гэтую акалічнасць, бо мяркуем, што слова *мосар*, з дапамогай якога тлумачым усе нагаданыя вышэй назвы, абазначала не проста балота, балоцістую нізіну, лагчыну. Рэканструяванае намі слова *мосар* вельмі нагадвае словы *мосер, мосьор*, якія ў комі мове маюць значэнне "волак, шлях па водападзелу, лагчыне". Ці не ёсць супадзенне слоў беларускай і комі моў адной з праяў старажытных моўных сувязей продкаў сучасных народаў Усходняй Еўропы? Адзначым, што пэўнай, больш позняй рэалізацыяй старажытнага слова *мосар* з'яўляецца геаграфічны тэрмін mozirje ў значэнні "балота", зафіксаваны на тэрыторыі Паўднёвай Славіі, у славенскіх гаворках.

Зразумела, прапанаваныя намі меркаванні патрабуюць дэталёвага і ўсебаковага вывучэння. Мы лічым, што далейшыя даследаванні павінны мець не толькі лінгвістычны, але і гісторыка-геаграфічны аспекты. Прынамсі ўжо цяпер трэба паспрабаваць суаднесці лінгвістычнае тлумачэнне назвы Мазыра з тапаграфіяй мазырскага наваколля, каб лінгвістычны бок справы абгрунтаваць яшчэ і гісторыка-геаграфічнымі меркаваннямі.

Таму на заканчэнне выкажам яшчэ адну здагадку. Ці не нарадзілася назва *Мазыр (Мозырь)* на месцы былой вёскі Кімбараўка каля мэблевай фабрыкі, паміж ярамі, дзе размяшчаецца старажытнае гарадзішча VIII — X стст.?





## ЦІ КНЯЖЫЎ У ТУРАВЕ КНЯЗЬ ТУР?

Адказ на гэтае пытанне звязаны з самымі пачатковымі, таму і вельмі таямнічымі старонкамі беларускай гісторыі.

У старажытным нашым летапісным зводзе — "Повести временных лет" пад 980 годам змешчана фраза: "Бѣ бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья, имяше власть свою в Полотьскѣ, а Туры Туровѣ, от него же и туровци прозвашася". У гэтай фразе — першае пісьмовае паведамленне аб найстаражытнейшым на сённяшні дзень горадзе Палесся Тураве, племянным цэнтры летапісных дрыгавічоў.

Гісторыя Турава дастаткова добра вывучана і даследавана. Аднак сярод шматлікіх гістарычных фактаў і абставін, звязаных з дрыгавіцкай сталіцай, застаецца пытанне, якое шмат гадоў абмяркоўваецца ў навуцы, але так канчаткова застаецца нявырашаным, у многім, на наш погляд, таму, што мае акрамя ўласна гістарычнага таксама яшчэ лінгвістычны (тапанімічны) і літаратурны (тэксталагічны) аспекты. Маюцца на ўвазе вытокі легенды аб князю Туру. Скупыя летапісныя радкі аб прыходзе ў балоцістую мясцовасць на Прыпяці ў самым цэнтры сучаснага Беларускага Палесся заморскага князя з загадкавым іменем Тур, як вызначылася, не толькі захаваліся ў народнай свядомасці, але і ўвасобіліся ў паэтычных і красамоўных легендах, якія аб'яднаны агульным сюжэтам і даказваюць пераемнасць гістарычнай памяці пра былую вялікасць і значэнне Турава.

Увогуле, сюжэт аб тураўскім князю Туру можа быць прадстаўлены наступным чынам. У даўнія часы, там, дзе цяпер

Тураў і бліжэйшыя вёскі, былі дрымучыя лясы. Рака называлася тады Струменню, Прыпяці зусім не было. Тады і прыйшоў князь Тур з вялікім войскам. І прыйшоў сюды таму, што тут, быццам бы, былі вялікія выгоды — вадзіліся звяры, розныя птушкі, рыба. Аднойчы ў сне князь Тур убачыў прадвесце, якое ўказвала яму на неабходнасць будаваць горад (ляжыць ён на вялікім возе, а вакол — гарады). Пачалі ўзводзіць пабудовы. І быў горад вялікім, з 45 царквамі. Будаваўся ён наступным чынам: спачатку насыпалі тоўсты слой рачнога пяску, пасля палілі лес і насыпалі пласт бярозавай кары, затым насыпалі бітых гаршкоў, потым — звярыных касцей. На заканчэнне ўсяго насыпалі рыб'ей лускі, і ўсё гэта пакрылі зямлёй.

У гэтай легендзе, як і ва ўсякай іншай, гістарычныя паведамленні перапляліся з казачнымі, бо малююць нам нейкія вобразы з даўно мінулага жыцця. Цяжка не заўважыць у паданні народную назіральнасць, добрае веданне геаграфічных і археалагічных фактаў. Праўдападобна і тое, што Прыпяці не было ў той час, калі будаваўся Тураў. Яшчэ ў мінулым стагоддзі Прыпяць у верхнім цячэнні мела некалькі назваў, у тым ліку — Струмень (гл. раздзел "Што ў назве тваёй, Прыпяць?"). Звяртае на сябе ўвагу і пералік пластоў, якія насыпаліся пры будаўніцтве Турава. Цікава, што гэтыя пласты ў значнай меры адпавядаюць археалагічнаму раскопу і амаль дакладна паўтараюць тое, што звычайна знаходзяць археолагі на месцы былых пасяленняў. Гэтая акалічнасць якраз і з'яўляецца галоўным аргументам, які дазваляе лічыць, што нагаданая мясцовая легенда ў канчатковым сваім выглядзе не магла аформіцца раней канца XIX ст., калі ў наваколлі Турава ўпершыню пачаліся археалагічныя даследаванні. Аднак у новым змесце меліся і старыя факты. І самы галоўны з іх — гэта дзіўным чынам захаваўшыйся расказ аб князю Туру, які з'яўляецца, безумоўна, цэнтрам легенды, дзеля якога яна і існуе. Гэта тым больш дзіўна, што з легендарных сведчанняў "Повести временных лет" расказ аб князю Туру — адзіны, па сутнасці, факт, які знайшоў сваё адлюстраванне ў самастойным паданні, а не ў простым пераказе тэксту летапісу (у адрозненне, напрыклад, ад вядомага сюжэта аб Рагвалодзе і князёўне Рагнедзе). Самае галоўнае ў легендарным сведчанні аб Туру заключаецца ў тым, што горад Тураў упамінаецца нароўні з Полацкам, сталіцай моцнага самастойнага княства. У мясцовым варыянце падання як бы спецыяльна падкрэсліваецца вялікасць Турава як палітычнага цэнтра княства. Гэта вялікасць павінна была мець падставы. Падставай жа служыць той факт, што горад быў моцным, самастойным яшчэ ў самыя даўнія часы і меў свайго ўласнага князя. Князь жа гэты быў не простым правіцелем, а магутным, які валодаў шматлікім войскам.

Ёсць у мясцовых варыянтах легенды аб Туру яшчэ шэраг штрыхоў, якія, на наш погляд, прама або ўскосна падкрэсліваюць багацце, моц і значнасць як самога князя, так і яго горада. Так, асаблівую павагу тураўцы аказвалі калодзежу Тура, пры будаўніцтве якога, быццам бы, прысутнічаў сам князь. Ён жа і пажадаў, каб дно калодзежа вылажылі меддзю, серабром

і золатам, таму ў яго (калодзежа) як бы тры дны — меднае, сярэбранае і залатое.

Як бачым, старажытнае ядро легенды недвухсэнсава паказвае на незалежнасць і веліч Турава або, што, магчыма, больш правільна, на імкненне бачыць такім старажытны горад Палесся.

Кароткія звесткі летапісу пад 980 годам, на жаль, не даюць адказу на многія пытанні, у тым ліку і на такое — у якіх адносінах знаходзіўся Тураў 980 года з Кіевам. Аднак ужо наступнае летапіснае паведамленне аб Тураве (988 год) сведчыць аб падпарадкаванні дрыгавіцкага цэнтра вялікакняжацкай уладзе, паколькі гораду быў дадзены князь з Кіева (Святаполк). Такім чынам, у перыяд паміж 980 і 988 гадамі Тураў быў пакораны і падпаў у залежнасць ад Кіева. Летапісны тэкст дае магчымасць устанавіць больш ці менш дакладную дату гэтай падзеі.

Паведамленне пад 980 годам аб уладзе Тура ў Тураве трапіла ў фрагмент тэксту летапісу, дзе апавядаецца аб падрыхтоўцы Уладзіміра Святаславіча да вайны з Яраполкам і аб захопе Полацка. І вось побач з іменем Полацкага князя Рагвалода ўпамінаецца як бы між іншым і імя Тура. Упамінаецца, па ўсёй верагоднасці, таму, што мела нейкія адносіны да полацкага ўладара і да апісваемых падзей. Летапісцу, напэўна, гэта было добра вядома, як было вядома і тым, каму прызначалася апавяданне. Таму ён (летапісец) і не палічыў неабходным зрабіць якія-небудзь тлумачэнні і абмежаваўся толькі канстатацыяй факту, які па волі лёсу аказаўся першым пісьмовым паведамленнем аб Тураве. Можа быць, аўтар, упамінаючы мімаходам аб Туру ў расказе пра сватанне Уладзіміра да Рагнеды і пра наступную вайну з Полацкам, меў на ўвазе, што лёс Рагвалода падзяліў і тураўскі князь Тур?

У 980 годзе быў захоплены Полацк і пераможны кіеўскі князь Яраполк. А ў 981 годзе Уладзімір ужо ў якасці вялікага кіеўскага князя ідзе паходам на палякаў і бярэ пад свой кантроль шэраг гарадоў, у прыватнасці Чэрвень і Перамышль. У час гэтага заходняга паходу і мог быць пакораны Тураў. Не выключана, аднак, што гэта магло стацца і ў час паходу Уладзіміра на яцвягаў у 983 годзе, прычым дадзенае дапушчэнне больш верагоднае, бо на яцвягаў Уладзімір, хутчэй за ўсё, хадзіў старажытным прыпяцкім шляхам, на лодках і пешым строем, уверх па цячэнню ракі.

Такім чынам, паміж 981 і 983 гадамі тураўскі князь Тур быў пазбаўлены ўлады ў адным з найбольш буйных палітычных цэнтраў тагачаснай Русі. У апошні час з'явілася трохі іншая думка. Даследчык М. І. Ермаловіч лічыць, што Полацк быў узяты Уладзімірам у 976 годзе*. Мы не станем аспрэчваць версію М. І. Ермаловіча, бо яна грунтуецца на цікавых разважаннях і падліках. Але лічым, што ў дадзеным выпадку лепш прытрымлівацца традыцыйных летапісных дат.

---

* *Ермаловіч М. І.* Старажытная Беларусь //Маладосць. 1988. № 7. С. 147—148.

Вельмі цікавым і важным з'яўляецца пытанне аб тым, калі, у які час князь Тур мог рэальна з'явіцца ў Тураве. У сувязі з гэтым заслугоўвае ўвагі адзін з варыянтаў падання аб князю Туру, які быў запісаны, аднак, не на Палессі, а на старажытнай Полацкай зямлі ў 70-ыя гады XIX ст. Згодна з паданнем, полацкі князь Рагвалод накіраваўся на поўдзень па цячэнні Дняпра і, калі дайшоў да вусця Прыпяці, выслаў па ёй уверх адну са сваіх дружын на чале з Турам. Апошні выбраў зручнае месца і заснаваў горад Тураў*. Як бачым, зноў, на гэты раз у вусным народным паданні, а не ў летапісу, побач пастаўлены імёны Рагвалода і Тура. Таму і пытанне аб часе прыхода князя Тура ў тыя мясціны, дзе існуе Тураў, на наш погляд, павінна разглядацца ў цеснай сувязі з пытаннем аб паходжанні полацкага князя Рагвалода, які прыйшоў" з-за мора" ў Полацк. Вырашэнне гэтай праблемы выходзіць за рамкі дадзенага раздзела. Таму ў нашым выпадку абмяжуемся толькі спасылкай на даследаванне таго ж М. І. Ермаловіча, які даволі абгрунтавана даказвае, што з'яўленне Рагвалода ў Полацку магло адбыцца не раней другой паловы 40-ых гадоў X ст.

Мы разважаем аб прыходзе князя Тура на Палессе, аб заснаванні ім Турава і аб часе яго магчымай гібелі так, як быццам народныя паданні, на якія мы галоўным чынам абапіраемся, з'яўляюцца неабвержнай крыніцай нашых ведаў аб мінулым. Ці не будзе такі падыход памылковым? Ці варта так давяраць легендам? Па ўсёй верагоднасці, пытанне аб несапраўдных ці рэальных гістарычных вытоках беларускіх паданняў аб князю Туру не можа быць вырашана толькі на адным легендарным матэрыяле. Неабходны іншыя факты, у прыватнасці лінгвістычныя, тапанімічныя. У гэтай сувязі заканамерна пытанне: наколькі рэальная асоба князь Тур?

Разважанняў наконт гэтага, прычым самых процілеглых, у навуковых даследаваннях з канца XIX ст. да нашага часу было шмат. Чытач, калі зацікавіцца думкамі вучоных, можа звярнуцца да даведачнай гістарычнай літаратуры. Мы ж выкажам толькі свае меркаванні.

На наш погляд, ёсць дастатковыя падставы, каб лічыць, што ў Тураве прыблізна да 981 — 983 гадоў існавала правячая княжацкая дынастыя Тураў. Учытаемся яшчэ раз ва ўрывак летапісаў пад 980 годам: "Бѣ бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья, имяше власть свою в Полотьскѣ, а Туры Туровѣ, от него же и туровци прозвашася". Калі рэальнасць полацкага князя Рагвалода цалкам відавочна, чаму ж мы павінны сумнявацца ў рэальнасці і другой асобы, якая называецца разам з полацкім князем. Ёсць сэнс паставіць наступнае пытанне: ад каго ці ад чаго з'явілася найменне *тураўцы*? Нам уяўляецца, што абазначэнне *тураўцы* ўтворана ад назвы горада Турава, а не асабовага імя князя. Гэта значыць у дадзеным выпадку мы маем справу з новым тэрытарыяльна-адміністрацыйным этнічным найменнем, якое прыйшло на змену старому племяннному імені *дрыгавічы* ці *дулебы* (гл. другі раздзел гэтай кнігі) па тыпу: *палачане* — ад

---

* *Гаусман М.* Исторический очерк м. Турова., Мн., 1877. С. 2—3.

Полацка, *смаляне* — ад Смаленска, *валыняне і бужане* — ад геаграфічных паняццяў *Валынь* і *Буг* замест старых этнонімаў *крывічы* і *дулебы*.

З'яўленне наймення *тураўцы* сведчыла аб існаванні на дрыгавіцкай тэрыторыі раннефеадальнага княства, якое прыйшло на змену папярэдняму перадфеадальнаму племяннаму аб'яднанню. Такім чынам, *тураўцы* "прызваліся" ад назвы горада (у летапісным тэксце — "от него же..."). Супраць паходжання наймення ад асабовага імя аднаго чалавека сведчыць сам тэкст летапісу: у Тураве трымаюць уладу "Туры", а не "Тур", гэта значыць не адзін чалавек, а своеасаблівая правячая княжацкая дынастыя.

Этнічнае найменне, як вядома, факт сацыяльны. Заканамернасці фарміравання слоў гэтага тыпу такія, што імя продка ці ўладара, правадыра магло стаць асновай наймення толькі ва ўмовах радавога ладу, рода-племянной улады. У эпоху ж наладжвання і развіцця феадальных адносін нярэдка адбываецца якраз адваротнае: на аснове тапонімаў і этнічных імёнаў утвараюцца асабовыя імёны і мянушкі — правобразы будучых прозвішчаў. Таму імя Тур магло з'явіцца на старонках "Повести временных лет" зусім не толькі для тлумачэння незразумелай назвы горада (па легендарнай аналогіі: *Кіеў* — ад *Кія*, *Растоў* — ад *Раста*, *радзімічы* і *вяцічы* — ад *Радзіма* і *Вятка*), як лічыў выдатны рускі лінгвіст, даследчык найстаражытнейшых летапісных зводаў А. А. Шахматаў. Зрэшты, імя Тур было адным з самых распаўсюджаных дакананічных старажытных імён на Русі. Таму тураўскія князі Туры зусім не абавязкова былі абавязаны сваім іменем назве горада, як і назву горада зусім не абавязкова выводзіць ад імя правячага князя. Назва горада Турава па форме — кароткі прыметнік з суфіксам *-аў (Тураў, Тур — аў)*. Аднак значэнне асновы *тур*, якая ляжыць у вытоках назвы, вызначыць складана. Улічваючы вялікую колькасць назваў з коранем *тур-* на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі (напрыклад: *Турск* — вёска Рагачоўскага раёна, *Тураўля* — вёска Полацкага раёна, *Турава* — вёска Столінскага раёна, *Турын* — вёска Пухавіцкага раёна, *Туры* — вёска Смалявіцкага раёна, рэкі *Тур'я, Турэйка, Турыя, Турыца, Тураўка* ў басейнах Сожа, Прыпяці, Дняпра і Дзясны), гаварыць аб адной і той жа аснове ў іх, па ўсёй верагоднасці, не даводзіцца. Акрамя старажытнарускага слова *туръ* — "буйвол, bos primi genus, capra caucasica" і адпаведных асабовых імён (Тур), варта, на наш погляд, мець на ўвазе і магчымасць тлумачэння некаторых з пералічаных назваў ад геаграфічнага тэрміна *тур (тура)* — "горад, пасяленне, жытло", які адлюстраваны, дарэчы, і ў палескіх гаворках Гомельскай вобласці, дзе *тур* — "цэнтральная частка населенага пункта".

Асабовае імя *Тур* сімвалізавала моц і ўладу: успомнім, напрыклад, эпітэт "буй тур", які носіць князь Усевалад, адзін з герояў "Слова пра паход Ігаравы". Сугучнае з назвай горада, гэтае імя паказвала як самога князя, так і яго горад сапраўды магутнымі і вялікімі. А ў такіх умовах для яшчэ большага

падмацавання сваёй улады правячай дынастыі Тураў была неабходна радаслоўная легенда, якая і была створана.

Цяпер мы не можам сказаць, якім быў першапачатковы сюжэт генеалагічнага падання, але, несумненна, што яно зусім не абмяжоўвалася той фразай, якая захавалася ў "Повести временных лет". Толькі на аснове старажытнай легенды, якая ўзнікла на ранніх этапах развіцця Старажытнарускай дзяржавы, маглі ўзнікнуць і ў далейшым дапаўняцца новымі фактамі паданні новага часу, аж да XIX ст. Жывучасць легенды можна растлумачыць тым, што ў перыяд проціборства Турава з Кіевам паданне аб Турах (або аб Туру) мела яўную палітычную накіраванасць, якая садзейнічала ідэалагічнаму абгрунтаванню прэтэнзій і імкненняў правячай тураўскай знаці. У гэтай сувязі нельга не звярнуць увагу на час княжэння ў Тураве Святаполка (другая палова 80-ых гадоў X ст. — канец 1012 або пачатак 1013 г.), які імкнуўся да поўнай самастойнасці і незалежнасці ад Кіева. Святаполк быў сынам князя Яраполка, якога забілі па падбухторванню Уладзіміра ў 980 годзе ў час барацьбы за велікакняжацкі прастол. Яраполк падтрымліваў добрыя адносіны з полацкім уладаром Рагвалодам, які жадаў са свайго боку падтрымліваць сяброўскія, нават сваяцкія адносіны з моцным кіеўскім князем (успомнім "жаданне" князёўны Рагнеды выйсці замуж менавіта за Яраполка). Паколькі Рагвалод названы ў летапісу разам з імёнамі Тураў, якія правілі ў Тураве, то не выключана, што полацкія і тураўскія князі былі звязаны нават сваяцкімі сувязямі. Калі гэта так (а форма паведамлення пад 980 годам у летапісу і нагаданая вышэй легенда пра полацкіх і тураўскіх правіцеляў дазваляюць думаць менавіта такім чынам), то не выключаны, у сваю чаргу, саюзніцкія адносіны і паміж Яраполкам і тураўскімі князямі. Прынамсі Уладзімір вымушаны быў падпарадкоўваць сілаю і Полацк, і Тураў, што азначае яўную непрыязнь тамашніх правіцеляў да новага кіеўскага князя.

Святаполк, які заняў тураўскі прастол, атрымаў поўную падтрымку тураўцаў у процiборстве з Кіевам, магчыма, менавіта дзякуючы таму, што быў сынам Яраполка, а ў вачах тураўцаў — і законным прэтэндэнтам на кіеўскі прастол. Можна думаць, што Святаполк, у сваю чаргу, абяцаў Тураву ўсялякія ільготы і нават незалежнасць ад Кіева ў выпадку свайго ўсталявання на кіеўскім прастоле. Менавіта Святаполку і магла падабацца адданасць тураўцаў памяці сваіх першых князёў — Тураў і нянавісць да "святога" Уладзіміра. Гэты апошні, захапіўшы Тураў у 983 годзе, неўзабаве хрысціў тураўцаў агнём і мячом. Аб гэтым гаворыць яшчэ адно старажытнае паданне, згодна з якім па Прыпяці ў Тураў прыплылі каменныя крыжы, а рака ў той час стала чырвонай ад крыві. Тады і загінула канчаткова слаўная дынастыя Тураў.

Вось гэтакімі ўяўляюцца вытокі старажытнага сюжэта, які дайшоў у форме народных паданняў да нашага часу. Далейшыя даследаванні, як мы спадзяемся, унясуць дадатковыя штрыхі ў раннюю палітычную гісторыю Турава.





## ЛЕЛЬЧЫЦЫ — ЛЕНЧЫЦЫ

Яшчэ не так даўно слова *Лельчыцы* не выклікала ў мяне ніякіх эмоцый, бо было чымсьці абсалютна цьмяным і незразумелым, якім і бывае звычайна для носьбітаў мовы большасць геаграфічных назваў. Праўда, неяк даводзілася чытаць у кнігах беларускага географа і тапаніміста В. А. Жучкевіча, што імя нашых палескіх Лельчыц узыходзіць да наймення аднаго са старажытных бажкоў — *Лелька* ці да такога ж слова *лелька*, якім у паданнях падчас называлі белага бусла.

Буслы і цяпер жывуць у Лельчыцах, в'юць гнёзды на дрэвах, што растуць на ўскраіне гарадскога пасёлка. Белы бусел — гэта наогул сімвал палескіх прастораў. Аднак паспрабуйце знайсці хаця б адну вёску, назва якой паходзіла б ад найменняў птушак. Няма такіх вёсак. Таму і не верылася ў верагоднасць пачатку Лельчыц толькі ад белага бусла. У такім вырашэнні пытання не бачылася галоўнага — адлюстравання пэўных гістарычных падзей, чалавечага лёсу.

На якісьці момант вобраз лелька — белай птушкі зноў усплыў у памяці, калі я нечакана сустрэў цікавую легенду, расказаную ў аповесці беларускага пісьменніка Э. Скобелева "Кристина"*.

...Калісьці, шмат стагоддзяў назад, у час мангола-татарскага нашэсця, пачалі ворагі шукаць у лясах і сярод бясконцых балот быццам бы схаваны там залаты лік (гэта значыць сонм) Леля,

---

* *Скобелев Э.* Кристина. Минск, 1986. С. 39—40.

ляснога бога. Тры гады шукалі, рыхтавалі ўсё новыя атрады — адны на конях, іншыя — на чоўнах. Аднак танулі баскакі-татары ў бяздонных прорвах або былі бітыя рускімі воінамі. І адступалі ворагі, і паўтаралі імя рускага ляснога бога — "Лельчы, Лельчы..." Так і стала празывацца тое месца, дзе спынілася варожае войска, — *Лельчыцы*. А сам лясны Лель паслаў на дапамогу паляшанам вераб'ёў, якія заводзілі ворагаў яшчэ далей у лясы і балоты. З той пары лясную птаху-выратавальніка і завуць у народзе "*ляляк*", гэта значыць пасланец, ганец Леля...

Лелька — бусел, верабей, татары, лясны бог Лель... Усё, як у калейдаскопе, у чароўнай казцы. Аднак не ўсё ў гэтай легендзе казачнае.

Недалёка ад Лельчыц, у Маркаўскім сельсавеце, знаходзіцца вёска Картынічы. На сумежных балотах ёсць цікавае месца — паласа, быццам бы "шлях", глыбінёй больш за 3 метры, а побач — невялікія ўзгоркі, на якіх растуць магутныя сосны. Жыхары завуць гэтае месца "турэцкай яздой". Згодна з мясцовым паданнем, праз картыніцкія балоты праходзіла, як чорная хмара, татарская конніца. Шмат дзён і начэй з жахам прыслухоўваліся людзі да хлюпання балотнай вады пад капытамі варожых коней, да чужых галасоў, у якіх адчувалася ўпэўненасць пераможцаў. Татар было так многа, што іх коні выбілі на балоце язду.

Як бачым, водгалас падзей 1240—1241 гадоў, калі татарская арда пад началам ханаў Кайдгана і Гаюка з'явілася на Палессі і разарыла Мазыр, Брагін, Петрыкаў, Тураў, Пінск, Клецк, Давыд-Гарадок, Слуцк і іншыя гарады, жыве ў народзе...

А што дае гэты факт для разумення ранняй гісторыі населеных пунктаў Лельчыцкага раёна? Ён, перш за ўсё, сведчыць аб тым, што на месцы некаторых сучасных вёсак існавалі пасяленні з характэрнай пераемнасцю насельніцтва. Інакш старажытныя паданні, як адлюстраванне рэальных гістарычных падзей, ніколі б не дайшлі да нашых дзён.

Цікава вось яшчэ што: у "Пісцовай кнізе Пінскага і Клецкага княстваў" таксама ўпамінаецца нейкая "дарога Батыева". А геаграфічныя працы нашага часу вызначылі, што з Турава на поўдзень у дамангольскі час праходзіў сухапутны шлях да Кіева. Не выключана, што гэты шлях ляжаў якраз паблізу ад месца сучасных Лельчыц, ці, магчыма, той вёскі, якая там у той час існавала.

Тое ж, што паведамляла легенда пра казачных вераб'ёў і ляснога бажка Леля, уяўлялася нічым іншым, як прыгожымі чароўнымі атрыбутамі, без прысутнасці якіх не абыходзяцца ні ў адным паданні. Пошукі пачаткаў Лельчыц працягваліся.

Неяк у размовы з ляльчанамі давялося пачуць не добра знаёмае і прывычнае *Лельчыцы*, а трохі нязвычнае і на першы погляд памылковае *Ленчыцы*. Аднак хутка прыйшла перакананасць: вымаўленне *Ленчыцы* — не памылка, а заканамернасць, якая добра тлумачыцца адпаведнымі моўнымі асаблівасцямі. Трэба было толькі вызначыць, якая форма была першапачатковай — *Ленчыцы* ці *Лельчыцы*.

I тут мне дапамагла бібліятэкар Лельчыцкай раённай бібліятэкі Таццяна Аляксандраўна Жогла. Добра, калі ёсць назіральныя людзі, якія цікавяцца гісторыяй свайго краю! Аказалася, што ў кнізе "Крыжаносцы" польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча ўпамінаюцца нейкія *Ленчыцы*. Мы тут жа знайшлі гэтае месца ў тэксце і паспрабавалі перанесці яго на карту. А на карце ў цэнтры Польшчы, паміж Серадзам і Плоцкам ляжыць мястэчка *Ленчыца*. Вось тут і нарадзілася тая думка, аб якой трэба расказаць.

Старажытная Берасцейская зямля разам з Турава-Пінскім княствам, на тэрыторыі якога і знаходзілася месца сучасных Лельчыц, увайшла ў склад Літоўскай дзяржавы ў пачатку XIV ст. Пасля Крэўскай уніі 1386 года ўзмацніліся міграцыйныя патокі польскага насельніцтва на ўсход, прычым менавіта на паўднёвым напрамку — Валынь, паўднёвыя раёны Беларусі (аб прытоку польскага насельніцтва пасля таго, калі ўкраінскія і шэраг паўднёвых зямель Беларусі трапілі пад юрысдыкцыю Кароны ў 1569 г., сведчыць таксама "Этнаграфія беларусаў"*.

У гэтым аспекце ўзнікненне Лельчыц (пры дапушчэнні, што першапачатковай формай было вымаўленне "Ленчыцы") бачыцца наступным чынам. *Ленчыцы* — гэта так званая перанесеная назва, з'яўленне якой было звязана з польскімі перасяленцамі, якія, напэўна, заснавалі невялікую вёсачку і назвалі яе так, як называлася тое мястэчка ў Польшчы, адкуль яны паходзілі. У бліжэйшых да Лельчыц вёсках Дубніцкае, Усаў, Данілевічы дагэтуль жывуць палякі.

Што ж датычыць польскага мястэчка Ленчыца, то яно ляжыць якраз у той мясцовасці, дзе калісьці пражывала заходнеславянскае племя *ленчычане*. Паміж гэтай этнічнай назвай і тапонімам *Ленчыца* існуе верагодная сувязь.

Але "развітвацца" на гэтым з Лельчыцамі і лічыць усе пытанні вырашанымі было б заўчасна. У нашых разважаннях мы ішлі ад таго дапушчэння, што вымаўленне *Ленчыцы*, якое распаўсюджана сярод жыхароў гарадка і навакольных мясцін, з'яўляецца першапачатковым і больш старажытным, чым *Лельчыцы*. Аднак мы павінны прасачыць і магчыма іншы варыянт: форма *Лельчыцы* папярэднічала *Ленчыцам*, якія нарадзіліся ў мясцовай гаворцы ў выніку адпаведных моўных працэсаў (дарэчы, і тое, і іншае вырашэнні пытання з лінгвістычнага пункту гледжання цалкам магчымыя).

Калі абапірацца на гэта другое дапушчэнне, адразу можна заўважыць, што назва *Лельчыцы* — не адзіная на карце Беларусі. Не адзіная ў тым разуменні, што галоўная частка яе, ці корань, амаль такі ж, як і ў назвах *Лелікава* (вёска Кобрынскага раёна), *Лелюкі*, *Лелюгі* (вёскі Іўеўскага і Шумілінскага раёнаў), *Лялю́шаўцы* (вёска Шчучынскага раёна).

Прыведзеныя назвы па сваёй структуры і пабудове нагадваюць тыя геаграфічныя імёны, якія паходзяць ад прозвішчаў і мянушак. Назвы *Лелюкі* і *Лелюгі* можна тлумачыць на аснове прозвішчаў *Лялюк* ці *Лелюх*. У назве *Лелікава* відавочна адлю-

* Этнаграфія беларусаў. Мінск, 1985. С. 94.

страванне прозвішча *Лелікаў*. А геаграфічнае імя *Лялюшаўцы* верагодней за усё ўтварылася ад прозвішча *Лелюшаў* ці *Лялюшаў*. Усе гэтыя імёны прыведзены ў слоўніках і спецыяльных артыкулах, прысвечаных уласным імёнам, дзе мы таксама адшукалі яшчэ некалькі беларускіх *(Лель, Лялько, Ляськоў, Леля, Лялюй, Лялюга, Ляляўка)* і рускіх *(Лелявский, Лелькин, Лельчук, Лелевич)* прозвішчаў.

А што ж Лельчыцы? У гэтым геаграфічным найменні таксама пры неабходнасці няцяжка знайсці "закансерваванае" асабовае імя, прозвішча ці мянушку, напрыклад *Лелька, Леля,* ці тыя ж *Лелюх, Лялюк*. А калі гэта так, то слова Лельчыцы ў адпаведнасці з яго пабудовай трэба разумець як "пасяленне, якое належала чалавеку з адпаведным прозвішчам, ці такое, якое было закладзена такім чалавекам".

Лельчыцы вядомы з XVI ст. як мястэчка Мазырскага павета ў Кіеўскім, а з 1569 г. у Мінскім ваяводствах Вялікага княства Літоўскага. Але заўважым: гэта толькі дата фіксацыі, а не дата з'яўлення Лельчыц. Мы перакананы, што вытокі пасялення трэба шукаць у больш раннія часы, бо фіксацыя таго ці іншага населенага пункта ў пісьмовых крыніцах адстае ад сапраўднай даты яго ўзнікнення на пэўны час. Мяркуйце самі.

У 1395 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўт перадаў гарады Слуцк і Капыль брату польскага караля Ягайлы князю Уладзіміру Альгердавічу, які стаў уладальнікам новага феадальнага княства — Слуцкага. Сын гэтага князя, Аляксандр па прозвішчу Алелька, з'явіўся роданачальнікам беларуска-літоўскага княжацкага роду Алелькавічаў, які ў далейшым, на працягу XV і XVI стст., займаў у Вялікім княстве Літоўскім прывілеяванае становішча. Гэты род выступаў за аб'яднанне літоўска-беларускіх і ўкраінскіх земляў з Маскоўскай дзяржавай. Сам Аляксандр Алелька быў жанаты на дачцы вялікага маскоўскага князя Васіля — Настассі (вяселле адбылося ў 1417 годзе).

Князі Алелькавічы вялі бясконцыя войны з татарамі, ахоўваючы ад іх паўднёвыя граніцы Вялікага княства Літоўскага. Яшчэ адзін цікавы факт: у галоўнай рэзідэнцыі Алелькавічаў — Слуцку пры княжацкім двары існавала школа. Род Алелькавічаў згаснуў у першай палове XVII ст. Вядома, што ў 1612 годзе апошняя ў родзе княжна Софья Юр'еўна Алелькавіч перадала Слуцкае княства па духоўнай спадчыне свайму мужу — князю Янушу Радзівілу.

Пра князёў Слуцкіх-Алелькавічаў на Палессі дагэтуль існуюць легенды. Расказваюць, напрыклад, што на Князь-возеры, ці возеры Чырвоным, што ў Жыткавіцкім раёне, існаваў княжацкі замак, у якім апошнія патомкі Аляксандра Алелькі тварылі часам жудасныя нялюдскія справы. Усё гэта, безумоўна, цікава і варта асобнага апавядання (гл. раздзел "Князь-возера"). Але вернемся да Лельчыц.

Лельчыцы ўпамінаюцца менавіта ў XVI ст. таму, што яны тады былі ўжо даволі буйным мястэчкам. Таму найбольш верагоднай датай узнікнення пасялення можна палічыць XV ст. А вось наступная акалічнасць указвае, магчыма, і на больш пэўны

час. Калі шукаць тое прозвішча, якое найбольш падыходзіць да таго, каб яго лічыць асновай для геаграфічнай назвы *Лельчыцы*, дык трэба, перш за ўсё, звярнуць увагу на прозвішча князя Аляксандра Алелькі.

Яго ўладанні пашыраліся ад Нёмана да Прыпяці, да іх належалі і землі сучасных палескіх раёнаў Гомельшчыны. Як гэта звычайна бывае, князь Аляксандр Алелька будаваў на вялізных, але ў большасці пустых, бязлюдных прасторах Палесся населеныя пункты, дзе сяліў сваіх падданых для асваення новых зямель. Узнікаўшым пасяленням патрэбны былі назвы. Яны і даваліся на падставе розных прыкмет і асаблівасцей месца — форм рэльефу, расліннасці і гэтак далей. А вось найбольш буйное з пасяленняў і найбольш важнае (такім мы лічым Лельчыцы, бо інакш яны не ператварыліся б хутка ў мястэчка) магло атрымаць назву ад прозвішча ўладара — князя Алелькі. Калі з такой версіяй згадзіцца, то часам узнікнення Лельчыц трэба лічыць першыя 20 — 30 гадоў XV ст., бо Аляксандр Алелька памёр у 1454 годзе.

Зразумела, Лельчыцы маглі заснаваць і бліжэйшыя патомкі князя Аляксандра, яго сыны і ўнукі. Але яны былі ўжо Алелькавічамі. А назва *Лельчыцы* больш надзейна тлумачыцца якраз ад прозвішча Алелька, чым ад прозвішча Алелькавічы.

Відаць, чытачу будзе цікава даведацца, што б магло значыць прозвішча *Алелька* і роднасныя яму, прыведзеныя вышэй, хоць гэта пытанне і не мае дачынення да паходжання разглядаемай геаграфічнай назвы. Але за гэтым пытаннем — цікавыя факты роднай мовы, таксама вартыя ўвагі.

На наш погляд, дадзенае прозвішча трэба разумець як "прыгожы", хоць часам яго разглядаюць як усечаную, скарочаную форму поўнага імя *Аляксандр*. Чаму так? Успомнім казачнага персанажа Леля, прыгожага юнака, які стаў добра вядомы нам дзякуючы чароўнай "Снягурачцы" А. М. Астроўскага і М. А. Рымскага-Корсакава. Дарэчы тут будзе ўспомніць і слова *ляля* — дзіця, а таксама дыялектнае слова *лялека*, ці *лелька* — бусел, з якім звязана павер'е аб тым, што ён прыносіць дзяцей.

У мінулым у беларусаў кожная пара года мела сваіх апекуноў, багоў ці царыц. Даследчыкі агульнаславянскага фальклорнага матэрыялу лічаць, што вясну ўвасабляла багіня Леля (Ляля). З ёй атаясамліваліся росквіт і прыгажосць абноўленай прыроды, веснавая зеляніна. Існавала нават спецыяльнае свята Ляльнік, якое адзначалася ў дзень святога Юрыя (22—23 красавіка). Гэтае свята — своеасаблівае заклінанне вясны. Цікава, што ролю Лялі адыгрывала самая маладая, зграбная і прыгожая дзяўчына. Беларусы, калі хацелі пахваліць прыгажосць дзяўчыны, звычайна гаварылі: "Прыгожая, як Ляля". Дагэтуль у тураўскіх гаворках існуе слова *лялька* не са звычайным для ўсіх значэннем "лялька, цацка", а з такім даволі рэдкім і, відаць, старажытным, як "істота або рэч вельмі прыгожая, прывабная знешне". Успомнім, нарэшце, і назву цудоўнай воднай кветкі — лілеі.

Але далёка не ўсе прозвішчы, якія адзначаліся вышэй, абавязкова мелі пры сваім узнікненні тое ж самае значэнне —

"прыгожы, прывабны". Беларускі рэгіянальны матэрыял дазваляе рабіць і іншыя тлумачэнні.

Так, у лоеўскіх гаворках зафіксаваны выраз *сядзець* як ляляк у значэнні гультайнічаць. Ляляк — гэта птушка, якая мае яшчэ ў народзе найменні *казадой, начніца, лежань*. Дзве апошніх назвы гэтай птушкі тлумачацца тым, што яна можа ўпадаць у спячку. Відаць, адсюль і выраз — *сядзець як лялек*, а таксама слова *ле́лях*, якое ў паўночна-заходніх раёнах Беларусі ўжываецца для абазначэння тоўстага, непаваротлівага чалавека.

Такім чынам, другі магчымы напрамак тлумачэння прозвішчаў ці мянушак тыпу *Лялюк, Лелюх, Лялюга, Лялюй* і іншых звязаны з успрыманнем першых іх носьбітаў як людзей непаваротлівых, тоўстых або як гультаёў.

Вось пакуль і ўсе факты, якія дазволілі зрабіць дзве версіі наконт паходжання назвы невялікага палескага гарадка *Лельчыцы*. Мы наўмысна не аддаем перавагу якой-небудзь адной з іх. Няхай чытачы самі ўзважаць нашы меркаванні. Можа, яны і падкажуць іншыя, невядомыя нам факты. Ва ўсякім разе, будзе добра, калі яны яшчэ раз пераканаюцца ў тым, якой складанай, але і цікавай, з'яўляецца навука тапаніміка, навука аб геаграфічных назвах, колькі невядомых старонак даўняй беларускай гісторыі яна дазваляе спазнаць і зразумець





## КОБРЫН І ОБРЫ

Пытанне аб тым, адкуль пайшла назва Кобрын, хвалюе тапаністаў і гісторыкаў ужо многія дзесяцігоддзі. Справа ў тым, што ад яго вырашэння не ў малой ступені залежыць разуменне пачатковых старонак гісторыі гэтага старажытнага палескага горада.

Яшчэ ў пачатку XX ст. вядомы польскі даследчык Я.Развадоўскі імкнуўся знайсці вытокі тапоніма *Кобрын* пры супастаўленні яго з кельцкім асабовым іменем *Corbūnas*. Гэтую гіпотэзу ў апошні час "уваскрэсілі" ўкраінскія тапаністы, на думку якіх назва горада Кобрын дазваляе рэканструяваць існаваўшае некалі на ўсходнеславянскай тэрыторыі імя ці прозвішча *Cobrunus*, запазычанае славянамі ў выніку кантактаў з кельцкімі плямёнамі, што насялялі ў мінулым значныя сярэднееўрапейскія абшары.

Выдатны савецкі лінгвіст, этымолаг А. М. Трубачоў у адной са сваіх прац заўважыў, што геаграфічную назву Кобрын можна разумець як спалучэнне прыстаўкі *ко- і кораня* *brьnъ*, які становіцца зразумелым пры параўнанні, напрыклад, са старас-лавянскім словам *брьние* — "гразь". Згодна з версіяй А. М. Трубачова, назва Кобрын мае той жа корань, што і назва горада *Брно* ў Чэхаславакіі.

Выказваліся і іншыя меркаванні, але іх аўтары, як, дарэчы, і двух нагаданых вышэй, цікавіліся, перш за ўсё, лінгвістычным аспектам разглядаемай праблемы і амаль не звярталі ўвагі на гісторыка-геаграфічныя ўмовы нараджэння назвы.

Гэта ўлічыў беларускі тапаніміст і географ В. А. Жучкевіч, які ў 70-ых гадах выступіў з версіяй аб паходжанні назвы *Кобрын* ад слова *обры*. Обрамі ў старажытнарускі час называлі плямёны качэўнікаў авараў, якія ў сярэдзіне VI ст. прыйшлі з глыбінь еўразійскіх стэпаў (гл. раздзел "Загадка дрыгавічоў"). Супастаўленне геаграфічнай назвы *Кобрын* з этнічным найменнем *обры* было вельмі цікавым. Аднак некаторыя гісторыка-геаграфічныя акалічнасці перашкаджалі безагаворачнаму прызнанню гэтай версіі. Справа ў тым, што няма фактаў, якія б пацвярджалі з'яўленне аварскіх атрадаў на сучаснай тэрыторыі Беларусі. Обры прайшлі міма балоцістага Палесся. Іх вабілі багатыя прыдунайскія прасторы. Менавіта ў Пананіі (Венгрыі) і ўтварылася нетрывалае дзяржаўнае аб'яднанне авараў.

А што ж Кобрын? Хіба гэта не факт? І як быць з іншымі геаграфічнымі найменнямі, якія, здаецца, яшчэ больш перакануча сведчаць аб адваротным? Размова ідзе перш за ўсё пра вёскі з назвамі *Абрóва (Óбрава), Абраўцы, Аброўская Вулька*, якія існуюць у Іванаўскім і Івацэвіцкім раёнах Брэстчыны.

Справа ў тым, што знешняе падабенства — яшчэ не вырашэнне пытання. З трох нагаданых назваў дзве не маюць ніякіх адносін ні да обраў, ні да падзей на заранку Старажытнарускай дзяржавы. Напрыклад, вёска *Аброўская Вулька* магла ўзнікнуць не раней чым у XV — XVI стст. Бо менавіта з гэтага часу ў назвах пасяленняў пачало выкарыстоўвацца слова *вулька* (польскага паходжання, роднаснае слову *вольны*), якое ўказвала на населены пункт, жыхары якога вызваляліся ад павіннасцей і падаткаў. Хутчэй за ўсё, *Аброўская Вулька* была заснавана перасяленцамі з суседняй вёскі Аброва Івацэвіцкага раёна.

Аналагічна гэтаму, вёска *Абраўцы* Іванаўскага раёна магла быць заснавана выхадцамі з бліжэйшага населенага пункта *Óбрава (Аброва)* гэтага ж раёна (усяго на Брэстчыне дзве вёскі з назвай *Аброва* ці *Обрава*. Верагодна, жыхароў Аброва называлі *аброўцамі (абраўцáмі)*. Вось гэтыя *аброўцы*, ці *абраўцы*, па меры росту вёскі, напэўна, і заснавалі выселкі недалёка ад свайго спрадвечнага месца жыхарства, якія праз некаторы час і выраслі да памераў вёскі. Калі гэта так, дык адбываліся гэтыя падзеі таксама ў новы час, дзесьці паміж XVI — XVIII стст.

А як быць з паходжаннем назвы самой вёскі *Аброва (Обрава)*? Няўжо і тут няма ніякага водгаласу імені ваяўнічых обраў? Самае цікавае, што такі водгалас ёсць. Але менавіта водгалас, а не прамая сувязь, якой не было і быць не магло.

Даследаванні археолагаў сведчаць аб тым, што ў X — XI стст., а, магчыма, і раней, з тэрыторыі Валыні на поўнач уздоўж Заходняга Буга ў Прынямонне рухаліся перасяленцы-славяне. Гэта былі валыняне — патомкі тых дулебаў, якіх у свой час "прымучылі" обры авары (гл. раздзел "Загадка дрыгавічоў"). Менавіта патомкі дулебаў і маглі прынесці з сабой у Палессе памяць аб нашэсці обраў.

Цікавым выглядае і такі штрых. На думку некаторых археолагаў, з племяннога саюза дулебаў у VIII — IX стст. вылучыліся асобныя тэрытарыяльныя групы славян, вядомыя ў далейшым як валыняне, драўляне, паляне і дрыгавічы (аб гэтым

таксама размова ішла ў раздзеле "Загадка дрыгавічоў"). А калі зрабіць дапушчэнне, што гэта дрыгавічы, старажытныя жыхары палескіх прастораў, захавалі не толькі памяць аб обрах, але і само іх найменне? Ёсць жа ў сучасных польскай і чэшскай мовах словы *olbrzym* і *obr*, якія маюць аднолькавае значэнне — "волат, гігант" і лічацца лінгвістамі звязанымі з этнічным найменнем *обры*. А ці не захоўвалася ў гаворках дрыгавічоў якое-небудзь адпаведнае слова? Гэтае меркаванне не такое ўжоневерагоднае.

Але адна справа захоўваць памяць аб обрах ці нават пераасэнсаванае іх імя і зусім іншая — называць гэтым іменем населены пункт. Для гэтага павінны былі існаваць пэўныя ўмовы, інакш назва *Аброва* ніколі б не ўзнікла.

Умовы такія былі. У першай палове XIII ст. галіцкі князь Данііл Раманавіч і яго брат, князь уладзіміра-валынскі Васілько, ва ўладанні якога ўваходзіла тады і Берасцейская зямля, пасялілі прыкладна ў раёне Бельска (цяпер — тэрыторыя Польшчы) і ў паўночнай частцы былога Брэсцкага павета некалькі палавецкіх радоў хана Цегака, які быў сватам князя Данііла. Полаўцы ратаваліся ад наступаючых ордаў хана Батыя. Згодна з паданнем, жылі яны ў сямі вёсках. А ў XIX ст. адна з іх яшчэ так і называлася — *Полаўцы*. Геаграфічныя дарэвалюцыйныя апісанні нагадваюць таксама пагост *Палавец* і *Палавецкую воласць**. Гэтыя геаграфічныя назвы таксама размяшчаліся на тэрыторыі сучаснай Брэстчыны. Аб наяўнасці полаўцаў у войсках Данііла і яго брата гаворыць і Іпацьеўскі летапіс.

Полаўцы і авары — гэта цюркскія народы, роднасныя па паходжанні і па мове. У свядомасці мясцовага славянскага насельніцтва палавецкія суседзі выклікалі невыразны ўспамін аб далёкіх обрах. Старадаўнія легенды бацькоў і дзядоў маглі адрадзіцца і ў час мангола-татарскага нашэсця, якое не мінула і Берасцейскую зямлю і было па сваіх выніках падобным на старажытны прыгнёт з боку обраў.

Зразумела, зробленыя меркаванні павінны пацвярджацца мясцовай гісторыяй. У нашым выпадку ёсць вельмі цікавыя матэрыялы аб старажытнай гісторыі толькі аднаго населенага пункта — вёскі Аброва Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Аб гэтых матэрыялах мы даведаліся ад настаўніка гісторыі аброўскай школы Мікалая Анатольевіча Русенкі, пад кіраўніцтвам якога вучні вось ужо некалькі гадоў збіраюць экспанаты, звесткі, розныя факты для музея гісторыі сваёй вёскі. Знамянальна, што выхаванцы М. А. Русенкі не абмяжоўваюцца фактамі параўнальна нядаўняй гісторыі, яны імкнуцца зазірнуць у тыя стагоддзі, дзе, на іх погляд, можна шукаць вытокі Аброва.

Калі школьнікі ўважліва прыгледзеліся да тэрыторыі, якая размешчана ўздоўж адной з вуліц вёскі — Партызанскай, то хутка знайшлі мноства дзіўных вырабаў з крэменю. Непасрэдна ў пяску ляжалі каменныя сякеры, наканечнікі, скрабалкі, стрэлы... Не выпадкова мясцовыя старажылы называлі гэтую вуліцу

---

* Волости и важнейшие селения Европейской России. Выпуск V: Губернии Литовской и Белорусской областей. СПб., 1886.

*Крамяніцай*. Знаходкі прылад працы каменнага веку паказвалі пераемнасць насельніцтва гэтых мясцін на працягу некалькіх тысячагоддзяў.

Спрабавалі школьнікі шукаць і рэшткі аброўскага летапісу, які складаўся з вельмі старажытных часоў да 1939 года ў мясцовай царкве. На жаль, пошукі аказаліся дарэмнымі: у 1939 годзе аброўскія ўлады забаранілі летапісанне, а рукапісы папярэдніх дзесяцігоддзяў, відаць па ўсяму, знішчылі.

Тым не менш М. А. Русенку пашанцавала. З маскоўскіх навуковых бібліятэчных архіваў прыйшлі ў Аброва копіі дакументаў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, якія былі выдадзены ў Пецярбургу ў 1903 годзе ў 20-ым томе унікальнай працы пад назвай "Русская историческая библиотека, издаваемая императорскою Археографическою комиссиею". Сярод розных матэрыялаў, якія адносіліся да самага пачатку XVI ст., меўся дакумент аб пагранічнай спрэчцы паміж жыхарамі дзвюх вёсак былога Слонімскага павета — *Аброва* і *Гічычы*. У самым пачатку пісьмовага сведчання гаварылася аб тым, што "... великий князь Витовт дал люди село на имя Оброво, на тот клештор Матки Божьи Старо-Троицкий и привилеем своим на вечность то потвердил...". Гэты запіс трэба разумець наступным чынам: вялікі князь літоўскі Вітаўт перадаў вёску Аброва Стара-Троіцкаму манастыру, які знаходзіўся ў Пінску. Але князь Вітаўт памёр у 1430 годзе. З гэтага вынікае, што гісторыя вёскі Аброва Івацэвічскага раёна ўзыходзіць прынамсі да канца XIV і пачатку XV ст. Такім чынам, нашы меркаванні аб паходжанні назвы Аброва ў адносінах да Івацэвічскай вёскі маюць важкія падставы.

Назва *Кобрын*, з якой мы пачалі разважанні, таксама магла ўзнікнуць у сувязі з нагаданымі вышэй падзеямі. Але чаму тады — *Кобрын*, а не *Обрын*? Ёсць жа ў Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці дзве старажытныя вёскі — *Вялікае* і *Малое Обрына*.

Цяжкасць адказу на гэтае пытанне прымушае працягваць пошукі. Як вядома, Кобрын узнік ў балоцістай мясцовасці, у пойме ракі Мухавец, у якую з поўдня некалькімі пратокамі ўпадала рэчка Кобрынка. Балоцістая пойма, астравы паміж рэчышчамі, узвышаныя месцы на нізіне... Як часта менавіта геаграфічныя рэаліі давалі жыццё самым разнастайным і нязвычным імёнам. Трэба ўважліва прыгледзецца да наймення рачулкі Кобрынкі. Яе лічаць утворанай ад назвы горада. А калі ўсё было якраз наадварот? Такіх прыкладаў шмат. Так, горад Цвер пры сваім узнікненні атрымаў назву ад ракі Цвер. У далейшым пасяленне развівалася,ператварылася ў буйны горад, які трывала ўсталяваўся на Волзе, а параўнальна невялікая рэчка Цвер пачала ўспрымацца як падпарадкаваны элемент ландшафту, другасны ў адносінах да горада, і яе назва пачала выкарыстоўвацца ў памяншальнай форме — Цвярца.

Што мы маем, калі будзем лічыць, што горад Кобрын атрымаў назву ад рэчкі *Кобрын* ці хутчэй *Кобра*? У такім выпадку знаходзім шэраг роднасных рачных імёнаў у розных рэгіёнах. Гэта рэкі *Кубер, Кубр* (басейн Сейма), *Кубр* (басейн Волгі),

Копра, Капорка, Хопрац (басейн Акі), рэчкі Каубры, Каубра, Каубрэ на тэрыторыі Літвы і іншыя. Адзначаныя назвы становяцца зразумелымі пры супастаўленні са словамі літоўскай мовы *kaubras* — "невялікае ўзвышша на роўным месцы, на лузе, на полі"; *kaupryne* — "прастора, дзе шмат невялікіх пагоркаў", *kauburynas* — "няроўнае месца, купіны". Роднасным нагаданым літоўскім словам з'яўляецца, відаць, таксама слова *коблы*, зафіксаванае ў асобных украінскіх і рускіх гаворках са значэннем "пагоркі ў прырэчышчавай частцы поймы ракі, астраўкі на балотах, высокія гаі з альхі на забалочаных поймах".

Вось так, на наш погляд, на сённяшні дзень вырашаецца пытанне аб паходжанні геаграфічнай назвы *Кобрын*.

Нядаўна ў кнізе І. А. Сербава "Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк" (Петроград, 1915, С. 10) мы знайшлі паведамленне аб тым, што ў балоцістай мясцовасці ля вытокаў Ясельды жыве этнаграфічная група *обраў*. Людзі гэтыя адрозніваюцца вытрыманым характарам, ганарыстасцю, гордасцю. Наяўнасць у мінулым наймення пэўнай этнаграфічнай групы — *обры* — на Палессі пацвярджае нашу думку аб існаванні здаўна ў асобных заходнепалескіх гаворках ад этнанімічнага ўтварэння па тыпу адпаведных слоў чэшскай і польскай моў (гл. вышэй). Дарэчы, аброўскі краязнаўца М. А. Русенка з Івацэвіцкага раёна паведаміў нам у нядаўнім лісце вось які цікавы факт. Салдатыўраджэнцы яго роднай вёскі Аброва, якія служылі ў польскай арміі, лічыліся "волатамі", бо ўсе мелі высокі рост, абутак насілі 43—45 памераў, былі дужымі, здаровымі. Ці не магло быць так, што жыхары вёсак *Аброва* Івацэвіцкага і Іванаўскага раёнаў, *Вялікая* і *Малая Обрына* Карэліцкага раёна калісьці даўно называліся з боку суседзяў *обрамі*, гэта значыць "буйнымі, высокімі, дужымі людзьмі, волатамі"? Адсюль — і геаграфічныя назвы.





## АДКУЛЬ "АРАБЫ" НА БРЭСТЧЫНЕ?

Аднойчы, у час адной з паездак па Палессі, пашчасціла запісаць у Медзяневіцкім сельсавеце Баранавіцкага раёна вось такую легенду.

Калісьці, шмат гадоў назад, зямля гэта належала князю Радзівілу. Ён звычайна праводзіў вольны час за мяжой. І вось неяк князь прывёз з далёкіх краін чорнага чалавека — араба. Гэтае заморскае дзіва ён пасяліў у невялічкай вёсачцы, ажаніў яго на мясцовай сялянцы. Людзі з навакольных мясцін спецыяльна прыязджалі, каб паглядзець на нязвычнага для палешукоў чалавека. А тое пасяленне, дзе жыў араб, сталі называць А р а б а ў ш ч ы н а й.

Вось такая легенда. Няцяжка зазірнуць у сучасныя адміністрацыйныя і геаграфічныя даведнікі, каб упэўніцца ў існаванні такой вёскі на Брэстчыне.

Назва *Ара́баўшчына* фармальна падзяляецца на корань *араб-* і суфікс *-аўшчына*. Гэты суфікс і яго варыянты *(-шчына, -оўшчына, -еўшчына)* у складзе шматлікіх геаграфічных найменняў (*Літоўшчына, Латышчына, Прусоўшчына, Ляхаўшчына, Татаршчына, Гудаўшчына, Чэхаўшчына, Маскалёўшчына, Відзеўшчына, Дуляўшчына* і іншых) сустракаюцца амаль па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Аснова ў іх утворана ад адпаведных этнічных найменняў (літоўцы, латышы, прусы, ляхі, татары, гуды, чэхі, маскалі, відзы, дулебы). Такім чынам, і ў назве Арабаўшчына таксама можна бачыць этнанімічную аснову а р а б.

Аднак трэба мець на ўвазе, што суфіксы *-шчына, -еўшчына, -аўшчына, -оўшчына*, якія з'яўляюцца ў славянскіх мовах суфіксамі агульнасці і множнасці і звычайна абазначаюць не толькі данае пасялянне, але і ўказваюць на ўсю бліжэйшую мясцовасць, могуць таксама ўтвараць геаграфічныя найменні на аснове асабовых імёнаў — мянушак і прозвішчаў. У гэтай сувязі ў назве *Арабаўшчына* можна бачыць не толькі этнанімічную аснову *араб*, але і мянушку *Араб* і нават прозвішчы *Арабаў, Арабін**. М. В. Бірыла лічыць, што гэтыя словы ўтвораны ад цюркскага слова *араба* —павозка. Тут дарэчы будзе заўвага і аб тым, што нават агульнае слова *араб*, якое верагодна адшукваецца ў складзе назвы *Арабаўшчына*, не абавязкова разумець толькі ў прамым, этнічным сэнсе. Гэтае слова на ўсходнеславянскай глебе атрымала яшчэ адно значэнне — "чорны, смуглявы". Развіццё другаснага значэння было абумоўлена пераносам найбольш спецыфічных і характэрных (з пункту погляду тых, хто называе) рысаў прадстаўнікоў пэўнага этнічнага калектыву, у дадзеным выпадку — арабаў, на іншых асоб. Такім чынам,"корань *араб-* у геаграфічнай назве *Арабаўшчына* мог мець менавіта пераноснае, другаснае, пераасэнсаванае значэнне. На аснове гэтага значэння магла ўтварыцца і мянушка *Араб* у адносінах да чалавека, якому, магчыма, належалі зямельныя ўгоддзі, сенажаці, пашы. І ўсё тое, што з'яўлялася яго ўласнасцю, чым ён валодаў, і атрымала назву *Арабаўшчына*, літаральна — "тое, што належыць Арабу".

Вось толькі — кім быў гэты Араб? Легенда, з якой мы пачалі наш расказ, у гэтым плане дае такую-сякую інфармацыю. Яна (гэтая інфармацыя) не такая ўжо і казачная. Не ўсякая легенда — гэта абавязкова фантазія. І чаму б ёй не верыць, калі для гэтага ёсць падставы?

У нашым выпадку адказ уяўляецца наступным чынам. Пасяленнем, якое атрымала назву *Арабаўшчына*, сапраўды калісьці валодаў чужаземец. Ён не быў арабам, але меў пэўныя знешнія асаблівасці, якія абумовілі нараджэнне мянушкі *Араб* у адносінах да яго. А потым нарадзілася і адпаведная геаграфічная назва. Верагодна, гэты чужаземец узяў у арэнду ці купіў зямлю ў князя Радзівіла (праўда, невядома, якога менавіта Радзівіла і калі), а магчыма быў у апошняга свайго роду "намеснікам" у адным з княжацкіх маёнткаў.

Трэба сказаць, што слова *араб* ва ўсходнеславянскіх мовах існуе яшчэ ў форме *арап*, прычым не толькі ў значэнні "смуглявы, чорны чалавек", але і ў іншых, з яўна зніжанай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, у прыватнасці — "ашуканец, жулік"**. Аднак у адносінах да назвы Арабаўшчына гэтая форма наўрад ці мае сэнс. Няма неабходнасці, відаць, уяўляць, што жыхары самога пасялення і наваколляў лічыліся ў суседзяў ашуканцамі,

---

* *Бірыла М. В.* Беларуская антрапанімія. Мн., 1969. С. 22.

** Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. Мн., 1977. С. 261·

жулікамі — *арапамі* і што гэтая агульная мянушка "*арапы*" і абумовіла ўзнікненне назвы *Арапаўшчына*, а затым — *Арабаўшчына*, якая абазначала "мясцовасць, якую насяляюць ашуканцы". Тым не менш, хто ведае, як было на самай справе? Разгадванне мудрагелістых геаграфічных назваў — гэта заўсёды падарожжа ў нязведанае, гэта заўсёды толькі гіпотэза.

Калі, разважаючы такім чынам, мы, здавалася б, прааналізавалі ўсе магчымыя шляхі для вырашэння пытання, здарылася тое, што прымусіла амаль ці не адмовіцца ад уласнай версіі.

З Арабаўшчыны прыйшоў ліст ад мясцовага краязнаўцы А. П. Залеўскай, у якім яна паведамляла, што быццам бы ў выкупной здзелцы сялян з памешчыкам Гяроўскім ад 1865 года вёска называецца не *Арабаўшчынай*, а *Арабінаўшчынай*, а сялянская абшчына — *Арабінаўскай*. Яшчэ А. П. Залеўская пісала аб тым, што на тапаграфічных картах 1896 і 1908 гадоў таксама значыцца найменне *Арабінаўшчына*. На падставе гэтых фактаў краязнаўца рабіла вывад, што назва яе вёскі паходзіць ад слова *арабіна, рабіна* (найменне дрэва). Яшчэ А. П. Залеўская спрабавала вызначыць час узнікнення вёскі. Маючы на ўвазе тое, што ў 1865 годзе ў ёй мелася ўсяго 15 двароў, краязнаўца лічыла, што *Арабаўшчына*, або *Арабінаўшчына* ўзнікла не раней самага пачатку XVIII стагоддзя. Яшчэ яна паведамляла, што праз вёску праходзіў старажытны шлях на Навагрудак і Вільню.

Вось такая паступіла інфармацыя. І я, падзякаваўшы за яе, амаль згадзіўся з уласнай памылкай. Але праз некаторы час узніклі заканамерныя пытанні. І першае з іх было такім: а пры чым тут тая легенда пра "араба", якая існуе ў Арабаўшчыне? Навошта спатрэбілася беларусам, карэнным жыхарам палескай вёскі, адмаўляцца ад свайго, роднага, добра знаёмага слова *рабіна, арабіна*, перайначваць празрыстую для разумення назву *Арабінаўшчына* ў "цьмяную" *Арабаўшчына* і пры гэтым яшчэ прыдумваць нейкую байку пра "чорнага чалавека". Звычайна ўсё адбываецца якраз наадварот. Легенда ўзнікае дзеля тлумачэння незразумелага геаграфічнага наймення, а калі гэтага аказваецца недастаткова, то найменне можа нават "перапрацоўвацца", "перарабляцца", у ім адбываюцца гукавыя змены, і ў выніку назва змяняе знешняе афармленне. Дык вось, ці не з'ўлялася форма *Арабінаўшчына* звычайнай спробай "растлумачыць" з дапамогай знаёмага слова больш старадаўнюю форму тапоніма — *Арабаўшчына*?

Сёння мы ўпэўнены менавіта ў такім, а не іншым адказе на пытанне аб паходжанні геаграфічнай назвы *Арабаўшчына* Баранавіцкага раёна.

Адной загадкі, як правіла, бывае мала. Вось і ў гэтым выпадку пошукі тлумачэння назвы *Арабаўшчына* прывялі да ўзнікнення новых пытанняў, зноў-такі звязаных з коранем *араб-* у складзе геаграфічных назваў у іншых пунктах Заходняга Палесся.

У кнізе В. А. Жучкевіча "Происхождение географических названий Белоруссии" сярод багатага фактычнага матэрыялу нагадваюцца геаграфічныя назвы, якія ўзніклі ад наймення рэдкіх для Беларусі этнічных груп, у тым ліку ад наймення *арабы**.

В. А. Жучкевіч упамінае ў гэтай сувязі Пружанскі раён Брэсцкай вобласці. У гэтым раёне тапанімічныя слоўнікі фіксуюць дзве вёскі пад назвамі *Араб'і* і *Арабнікі*.

Калі структурны тып, да якога належыць назва *Арабаўшчына*, указвае хутчэй за ўсё на прыналежнасць пасялення і навакольнай мясцовасці "Арабу", то структурны тып, да якога належаць тапонімы *Араб'і* і *Арабнікі*, служыць, як можна меркаваць, для абазначэння ўсіх жыхароў вёскі, гэта значыць у аснове геаграфічных найменняў ляжаць так званыя калектыўныя мянушкі. Такім чынам, тры геаграфічныя назвы, хоць і маюць фармальна нейкае гукавое падабенства, прыкметна адрозніваюцца паміж сабой па сваяму тапанімічнаму значэнню. Больш таго, два апошніх геаграфічных найменні ўвогуле не звязаны з "арабамі" ні ў прамым, ні ў пераносным сэнсе.

Тапонім *Араб'і*, які ў мясцовай гаворцы мае націск на апошнім складзе, утварыўся ад мянушкі *араб'і* — "вераб'і". "*Араб'ямі*", "*Вераб'ямі*" называлася ўсё насельніцтва вёскі. Можна меркаваць, што з бегам часу мянушка *араб'і* ператварылася ў прозвішча, і зусім верагодна, што ў цяперашняй вёсцы Араб'і мы сустрэнем людзей з аналагічным прозвішчам.

Можна тлумачыць гэты тапонім і трохі інакш: у яго аснове ляжыць не мянушка, а прозвішча, якое насіла большасць першапачатковага насельніцтва вёскі. Гэтае прозвішча і было перанесена на само пасяленне.

Геаграфічная назва *Арабнікі* ўяўляе сабой гукавую перапрацоўку першапачатковага наймення *Арапнікі*. У аснове гэтай апошняй формы ляжыць прозвішча *Арапнікі*. Так называлі, відаць, жыхароў вёскі, якія займаліся вырабам *арапнікаў* — кароткіх раменных бізуноў.

Вось як вырашаецца пытанне аб брэсцкіх "арабах". Гукавое падабенства з этнічным найменнем, такім чынам, зусім не азначае, што геаграфічная назва сапраўды адлюстроўвае нейкае "заморскае" паходжанне жыхароў вёскі. Заўсёды трэба мець на ўвазе магчымасць тлумачэння на спрадвечным беларускім матэрыяле, бо "экзатычныя" вывады ўносяць блытаніну не толькі ў айчынную тапаніміку, але і ў гісторыю.

---

* *Жучкевич В. А.* Происхождение географических названий Белоруссии. Мн., 1961. С. 47.





## ГОРАД У БЯРОЗАВЫМ ГАІ

"З якога боку ні пад'язджай да Клецка, у шырокіх далін, быццам бы выбеглі на спатканне, сустракаюць цябе белыя, як нявесты, бярозы. Іх шмат у наваколлі горада. Асабліва непаўторныя прыгажосцю бярозавыя гаі на поўдні раёна..." Гэтымі словамі пачынае сваю кнігу аб старажытным Клецку пісьменнік-краязнаўца А. С. Бушэнка. Згодна з яго версіяй, бярозавыя гаі вакол Клецка раслі спрадвеку, менавіта яны і абумовілі ўзнікненне геаграфічнай назвы *Клецк*. Больш падрабязнае тлумачэнне змешчана ў кнізе географа і тапаніміста В. А. Жучкевіча, які лічыў, што нагаданую назву ёсць сэнс супастаўляць з рускім дыялектным словам *клечь* — "бярозавыя парасткі", адзначаным у вядомым слоўніку У. І. Даля. Ён жа ўказваў і на слова з беларускіх гаворак кле́чанне — "зеляніна, якой упрыгожваюць хаты на троіцын дзень".

В. А. Жучкевіч гаварыў і аб іншай магчымасці тлумачэння назвы *Клецк* — ад слова *клець* — "драўляны зруб, прамавугольная пабудова, памяшканне хаты, якое не ацяпляецца".

На наш погляд, пытанне аб паходжанні назвы *Клецк* нельга вырашыць так проста. Мы лічым, што гэтая назва не магла непасрэдна ўтварыцца ад слова *клець*, як, дарэчы, і ад нагаданых дыялектных слоў — рускага *клечь* і беларускага *клечанне*. Справа ў тым, што кожная цьмяная на сённяшні дзень геаграфічная назва абавязкова суадносіцца з іншымі імёнамі, якія існуюць на суседніх ці больш далёкіх тэрыторыях. Вось і назва Клецк параўноўваецца перш за ўсё з такімі старажытнымі

найменнямі, як *Мінск, Полацк, Віцебск, Пінск, Слуцк, Бабруйск, Чачэрск*. Усе яны ўтварыліся з дапамогай суфікса *-ск* ад назваў рэчак, на якіх размяшчалася першапачатковае пасяленне на месцы будучага горада — *Мена, Палота, Віцьба, Піна, Случ, Бабруйка, Чачора*. Слова *Клецк* таксама нагадвае назву, утвораную ад рачнога імя. У летапісах адлюстраваліся наступныя формы назвы: *Клецк, Кльчьск, Кльческъ, Кльчьскъ, Клечьск, Клеческ*. Пры іх дапамозе магчыма нават аднавіць былое імя ракі — *Клеч* ці *Клеча*.

Прадбачым тут пытанне: а дзе тая рака? Вядома, што горад Клецк стаіць на рачулцы Лань. Усё гэта так, але вядома і тое, што амаль кожны старажытны горад узнікаў на месцы сутокаў дзвюх рэк — якой-небудзь больш значнай і невялікага прытока. Менавіта малая рачулка ці нават ручай якраз і давала імя пасяленню. Так, Бабруйск узнік на беразе рэчкі Бабруйкі, якая ўпадала ў Бярэзіну; Полацк — ля сутокаў Палоты і Заходняй Дзвіны; Чачэрск — недалёка ад зліцця Чачоры і Сожа.

Рачулка *Клеч (Клеча)* магла да нашага часу і не захавацца. Такіх прыкладаў таксама шмат. І толькі адно яе імя, увасобленае ў назве горада, магчыма, захоўвае памяць аб былым водным аб'екце. Зрэшты, рака ніколі не знікае зусім. Застаюцца яе сляды. І перш за ўсё старажытнае рэчышча, якое цяпер можа існаваць ў выглядзе яра ці глыбокай нізіны. І яшчэ. Калі такая рака сапраўды існавала, то адпаведныя ёй назвы рэчак адшукваюцца на іншых тэрыторыях.

У дадзеным выпадку патрэбныя нам імёны на самай справе ёсць. Гэта рэчкі *Кле́тка* і *Кліца* ў басейне Дняпра, *Кле́ча, Кле́чанка, Кле́ценка* ў басейне Акі.

Цяпер нам неабходна паразважаць аб тым, што першапачаткова маглі б азначаць гэтыя рачныя імёны. Вось тут, на наш погляд, дарэчы будуць тыя тлумачэнні, з якіх мы пачалі гэты наш расказ. Вельмі верагодна, што нагаданыя невялікія рачулкі і ручаі працякалі цераз вільготныя нізіны і наогул бралі пачатак у балотах і дрыгвяністых крыніцах. А калі гэта так, то паходжанне назваў *Кле́ча, Кле́чанка, Kляча́нка, Клеценка, Кле́чышчы* і падобных на іх ад рускага дыялектнага слова *клечь* ці ад такога ж беларускага *клечанне* будзе мець пэўную геаграфічную матывацыю. Справа ў тым, што дробналессе, у тым ліку бярозавыя парасткі звычайна з'яўляюцца якраз уздоўж берагоў лясных балоцістых рэчак і ручаёў.

Адначасова ёсць магчымасць адзначаныя рачныя імёны тлумачыць і трохі ў іншым аспекце, а менавіта пры супастаўленні са словам *клець* (параўн. старажытнарускае *кльть, кьлеть* — "халодная пабудова з бярвення; хаціна"). Даследчыкі-этымолагі, якія займаюцца вывучэннем паходжання агульных слоў, адзначаюць, што пярвічным значэннем слова *клець* (яно, дарэчы, вядома ў заходніх і ў паўднёвых славянскіх мовах) было "дом, жытло". Калі тлумачыць паходжанне рачных найменняў тыпу *Клеча* ад слова *клець (кльть, кьлеть)*, то гэтыя найменні трэба разумець як "тыя рэчкі, што працякаюць побач з домам, жытлом", "дамашнія". Менавіта такім чынам мы прапануем тлумачыць некаторыя з гідронімаў, утвораных ад кораня *тур-*

(*Тур'я, Турэйка, Турыя, Турыца* і інш.) (гл. раздзел "Ці княжыў у Тураве князь Тур?"). Цікава ў гэтым плане адзначыць, што ў Верхнім Падняпроўі, на тэрыторыі Беларусі, Украіны, на Палессі, а таксама ў басейне Акі часта сустракаюцца невялікія рачулкі пад назвамі *Дамаха, Дамашня, Дамашка, Домша, Домшынка*. У гэтых назвах відавочны корань *дом-*, і ўсе яны разумеюцца як "рэчкі, якія працякаюць побач з домам". Відаць, гэтае значэнне было ў мінулым, так сказаць, даволі "папулярным" у славянскага насельніцтва, якое паступова прасоўвалася на поўнач, поўдзень, усход, абжывала незаселеныя землі і будавала на іх свае першыя хаціны. А шматлікія малыя рэчкі пры гэтым прыстасоўваліся пад розныя гаспадарчыя, "хатнія" патрэбы. Што ж датычыць слоў, якія выбіраліся для найменняў "дамашніх" рэчак, то іх было, як мы бачым, некалькі. Адным з іх з'яўлялася старажытнае славянскае слова *клець*. На тэрыторыі Беларусі ад гэтага слова з першапачатковым значэннем "дом, жытло" ўтварыліся не толькі найменні рэчак, але і шматлікія назвы населеных пунктаў тыпу *Клéцішча, Клеткі, Клетнае*, якія сустракаюцца ў розных раёнах рэспублікі.

Вось такім чынам, на наш погляд, ёсць магчымасць на сённяшні дзень тлумачыць старажытную назву горада Клецк, які ў 1988 годзе сустрэў сваё 860-ае "лета" з моманту першага з'яўлення на старонках Іпацьеўскага летапісу.

Аднак, каб быць шчырым да канца, трэба сказаць і аб тых сумненнях, якія існуюць і перашкаджаюць безагаворачнаму прызнанню правільнасці зробленых тлумачэнняў. Маецца на ўвазе наяўнасць рачнога наймення *Кліца*, якое мы хоць і лічым роднасным найменню *Клеч (Клеча)*, тым не менш з вялікай цяжкасцю супастаўляем яго як са словам *клець*, так і са словамі *клечь* (рускае) і *клечанне* (беларускае). Сюды трэба дадаць таксама тапонім *Клічаў* (горад, райцэнтр Магілёўскай вобласці), які з дастатковай упэўненасцю супастаўляецца як з назвай *Клецк*, так і з назвамі *Клечанка, Клетка, Кліца*. Таму на заканчэнне выкажам яшчэ адно меркаванне ў форме пытання: ці не хаваецца ва ўсіх нагаданых геаграфічных назвах нейкае забытае сёння ці запазычанае некалі з моў іншых народаў слова, спрадвечнае значэнне якога пакуль адшукаць немагчыма?





## СТАРАЖЫТНАЯ СПАДЧЫНА БРАГІНСКАЙ ЗЯМЛІ

"Паўднёва-ўсходні куток Гомельскай вобласці ўразаецца клінам паміж рэкамі Прыпяццю і Дняпром ля іх сутокаў. Між тым, як сумежныя да рэк бакі гэтага кутка нізінныя, пясчаныя, пакрытыя балотамі, азёрамі, залівамі і параслі сасновым лесам, сярэдняя частка яго ўяўляе мясцовасць некалькі больш узвышаную, здаўна і даволі густа населеную і апрацаваную. Гэтая града цягнецца з паўднёвага ўсходу да паўночнага захаду і арашаецца цячэннем рэчкі Брагінкі, а на двух яе канцах ляжаць два мястэчкі — Брагін і Хойнікі. Мясцовасць гэтая ўяўляе быццам бы востраў сярод палескіх балот і была заселена яшчэ ў той час, аб якім за адсутнасцю пісьмовых крыніц мы можам меркаваць толькі па матэрыяльных помніках старажытнасці"*.

Так пачынае сваю працу "Брагинская волость (исторический очерк)" дарэвалюцыйны даследчык М.Запольскі. Па яго даных, тут налічваецца 12 гарадзішчаў, а таксама шмат курганаў — 230 магільных насыпаў. Першапачатковыя насельнікі краю належалі да племені дрыгавічоў. Па матэрыялах кнігі "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць", у сучасным Брагінскім раёне зарэгістравана 14 гарадзішчаў, 8 пляцовак, дзе размяшчаліся паселішчы, і 4 пляцоўкі са шматлікімі бескурганнымі і курганнымі могільнікамі. Большасць гарадзішчаў адносіцца да ранняга жалезнага веку і датуецца канцом I тысяча-

* Календарь Северо-Западного края на 1889 год. М., 1889. С. 3.

годдзя да новай эры — пачаткам I тысячагоддзя новай эры. Відаць, у тыя часы на тэрыторыі Брагіншчыны з'явілася больш-менш сталае насельніцтва.

... Старажытныя гарадзішчы Брагіншчыны здалёк нагадваюць узгоркі. Але ўважлівае вока абавязкова заўважыць на круглай ці авальнай пляцоўцы рэшткі землянога вала, а побач з узгоркам — сляды старажытнага селішча. Гарадзішчы будаваліся ля рачнога берага ці сярод балот на ўзвышшах. Адна з такіх пабудоў у свой час вырасла да памераў буйнога племяннога цэнтра, які ў Іпацьеўскім летапісу пад 1147 годам быў названы *Брягінам*. У гэты год, "калі ўжо замерзлі рэкі", ноўгарад-северскія князі прывялі на Русь палавецкія орды "ваяваці Брягін". У той час, відаць, Брагін быў важным пунктам, валоданне якім мела стратэгічнае, гаспадарчае і гандлёвае значэнне. Мабыць, таму за гарадок так заўзята змагаліся северскія і кіеўскія князі і нават палавецкія дружыны прыводзілі, каб перамагчы. У 1147 годзе, годзе першага ўпамінання Брагіна ў пісьмовых крыніцах, горад быў дашчэнту зруйнаваны і разрабаваны. Але хутка ён зноў адбудаваўся. Гарадзішча старажытнага Брагіна размяшчалася ў межах сучаснага гарадскога пасёлка на правым беразе ракі Брагінкі, паблізу таго месца, якое цяпер вядома брагінцам як *Загароддзе*.

Што ўяўляў сабой Брагін старажытнага часу? На высокім месцы над ракой у цэнтры, па ўсёй верагоднасці, стаяў княжацкі церам. Вакол яго размяшчаліся іншыя пабудовы, дзе жылі прыбліжаныя князя, яго дружыннікі, рамеснікі, простыя жыхары. Гарадскія ўмацаванні складаліся з рова і землянога вала — насыпу ў некалькі метраў вышынёй. Глыбіня рова дасягала 10—12 метраў. Часам ён залівaўся вадой, але бываў і сухі. На валах ставілася драўляная рубленая сцяна, якая будавалася са шчыльна пристаўленых адзін да аднаго зрубаў з бярвення — так званых гарадзень, запоўненых зямлёй. Магчыма, што па-за гарадской сцяной размяшчаўся пасад — гандлёва-прамысловая частка Брагіна.

Гэтыя апісанні — не зусім палёт фантазіі. У Брагіне на самай справе былі свае князі. Дзе доказы? Дзе імёны гэтых князёў, зафіксаваныя летапісам?

М. Запольскі, аўтар упамянутага гістарычнага нарыса аб Брагіне, расказвае наступнае. У 1187 годзе (па іншых крыніцах — у 1189-ым) кіеўскі князь Рурык Расціславіч урачыста святкаваў вяселле свайго сына Расціслава, за якога ён пасватаў Верхуславу, дачку суздальскага князя Усевалада Вялікае Гняздо. Вяселле, відаць, адбывалася ў Брагіне, падараваным як вясельны гасцінец маладой жонцы, якой у той час было ... 8 гадоў. Цікава, што жаніх быў не намнога старэйшы: яму споўнілася 10 гадоў. Згодна з Іпацьеўскім летапісам, які змяшчае гэты факт, такога вяселля дагэтуль не бывала на Русі, бо на ім прысутнічала аж 20 князёў.

Уяўленні аб гарадзішчы старажытнага Брагіна былі б больш канкрэтнымі, калі б ў горадзе папрацавалі археолагі. Аднак тут ёсць яшчэ адна дэталь. М. Запольскі ўпамінае нейкі "стары княжацкі замак", які існаваў у Брагіне, калі сюды ў канцы

XVI ст. была пераведзена рэзідэнцыя князёў Вішнявецкіх. Важна прыадкрыць таямніцу гэтага замка.

Да канца XV ст. гісторыя Брагіна невядомая. Аднак яе няцяжка ўявіць, абапіраючыся на тыя падзеі, што адбываліся ў нашым краі ў той час. У 1241 ці ў 1242 гадах гарадок, верагодна, быў захоплены мангола-татарскімі атрадамі, разрабаваны і спалены. Брагін раздзяліў лёс Мазыра, Турава, Пінска, Давыд-Гарадка, Слуцка, Клецка і Навагрудка, якія былі ўзяты пасля непрацяглай асады і кровапралітнага бою ардой пад кіраўніцтвам ханаў Гаюка і Кайдгана. На працягу далейшых гадоў Брагін зноў адбудаваўся. Дзесьці паміж 1345 і 1377 гадамі ён падпаў пад уладу літоўскіх князёў.

Ёсць адзін дакумент, які дазваляе меркаваць, што жыццё ў Брагіне і гаспадарчы росквіт самога гарадка пасля далучэння да Літоўскай дзяржавы не толькі не згаслі, як мы прывыклі трафарэтна сцвярджаць у падручніках па гісторыі БССР, а, наадварот, пачалі набіраць тэмп. Справа ў тым, што ў 1511 годзе польскі кароль і вялікі князь Літоўскі Сігізмунд I дараваў Брагіну грамату, якая забяспечвала правы жыхароў і давала ім усялякія льготы. Такія граматы забытым богам мястэчкам не даваліся.

Аб узлёце Брагіна ў апісваемы перыяд сведчыць таксама і наступны факт. У канцы XVI ст. ён перайшоў ва ўласнасць князёў Вішнявецкіх, аднаго з самых магутных княжацкіх родаў Рэчы Паспалітай. Князі Вішнявецкія пабудавалі ў Брагіне свой замак. Быў ён драўляны, верагодней за ўсё, з дубу, меў абарончы вал, шмат'ярусныя вежы, некалькі ўязных брам. Каб зберагчы замак ад пажару, драўляныя сцены часам абмазвалі глінай. Шматлікія байніцы ў сценах сведчылі аб ваенным прызначэнні гэтай пабудовы. На жаль, наша апісанне замка Вішнявецкіх грунтуецца толькі на аналогіі з падобнымі збудаваннямі XVI ст. у іншых месцах Беларусі. Ад замка Вішнявецкіх нічога не засталося, нават былое яго месца не ўпамінаецца ў "Зборы помнікаў гісторыі і культуры", прысвечаным Гомельскай вобласці.

Аднак мяркуемы агульны выгляд брагінскага замка дазваляе больш-менш наглядна ўявіць падзеі, якія адбыліся ў ім далей.

У 1603 годзе (у некаторых крыніцах называецца і іншая дата — 1601 год) у Брагіне з'явіўся таямнічы незнаёмец. Яго прынялі ў замку князя Адама Вішнявецкага, тут ён і расказаў захапляючую гісторыю свайго незвычайнага жыцця. Выходзіла, што незнаёмец — не хто іншы, як царэвіч Дзмітрый, сын маскоўскага цара Івана Грознага.

Князь Адам Вішнявецкі прызнаў "царэвіча", але зрабіў гэта не таму, што паверыў яго наіўным казкам. У князя Адама былі свае мэты. Вішнявецкія знаходзіліся ў варожасці да маскоўскага цара (у тую пару — Барыса Гадунова). Прычынай былі зямельныя спрэчкі. Адам Вішнявецкі вёў сваю асобную вайну з царом Барысам з-за спрэчных гарадкоў па левабярэжжу Дняпра. Паміж маскоўскімі войскамі і атрадамі Вішнявецкіх здараліся нават узброеныя сутыкненні. Прыняўшы самазванца, князь Адам атрымаў магчымасць аказваць націск на рускі ўрад, якому ў той час ужо было вядома, што імя забітага царэвіча

ўзяў беглы чарнец Чудава манастыра ў Маскве Грыгорый, да пастрыжэння — Юрый Атрэп'еў. У маёнтку Вішнявецкіх Ілжэдзмітрый дабіўся трывалага поспеху. Менавіта адсюль самазванцкая інтрыга ўступіла ў рашучую фазу свайго развіцця.

У сярэдзіне XVII ст. Брагін належаў князю Іерэмію Вішнявецкаму. Нягледзячы на люты нораў свайго гаспадара, жыхары гарадка, падобна насельніцтву ўсяго парэчча Прыпяці, далучыліся ў 1648 годзе да вызваленчага руху ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Брагінцы і славяне навакольных мястэчак склалі цэлы полк — да 6 тысяч чалавек пад кіраўніцтвам казацкага галавы Магеры. Дарагой цаной заплацілі брагінцы за супрацоўніцтва з народным правадыром: польскія войскі дашчэнту зруйнавалі горад.

З гэтага часу Брагін паступова губляе статус гарадка, насельніцтва змяншаецца, заміраюць рамёствы. Войны прыносяць пакуты, да таго ж валадары Брагіна князі Вішнявецкія губляюць сваю магутнасць, моц і ўладу. У другой палове XVII ст. гарадок атрымлівае новых уладальнікаў — князёў Канецпольскіх. На працягу XVIII ст. Брагін пераходзіць з рук у рукі розным польскім магнатам.

Далейшыя звесткі аб Брагіне губляюцца амаль да канца XIX ст. У 80-ых гадах XIX ст. мястэчка Брагін Рэчыцкага павета Мінскай губерні лічылася цэнтрам валасці.

У IX томе "Полного географического описания нашего Отечества", прысвечаным Беларусі і Верхняму Падняпроўю, гаворыцца, што ў мястэчку Брагін жыве больш за 2,5 тысячы чалавек, ёсць школа і дзве царквы.

Вось і ўсе асноўныя звесткі, якія складаюць на сённяшні дзень старажытную спадчыну Брагінскай зямлі. Іх няшмат, але яны, мы ўпэўнены, вартыя ўвагі і далейшага вывучэння.

Нам засталося паразважаць яшчэ над адным пытаннем — паходжаннем назвы *Брагін*. Згодна з мясцовай легендай, калісьці разбойнічалі ў тутэйшых мясцінах два ліхадзеі і люта ненавідзелі адзін аднаго. Здарылася так, што больш моцны з іх забіў свайго саперніка, кінуў у балота, прыгаворваючы: "Бра! Гінь!", што значыць "брат, прападай". На тым самым месцы быццам і ўзнікла мястэчка Брагін.

Але паходжанне назвы Брагіна трэба звязваць не з падобнай на казку фантастычнай легендай, а з характэрнымі геаграфічнымі рэаліямі гэтых мясцін — багнамі, балотамі, дрыгвой. Слова Брагін, як і ўтворанае ад яго імя рэчкі Брагінкі, адпавядае шматлікім рачным назвам у Пасожжы — *Драгіня, Драгінь, Драгонка, Дрыгіня* і іншыя. Усе гэтыя рачулкі ці нават ручаі выцякаюць з балот, а іх назвы ўзыходзяць да кораня *драг- / дрыг-*, які таксама вылучаецца ў слове *дрыгва*. Гэтае слова ў палескіх гаворках выступае таксама і ў форме *брагва, драгва*, але ў тым жа самым значэнні "дрыгва, багна". Аналогіі адшукваем у басейне ракі Акі, якія, дарэчы, дае шмат паралелей рачным імёнам Палесся і Верхняга Падняпроўя. У басейне Акі сустракаюцца рэчкі *Драгінка* і *Брагінка*, ёсць невялікі ручай *Брагін* і возера *Брага*.

Для тлумачэння назвы Брагіна прапаноўваліся і іншыя версіі. Згодна з адной з іх, дадзеная геаграфічная назва ўзыходзіць да асабовых імён і прозвішчаў, зафіксаваных у розных пісьмовых крыніцах старажытнарускага часу ў форме *Брага, Брагін*. Некаторыя аўтары бачылі ў назве Брагін адлюстраванне старажытнарускага слова брага — "піва", "хмельны напітак з соладу"*. Але гэтае тлумачэнне можна ўспрымаць не больш як жарт: быццам бы брагінцы славіліся тым, што выраблялі смачныя напіткі. З навуковага ж пункту гледжання гэтае тлумачэнне не мае ніякіх асноў.

... Амаль праз увесь раён, з поўначы на поўдзень, цячэ рэчка Брагінка. На яе берагах калісьці з'явіліся першыя пасяленцы краю — паляўнічыя каменнага веку. Крамянёвыя ножападобныя пласціны, рэшткі глінянага посуду, розныя каменныя адшчэпы, якім ад 5 да 7 тысячагоддзяў, дагэтуль знаходзяць вучоныя ў брагінскай зямлі. Першых пасяленцаў змянялі іншыя: многія народы праходзілі тут з рознымі мэтамі і намерамі, бо Брагіншчына ляжыць на найбольш урадлівых па ўсёй паўднёвай Беларусі землях. Рэчка Брагінка, бурлівая ў час веснавой паводкі, ціхая ў летнюю спякоту, з'яўляецца адзіным надзейным, але маўклівым сведкам гістарычных падзей.

---

* *Нерознак В. П.* Названия древнерусских городов. М., 1983. С. 28.





## ДЗВЕ ГАРЫ НАД ДНЯПРОМ

Я стаяў на высачэзным беразе і глядзеў уніз. Халодны сталёвы колер вялікай ракі не змяняў таго ўражання, якое заўсёды ўзнікае, калі сустракаюся з Дняпром. Я адчуваю магутны подых ракі, яна для мяне нібы жывая істота, якая захоўвае ў сваіх глыбінях водгалас шматлікіх падзей, што адбываліся на яе берагах.

Рака — гэта сувязь часоў, сувязь пакаленняў. Напэўна, яна ведае вытокі той загадкі, з якой звязана паходжанне аднаго са старажытнейшых месц на паўднёвым усходзе Беларусі — Лоева. І ўжо абавязкова добра знаёма з той берагавой кручай, з якой добра відаць неабсяжныя дняпроўскія прасторы і якая ў адным з пісьмовых дакументаў 1594 года была названа "Лоевай Гарой".

Лоева Гара... Хто і чаму назваў яе так? Можа, сапраўды, на ёй калісьці пабудаваў першыя хаціны нейкі легендарны Лой? Аб тым, што такое імя на самай справе існавала, сведчыць зафіксаванае ў 1351 годзе асабовае прозвішча Хадко Лоевіч. Само ж імя Лой, магчыма, тлумачылася як "тоўсты, грузны, поўны". А калі так, то кім быў ён, гэты чалавек — Лой? Князем ці заснавальнікам племені, што прыйшло сюды з поўначы ці поўдня? І ці быў ён увогуле, гэты Лой, бо добра вядома, што калі няма іншых тлумачэнняў, заўсёды нараджаецца выдуманае імя першапасяленца. Аднак ці ведае хто, што было тут на самай справе шмат стагоддзяў назад? Магчыма, адна толькі рака, якая

дагэтуль выкідвае ў сваіх хвалях на прыбярэжны пясок дзіўныя рэшткі мінулага — гліняныя чарапкі з цікавымі ўзорамі, — можа даць адказ.

Старажытныя людзі заўсёды раіліся з ракой. А здаралася так, што вельмі часта і сварыліся з ёю: сяклі яе пляцьмі, стралялі ў хвалі з лукаў. Але праходзіў час, і людзі прыносілі рацэ свае падарункі, бо ад яе залежыў поспех у многіх справах.

Хто ведае, ці было гэта ўсё менавіта так і на Лоевай Гары?

... Старажытны Лоеў пачынаўся на берагавых кручах, але з боку ракі падыход да пасялення не быў цяжкі: кручы раптам знікалі, а на іх месцы ўзнікала прыбярэжная нізіна, вельмі зручная для спынення гандлёвых лодак і суднаў. Сярод шматлікіх найменняў гэтых лодак у старажытнарускай мове існавала і слова "лоіва" — "вялікі шматмесны човен, лодка".

Не трэба шмат фантазіі, каб уявіць, што Лоеў мог узнікнуць перш за ўсё як месца для адпачынку ў час шматдзённага (а магчыма, і шматмесячнага) плавання гандлёвых "гасцей", гэта значыць купцоў, з розных краін уверх і ўніз па Дняпру. Калі гэта месца стала выкарыстоўвацца больш-менш рэгулярна для перапынку ў падарожжы, яно паступова ператварылася ў невялікае пасяленне, за якім і замацавалася назва Лоеў.

Народная фантазія тлумачыць узнікненне загадкавай назвы трохі інакш: быццам бы Лоеў — ад *лой* — "баранняе ці кароўе сала, асабліва ўжываемае для вырабу свечак". Цікава, што гэтае слова зафіксавана ў "Слоўніку беларускай мовы" І. І. Насовіча (1870 год). Згодна з гэтым паданнем, цераз Лоеў праходзіў гандлёвы шлях, па якому везлі розныя тавары, а бочкі з лоем, алеем, тлушчам і маслам складвалі менавіта на Лоеўскай прыстані.

Калі ўбачыць тую нізіну — прыстань, ад якой пачынаецца ўздым ад ракі ўгору, у Лоеў, то на памяць прыходзяць народныя словы *зало́й* — "затапляльная нізіна паміж двума ўзвышшамі, рачны заліў; *пало́й* — "пойма, нізінны бераг"; *разло́й, лой* — "затопленае месца". Ці не крыецца ў гэтых народных геаграфічных тэрмінах адгадка назвы *Лоеў*?

І, нарэшце, яшчэ адзін цікавы штрых. Вядома, што кожную назву неабходна вывучаць не асобна, а ў сувязі з іншымі, такімі ж ці падобнымі на яе. Вось і ў нашым выпадку справа абстаіць менавіта так. Лоеў на Дняпры — не адзіная назва на карце. Горад *Лоеў* ёсць яшчэ і ў Малдавіі, а паблізу Камянец-Падольска, на рацэ Паўднёвы Буг, існуе вёска *Лоеўцы.*

На Украіне малдаван і румын месцамі называюць *волахамі.* На Беларусі гэтае старадаўняе імя ў самастойным ужыванні не распаўсюдзілася, аднак адлюстравалася ў шэрагу геаграфічных назваў, у ліку якіх і *Валахоўшчына* — вёска ў Брагінскім раёне.

Перасяленцы з Падоліі, Валыні, Галіцыі з'яўляліся на тэрыторыі Беларусі ў XVI — XVIII стст. і яшчэ раней, нават у перыяд Кіеўскай Русі. З імі звязана мноства назваў населеных пунктаў на беларускай зямлі. Ці не ёсць і Лоеў адной з іх?

Версій, як бачым, мноства, і кожная з іх годная ўвагі, праверкі, вывучэння.

Калі плыць уверх ад Лоева, то можна хутка трапіць у вёску Ісакавічы. Вёска як вёска, нічым не лепш і не горш за іншыя.

Але ёсць каля гэтага населенага пункта месца-помнік — велізарная прыбярэжная гара, якая амаль як дзевяціпавярховы будынак, а можа і яшчэ больш высокая, узнялася прама над рачной быстрынёй. Мясцовыя жыхары называюць яе *Ляхавай Гарой*.

І зноў загадкавае імя, зноў намаганні пазнаць вытокі яго гісторыі.

*Ляхамі* калісьці ў старажытнарускі час, ды і пазней, ужо ўласна на Беларусі, называлі палякаў. І калі гару назвалі такім найменнем, гэта адбылося не выпадкова.

Пошукі пачаткаў назвы доўга не давалі вынікаў: мясцовыя старажылы, на жаль, не ведалі гісторыю Ляхавай Гары, ды і само імя ляхі большасць з іх ужо не разумела. Дапамаглі гутаркі з дырэктарам Страдубскай школы (вёска Страдубка стаіць у 3 кіламетрах ад Ісакавіч уверх па цячэнню) А. С. Долатавым, вучнем славутага лоеўскага краязнаўцы Івана Рыгоравіча Ермакова. Ён і паведаў мне тое, аб чым хачу расказаць.

... У апошнія дні лета 1649 года, у самай сярэдзіне XVII ст., вялізная строма над Дняпром раптам убачыла небывалае да гэтага скапленне народу. Шум крывавай бітвы, крыкі тысяч людзей разарвалі прывычную цішыню. У гэты летні дзень (якім ён быў — сонечным ці дажддлівым?) берагавая строма стала нерукатворным помнікам доблесным патрыётам роднай зямлі — казакам атрада Міхаіла Крычэўскага, якія прынялі свой апошні бой і, не жадаючы здавацца раз'юшаным ляхам, кідаліся з гары ўніз, у хвалі старога Дняпра. Бой на Ляхавай Гары (так яе людзі назвалі трохі пазней) быў апошняй, заключнай часткай так званай Лоеўскай бітвы.

Летам 1648 года, за год да апісваемых падзей, у многіх месцах Беларусі пачаліся сялянскія паўстанні супраць ляшскага панавання і лютага прыгнёту з боку замежных паноў. Вызваленчая барацьба ўкраінскага народа пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага сустрэла самы гарачы водгук сярод зняволенага беларускага сялянства і гарадской беднаты.

Каб падавіць сялянскія выступленні, не даць разгарэцца паўстанню ўшыр і адначасова нанесці ўдар у фланг ці ў тыл асноўнаму войску Хмяльніцкага, з Рэчы Паспалітай у напрамку Пінск — Тураў — Мазыр, уздоўж Прыпяці, рухалася войска пана Януша Радзівіла. Гэта быў старажытнейшы ў Палессі шлях, якім карысталіся яшчэ ў XI ст. рускія князі ў паходах на ляхаў і яцвягаў, а таксама ляшскія правіцелі ў паходах на Русь.

Ад Мазыра ляхі звярнулі ў бок Рэчыцы. Восенню 1648 года, зімой і вясной 1649 года казацкія атрады Ільі Галоты і Сцяпана Падбайлы няспыннымі нападамі не давалі спакою варожаму войску.

З набліжэннем лета Радзівіл актывізаваў падрыхтоўку да выступлення і 31 ліпеня 1649 года пачаў пераправу на левы бераг Дняпра ля Лоева. У тыле ляхаў нечакана з'явіліся казакі атрада Міхаіла Крычэўскага. Ляхі вымушаны былі ўступіць у бой. Гэта і была Лоеўская бітва, у якой удзельнічала з абодвух бакоў больш за 110 тысяч чалавек.

Цяжка паранены Крычэўскі, зяць Багдана Хмяльніцкага, яго лепшы атаман, быў узяты ў палон і загінуў. Рэшткі яго атрада глыбокай ноччу, запаліўшы агні, каб ляхі думалі, што казакі сядзяць на месцы, адпачываюць і рыхтуюцца да новай бітвы, зняліся з лагера і пачалі адыходзіць ад Лоева ўверх па Дняпру. Войска Радзівіла гналася за казакамі, пакуль не дагнала іх ля будучай Ляхавай Гары.

І з той пары стала Ляхава Гара прыродным помнікам мужнасці, доблесці і гераізму, адданасці роднай зямлі.





# ГАРАДОК НАД СТРОМАЙ

Магутная рака цякла далёка ўнізе. Здавалася, варта зрабіць толькі крок і не паспееш вокам маргнуць, як трапіш у ваду. Такія прыбярэжныя кручы ў нашых краях ёсць толькі на Дняпры. А гэтая круча своеасаблівая. Высачэзны бераг у гэтым месцы трохі адышоў ад ракі на пэўную адлегласць і аддзяліўся ад вады нізіннай абалонай. Круча ж, нібы нязвычны берагавы адростак, з магутнымі ліпамі, вязамі і соснамі, якія растуць на ім, не ўступіла бурлівай вадзе, не дала сябе змыць, растварыць, унесці па часціках. Так утварыўся мыс. З яго добра відаць зарэчныя далячыні, праглядваецца рака ўверх і ўніз па цячэнні. Днепр перад самым мысам робіць круты паварот. Мабыць, таму і без таго хуткая вада набірае дадатковую хуткасць і быццам бы сама сябе спяшаецца абагнаць. Зверху з мыса бачна, як гэтую хуткасць набывае не ўвесь рачны паток, а толькі асобныя яго струмяні. Такія месцы на рацэ з даўніх пор атрымлівалі назву *стрыж, стрыжань,* ці *стрэж, стрэжань.* Гэтае слова мае ў гаворках некалькі значэнняў, але для нашага прыкладу найбольш паказальныя наступныя: "цэнтральнае цячэнне ракі", "хуткае цячэнне ракі", "фарватар ракі, сярэдняя частка з хуткім цячэннем". Згодна з геаграфічнымі апісаннямі, *стрэжні, стрыжані,* ці месцы на рацэ, дзе вада мае найбольшую хуткасць цячэння і найбольшую глыбіню, часцей за ўсё сустракаюцца паблізу ўвагнутых берагоў і не абавязкова супадаюць з сярэдзінай ракі. Усё гэта якраз так, як у апісваемым месцы.

Нездарма дадзенае месца так і назвалі — *Стрэжань (Стрыжань).* Хутка гэтая назва была перанесена на мыс, на якім у свой час з'явіліся людзі і аселі на сталае жыццё. Потым гэтым словам назвалі і пасяленне — невялікі ўмацаваны гарадок. З цягам часу назва перайначвалася ў мове мясцовых жыхароў, урэшце яна зафіксавалася ў форме *Стрэшын*, у якой існуе і цяпер.

Пляцоўку на мысу, дзе пачынаўся Стрэшын (цяпер гэта — гарадскі пасёлак Жлобінскага раёна за 21 кіламетр на поўдзень ад Жлобіна), мясцовыя жыхары называюць "Гарадком". Сапраўды, гарадок існаваў тут у часы Кіеўскай Русі. Як сведчаць археалагічныя раскопкі, якія праводзіліся на стрэшынскім Гарадку ў 1966 годзе, паселішча тут узнікла не пазней ХП ст. Археолагі знайшлі сашнік, наканечнікі стрэл, нажы, шкляныя бранзалеты і пацёркі, касцяныя грабяні, косці свойскіх і дзікіх жывёл. У старажытнарускі час Стрэшын не быў горадам. Ён узнік як умацаваны замак, які меў перш за ўсё ваеннае прызначэнне. Старажытны Стрэшын — гэта парубежная крэпасць над Дняпром на паўночна-заходніх межах былога Чарнігаўскага княства. Калі паглядзець на карту Старажытнай Русі XII ст., узнікненне Стрэшына становіцца зразумелым. Ён размяшчаўся на стыку зямель чатырох княстваў — Чарнігаўскага, Тураўскага, Полацкага і Смаленскага. Таму, дарэчы, як і Рагачоў, Стрэшын быў заснаваны, як мы мяркуем, чарнігаўскімі князямі для абароны сваіх паўночных уладанняў, на якія таксама прэтэндавалі моцныя полацкія князі. Пры такім тлумачэнні становяцца зразумелымі магутныя земляныя валы і роў, якія аддзялялі гарадзішча з боку поля. Калі Стрэшын страціў сваё стратэгічнае прызначэнне, паступова па-за валам і ровам вырасла невялікае неўмацаванае пасяленне.

Ці ведаюць стрэшынцы аб вытоках свайго мястэчка? У мяне склалася ўражанне, што ведаюць даволі павярхоўна. А што перашкаджае паставіць на тэрыторыі "Гарадка" памятны знак? Археалагічныя ж помнікі павінны забяспечвацца таблічамі, стэламі, знакамі. Праўда, на мысе ёсць помнік. Ён пастаўлены там у 1965 годзе на ўшанаванне памяці 319 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Нельга сказаць, што гэтая скульптурная кампазіцыя (воін і дзяўчына) стаіць не на сваім месцы: яна гарманічна ўпісваецца ў навакольны ландшафт. Але калі б помнік землякам дапаўняўся яшчэ памятным знакам з пералікам асноўных этапаў старажытнай гісторыі Стрэшына, то стваралася б своеасаблівая пераклічка эпох — легендарнай і гераічнай.

Гарадскі пасёлак Стрэшын даволі часта сустракаецца на старонках гістарычных даследаванняў. Справа ў тым, што некаторыя вучоныя атаясамляюць яго са старажытным горадам Стрэжавам, які ўпамінаецца ў Суздальскім летапісу пад 1127 годам і ў Іпацьеўскім летапісу пад 1159 годам і які змешчаны таксама ў "Списке русских городов дальних и ближних", складзеным у канцы XIV ст.

Не кранаючы гістарычных бакоў гэтага складанага пытання (у Старажытнай Русі маглі існаваць некалькі пунктаў з назвай

Стрэжаў), напрыклад, у Полацкім княстве таксама быў Стрэжаў, які размяшчаўся на Заходняй Дзвіне на паўдарозе паміж Віцебскам і Полацкам, адзначым, што, з лінгвістычнага пункту гледжання, цяжка растлумачыць змяненне назвы Стрэжаў у Стрэшын. Таму, відаць, трэба прызнаць, што наддняпроўскі Стрэшын у летапісах не ўпамінаецца.

А калі гэта так, то першае яго з'яўленне ў пісьмовых крыніцах адносіцца толькі да 1399 года. Пад гэтай датай назва мястэчка зафіксавана ў даравальнай грамаце вялікага князя літоўскага Вітаўта, згодна з якой Стрэшын прыпісваўся ва ўладанне віленскаму кананікату. Дадзены дакумент знойдзены ў кнізе "Акты, относящиеся к истории Западной России..." (том I, Пецярбург, 1846 год).

Далейшых канкрэтных звестак аб Стрэшыне няма. Аднак ці можам мы сказаць, што жыццё ў мястэчку праходзіла павольна, ціха, без усякіх значных падзей і здарэнняў? Наўрад ці. Стрэшын размяшчаўся паблізу пагранічча Вялікага княства Літоўскага з Масковіяй. Спрэчкі паміж дзвюма гэтымі дзяржавамі, набіраючы сілу ў XV ст., прывялі да спусташальных і крывавых сутыкненняў у XVI ст. Князі Вялікага княства Літоўскага карысталіся дапамогай крымскіх татар, для якіх удзел у войнах быў добрай зачэпкай для рабунку і разбою.

Відаць, дзяды і бабулі сучасных старажылаў Стрэшына захавалі ад сваіх прадзедаў памяць аб тым, як у тыя часы ратавалася насельніцтва мястэчка ў лясах, што падыходзілі з усіх бакоў да Дняпра, і ў зарасніку ля вады пад берагавой стромай.

Войны і спусташэнні працягваліся і ў XVII — XVIII стст. Не абыйшлі гэтых мясцін паўстанне супраць польскіх паноў пад началам Багдана Хмяльніцкага і наступныя войны Расіі з Рэччу Паспалітай. У 1793 годзе ў выніку другога падзелу польскай дзяржавы Стрэшын апынуўся ў складзе Расійскай імперыі. Праз некаторы час ён стаў цэнтрам воласці Рагачоўскага павета.

Новы этап у гісторыі мястэчка пачаўся ў канцы XVIII ст., калі руская імператрыца Кацярына II падаравала Стрэшын графу Остэрману. Граф Аляксандр Іванавіч Остэрман-Талстой з'яўляўся выдатным ваенным дзеячам, які асабліва вызначыўся ў руска-турэцкай вайне 1787—1791 гадоў. За гэтую кампанію ён атрымаў ад імператрыцы вялікія ўзнагароды. У далейшым гэты генерал праявіў сябе ў Айчыннай вайне 1812 года, быў адным з герояў Барадзінскай бітвы.

З'яўленне графа Остэрмана ў Стрэшыне азнаменавалася кароткачасовым, але даволі значным уздымам мястэчка. Цяпер аб гэтым не памятаюць, нават імя заслужанага генерала многія стрэшынцы ніколі не чулі. А, між тым, перыяд Остэрмана (назавём яго так) у Стрэшыне адлюстраваўся ў старадаўняй, унікальнай і адной з найбольш значных пабудоў беларускага Палесся. Маецца на ўвазе Пакроўская царква 1807 года. На думку спецыялістаў, гэты помнік архітэктуры класіцызму з'яўляецца рэдкай для Беларусі пабудовай. Па сваёй кампазіцыі царква ўяўляе квадрат са зрэзанымі вугламі, да якога з чатырох бакоў прылягаюць паўкруглыя аднолькавыя прыбудовы, адна з

якіх занята пад алтар. У кожнай прыбудове ёсць уваход з высокім мураваным ганкам. Нягледзячы на культавае прызначэнне, архітэктура стрэшынскага храма Пакрова мае свецкі характар. Відаць, у XIX ст. велічны храм пазалотай сваіх купалоў цешыў вочы многім падарожнікам, якім даводзілася праплываць паблізу стрэшынскага мысу ці затрымлівацца ў гэтым месцы.

У мясцовай бібліятэцы мне паказалі "Летапіс Стрэшына" (1917—1967 гады), складзены да 50-годдзя Савецкай улады. Добрым словам успамінаюць стрэшынцы Васіля Іванавіча Матуса, мясцовага настаўніка, які быў натхніцелем, арганізатарам ды і галоўным выканаўцам складанай і карпатлівай работы па збіранні звестак для летапісу. Летапіс на самай справе зроблены цудоўна. Ім застанецца задаволены, на наш погляд, самы дапытлівы даследчык. Хроніка падзей змяняецца ў летапісу замалёўкамі аб людзях, героях і працаўніках Стрэшына, звесткі за кожны год Савецкай улады падмацоўваюцца статыстычнымі выкладкамі і лічбавымі паказчыкамі. Акрамя таго, летапіс ілюстраваны фотаздымкамі. Ёсць у ім і унікальныя факты, узятыя з архіўных крыніц, і апісанні мясцовых падзей у першыя паслярэвалюцыйныя гады, якія могуць удакладніць даследаванні вучоных аб ўстанаўленні Савецкай улады ў Беларускім Падняпроўі.

Вось некаторыя з гэтых даволі цікавых звестак. У 1880 годзе ў Стрэшыне пражывала 1064 чалавекі, было 183 драўляных і мураваных дамоў. На Дняпры існавала прыстань, адзін раз на год (на Пакроў) праводзіліся кірмашы. Па перапісу 1912 года ў Стрэшыне налічвалася ўжо 2500 жыхароў. Лепшыя землі і лепшыя заліўныя сенажаці вакол мястэчка належалі князю Друцкаму-Сакалінскаму, маёнтак якога знаходзіўся ў вёсцы Остэрманск (потым — Эрштэрмай, цяпер — вёска Адраджэнне), недалёка ад Стрэшына. Князь з'яўляўся членам Дзяржаўнага Савета пры Мікалаю II. У сваім маёнтку ён меў спіртавы завод, жывёлагадоўчую ферму, вялікі сад з сажалкай. У Стрэшыне ў той час існаваў невялікі цагельны завод, мясцовы гандаль дробным таварам трымалі ў руках некалькі мясцовых гандляроў-яўрэяў. Жыхары пакутавалі ад беззямелля ці малазямелля. Убогія хаты, скучанасць насельніцтва, беднасць — характэрныя асаблівасці перадрэвалюцыйнага Стрэшына.

Сяляне воласці адгукнуліся на рэвалюцыйныя падзеі 1917 года. Ужо ў сакавіку гэтага года ў Стрэшыне быў створаны Савет рабочых і сялянскіх дэпутатаў. У навакольных вёсках нарастаў рух за перадачу зямлі сялянам. У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня на базарнай плошчы ў Стрэшыне адбыўся мнагалюдны мітынг. Народ патрабаваў неадкладнага здзяйснення закліку "Уся зямля — сялянам!". Не дапамаглі ні пагрозы, ні ўгаворы князя Друцкага-Сакалінскага.

Стрэшынцы ганарацца сваімі землякамі. Некаторыя з іх знаходзіліся ў складзе чырвонагвардзейскага атрада "Сацыялістычная рота", які быў арганізаваны для разгрому мецяжу Карнілава. Жыхар Стрэшына Іван Восіпавіч Генаў удзельнічаў у штурме Зімняга палаца, а яго зямляк Георгій Восіпавіч

Бадзілоўскі быў вартаўніком на I з'ездзе Саветаў, чуў прамову Леніна.

Савецкая ўлада ў Стрэшыне ўстаноўлена 19 лістапада 1917 года. Шмат іншых цікавых фактаў захоўвае "Летапіс Стрэшына". Але ён завяршаецца 1967 годам. Таму ўжо сёння летапіс — своеасаблівы архіўны дакумент.

Мімавольна ўспамінаюцца тыя радкі з летапісаў Стрэшына, якія расказваюць пра аднаго з першых мясцовых настаўнікаў — Рыгора Акімавіча Сакалова. Р. А. Сакалоў з'явіўся ў Стрэшыне ў 1913 годзе. Ён быў сасланы з Яраслаўскай губерні за ўдзел у рэвалюцыйным руху. У той час у Стрэшыне існавала двухкласнае вучылішча. Сакалоў і пачаў у ім настаўнічаць. Гэтай справе ён прысвяціў усё сваё далейшае жыццё і да 1930 года, пакуль дазвалялі сілы, працаваў у стрэшынскай школе. Ён цікавіўся мясцовай гісторыяй, пачаў складаць першы летапіс пасёлка. Акрамя таго, прывіў многім мясцовым жыхарам любоў да пчалярства.

Галоўнае ў тым, што Р. А. Сакалоў працаваў, як кажуць, з душой. А такія людзі заўсёды пакідаюць пасля сябе добрую памяць.

На гэтым мы паставім кропку ў нашым падарожжы ў стрэшынскае мінулае. Як мог заўважыць чытач, мы не імкнуліся паслядоўна і падрабязна апісваць гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў гэтым невялікім населеным пункце на Гомельшчыне. Мы толькі засяродзілі ўвагу на асобных, найбольш яскравых і паказальных эпізодах прыбярэжнага гарадка над стромай.



## САМАЯ СВОЕАСАБЛІВАЯ НАЗВА ПАЛЕССЯ

На карце нашай Радзімы наогул не вельмі многа назваў, якія ўзніклі ў глыбокай старажытнасці; існавалі ў мове многіх пакаленняў, але з часам набылі велічны і сімвалічны сэнс, сталі дарагімі і зразумелымі без дадатковага тлумачэння не толькі сваім жыхарам, але і людзям, якія жывуць далёка ад гэтых мясцін.

Менавіта такі лёс у назвы вёскі *Ленін* Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Узнікла вёска ў далёкім мінулым на берагах ракі Случ. Першае пісьмовае паведамленне аб мястэчку Ленін, знойдзенае супрацоўнікамі Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР у фондзе князёў Радзівілаў, адносіцца да 1582 года. Аднак не выключана, што населены пункт Ленін існаваў яшчэ ў канцы XIV — XV ст. і ўваходзіў у склад Слуцкага княства. Хто і калі так назваў вёску, невядома. Цяжка адразу дакладна адказаць і на пытанне, што азначала першапачаткова гэта гістарычнае імя. Але вось што цікава: у спісах населеных пунктаў Расійскай імперыі, якія складаліся Геаграфічным таварыствам пры Акадэміі навук, у Еўрапейскай частцы краіны лічыцца толькі адно пасяленне ў форме *Ленінъ*. Гэта і было мястэчка ў глыбіні Беларускага Палесся. А калі быць да канца дакладным, то трэба адзначыць, што звесткі аб мястэчку Ленін маюцца ў кнізе "Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. V. Губернии Литовской и Белорусской областей", а таксама ў працы "Россия. Полное географи-

ческое описание нашего Отечества. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия".

Здарылася так, што ў бібліятэчных архівах я нечакана адшукаў старадаўнія апісанні, зробленыя падарожнікам, які быў у нашых мясцінах і потым падзяліўся сваімі ўспамінамі аб тых днях на старонках невялікай кніжкі. Гэтая кніжка называецца "По родным краям", яе напісаў М. І. Мігай. У адной з глаў кніжкі апісвалася наведванне аўтарам палескіх мясцін — побач з вёскамі *Ленін і Яскавічы* (вёска *Яскавічы*, ці *Яськавічы* ўваходзіць у склад Салігорскага раёна Мінскай вобласці). Нагаданыя нарысы аб'ядноўвае адна асаблівасць: у іх з фатаграфічнай дакладнасцю адлюстроўваюцца ўсе падрабязнасці тагачаснага жыцця. Яны і складалі сапраўды храналагічны працэс, менавіта тую гісторыю, якую мы прагна імкнемся пазнаваць.

Вось як апісвае М. І. Мігай падарожжа ў палескае мястэчка Ленін пачатку XX стагоддзя*.

"... Вакол нас хмурна тоўпіцца густы, бязладны змешаны лес. Сіратліва распусціўшы галінкі, ціснуцца адна да адной купкі плакучых бяроз, горды незалежны дуб смела растапырыў моцныя вузлаватыя суччы... Лес часам пераходзіў у паляну, вялікую ці маленькую, але ўсё роўна стаяў тут жа, вакол, і ўпарта сачыў, каб палянка не разраслася і не адабрала ў яго зямлі. Праз некаторы час дарога стала больш шырокай, здалёк данесліся сабачы брэх і гоман населенага месца. Хутка паказалася вялікае мястэчка Ленін..."

Аўтар не спыняецца на мінулым, няхай нават і нядаўнім, гэтага населенага пункта. Таму ёсць сэнс зазірнуць у іншыя крыніцы, балазе, такая магчымасць у нас ёсць.

Згодна з гістарычнымі даведкамі з 5-га тома "Геаграфічнага слоўніка", "Ленін — мястэчка з абшчынным кіраваннем. Да XVII ст. — спадчынны маёнтак князёў Алелькавічаў. З першай чвэрці XIX ст. стала ўласнасцю князёў Вітгенштэйнаў. Мястэчка мае 75 пасёлкаў-двароў, мост на Случы. Абшчына складаецца з 13 вясковых старастваў, 40 вёсак і налічвае 1729 сялян мужчынскага полу..."**.

Вялікую цікавасць — звернемся зноў да кнігі М. І. Мігай — выклікае апісанне сялянскай хаты. "У хаце на прыпечцы гарэла лучына. Каля агеньчыка сядзела і шыла пажылая баба, побач з ёю знаходзілася дзяўчынка і хлопчык, чыста і клапатліва апранутыя. Хлопчык жмурыўся, разбіраў кніжку. Газы тут мала хто паліць: яе даставаць цяжка, далёка за ёй ездзіць, ды й грашамі тутэйшыя мужыкі небагатыя. Затое ў лесе шмат дроў, часта трапляюцца налітыя смалой пні; такі пень, парублены і высушаны, дае багатае асвятленне на ўсю цёмную доўгую зіму.

...Хата добрая, прасторная, з моцнага тоўстага дрэва; у пярэднім вуглу некалькі ікон, завешаных узорыста шытымі і тканымі ручнікамі. У хаце вялікая печ, каля яе на дзвюх шырокіх полках грувасціцца посуд, адтуль жа блішчыць сама-

---

* *Мигай М. И.* По родным краям. Пб., 1912.

** Slownik geograficzny. Warszawa, 1884. Т. 5. С. 141—142.

вар, які ў Палессі надзвычай вялікая рэдкасць. Хата падзяляецца на дзве часткі: жылую — з печчу, і халодную (клець, дзе складзена багацце сям'і). Двор цесна застаўлены ўсялякімі гаспадарчымі збудаваннямі, паўсюдна ляжаць няхітрыя прылады і інструменты.

Па вёсцы ходзіць жывёла: дробныя, худыя коні з клоччамі зваляўшайся шэрсці, карбўка туліцца ля сцен на яркім сонечным святле; побач стаяць дзіўныя касматыя санітары-свінні.

Пры ўездзе ў палескую вёску — крыж з іконай, увешаны шматкамі тканіны і шытымі ручнікамі. Па павер'ю палешукоў — гэта ахвяры багам палёў і дарог. Цікавы звычай — рэшткі язычніцтва.

Вакол мястэчка і вёсак — бясконцыя балоты, па краях якіх бачны ліловыя абрысы далёкіх бярозавых гаёў. У сухія гады тут добрыя сенакосы. У мокры год амаль нічога не робіцца, бо не толькі касіць, а і хадзіць немагчыма. Па балотах накапана вялікая колькасць канаў, якія выконваюць ролю дрэнажных каналаў. Без іх абыходзіцца зусім цяжка, бо за балотамі знаходзяцца палі. Каналы прарытыя не абы-як: перш чым капаць, усё вылічваецца, вымерваецца, робяцца планы і чарцяжы. Большасць каналаў прарыта казной, іх устройваюць таксама мясцовыя гаспадары і сельскія абшчыны".

Каналы і грэблі — гэта атрыбуты ўжо новага часу. А быў час, калі не было і іх, і тут знаходзілася адно толькі балота. Чым жа ў такім разе тлумачыцца з'яўленне ў гэтым краі людзей, чаго шукалі яны ў не прыгодных для жыцця мясцінах?

Відаць, каб адказаць на гэтае пытанне, аўтар перадае адну з цікавых легенд аб узнікненні вёскі *Яскавічы*. Згодна з паданнем, вёску заснаваў ляснік Ясь, які вымушаны быў хавацца ў балотах, каб уберагчы сваю прыгажуню-жонку ад лютага пана.

У нейкай ступені гэтае паданне адпавядае рэчаіснасці: самыя недаступныя месцы нярэдка абжываліся ўцекачамі, якія ратаваліся ад непамернай няволі і гнёту паноў. М. І. Мігай не ведае паданняў пра вёску Ленін. Відаць, іх зусім няма і ніколі не было. Аднак застаюцца гістарычныя і тапанімічныя аналогіі, якія дазваляюць меркаваць вось аб чым.

Вытокі пасяленняў на месцы будучай вёскі Ленін, на наш погляд, можна шукаць яшчэ ў канцы XIV — пачатку XV ст. Рака Случ, на якой размешчана вёска, з'яўлялася водным шляхам, што звязваў з дапамогай складанай сістэмы волакаў вярхоўі Нёмана і Прыпяці. На такіх шляхах, у большасці гандлёвых, і ўзнікалі тыя населеныя пункты, якія вядомыя цяпер нам. Цікава, што ў сістэме Прыпяці ёсць два прытокі пад адной і той жа назвай Случ — паўночны і паўднёвы. А гэта сведчыць аб тым, што наша меркаванне аб выкарыстоўванні адной і другой ракі як шляхоў зносін, па сутнасці, правільнае.

Што датычыць вытокаў назвы *Ленін*, то пакуль тут няма адназначнага адказу. Некаторыя даследчыкі-тапаністы схіляюцца да таго, што назва ўтварылася ад нейкага асабовага імя ці прозвішча, напрыклад Лень ці Лінь (гл. "Краткий топонимический словарь Белоруссии" В. А. Жучкевича). На гэта, у прыватнасці, паказвае структура наймення, асабліва наяўнасць

суфікса *-ін*, які якраз часта ўтвараў шматлікія назвы ад імёнаў і прозвішчаў. Існуе і іншая магчымасць адшукаць паходжанне назвы *Ленін*. Той жа суфікс *-ін* у такіх геаграфічных найменнях, як, напрыклад, *Кобрын, Лагішын, Брагін, Камарын*, указвае не на прозвішчы, а хутчэй на нейкія геаграфічныя асаблівасці мясцовасці, дзе размешчаны адпаведныя пасяленні. Вось і назва *Ленін* можа быць звязана з нейкім народным геаграфічным тэрмінам, абазначаўшым прыродныя асаблівасці тутэйшых мясцін — багны, балоты, дрыгвяністую глебу, водныя прытокі і гэтак далей. У басейне Днястра маецца рэчка Ленінка (Леніна). Рачулка пад назвай *Лянівая Грэбля* вядома ў басейне ракі Рось на Украіне (Дняпроўскае Правабярэжжа), там жа бытуе і агульнае слова *ляніўка* — "узвышша на балоце". Нагадаем, нарэшце, і такія назвы беларускіх населеных пунктаў, як Ле́навічы (Салігорскі раён), *Ляня́вічы* (Капыльскі раён), *Ленполле* (Горацкі раён). Усе яны, на наш погляд, роднасныя тапоніму Ленін. Толькі вось значэнне асновы (кораня) у іх застаецца пакуль цьмяным, незразумелым, гіпатэтычным.

Вернемся да той часткі кнігі М. І. Мігая, дзе ён разважае аб выкарыстанні водных шляхоў у апісваемым кутку Палесся. "Зімой лес увесь зрэзаны тысячамі вузенькіх санных сцяжынак, па якіх вывозіцца лясное багацце і канцэнтруецца па берагах рэк і каналаў у чаканні вясны. Як толькі ачысцяцца ад лёду водныя шляхі, незлічоныя чароды дроў, калод, шпал рушацца да Прыпяці, звязаныя ў маленькія плыты ці самаплавам. Некалькі рабочых з бусакамі ідуць уздоўж рэк і праштурхоўваюць лясіну ці плыт. З Прыпяці сплаўны лес ў выглядзе вялікіх плытоў плыве на поўдзень, да Херсона, ці накіроўваецца на захад, у Германію, па каналах цераз Заходні Буг і Нёман".

Мы бачым, што спрадвеку жылі тут людзі небагата, карысталіся дарамі неабсяжных лясоў, займаліся рыбалоўствам і паляваннем, а на свабодных ад лесу і ўзвышаных кавалках зямлі вырошчвалі хлеб і агародніну. Аб усім гэтым захаваліся звесткі ў краязнаўцаў Леніна.

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР захоўваюцца дакументы, якія сведчаць аб непадпарадкаванні сялян былой Ленінскай воласці Мазырскага павета Мінскай губерні ў час набліжэння рэвалюцыйных падзей у краіне. Напярэдадні 1917 года ў Леніне існаваў і дзейнічаў моцны бальшавіцкі цэнтр. Сярод жыхароў вёскі і навакольных населеных пунктаў Ленінскай воласці распаўсюджваліся лістоўкі, брашуры, газеты. Наколькі моцнай была арганізацыя бальшавікоў у Ленінскай воласці, можна меркаваць па наступным факце. Па ўспамінах А. Купрыяновіч, дачкі рэвалюцыянера, ураджэнца вёскі Грычынавічы Ленінскай воласці Мазырскага павета Уладзіміра Федаровіча, якія захоўваюцца цяпер у Ленінскім народным музеі, У. Федаровіч і яго брат Сямён Васільевіч у 1913 годзе былі арыштаваны і асуджаны за рэвалюцыйную дзейнасць на 8 гадоў катаржных работ са ссылкай у Сібір. І гэта нягледзячы на тое, што Сямён Федаровіч у той час быў непаўналетнім. Магчыма, таму ў апошні момант катаргу яму замянілі чатырма гадамі перасыльнай турмы.

Скупыя звесткі аб жыцці і дзейнасці асобных ураджэнцах Ленінскай воласці, якія захаваліся дзякуючы ўспамінам старажылаў, яскрава сведчаць аб тым, як змагаліся бальшавікі-ленінцы ў перыяд суровых выпрабаванняў.

Сямёна Федаровіча, напрыклад, называлі чалавекам з легенды. Адбыўшы пакаранне, ён вярнуўся ў родную вёску і ўжо праз некалькі дзён устанавіў сувязь з Лунінецкай партыйнай арганізацыяй, якая прыняла яго ў свае рады. Таварышы па партыі высока цанілі яго смеласць, мужнасць. Яму даручалі самыя адказныя заданні, і дзякуючы ініцыятыве Федаровіча і яго таварышаў голас ленінскага бальшавіцкага цэнтра пранікаў у самыя аддаленыя куткі Палесся.

Аб арганізаванасці рэвалюцыянераў-ленінцаў, іх уплыве на сялянскія масы воласці гаворыць і тое, што Савецкая ўлада ў мястэчку Ленін была ўстаноўлена 8 лістапада 1917 года, на другі дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. 26 кастрычніка (8 лістапада па новаму стылю) 1917 года ў Мінску была атрымана дэпеша: уся ўлада ў глыбіні Палесся, у Мазырскім павеце, — у руках членаў Мазырскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Дэпешу гэту даслаў на адрас Мінскага аддзялення РСДРП(б) С.Федаровіч, які быў прызначаны эмісарам у Мазырскі павет.

Падрабязнасці падзей тых дзён добра ведае старшыня савета Ленінскага народнага музея Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці Уладзімір Уладзіміравіч Баярын, былы настаўнік мясцовай школы, патрыёт сваёй зямлі, актыўны прапагандыст гісторыі Палескага краю. З летапісу, які складае У. У. Баярын, мы даведаліся аб далейшых падзеях, якія разгортваліся ў мястэчку Ленін у першыя паслярэвалюцыйныя гады.

З дня ўстанаўлення Савецкай улады па люты 1918 года ўся тэрыторыя Ленінскай воласці знаходзілася пад кантролем мясцовага Савета. Старшынёй валаснога рэвалюцыйнага камітэта быў выбраны ўраджэнец вёскі Грабава Ленінскай воласці, адзін з ветэранаў бальшавіцкай партыі Барыс Дубровін.

Далей падзеі змяняюць адна другую, як у калейдаскопе. Амаль год, з лютага па снежань 1918 года, у Ленінскай воласці пануе гетман Скарападскі. 6 снежня 1918 года атрады гетмана былі выбіты з Леніна, і ў воласці зноў устанавілася Савецкая ўлада. 16 жніўня 1919 года члены Ленінскага валаснога рэвалюцыйнага камітэта з баямі вымушаны былі пакінуць вёску, у якую ўварваліся польскія легіянеры. Новыя гаспадары пачалі ўсталёўваць новы парадак. Якім ён быў, добра апісана ў аповесці Якуба Коласа "Дрыгва". З 9 кастрычніка па 9 снежня 1919 года ў суседнім з вёскай Ленін населеным пункце Мікашэвічы, які ў той час уваходзіў у склад Ленінскай воласці (цяпер — населены пункт Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці), праходзілі перагаворы прадстаўнікоў Савецкага ўрада і панскай Польшчы. Гэтым перагаворам асабіста У. І. Ленін надаваў надзвычай вялікае значэнне. 16 ліпеня 1920 года ва ўсёй Ленінскай воласці другі раз была адноўлена Савецкая ўлада. Зямля была перададзена сялянам, пачаліся іншыя рэвалюцыйныя пераўтварэнні. Аднак вельмі хутка, з сакавіка 1921 года (і на гэты раз на доўгія

18 гадоў — да 17 верасня 1939 года), на ленінскай зямлі зноў устанавілася ўлада польскіх паноў.

Як мы ўжо адзначалі, здарылася так, што гістарычная назва мястэчка Ленін пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі набыла сімвалічны сэнс, атрымала нібы другое жыццё. Гэта ўсведамлялі не толькі жыхары Ленінскай воласці, якія ганарыліся тым, што назва іх родных мясцін сугучна з імем правадыра Краіны Саветаў, але і ворагі Савецкай улады. Спрадвечная назва вёскі Ленін не давала спакою польскім акупацыйным уладам. Яна таксама змагалася, была нібы жывым прапагандыстам і мела ўплыў на польскіх легіянераў. І прадстаўнікам улады панскай Польшчы нічога іншага не заставалася, як пачаць барацьбу ... з назвай.

У процівагу перакананню простых сялян у тым, што У. І. Ленін сваім псеўданімам парадніўся з імі, гістарычнымі ленінцамі (дарэчы, менавіта так — гістарычныя ленінцы — яны сябе і называлі), польскія ўлады прапаноўвалі шэраг наўмысна неверагодных версій аб паходжанні назвы вёскі Ленін. І калі мы пішам сёння пра гэта, то дзеля памяці тых "гістарычных ленінцаў", якія змагаліся за Савецкую ўладу, для якіх слова *Ленін* — імя правадыра рэвалюцыі і назва іх роднай мясцовасці — было велічным сімвалам.

Польскія легіянеры наўмысна ўсюды на дарогах, што вялі ў мястэчка Ленін, ставілі шыльды на слупах з новай назвай *Саснковічы* (генерал быў такі ў пагранічных польскіх войсках — Саснкоўскі). Але гэтыя шыльды і слупы доўга не трымаліся: патрыёты зрывалі, ламалі іх і замянялі іншымі — з надпісам "Ленін". Магчыма, менавіта ў тыя цяжкія гады выпрабаванняў, барацьбы і надзей была кімсьці выпушчана заведама фальшывая легенда пра панскую дачку Лену, якая, быццам бы, патанула ў Случы, а яе бацька, нейкі пан Агаркаў, назваў суседні населены пункт — Леніна.

Мінулі гады. Аб тых далёкіх падзеях памятаюць толькі ветэраны. Іх расказы і ўспаміны старанна збіраюць сёння краязнаўцы — вучні Ленінскай сярэдняй школы. Сярод матэрыялаў ёсць шмат цікавых дакументаў. Вось, напрыклад, запісаныя імі словы камуніста Васіля Цітовіча, барацьбіта за Савецкую ўладу ў Ленінскай воласці: "... Псеўданім У. І. Ульянава — Ленін і імя Ленінскага раёна — адно цэлае. І я, камуніст ленінскага прызыву, перадаю вам: ахоўвайце гэта святое і дарагое імя пры любых абставінах, любымі сродкамі, а калі патрэбна будзе, то і цаной свайго жыцця". Менавіта так паступалі жыхары былой Ленінскай воласці і ў цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны, калі за адно толькі імя — ленінец, якім называлі сябе людзі, акупанты расстрэльвалі без суда і следства.

Магчыма, менавіта у цяжкія гады выпрабаванняў, калі Ленінская воласць знаходзілася пад уладай панскай Польшчы, і потым, пасля невялікага перапынку ў 21 месяц і 5 дзён, калі на тэрыторыю новага раёна Савецкай Беларусі — Ленінскага, уварваліся нямецка-фашысцкія захопнікі, нарадзілася думка-перакананне бальшавікоў-падпольшчыкаў і партызан-ленінцаў аб тым, што У. І. Ленін парадніўся з жыхарамі гістарычнай

Ленінскай воласці не толькі ўскосна — праз супадзенне свайго псеўданіма і назвы вёскі*.

На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі Ленін насыпаны велічны курган з абеліскам на вяршыні. Тут пахаваны 1250 савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў, расстраляных у 1941—1942 гадах нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сумны факт: з 5000 жыхароў Леніна пасля вайны ў жывых засталося толькі 120. У самім мястэчку не ўцалела ніводнага збудавання.

Побач са свяшчэнным Курганам знаходзіцца брацкая магіла вязняў гета, якія былі расстраляны 14 жніўня 1942 года. Пахаваны ў гэтай магіле дзеці, старыя, жанчыны, усяго — каля 2000 чалавек.

Не знікаюць жывыя кветкі і на брацкай магіле спаленых мірных грамадзян мястэчка Ленін. 16 лютага 1943 года фашысцкія вылюдкі ўварваліся ў партызанскую зону Ленінскага раёна, захапілі 1200 жанчын і дзяцей і ўсіх закатавалі. Такім чынам, у адных толькі брацкіх магілах вёскі Ленін — прах амаль 4,5 тысячы савецкіх грамадзян.

Ужо ў 1942 годзе на тэрыторыі былой Ленінскай воласці была ўтворана партызанская зона і ўстаноўлена Савецкая ўлада. Да канца 1942 года з 17 нямецка-фашысцкіх гарнізонаў у Ленінскім раёне засталося толькі 4.

Цяжкі, але слаўны лёс выпаў на долю палескіх ленінцаў, для якіх сама гісторыя вызначыла сімвалічнае імя, якое клікала іх на барацьбу і аб'ядноўвала ў самых цяжкіх выпрабаваннях.

---

* У апошні час ленінскі краязнаўца У. У. Баярын актыўна распрацоўвае версію, згодна з якой У. І. Ульянаў-Ленін узяў свой псеўданім менавіта ад назвы гэтага старажытнага палескага мястэчка — Ленін. Краязнаўца абгрунтоўвае свае меркаванні не толькі ўспамінамі і расказамі старажылаў, але і цікавымі дакументамі, якія захоўваюцца ў Ленінскім народным музеі.





## ТРЫ НАЗВЫ АДНАГО ВОЗЕРА

Кожнае геаграфічнае імя можна разглядаць з розных бакоў, улічваючы лінгвістычныя, геаграфічныя і гістарычныя ўмовы нараджэння назвы. У большасці выпадкаў назвы даносяць да нашага часу светапогляд і светаўспрыманне тых людзей, якія мелі дачыненне да геаграфічнага наймення, уклалі ў яго адпаведны сэнс і характэрную ідэю.

Кожная назва — гэта не толькі геаграфічны, моўны, але яшчэ і сацыяльны знак, які выконвае функцыю ўздзеяння, ці, як яе інакш называюць, ідэалагічную функцыю. Мінае час, і ідэалагічныя ўстаноўкі, як, вядома, мяняюцца. І вось гэты, таксама аб'ектыўны працэс закранае і геаграфічныя назвы. Тады пачынаюцца перайменаванні. Зразумела, гэта датычыцца не ўсіх найменняў, а толькі невялікай іх часткі. Тым не менш, здараецца так, што страта нават аднаго якога-небудзь тапоніма бывае вельмі адчувальнай, бо, па-першае, у тапаніміі галоўнае значэнне маюць не ідэалагічныя, а культурна-гістарычныя асаблівасці імя, і, па-другое, новыя найменні, якія прыходзяць на змену старым, нярэдка аказваюцца штучнымі і ўжо не могуць разглядацца як частка нашай спадчыны. Аб адным з такіх перайменаванняў і пойдзе размова ў гэтым раздзеле.

На граніцы паміж Мінскай і Гомельскай абласцямі знаходзіцца самы буйны водны аб'ект Палесся, які на сённяшні дзень афіцыйна называецца Чырвоным возерам.

Пра паходжанне гэтай назвы расказваюць дзве легенды. Згодна з адной з іх, "возера Чырвоным завуць за тое, што многа

рыбы ў ім, і рыба ўсё больш чырванапёрая". Другая легенда больш фантастычная. "За валоданне возерам вялікі бой быў паміж асілкамі ці волатамі, цераз пралітую кроў яно Чырвоным і завецца".

Рыбы ў Чырвоным возеры сапраўды шмат, таму першае паданне і выглядае больш верагодным. Што датычыць другой легенды, то ніколі не было тут бітвы казачных волатаў, тым больш, што афіцыйная назва возера — *Чырвонае* — з'явілася толькі ў 1932 годзе.

Калі існуе легенда, мы міжволі пачынаем задумвацца над старадаўнімі яе вытокамі. Але ў дадзеным выпадку нараджэнне легендарнага пераасэнсавання назвы трэба звязваць або з мудрым народным паэтычна-міфалагічным успрыманнем штучнага тапоніма ("біліся ля возера волаты і кроў пралілі"), або з рэальнымі асаблівасцямі самога аб'екта ("рыба ў возеры чырванапёрая"). Ніяк не згаджаліся, не маглі асэнсаваць мясцовыя палешукі тое значэнне, якое павінна была мець назва возера з 1932 года пры ўсёй іх павазе да рэвалюцыйнага чырвонага колеру. Тут ніякая самая неверагодная фантазія не дапамагала прыдумаць больш-менш праўдападобную легенду, якая б тлумачыла, чаму возера стала "рэвалюцыйным", Чырвоным. У той час было не да жартаў. Таму і згадзіліся палешукі з такім дзівосным пераўтварэннем, але ў старых апавяданнях і сваёй памяці маўкліва, але ўпарта, наперакор лёсу захоўвалі папярэдняе імя велічнага возера — К н я з ь-в о з е р а, якое, як здавалася палешукам, існавала спрадвеку, бо яго ўжывалі яшчэ іх дзяды і прадзеды.

Але слова *Князь* прыстасавалася да самага вялікага воднага аб'екта Палесся не больш як 400 — 450 гадоў назад. У дакументах XVI—XVII стст., якія адносяцца да гісторыі Слуцкага княства, назва Князь-возера амаль што не сустракаецца. Яна ўзнікла дзесьці ў палове XVI ст., а калі і раней, то ў афіцыйных паперах не ўжывалася.

Адкуль жа пайшла назва *Князь-возера?* Паводле расказаў жыхароў, пасярэдзіне возера, на востраве, быў замак, які належаў князям Слуцкім-Алелькавічам, нашчадкам вялікіх літоўскіх князёў XIII—XIV стст. (аб прадстаўніках гэтага княжацкага роду ішла размова ў раздзеле "Лельчыцы — Ленчыцы"). Адзін з князёў Слуцкіх пасварыўся са сваім братам і зняволіў яго ў замку. Мінуў некаторы час, вада ў возеры паднялася, востраў патануў, замак апусціўся ў водную цемру. Князь-нявольнік загінуў, а возера з таго часу так і завецца — *Князь-возера*. Мясцовыя жыхары вераць у тое, што на яго дне захаваліся нават каменныя скляпенні. Дарэчы, гэтыя ўяўленні не такія ўжо і казачныя. У паўночнай частцы возера недалёка ад вёскі Дзякавічы (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці) знаходзіцца неглыбокае месца, якое носіць назву "Замак". На гэтым месцы ёсць рэшткі паляў, а таксама і цэглы старажытнай формы. Знайсці гэтае месца могуць толькі вопытныя рыбакі.

З другога боку, нельга забываць, што ў беларускім фальклоры шмат легенд, якія апавядаюць пра цэрквы і манастыры, што праваліліся скрозь зямлю, пра панскія палацы, якія разбураліся

і знікалі за адну жудасную навальнічную ноч ад людскіх праклёнаў за злачынствы ўладальнікаў палацаў. Народ, не маючы часам іншай магчымасці адпомсціць за прыгнёт, прадбачыў будучы страшэнны суд над панамі ў эпічных паданнях і казках.

Таму ці існаваў на самым вялікім палескім возеры старажытны палац, ці не — невядома. Не выключана, што гэта будзе вечнай загадкай, таямніцу якой не разгадаюць ні археолагі, ні гісторыкі, ні нават тапанімісты.

З пункту гледжання тапаніміста, геаграфічную назву *Князь-возера* больш верагодна тлумачыць наступным чынам. Яна, як і падобныя назвы палескіх вёсак *Князь-Бор* Жыткавіцкага раёна і *Княжабор'е* Ельскага раёна Гомельскай вобласці, адлюстроўваюць рэальныя ўмовы ўзнікнення — княжацкае землеўладанне. Невыпадкова ў легендзе паказаны князі Слуцкія, якія валодалі калісьці шырокімі прасторамі Палесся. Ім належала і возера, надзвычай рыбнае. Жыхары навакольных вёсак Дзякавічы, Пухавічы, Ляхавічы якраз і спецыялізаваліся на рыбным промысле.

Магчыма і іншае тлумачэнне назвы *Князь-возера*. Каб яго зразумець, трэба ўспомніць не што іншае, як... Цар-гармату ў Маскоўскім Крамлі. Цар-гармата — значыць самая вялікая і значная, самая лепшая і прыгожая, самая моцная з усіх іншых гармат. Князь-возера сярод бясконцых у гэтым кутку Палесся балот таксама выглядае сапраўднай жамчужынай, велічнай і прыгожай.

Два гэтыя тлумачэнні не супярэчаць адно аднаму. Мы лічым, што ў дадзеным выпадку адбылося пераасэнсаванне тапоніма ад канкрэтнага яго разумення (*Князь-возера* — "возера, якое належыць князям Алелькавічам") да абстрактнага сімвала (*Князь-возера* — цудоўнае, прыгожае, велічнае). Гэта вельмі верагоднае пераасэнсаванне зноў-такі, хоць і ў дастасаванні да іншага часу і іншых абставін, пацвярджае думку аб тым, што народ, рэальны носьбіт і захавальнік назвы, заўсёды імкнецца адшукаць і падкрэсліць такія ясе асаблівасці, якія б адпавядалі ўласна народнаму, а не навязанаму кімсьці з боку светаўспрымання і светапогляду. Зроблены вывад датычыцца абедзвюх, знешне даволі прыгожых назваў — як першай (*Чырвонае возера*), больш новай, таму і больш штучнай, так і другой (*Князь-возера*), у якой штучнасць усведамляецца менш (400—450 год, якія прайшлі з моманту яе ўсталявання, гэта не 60 год, якія мінулі з часу нараджэння *Чырвонага возера*.

Магчыма, той-сёй палічыць такія разважанні надуманымі, асабліва ў адносінах да назвы *Князь-возера*. Зразумела, яна мае больш гістарычны характар, чым такая, *нехлямяжая*, бязглуздая па свайму сэнсу назва, як Чырвонае возера (рэвалюцыйнае). Аднак, калі сур'ёзна задумвацца над вяртаннем самаму велізарнаму возеру Палесся яго спрадвечнага імя, трэба, як кажуць, сто разоў адмераць, перш чым раз адрэзаць.

Справа ў тым, што сённяшні стан возера Чырвонага не дазваляе безагаворачна лічыць яго Князь-возерам Палесся. Неглыбокае спрадвеку (найглыбейшыя месцы — "віры" ў мінулым дасягалі трох сажняў), возера сёння ператварылася ў балота,

царства азёрнага ілу-сапрапелю. Адбіліся вынікі шматгадовых непрадуманых і згубных для унікальнай палескай прыроды меліярацыйных работ. Калі тэрмінова нічога не рабіць па выратаванні вадаёма, то ў хуткім часе мы будзем фактычна гаварыць не аб вялікім і маляўнічым палескім *Князь-возеры*, але аб велізарным палескім *Князь-балоце.*

Найбольш рэальным у цяперашніх абставінах і абгрунтаваным, з гістарычнага пункту погляду, было б вяртанне сённяшняму Чырвонаму возеру таго імя, якое ўзнікла ў глыбокай старажытнасці і было звязана з возерам яшчэ 400—450 год назад.

У дакументах да сярэдзіны XVI ст. у дастасаванні да вялікага палескага воднага аб'екта прымянялася назва *Жыцкае возера* (першапачаткова — "Житское").

Адкуль ідуць вытокі гэтай назвы? На наш погляд, гэтая назва стаіць у наступным радзе рачных імёнаў: *Жэча* (басейн Сожа), *Жыцья, Жытша, Ужэтка, Ушыца, Шычкелей, Жыдзень, Жыдна, Жыдамерка* (басейн Акі). Паралельны рад утвараюць імёны з трохі іншым гукавым афармленнем кораня: *Шача* (басейн Прыпяці), *Ушач* (басейн Заходняй Дзвіны), *Жадынь, Жадонка, Жадунка, Жадомка* (басейн Сожа), *Жадзінка* (басейн Сейма), *Жадзень, Жадка, Жадаўка* (басейн Акі) і іншыя. Можна шукаць гэты корань і ў складзе назваў тыпу *Снежаць* (*Сне-жаць*), *Лібажада* (*Ліба-жада*) (рэчкі ў Падняпроўі) і ў падобных на іх.

Прыведзеныя рачныя імёны дасталіся нам ў спадчыну ад вельмі далёкіх стагоддзяў, бо цяжка вызначыць нават спрадвечны сэнс і моўную прыналежнасць усіх гэтых найменняў. Праўда, цікава ў сувязі з возерам *Жыцкім* (коратка яго яшчэ ў XIX ст. называлі возерам *Князь-Жыт*, ці *Князь-Жыд*) адзначыць літоўскае слова zotys — "вусце ракі". Такое супастаўленне цікавае вось з якой прычыны. Як сведчаць географы, праз усё возера з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад праходзіць вір, які, магчыма, з'яўляецца рэчышчам нейкай быўшай ракі. Тапаграфія мясцовасці сведчыць, што ў далёкім мінулым возера Жыцкае пашыралася на паўднёвы захад аж да ракі Случ, з якой яно, мусіць, злучалася.

Усё гэта і цікава, і загадкава. Як бачым, самая старажытная, спрадвечная назва вялікага палескага возера сапраўды даносіць да нас подых стагоддзяў. Яе варта не толькі адрадзіць у нашай памяці, але і занесці ў "Чырвоную кнігу" гістарычных тапонімаў — помнікаў культуры, помнікаў беларускай мовы і ўсіх іншых славянскіх і неславянскіх моў Усходняй Еўропы.





## АД ГАМІЮКА ДА ГОМЕЛЯ

Археалагічныя раскопкі, якія праводзіліся на тэрыторыі гомельскага парку культуры і адпачынку імя А.В.Луначарскага ў 1986—1988 гадах, паказалі, што горад над Сожам пачаў існаваць не ў 1142 годзе, калі звесткі аб ім упершыню з'явіліся на старонках летапісаў, а, прынамсі, на 200—250 гадоў раней. Дык колькі ж год Гомелю? 900? 1000? А можа і яшчэ больш? Археалагічныя даследаванні працягваюцца, яны, безумоўна, рана ці позна дадуць магчымасць зрабіць больш-менш пэўныя падлікі. Але ж спрэчкі ўсё роўна застануцца. Бо горад нараджаецца не ў адзін дзень і нават не ў адзін год. Горад звычайна вырастае з папярэдніх паселішчаў, якія маглі існаваць на яго месцы не адно тысячагоддзе. І вельмі цяжка менавіта археолагам вызначыць тую ча́савую мяжу, за якой застаецца гісторыя папярэднікаў горада і ад якой трэба адлічваць ужо гарадскую гісторыю.

Пастараемся зрабіць падарожжа па гомельскаму наваколлю ў тыя часы, калі на тэрыторыю гомельскага гістарычнага цэнтра (сучасны парк) прыйшлі першыя сталыя жыхары, якія заснавалі ўмацаванае пасяленне і далі яму назву — Гомель. Гэтай назвай яны выказалі сваё разуменне таго, што тут убачылі.

Традыцыйна ў назве Г о м е л ь бачаць корань *гом-* са значэннем узвышша, узгорак. Фармальна гэта правільна. З такім тлумачэннем звычайна згаджаюцца, ставяць кропку і ніякіх далейшых разважанняў больш не вядуць. Вось тут і крыецца памылка. Бо калі працягваць разважанні, трэба было б запытаць:

чаму слова *гом-* не адлюстравалася ні ў адной з іншых назваў старажытных населеных пунктаў, якія, прынамсі, у нашых краях, як правіла, узнікалі на ўзвышшах і высокіх берагах водных аб'ектаў? Выпадковасцю гэта назваць нельга. Значыць, берагавыя ўзгоркі не былі для нашых продкаў вызначальнай прыкметай для назвы месц сталага пражывання. Кожнае ўзвышша, між іншым, характарызавалася яшчэ чым-небудзь і вось гэтае што-небудзь і з'яўлялася тым, на падставе чаго і нараджалася асобнае ў кожнага населенага пункта імя.

Што ж убачылі першыя гамельчукі, якія прыйшлі некалі ў нашыя мясціны? Каб уявіць іх уражанні, трэба прыйсці ў сучасны гомельскі парк, на беразе так званага *Лебядзінага возера,* дзе пачынаўся Гомель, і ўважліва паглядзець навокал. Тут няма ўзвышшаў, тут хутчэй глыбокая нізіна, круты прыродны яр. Гісторыя данесла да нас яго сапраўдную назву — Гамі юк. Калі ўглядзецца ў яго контуры, можна пераканацца, што калісьці тут працякала невялікая рэчка, якая несла свае воды ў Сож.

Участак верхняга цячэння *Гаміюка* захаваўся на процілеглым ад парку баку вуліцы Пралетарскай, за будынкам Дома фізкультуры і спорту прафсаюзаў. Гэтая сухая, глыбокая нізіна, парослая дробным хмызняком і травой, вядома гомельскім старажылам пад найменнем *Кагальны роў.* Дарэчы, тут у 1902—1903 гадах адбываліся сходы і масоўкі рэвалюцыйна настроеных рабочых. Далей відавочныя сляды Гаміюка страчваюцца. Аднак па невялікім паніжэнням рэльефу можна прасачыць амаль беспамылкова, што яшчэ больш верхняе цячэнне Гаміюка перасякала сучасную вуліцу Інтэрнацыянальную ў раёне завода імя С. М. Кірава і пралягала прыкладна ўздоўж сучаснай вуліцы імя Катуніна ад цэнтральнага рынку. Самыя вярхоўі Гаміюка знаходзіліся ля сучаснага аўтобуснага вакзала. У гэты раён мы вернемся трохі пазней. А пакуль звернемся да самой назвы — *Гаміюк.*

Гэтае слова складаецца з дзвюх частак: першая — Гомій і другая — юк. Апошняя частка, відаць, ёсць не што іншае, як "сцёрты" геаграфічны тэрмін са значэннем "вада, рака" (падобныя яму словы існуюць у многіх мовах народаў СССР: старажытнапермскае—*юг, -юк*, эстонскае *йогі* — "рака", марыйскае *йогы* — "цячэнне" і іншыя). Першая частка слова ўяўляе сабой першапачатковую форму назвы горада — *Гомій* (*Гом'е).* Калі гэтая старажытная назва-прыметнік захавалася перш за ўсё ў якасці абазначэння глыбокага яра, дык ёсць сэнс меркаваць, што менавіта ён і быў той галоўнай асаблівасцю мясцовасці, якая ўразіла першых пасяленцаў і з'явілася падставай для ўзнікнення назвы. Сёння мы амаль упэўнены, што старажытнаславянскае слова *гом* азначала не проста "ўзвышша", а "ўзвышша над ярам, нізінай". Гэтаму слову, як і многім іншым, знаходзяцца паралелі ў мовах народаў СССР, з якімі спрадвеку жылі побач і мелі трывалыя сувязі ўсходнія славяне. Прынамсі, словы асецінскай мовы *ком, гом* — "цясніна", лезгінскай *кам* — "яр, лагчына", "ручай", несумненна, дапамагаюць зразумець геаграфічную назву *Гомель.*

Яе значэнне літаральна — "мясцовасць, зрытая ярамі, ярыстая". Адсюль няцяжка зразумець і значэнне назвы яра *Гаміюк* — "рэчка, якая цячэ ў рове, глыбокай нізіне". Вось тут мы падышлі да самага галоўнага з сённяшніх нашых разважанняў. Ці не здзівіць чытача такое пытанне: колькі Гаміюкаў у Гомелі?

Не спяшайцеся адказваць, успомніце, што на тэрыторыі парку ёсць усім вядомы так званы *Кіеўскі спуск*, які па сваёй канфігурацыі вельмі нагадвае Гаміюк. Далей такі ж круты спуск-яр вядзе да ракі Сож ад вуліцы імя Білецкага ў раёне грабных баз. Праз 100—150 метраў ад гэтага рова ёсць яшчэ адзін круты спуск да Сожа па вуліцы Сожскай. У пачатку стагоддзя, мабыць, менавіта ён быў вядомы пад назвай Дзедна. Нарэшце, вядомы так званы Цыганскі спуск у раёне вуліцы Валатаўскай. Такім чынам, мы сутыкаемся з цэлай сістэмай крутых і вельмі глыбокіх яроў, асабліва ў іх вусцях. Гэтыя яры стваралі перасечаную мясцовасць, здаўна населеную людзьмі. Калі суаднесці тапаграфію "старога горада" з яго назвай, мы ўбачым, што геаграфічнае найменне матывуецца асаблівасцямі рэльефу, а тыя ў сваю чаргу знайшлі сваё сканцэнтраванае і сціслае апісанне-тэкст у такой кароткай і нескладанай знешне назве — *Гомій (Гомель)*. Вось чаму пасяленне атрымала не проста назву-назоўнік *Гом* — яр, роў (адзіны), а назву-прыметнік *Гом'е, Гомій* — мясцовасць, зрытая ярамі.

Яры былі даволі глыбокія не толькі ў іх вусцях, але і ў вярхоўях. Яны перасякалі ўсю цэнтральную частку сучаснага горада. Вышэй мы нагадалі магчымы "шлях" з вярхоўяў да вусця асноўнага паркавага Гаміюка. Але захаваліся "сляды" і астатніх Гаміюкаў. Успомнім паніжэнне на вуліцы Савецкай паблізу Піянерскага скверыка ці менш выразнае паніжэнне каля плошчы Працы. Першая нізіна, відаць, з'ўлялася вярхоўем рова, які ішоў па вуліцы Валатаўскай і часткова адгаліноўваўся ў бок вуліцы Сожскай.Другая нізіна, несумненна, звязана з Кіеўскім спускам і спускам з вуліцы імя Білецкага.

Усе старажытныя яры мелі адзіны пачатак, агульны цэнтр, з якога радыяльна разыходзіліся ў розныя бакі. Арыентацыя вярхоўяў недвухсэнсава паказвае на тую частку горада, якая яшчэ параўнальна нядаўна была вядома як *Гарэлае балота*. Гэты раён пачынаўся за будынкам былой мужчынскай гімназіі (цяпер корпус Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту) і цягнуўся да чыгуначнай станцыі і далей на захад, да вуліцы Багдана Хмяльніцкага і стадыёна "Лакаматыў".

Назва *Гарэлае балота* — далёка не метафара. Тут было сапраўднае балота з густымі зараснікамі балотных раслін і хмызняку. Па балоце людзі ездзілі на лодках, выкарыстоўваючы яго як сродак зносін паміж маленькімі крывымі вулачкамі. Галоўнай сярод іх была Паштовая (цяпер — вуліца Перамогі).

У XIX — пачатку XX ст. *Гарэлае балота* было сапраўдным балотам. Але ў дагістарычныя для горада часы на яго месцы было вялікае возера — верагодны пасляледніковы вадаём.

Пясчаныя асадкавыя пароды, прынесеныя ў апошнюю ледавіковую эпоху, лёгка вымываліся некалькімі ручаямі або

невялікімі рэчкамі, якія выцякалі з возера. З цягам часу рэчышчы гэтых вадатокаў ператварыліся ў значныя яры, асабліва глыбокія і крутыя на схілах высокага правага берага ракі Сож.

Вакол возера ва ўсе бакі цягнуліся суцэльныя густыя лясы. Вільготны і параўнальна цёплы клімат, буйна квітнеючая прыбярэжная расліннасць, мноства птушак, звяроў стваралі прыродны аазіс. Яго размяшчэнне ля вялікай ракі на перасечанай мясцовасці з прыроднымі абарончымі перашкодамі прываблівала чалавека з самай глыбокай старажытнасці. Дакладную дату з'яўлення сталага насельніцтва ў раёне Гомеля мы назваць не можам. Але па нашых меркаваннях і падліках, пабудаваных на тапанімічных аналогіях, назва *Гомій* існавала ўжо 12—15 стагоддзяў назад*.

Што ж датычыць назвы *Гарэлае балота*, справа вось у чым. Старажытныя жыхары Гомія і наваколля, несумненна, карысталіся дарамі лесу і возера. А яшчэ яны займаліся пасечна-агнявым земляробствам, выпальвалі дрэвы, тым самым вызвалялі зямлю для апрацоўкі. Кожны год-два ім былі патрэбны ўсё новыя абшары. Парушэнне прыроднага балансу адмоўна адбілася на лясным возеры. Яно пачало мялець, берагі яго забалочваліся. Лясныя бары, закінутыя палі таксама вельмі хутка ператвараліся ў балоты, станавіліся няўдобіцамі. Так і ўзнікла *Гарэлае балота*, з якога ўжо больш не цяклі ручаі і рэчкі па глыбокіх ярах у Сож.

На заканчэнне — яшчэ адноназіранне. Паводле звестак, змешчаных у кнізе Ф. А. Жудро, І. А. Сербава, Д. І. Даўгяла "Горад Гомель" (Вільна, 1911), у тым месцы, дзе стаіць Гомель, пасярэдзіне ракі некалі былі вялікія пясчаныя водмелі. Цікава, што гэты факт адлюстраваўся ў вядомай гамяльчанам версіі, што быццам бы назва Гомель паходзіць ад спалучэння слоў "*Го ! Мель!*". Народная фантазія зыходзіць з рэчаіснасці.

Гэтыя водмелі маглі ўтварыцца таму, што ручаі Гаміюкі пастаянна, год за годам, вымывалі і неслі ў вялікую раку лёгкі пясчаны грунт.

Вядома, што Сож меў яшчэ адну назву: у XVI ст. яго называлі Н я р э я , згодна з картай, на якую спасылаюцца аўтары ўпамянутай кніжкі. Не выключаючы магчымасць іншага тлумачэння і не ведаючы, на якім участку ракі ўзнікла гэтая назва, тым не менш трэба адзначыць вельмі красамоўнае ў дадзеным выпадку тлумачэнне: Нярэ́я — з балцкіх моў (латышскай і літоўскай) — nẽrija, nẽrija — "вузкая доўгая пясчаная водмель уздоўж берага".

---

* Напісанне Гомель замест першапачатковага Гомій упершыню з'яўляецца ў XVII ст. пад уплывам лацінскай мовы, на якой у Рэчы Паспалітай (Гомель знаходзіўся на самай усходняй граніцы гэтай дзяржавы) у адзначаны час пісаліся дзяржаўныя акты і дакументы (Виноградов Л. А. Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142—1900 гг. М., 1900, с. 6).





## ЗАБЫТЫ ПАВЯТОВЫ ГОРАД XVIII СТАГОДДЗЯ

Неяк, у час работы ў бібліятэчных архівах,трапіў мне ў рукі нумар семнаццаты газеты "Могилевские губернские ведомости" за 1851 год. У ім сярод разнастайных і трохі нязвычных для сучасных газетных старонак матэрыялаў маю ўвагу прыцягнуў артыкул С. І. Сакалова, у якім аўтар разважаў аб гістарычных асаблівасцях краю. У даволі цікавым апавяданні ўразілі мяне наступныя словы: "много в здешней губернии древних городов и местечек, некогда полных жизни, пользовавшихся известностью в политическом и торговом отношении, но они давно уже пережили свою славу, одряхлели и теперь стоят, как голые остовы, грустные памятники давно минувших времен..." Гэтыя словы ўразілі мяне, відаць, таму, што ў такой, наогул, простай фразе я знайшоў яскравае адлюстраванне сваіх думак наконт Старой Беліцы. З кожным адшуканым фактам узрастала мая ўпэўненасць у правільнасці таго шляху, па якім ішоў. Я шукаў забыты павятовы горад і, здавалася б, амаль знайшоў. Але не давала спакою думка: а ці магла быць тым таямнічым горадам невялікая сёння вёсачка, якую і на карце няпроста адразу паказаць. І вось прачытаная ў старой газеце фраза неяк адразу мяне пераканала: магла быць і была павятовым горадам, аб якім пісалі геаграфічныя энцыклапедыі і даведнікі XVIII і XIX стст., тая вёска ў 20 кіламетрах на паўночны захад ад Гомеля, якую цяпер называюць Старой Беліцай і якая з'яўляецца цэнтрам невялікага Старабеліцкага сельсавета.

Гэтае перакананне для неазнаёмленага здаецца неверагодным. Але толькі на першы погляд, бо за ім стаіць сапраўдная і нявыдуманая беліцкая загадка, загадка як самога павятовага горада, так і ўзнікнення яго назвы.

...Праз год пасля далучэння да Расіі, у 1773 годзе, Гомель з насельніцтвам каля 5 тысяч чалавек прызначаецца павятовым горадам Рагачоўскай правінцыі. Яшчэ праз два гады, гэта значыць у 1775 годзе, імператрыца Кацярына II падпісала спецыяльны ўказ, згодна з якім Гомель "даравайся для пацехі" выдатнаму палкаводцу, фельдмаршалу П. А. Румянцаву-Задунайскаму.

Фельдмаршал Румянцаў быў героем руска-турэцкай вайны 1768—1774 гадоў і толькі што заключанага Кучук-Кайнарджыйскага міру. У той час Румянцаў заслугоўваў вялікай узнагароды, і калі ў якасці гэтакай яму даравалі менавіта Гомель, то трэба прызнаць, што гэтае мястэчка на зноў набытых Расіяй землях было прыгодным для спакойнага і раскошнага жыцця.

П. А. Румянцаў вярнуўся з турэцкага паходу ў канцы 1774 ці ў пачатку 1775 года. Відаць, у 1775-ым ці, самае позняе, у першыя месяцы 1776 года ён прыехаў у Гомель.

Безумоўна, граф Румянцаў прыехаў у невялікае надсожскае мястэчка адпачываць. Асабліва спадабаўся Пятру Аляксандравічу гомельскі замак, пабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст. апошнім гомельскім старастам Міхайлам Чартарыйскім (Чартарыжскім), у якім графу належала жыць. Моцны дубовы замак з байніцамі быў акружаны драўлянай сцяной і ровам з пад'ёмнымі мастамі. У такім умацаваным будынку Румянцаў адчуваў сябе паўфеадальным уладальнікам. Насельніцтва Гомеля складалася з сялян, якія былі падпарадкаваны суду і ўладзе свайго гаспадара. Тыя ж гомельскія мяшчане польскай, яўрэйскай і рускай нацыянальнасці, якія яшчэ заставаліся фармальна свабоднымі, таксама фактычна цалкам залежалі ад графскай волі. Таму прысутнасць у мястэчку павятовага начальства здавалася графу абсалютна залішняй. І ён рашае пазбавіцца ад чыноўніцкага апарату. Гэтае рашэнне ў немалой ступені дыктавалася вось яшчэ чым. У 1775 годзе, пасля падаўлення паўстання Емяльяна Пугачова, урад прыняў новае ўстанаўленне для кіравання губернямі, якое ўмацоўвала апарат мясцовай улады. П. А. Румянцаў выкарыстоўвае ўвесь свой уплыў, асабістыя сувязі ў сенаце, а таксама прыхільнасць да яго самой імператрыцы, каб перанесці адміністрацыю з Гомеля ў іншае месца.

Пытанне было вырашана станоўча. П. А. Румянцаву дазволілі пераўтварыць Гомель у прыватнаўласніцкае мястэчка, аднак, відаць, пры ўмове, што ён пабудуе пры ўдзеле дзяржавы побач з Гомелем новы павятовы цэнтр.

Па даручэнні обер-пракурора князя Вяземскага магілёўскі губернатар Пасек знайшоў для новага цэнтра месца — у трох вярстах ад Гомеля, на левым беразе Сожа, ля старыцы ракі, якая вядома гамельчанам як возера Шапар ці Шапараж.

Тут, у нізіннай мясцовасці, паміж пяскоў і балот, існавалі два дзесяткі стараверскіх двароў, якія насілі назву *Шчака-*

*тоўская* дача. Непадалёку ад іх, на ўзлеску, стаялі два памешчыцкія дамы, якія называліся *Каранёўская дача*. Гэтыя два найменні даволі цікавыя. Слова *дача* ў іх нельга разумець у сучасным яго значэнні. *Шчакатоўская* і *Каранёўская дачы* — гэта зусім не месца летняга адпачынку, а казённыя ўчасткі зямлі пад лесам, якія даваліся (слова *дача* якраз паходзіць ад слоў *даць, даваць*) выхадцам з пэўнага населенага пункта. Два памешчыкі ў *Каранёўскай дачы* паходзілі з суседняй вёскі *Каранёўка*, прычым іх таксама нельга разумець згодна з найбольш вядомым значэннем слова. Гэтыя "памешчыкі" — працаўнікі, якія валодаюць пэўным казённым кавалкам зямлі, працуюць на ім. Таму два памешчыцкіх двары ў 3 вярстах ад Гомеля — своеасаблівы правобраз будучай хутарскай гаспадаркі. Што ж датычыць *Шчакатоўскай дачы*, то яна таксама ўяўляла слабаду, стараверскае насельніцтва якой карысталася казённымі ўчасткамі зямлі і не належала нікому, было фармальна свабодным. Па нашых меркаваннях, *Каранёўская дача* размяшчалася на ўсход ад возера Шапар, у так званым *Каранёўскім лесе*, а *Шчакатоўская дача* — на поўдзень ад возера ў *Шчакатоўскім лесе* (апошняга цяпер няма). *Шчакатоўская дача* як пасяленне фарміравалася ў 60-ыя гады XVIII ст. У 1760 годзе побач з месцам, дзе цяпер размешчана СШ №2 (вул. Ільіча, былая — Шасэйная), узняты стараверскі *Пахом'еў скіт*. Такім чынам, новы павятовы цэнтр вырашылі будаваць не на "цаліне", а на дастаткова абжытым за 15 гадоў (з 1760 года) месцы.

Зразумела, гэтыя меркаванні патрабуюць яшчэ далейшага дэталёвага даследавання. Але, як бы там ні было, можна сцвярджаць, што пры новым падзеле Магілёўскай губерні, які быў праведзены ў 1775 годзе (указ ад 22 сакавіка 1775 года), новага павятовага горада яшчэ не было. Ён толькі-толькі пачаў стварацца. Будаўніцтва фактычна пачалося толькі ў 1777 годзе і ішло маруднымі тэмпамі.

Л. Вінаградаў, аўтар кнігі "Гомель. Его прошлое и настоящее. 1142—1900 гг."* сведчыць, што жыхароў у новым цэнтры налічвалася вельмі мала і з іх нельга было скласці гарадскога пасялення. Каб павялічыць насельніцтва горада, які будаваўся, спатрэбіўся нават найвысачэйшы ўказ, згодна з якім пераходзіла ў казну суседняя вёска Сеўрукі з 125 душамі мужчынскага полу. Цікава, што прыгонныя сяляне Сеўрукоў станавіліся свабоднымі і абвяшчаліся мяшчанамі. Л. Вінаградаў наконт гэтага заўважае: "Так, штучнымі мерамі быў прызваны да жыцця новы адміністрацыйны цэнтр, ... ён складаўся цалкам з хацінак,... ніхто з дваран, якія жылі ў Гомелі, не перасяліўся сюды". Нават праз 11 гадоў, у 1788 годзе, штучны горад гібеў: ён не мог адпусціць і 500 рублёў на забеспячэнне хоць бы невялікага вучылішча з прычыны малога даходу.

Нядзіўна, што толькі ў 1786 годзе пабудаваны цэнтр нарэшце атрымаў статус горада. Сюды перабраліся чыноўнікі павятовай адміністрацыі і з гэтага часу горад назаўсёды атрымаў сваю

---

* *Виноградов Л.* Гомель: его прошлое и настоящее. 1142—1900 М., 1900. С. 27.

назву — Новая Беліца, якую часта для прастаты вымаўлення скарачалі ў проста Беліцу. Пад такім скарочаным іменем новы павятовы цэнтр часцей за ўсё і трапляў на старонкі геаграфічных апісанняў і спісаў населеных месцаў беларускіх губерняў XIX — пачатку XX ст. Гэтая акалічнасць, зусім нязначная на першы погляд, прывяла тым не менш да таго, што гісторыю павятовага горада на левым беразе Сожа, у 3 вярстах ад Гомеля, пачалі адлічваць на 9 гадоў раней, чым яна на самай справе пачалася.

Мяркуйце самі. Не толькі аўтарытэтныя дарэвалюцыйныя, але і не менш аўтарытэтныя сучасныя выданні, калі мова заходзіла пра Беліцу, адзначалі, што яна выконвала ролю павятовага горада з 1777 года. Так, напрыклад, лічыў А. С. Дэмбавецкі, рэдактар унікальнага на сёняшні дзень выдання "Опыт описания Могилевской губернии"*, так напісана і ў апошнім энцыклапедычным выданні, якое апісвае Гомельшчыну**.

Але як магла Беліца, якая пачала будавацца на левым беразе Сожа ў 1777 годзе, ужо ў гэты ж год стаць павятовай "сталіцай"? Вядома ж, што яна была прызначана горадам толькі ў 1786 годзе, гэта значыць праз 9 гадоў пасля таго, як пачала будавацца. Гэты факт адзначаны ў шэрагу геаграфічных апісанняў, у тым ліку ў такім аўтарытэтным, як нарыс Ф. А. Жудро, І. А. Сербава, Д. І. Даўгялы "Горад Гомель" (гл. ніжэй).

Бясспрэчна, відаць, толькі адно: павятовая адміністрацыя, якую граф П. А. Румянцаў адправіў з Гомеля, як толькі выйшаў нагаданы вышэй указ ад 22 сакавіка 1777 года, на самай справе размясцілася з гэтага года ў Беліцы, толькі не ў той, якую ўладальнік Гомеля па распараджэнні ўрада пачаў будаваць побач са сваім прыватнаўласніцкім мястэчкам, а ў іншай, якая адстаяла ад Гомеля на 20 вёрст у напрамку на паўночны захад.

Тое, што гэта было менавіта так, дазваляе зразумець "Новый и полный географический Словарь Российского государства", или "Лексикон, описующий азбучным порядком географически, топографически, идрографически, физически, исторически, политически, хронологически, генеалогически и геральдически Наместничества, области и уезды, города, крепости, редуты, форпосты, остроги, ясашныя зимовья,станицы, местечки, села, погосты, ямы и слободы, соборы, церкви и монастыри, рудные и другие заводы и фабрики, реки, озера и моря, острова и горы, прежния и новыя иностранныя поселения, обитателей как природных Российских, так и других народов и прочия достопамятные места обширной империи Российской при нынешнем ея состоянии в царствование императрицы Екатерины

---

* Опыт описания Могилевской губернии. Под ред. Дембовицкого А. С. Кн. 1 — 3. Могилев, 1882—1884. Гл. таксама: Лебедев С. М. Гомель: историко-экономический очерк. М., 1962. С. 160.

** Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985.

Великия" ў шасці тамах пад агульнай рэдакцыяй Л. М. Максімовіча.

Вось што ў ім у прыватнасці гаварылася: "*Беліцы* — горад Магілёўскага намесніцтва, ад Рагачова праз Чачэрск у 121 вярсце, які ляжыць паміж рэкамі Сожам і Дняпром, ад першай у 35, а ад апошняй — у 25 вярстах. Горадам з сяла пераймена-ваны ў 1777 годзе. У ім адна Грэчаская царква. Жыхароў — 231 + 4. Павет гэты мяжуе на ўсходзе і поўдні з Кіеўскім намесніцтвам, з захаду аддзяляецца ракою Днепр ад Літвы, ад поўначы — Рагачоўскім паветам. У акружнасці яго 315 вёрст. Да яго прылічаны мястэчка Гомель, Ветка, Насовічы, Хальч, Радага, Антановічы і 65 вёсак, усіх у павеце жыхароў 25.579"*.

Першае, што адразу кідаецца ў вочы пры знаёмстве з гэтым паведамленнем, гэта відавочная неадпаведнасць паміж звесткамі "Лексікону" аб геаграфічных каардынатах Беліцы, калі лічыць ёю цэнтр, які будаваўся П. А. Румянцавым, і сапраўдным размяшчэннем новага павятовага горада на левым беразе Сожа. Дадзеную акалічнасць можна было б адразу палічыць памылкай і тлумачыць яе недасканаласцю звестак, якімі карысталіся аўтары XVIII ст., і гэта было б, магчыма, абсалютна правільным рашэннем, калі б не яшчэ адзін штрых у слоўнікавым тэксце. Паведамленне сведчыць: у Беліцы ці ў Беліцах, калі лічыць зыходнай форму Беліцы, а не Беліца, ёсць адна Грэчаская (г. зн. праваслаўная) царква.

Л. Вінаградаў, аўтар ужо нагаданай вышэй кніжкі, адзначыў, што Беліца з моманту яе заснавання больш за 30 гадоў не мела царквы. Калі меркаваць, што Беліца пачала адлічваць свой век у 1777 годзе, то царква ў ёй з'явілася толькі ў першыя дзесяць гадоў XIX ст.

У другой кнізе, прысвечанай Гомелю і выдадзенай у пачатку нашага стагоддзя, гэты факт пацвярджаецца. Цытую: "У Беліцы з моманту назначэння яе ў 1786 годзе горадам (! — А.Р.) не было праваслаўнай царквы. У пачатку XIX ст. некалькі дамоў старавераў хадайнічалі аб уладжанні тут царквы ў імя святога Мікалая. Але за малай колькасцю аднаверцаў намер гэты не здзейсніўся"** . І толькі ў 1828 годзе ў Беліцы была пабудавана праваслаўная царква ў імя святога Васілія.

Калі няўвязку з размяшчэннем Беліцы ў "Лексіконе" канца XVIII ст. яшчэ можна лічыць памылкай, дык другую ж няўвязку няўважлівасцю ці нават недобрасумленнасцю аўтараў тлумачыць нельга. Размяшчэнне і колькасць храмаў, цэркваў, касцёлаў, сінагог у старых геаграфічных апісаннях падавалася заўсёды вельмі дакладна. Тым больш за гэта можна паручыцца ў нашым выпадку, таму што размова ідзе пра тыя раёны і населеныя пункты Беларусі, якія ў час складання "Лексікону"

---

* Лексикон. Под ред. *Максимовича Л. М.* В 6-ти томах. Ч. 1. М., 1788—1789. С. 140.

** *Жудро Ф. А., Сербов И. А., Довгялло Д. И.* Город Гомель. Записки Северо-Западного отдела императорского Русского Географического общества.Вильна, 1911. Кн. 2. С. 319.

толькі-толькі адышлі ад каталіцкай Польшчы і далучыліся да праваслаўнай Расіі. Таму ўказанне на Грэчаскую царкву ў Беліцы ў канцы XVIII ст. лічыць памылкай нельга.

Звесткі, якімі карысталіся аўтары "Лексікону", як гэта звычайна бывае, відаць, спазняліся на тры-чатыры гады. Таму не дзіўна, што ў адзначаным слоўнікавым артыкуле цэнтрам павета лічыцца мястэчка, якое такім і было да 1786 года. Калі паглядзець на геаграфічную карту, мы ўбачым амаль пасярэдзіне паміж Сожам і Дняпром населены пункт *Беліцу*, дакладней *Старую Беліцу*, якой было суджана выконваць ролю павятовай "сталіцы" на працягу 9 гадоў, з 1777 па 1786 год. *Старая Беліца* стала "старой" тады, калі афіцыйна была прызнана *Беліца Новая*.

На тэрыторыі Беларусі ў цяперашні час існуюць 4 вёскі з назвай *Беліца* ( у Лідскім, Жлобінскім, Чачэрскім, Стаўбцоўскім раёнах), 4 вёскі з назвай *Старая Беліца* (у Гомельскім, Светлагорскім, Чэрыкаўскім, Сенненскім раёнах) і 3 вёскі — *Новая Беліца* ( у Светлагорскім, Чэрыкаўскім і Сенненскім раёнах). Ёсць і трохі іншыя назвы, але таксама роднасныя: *Белічаны* (Гродзенскі і Бярэзінскі раёны), *Белічы* (Слуцкі раён), *Бельчыца* (Полацкі раён), *Бельчыцы* (Пружанскі раён), *Бельск* (Кобрынскі раён), *Бель* (Мсціслаўскі, Шклоўскі, Крычаўскі, Дубровенскі, Лёзненскі раёны). Усе нагаданыя назвы даволі празрыстыя для мовазнаўцаў-тапаністаў. Яны ўзыходзяць да дыялектнага слова *бель, белька* — "балота, дзе пераважна расце беразняк; балотная сенажаць сярод лесу; невялікае балота, забалочанае, нізкае месца". Але гэтае тлумачэнне для вёсак з назвай *Новая Беліца*, як можна меркаваць, не падыходзіць. Новая Беліца абавязкова існуе побач са *Старой* (гл. Светлагорскі, Чэрыкаўскі, Сенненскі раёны), прычым новае пасяленне вырастала на месцы выселкаў з ужо існаваўшай дзесьці недалёка вёскі. Для *Старой Беліцы* Гомельскага раёна ёсць толькі адна паралель — *Новая Беліца* на левым беразе Сожа, сучасны раён горада Гомеля. Дык, вось, калі ёсць *Новая Беліца*, павінна быць і *Старая Беліца*, прычым узнікненне першай назвы было абумоўлена наяўнасцю другой, папярэдняй; іншымі словамі, як паміж назвамі, так і паміж адпаведнымі населенымі пунктамі павінна была існаваць пэўная сувязь.

Дарэчы, гэты штрых адзначаны ў кнізе "Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т.9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия".У ёй сказана, што новы павятовы горад быў названы па імені былога горада *Старой Беліцы* — *Новай Беліцай*. Уважлівае прачытанне гэтай працы дазваляе заўважыць яшчэ адзін цікавы штрых. Там сказана, што новаму павятоваму гораду на месцы былой *Каранёўскай дачы* было

прызначана быць у 1777 годзе. Як гэта разумець? На нашу думку, гэта значыць, што ў 1777 годзе было вызначана месца для пабудовы новага цэнтра.

Каб упэўніцца ў справядлівасці сваіх разважанняў, сеў у аўтобус і паехаў у Старую Беліцу, добра разумеючы, што такія загадкі лепш за ўсё разгадваюцца там, дзе яны нарадзіліся.

Перш за ўсё я пазнаёміўся з той пабудовай, якая ў нагаданым вышэй артыкуле з "Лексікону" 1788—1789 гадоў адзначана як *Грэчаская царква*. Гэта праваслаўны *Мікалаеўскі храм*, пабудаваны ў пачатку XVIII ст. без адзінага цвіка. Ён з'яўляецца помнікам народнага драўлянага дойлідства з выкарыстаннем элементаў барока. Мяне ўразіў вельмі добры выгляд гэтай унікальнай на Палессі пабудовы. Тлумачыцца гэта тым, што царква дзеючая і ў яе ёсць клапатлівы гаспадар.

Адной з нечаканасцей, якія падпільноўвалі мяне ў Старой Беліцы, быў добры, утульны, з густам і з веданнем справы аформлены мясцовы музей "Народнай славы". Яго я хутчэй назваў бы гісторыка-этнаграфічным. З нейкай асаблівай любоўю і пашанай расказвала хавальніца музея, мясцовы краязнаўца Ганна Ануфрыеўна Грачанкова аб экспанатах, дакументах і фотаздымках, прысвечаных рэвалюцыйным падзеям і калектывізацыі ў Старой Беліцы, Вялікай Айчыннай вайне і пасляваенным гадам. У асобным кутку я з цікавасцю разглядаў прасніцу і забаўныя, мудрагелістыя ўзоры сялянскіх вышытых ручнікоў. Але зразумела, што перш за ўсё маю ўвагу прыцягваў той раздзел музейнай экспазіцыі, дзе расказвалася аб радаводзе вёскі. Я амаль скапіраваў дасланую, як мне сказалі, аж з самога Кракава фотакопію старонак "Польскай энцыклапедыі шляхецкай" з пералікам розных Беліц ад Польшчы да Беларусі. Аднак Беліцы, якая б адпавядала сучаснай вёсцы Гомельскага раёна, там не было. Відаць, у момант складання энцыклапедыі, у XIX ст., наша Беліца ўжо атрымала азначэнне Старая, і яе трэба было шукаць зусім на іншай старонцы даведніка. А вось Беліца ў 2—3 вярстах ад Гомеля адзначана, прычым ужо не як павятовы цэнтр, а толькі як гарадское прадмесце.

Пазнаёміўся я яшчэ з адным цікавым дакументам — спісам жыхароў вёскі Беліца Гомельскай парафіі, складзеным у 1792 годзе ў мясцовай царкве Мікалая Цудатворца. У спіс трапілі, як можна зразумець, прозвішчы толькі тых сялян, якія па розных прычынах перасяляліся ў Беліцу з іншых месц Расіі і Рэчы Паспалітай. Акрамя прозвішчаў — Супрэй, Іваноў, Анісімаў, Васільеў, Трафімаў, Сямёнаў, Андрэеў, Карнееў (прозвішчы даваліся, відаць, па імёнах Андрэй, Сямён, Трафім, Карней і г.д.) — маю ўвагу прыцягнула лічба: усіх мужчын і жанчын — 87 + 79. Праз 12—14 гадоў, калі быў складзены "Лексікон..." пад рэдакцыяй Л. М. Максімовіча, дзе, як мы ўжо адзначылі, *Беліца* лічыцца павятовым горадам з 1777 года, насельніцтва мястэчка павялічылася амаль на 70 чалавек. Для звычайнай вёскі такі прырост немалы. Праз 100 гадоў, у 1875 годзе, у Старой Беліцы было 666 жыхароў (150 двароў). Гэта значыць, што з 1772

па 1875 год яе насельніцтва павялічылася на 500 чалавек. Кожныя 10 гадоў колькасць жыхароў у сярэдзіне ўзрастала на 50 чалавек. А з 1772 да 1782—1784 гадоў (апошняя дата ўмоўная, мы лічым, што менавіта ў гэтыя гады браліся звесткі для будучага слоўніка, які ў 1788—1789 гадах ужо быў надрукаваны) насельніцтва Беліцы вырасла на 70 чалавек. Адбылося так, відаць, таму, што Старая Беліца на працягу 9 гадоў, з 1777 па 1786-ы, была павятовым цэнтрам.

Чаму ўрад аддаў перавагу менавіта Беліцы над усімі астатнімі мястэчкамі павета, калі было вырашана задаволіць настойлівыя клопаты графа П. А. Румянцава? На наш погляд, гэта адбылося таму, што мястэчкі *Ветка, Хальч, Радага, Антановічы і Насовічы*, якія таксама маглі прэтэндаваць на ролю павятовай "сталіцы", былі пераважна стараверскімі пасяленнямі. А імператрыца Кацярына II зусім не забыла, як ёй давялося з дапамогай войска ўціхамірваць і ,падпарадкоўваць сваёй уладзе веткаўскіх старавераў (аб гэтым варта было б расказаць асобна).

Беліца ж на берагах ракі Узы была ціхім мястэчкам, парадак ў якім падтрымліваўся судом і воляй яе ўладароў — прадстаўнікоў старажытнага княжацкага роду Перасвет-Солтанаў, які, як мы мяркуем, меў нейкія даўнія руска-татарска-польска-літоўскія вытокі. Салтанавічы, ці Перасвет-Солтаны з XV ст. займалі ў Вялікім княстве Літоўскім высокія дзяржаўныя і царкоўныя пасады. Магчыма, з гэтага часу ці трохі пазней нехта з іх атрымаў ва ўладанне вёску Беліцы.

Старажытная сядзіба князёў Салтанавічаў яшчэ захавалася ў Старой Беліцы. У былым княжацкім доме, пабудаваным з сасны, смольнай, як свяча (цяпер ён аднапавярховы, а калісьці быў двухпавярховым, з калонамі, парадным ганкам і балконамі), размясцілася васьмігадовая малакамплектная школа. Страціў сваю прыгажосць і былы парк з каштанавых і ліпавых алей, зарос травой, няма ў ім ружаў і акацый, што квітнелі раней, высахлі маляўнічыя сажалкі.

Ля школы стаіць пабудова, якую ў наш час можна ўбачыць дзесьці ў іншых месцах толькі ў этнаграфічных музеях. Гэта свіран XIX ст.

Некалі ў XIX ст. па рэчцы Узе хадзілі параходы, спыняліся ў Беліцы, а іх пасажыры цікавіліся беліцкімі славутасцямі — царквой, паркам, маляўнічымі сажалкамі. Аб гэтым расказалі мне беліцкія старажылы. А яшчэ яны (вось што знамянальна!) захавалі памяць аб былым росквіце іх мястэчка і аб тым, што многа гадоў назад (дакладную дату яны не памятаюць, бо перадаюць тое, што чулі ад сваіх бацькоў і дзядоў) *Беліца* была галоўнай ва ўсёй акрузе.

... Ляжаць на каштанавых і ліпавых алеях ля будынка школы ў высокай траве тры камяні. На двух з іх яшчэ можна прачытаць цікавыя таямнічыя надпісы. Адзін — па-польску: "помнік мінулага". Другі — па-лацінску: "пасля цяжкай працы — адпачыванне". Былі на камянях і іншыя надпісы, але ад іх засталіся ледзь прыкметныя сляды. Побач з каменнямі — нейкі незвычайны курган, прадаўгаваты, але даволі выразны, метраў 2—3

вышынёй. Называюць яго *Манастырскім пагоркам*. Расказваюць, што калісьці тут быў манастыр, а потым быццам бы ён праваліўся скрозь зямлю за людскія грахі. Якія таямніцы хаваюць гэтыя сведкі былога?

Ужо перад самым ад'ездам я доўга стаяў у княжацкім парку пад старымі ліпамі. Разам са мной была мясцовая дзетвара. Хлапчукам вельмі падабалася мая цікавасць і да камянёў, і да кургана, і да ўсяго, што было навокал. Але сумна станавілася ад таго, што старажытнасці, якія так шчасліва захаваліся ў Старой Беліцы, у адрозненне ад шматлікіх іншых вёсак на нашай зямлі, не мелі для іх асаблівага сэнсу. У свядомасці хлапчукоў не адлюстраваўся нават і надпіс — "помнік мінулага". Ён быў для іх, сапраўды, на іншай, таму і непатрэбнай мове. Ці не таму нам даводзіцца разгадваць загадкі, падобныя на беліцкую?





## ДЗЯМ'ЯНКАЎСКАЕ НАВАКОЛЛЕ

Калісьці, яшчэ ў XIX ст., на старонках перыядычных выданняў, спецыяльных часопісаў і зборнікаў, якія выдаваліся Геаграфічным таварыствам пры Расійскай Акадэміі навук, часта друкаваліся дарожныя замалёўкі даследчыкаў, падарожнікаў, звычайных аматараў старадаўнасцей. Гэтыя людзі адпраўляліся ў самыя розныя краі, у тым ліку нярэдка і ў Беларускае Палессе, у пошуках усялякіх старажытнасцей і ў надзеі запісаць невядомыя казкі і легенды, даследаваць асаблівасці мясцовай гаворкі, убачыць уласнымі вачыма прыроду краю. Непазнанае вабіла гэтых энтузіястаў. Не выпадкова іх этнаграфічныя і гістарычныя нарысы і замалёўкі змяшчаюць унікальныя і вельмі важныя для сучасных даследаванняў факты.

Гэтыя апісанні, на жаль, аказваюцца нярэдка амаль ці не адзінымі сведчаннямі з мінулага многіх нашых населеных пунктаў. Але яны, на шчасце, служаць і своеасаблівым компасам для аднаўлення гісторыі краю.

... Я ехаў у Дзям'янкі, што ў 22 кіламетрах ад раённага цэнтра Добруш Гомельскай вобласці, з цікавымі выпіскамі з кнігі "Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия", якія вабілі сваёй нязвычнасцю і загадкавасцю. Вось што гаварылася ў нагаданай кнізе: "Уверх па рацэ Іпуць, вярстах у 16 на паўночны ўсход ад Добруша, на правым беразе ракі ляжыць вёска Дзям'янкі, у наваколлі якой існуе ўрочышча Селішча. Яно ўяўляе сабой пляцоўку ў некалькі квадратных вёрст з рэшткамі каменнага

веку, якія знаходзяцца на беразе Іпуці. Тут жа размешчана мноства курганоў са слядамі звычайнага пахавання і трупаспалення. На поўнач ад гэтай вёскі, вярстах у 10 ля вёскі Закружжа, размешчана так званае Равучае возера, якое часам выпускае якісьці роў. Верагодна, ад возера маецца падземная сувязь з ракой Іпуць ( так званыя карставыя з'явы). На дне возера ляжыць нямала дрэў; згодна з паданнем ужо ў гістарычную эпоху тут адбыўся правал мясцовасці"*.

Усё гэта было вельмі цікава. І калі я для большай верагоднасці загадзя зазірнуў у сучасныя археалагічныя апісанні, то пераканаўся, што дзям'янкаўскае наваколле сапраўды з'яўляецца гістарычным месцам. Няцяжка было ўявіць, што спадчына шматлікіх стагоддзяў складалася тут з самых разнастайных бурных і маўклівых падзей.

Побач з Дзям'янкамі на беразе Іпуці адкрыты дзве стаянкі эпохі неаліту, на месцы якіх знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты ляпной керамікі. У другім месцы ў XII—XIII стст. размяшчалася радзіміцкае селішча. Абпаленыя камяні, вугаль, гаршчок, бронзавы пярсцёнак, жалезнае крэсіва, нажы, рыбалоўны кручок, глінянае і каменнае грузілы і іншыя рэчы, якія захоўваюцца цяпер у Гомельскім краязнаўчым музеі, служаць сведчаннем былога жыцця нашых продкаў — радзімічаў. У наваколлі суседняй з Дзям'янкамі вёскі Вылева ёсць урочышча Гарадзец. Назва гэта не выпадковая, бо сведчыць аб старажытным гарадзішчы рубяжа старой і новай эры.

Месцы былых гарадзішча і селішча не так ужо і проста ўбачыць. Яны заraслі травой. І толькі невялікія курганы, вышынёй ад 0,5 да 2 метраў, служаць арыенцірамі для ўважлівага вока. 40 такіх насыпаў маўкліва стаяць на рачным беразе за 3 кіламетры ад Вылева ва ўрочышчы *Часнакова балота.* Асабліва вялікая курганная група — у 159 курганоў — знаходзіцца на высокім правым беразе старыцы ракі Іпуць ва ўрочышчы *Беразані*, у 5 кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Дзям'янак. Відаць, іх і мелі на ўвазе аўтары "России", калі гаварылі аб "мностве курганоў" над Іпуццю.

Аб гэтых курганах існуюць легенды. Месцы іх размяшчэння людзі называюць "Бугры". Ідуць жыхары па ягады, па грыбы ці на рыбалку ў тыя месцы і гавораць: "Пайшлі ў Бугры". Некалі іх лічылі месцамі пахавання французскіх і шведскіх воінаў. Відаць, памяць аб войнах са шведамі і з Напалеонам, падзеі якіх адбываліся недалёка ад гэтых мясцін, трывала адлюстраваліся ў памяці людзей і перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Дайшло і да нашага часу, нібы ў рэчышчы патоплена карэта самога Напалеона або шведскага караля Карла XII, які з войскам рухаўся праз усходнюю частку Беларусі ў пачатку XVIII ст. Можа таму яшчэ ў 1900 годзе мясцовы памешчык раскопваў дзям'янкаўскія курганы, але знайшоў замест скарбаў звычайныя пахаванні і трупаспаленні.

---

* Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. СПб, 1905. С. 573—574.

Далейшыя даследаванні далі магчымасць вучоным зрабіць наступны вывад: у наваколлі Дзям'янак на працягу некалькі соцень гадоў, з X ст. і амаль да XIII ст., бесперапынна існаваў старажытны могільнік. З X ст. тут хавалі нябожчыкаў мясцовыя жыхары-радзімічы. А як называліся тыя плямёны, што жылі тут раней? Дакладнага адказу няма, але пэўныя факты, перш за ўсё, геаграфічныя назвы, аб якіх пойдзе размова ніжэй, прымушаюць згадзіцца з тым, што гэта былі носьбіты нейкіх балцкіх ці фіна-ўгорскіх гаворак.

Чытачам, відаць, будзе цікава даведацца аб тым, што ж знайшлі археолагі, якія раскапалі 31 курган. Рэчы там знаходзіліся самыя звычайныя, гаспадарчыя: жалезныя нажы, абломкі грубага ляпнога гаршка і глянцаванай рабрыстай пасудзіны, жалезны серп, а таксама ўпрыгожанні — сярэбраныя і пазалочаныя пацеркі, бісер, абломак металічнага драцянога бранзалета, бронзавая прывеска, драцяныя скроневыя пярсцёнападобныя кольцы.

Як бачым, спецыялісты нездарма лічаць дзям'янкаўскае наваколле вельмі багатым у археалагічных адносінах. Ды і ўвогуле мясціны тут прыгожыя. Вакол — лес, бярозавы гай, сасновы бор, дуброва. Побач — багатая на рыбу рака Іпуць, у пойме ракі шмат азёр-старыц. Асабліва ўражанне робіць высокі правы бераг ракі на паўднёва-ўсходняй ўскраіне Дзям'янак. Раней я думаў, што такія стромы ёсць толькі на Дняпры. Іншымі словамі, у тым, што людзі абжывалі дзям'янкаўскае наваколле з самай глыбокай старажытнасці, няма нічога дзіўнага.

Вось толькі дакладна час заснавання вёскі Дзям'янкі губляецца. Самыя раннія звесткі аб Дзям'янках (першапачаткова — *Дзям'янавічах*) адносяцца да канца XVI ст. Але ў той час гэта была ўжо даволі буйная вёска, прыпісаная да Гомеля і да яго тагачаснага ўладальніка літоўскага вяльможы Тышкевіча.

Аб чым расказвае назва — *Дзям'янавічы*? З фармальнага боку яна даволі празрыстая: у яе аснове ляжыць асабовае імя *Дзям'ян*. А вось хто быў гэты чалавек, адкуль прыйшоў і чым вызначаўся, інфармацыі, як быццам, няма. Аднак не выключана, што гэта імя зусім не адносілася да рэальнага чалавека. У старажытных усходніх славян, якія пражывалі ў Сярэднім Падняпроўі, здавён - даўна існавала легенда аб чароўных кавалях *Дзям'яне* і *Кузьме*. Гэтыя кавалі жылі ў тую пару, калі народ пакутаваў ад лютага Змея. І яны вырашылі перамагчы пачвару: пабудавалі вялікую кузню, у якую схаваліся людзі, а калі Змей усунуў туды свой язык, каб з'есці ахвяру, схапілі яго распаленымі клешчамі, запраглі страшыдлу ў вялізны плуг і прымусілі ўзараць барозны — так званыя "Зміевы валы".

Цікавая легенда — не толькі казка, а водгалас даўняга гераічнага эпасу нашых далёкіх продкаў, іх рэальнай барацьбы з ворагамі, качэўнікамі-стэпавікамі. Аднак якія адносіны мае старажытны легендарны сюжэт да беларускіх Дзям'янак?

Цяжка даказаць, што нараджэнне назвы нашай вёскі адбылося пад уплывам расказанай легенды. Але цалкам магчыма, што першапасяленцы новага часу, якія заснавалі ўжо менавіта Дзям'янавічы, а не тое пасяленне, якое ім папярэднічала, уба-

чылі на новым месцы свайго жыхарства тыя рэаліі, якія так нагадвалі ім добра вядомую легенду: круты бераг ракі, земляныя валы старажытнага гарадзішча, вялікую колькасць курганоў-узгоркаў. Ім было зразумела, што тут хтосьці раней жыў. Але хто? І калі? І чаму ад іх жыцця засталіся менавіта такія, а не якія-небудзь іншыя "сляды"? І калі нават у наш час мясцовыя жыхары лічаць звычайныя курганы пахаваннямі шведскіх ці французскіх салдат, то заснавальнікі Дзям'янавіч маглі таксама "ўспомніць" нейкія былыя падзеі і легендарныя апавяданні. Цікава і вось што: на поўдзень ад Дзям'янак, у тым жа Добрушскім раёне, існуе не менш старажытная вёска *Кузьмінічы*. *Дзям'янавічы* і *Кузьмінічы* — кавалі *Дзям'ян* і *Кузьма*; ці толькі выпадковасцю трэба тлумачыць такое супадзенне?

Вось такія ўзніклі ў мяне меркаванні аб паходжанні назвы Дзям'янавічаў (Дзям'янак). Калі іх прыняць, то трэба зрабіць яшчэ адзін вывад: Дзям'янкі былі заснаваны выхадцамі-перасяленцамі з Сярэдняга Падняпроўя, патомкамі старажытных плямён драўлян ці палян. Гэтыя меркаванні падмацоўваюцца таксама вось яшчэ чым. Побач з Дзям'янкамі, як мы ўжо адзначалі, размешчана вельмі старая вёска *Вылева*. Аб яе старажытнасці сведчаць хоць бы тыя курганныя могільнікі і гарадзішча. У Вылева я амаль не затрымліваўся, але ўсе ж такі ўбачыў яшчэ адну тутэйшую славутасць — драўляную царкву, пабудаваную лепшымі майстрамі былой Вылеўскай воласці ў 1909—1910 гадах, якая лічыцца помнікам народнага дойлідства з элементамі псеўдарускага стылю. Царква ў вельмі добрым стане і ўяўляецца своеасаблівай "жамчужынай" сярод агародаў і хат мясцовых жыхароў. Але ў той час, калі я праязджаў праз Вылева, мяне больш за ўсё цікавіла назва вёскі, бо я амаль прадчуваў, што яе разгадка стане пэўным абгрунтаваннем і маёй версіі наконт Дзям'янак.

Так яно і выйшла. Пазней узнікла думка, што назва *Вылева* паходзіць ад украінскага дыялектнага слова *вила* (яно вымаўляецца як *выла*) — узвышша, гара. Урочышча *Гарадзец*, якое размешчана на ўсходняй ускраіне вёскі на беразе Іпуці, на вышыні ў 9,5 метра ад узроўню ракі, і было той "гарой", "узгоркам", якія абумовілі ўзнікненне тапоніма *Вылева* ў мове ўкраінамоўных перасяленцаў. Гэтыя перасяленцы, відаць, заснавалі і *Вылева*, і *Дзям'янкі*.

Вышэй я ўжо гаварыў пра надзвычай маляўнічыя краявіды ў наваколлі Дзям'янак. Упэўнены, што менавіта гэтая акалічнасць абумовіла далейшыя, не менш цікавыя падзеі ў дзям'янкаўскай гісторыі. Праўда, значны перыяд, з XVI па XIX ст., неяк выпадае з гэтай гісторыі, бо аб ім нічога не вядома. Відаць, асабліва значных падзей у вёсцы ў той час не адбывалася. Але ўсе ж такі ўмовы для развіцця гаспадаркі, гандлю і такіх-сякіх рамёстваў былі, бо, згодна з перапісам 1897 года, Дзям'янкі ўказаны ў ліку найбольш буйных вёсак і мястэчак краю з насельніцтвам за тысячу чалавек. У значнай ступені росту вёскі пасадзейнічаў прыезд сюды ў другой палове XIX ст. пана Гілярды. Так мясцовыя жыхары дагэтуль называюць уладальніка тутэйшых мясцін Мікалая Мікалаевіча Герарда.

У Ленінградзе ў Рускім музеі ёсць карціна, на якой паказана пасяджэнне царскага Савета. Сярод асоб, якія засядаюць, ёсць і Мікалай Герард. Па паходжанні латышскі дваранін, Герард дасягнуў вышынь у цараванне Мікалая І. Яму даравалі тытул генерал-губернатара і прызначылі намеснікам цара ў Фінляндыі. Пасля заканчэння службовай кар'еры Герард усталяваўся ў сваім дзям'янкаўскім маёнтку, дзе вырашыў адпачываць.

Уладанні Мікалая Герарда былі вялікія, яны займалі значную тэрыторыю сучасных Добрушскага і Веткаўскага раёнаў Гомельшчыны. Яшчэ сёння старажылы Дзям'янак і наваколля ведаюць дакладную граніцу паміж уладаннямі князя Герарда і гомельскага ўладара Паскевіча. Гэта — канава, якая праходзіць ад вёскі Вылева праз луг, урочышча *Часнакова балота* з 40 курганамі, потым лесам і праз так званае *Дубецкае балота*. Яшчэ і ў нашы дні дзям'янкаўцы называюць грыбныя і ягадныя месцы па-старому: "княжацкі лес", "княжацкая канава". Справа ў тым, што ў дакастрычніцкі час у лес па грыбы і ягады можна было хадзіць толькі па выкупленых у паноў талонах.

На хутары Іванаўскім, што ў 2 кіламетрах ад Дзям'янак, Герард размясціў спіртзавод і фермы буйнай рагатай жывёлы, якая выпасвалася навокал Равучага возера. Там жа быў і вялікі панскі сад. На беразе Іпуці размяшчаліся княжацкі паравы млын, лесапільны завод, крупадзёрня, склады. Пасля рэвалюцыі на хутары была заснавана камуна, потым саўгас. Але ў час калектывізацыі саўгас расфарміравалі, угоддзі падзялілі паміж суседнімі калгасамі, пабудовы перавезлі ў Дзям'янкі, а спіртзавод разбурылі... Цяпер толькі адны старыя памятаюць назву былога хутара *Іванаўскі*.

Тры дні на тыдні працавалі сяляне на Герарда. Тых жа, хто не выходзіў у вызначаны час на работы, сяклі розгамі. Герард любіў парадак і дысцыпліну. І як усякі добры гаспадар, быў зацікаўлены ў тым, каб яго падданыя мелі ўдосталь усяго, што патрэбна для нармальнага жыцця. Таму самыя старэйшыя жыхары Дзям'янак, якія добра ведалі пана Гілярду, лічаць, што ён быў добрым і клапатлівым: "мукі даваў, дровы выпісваў усім, каму было патрэбна, нічога не адмаўляў..."

Па прыездзе ў Дзям'янкі Герард выклікаў пецярбургскіх архітэктараў, якія даволі хутка пабудавалі раскошны княжацкі палац над рачной стромай. Побач з палацам быў разбіты парк, які меў выгляд звычайных панскіх і княжацкіх куткоў XVIII — XIX стст. Тут меліся цудоўныя алеі ліп, каштанаў, вязаў, аранжарэі з трапічнымі раслінамі, ставок, дзе плавалі лебедзі і дзікія качкі. Прыгожы каменны мосцік, перакінуты цераз ставок, вёў адразу да палаца, да ганка, на якім звычайна стары Мікалай Герард, абапіраючыся на кіёк, прымаў сваіх сялян са словамі: "Што, мой ласкавы?". Палац быў абнесены белай цаглянай сцяной-агароджай па тыпу палаца князя Паскевіча ў Гомелі. Каля палаца стаяў помнік. Цяпер цяжка вызначыць — каму. Але п'едэстал з гравіроўкай "С. -Пецярбург, Васіл'еўскі востраў, 19 лінія, Круцікаў" захаваўся.

Спецыялісты лічаць палац Герарда помнікам архітэктуры з выкарыстаннем элементаў псеўдарускага стылю. Яго падрабязнае апісанне змешчана ў кнізе "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць". Аднак я хутчэй назваў бы гэты палац помнікам шматгадовай нашай раўнадушнасці да сапраўднай гісторыі. Я не стану паўтараць асаблівасці архітэктуры палаца, бо сённяшні яго выгляд больш засмучае, чым радуе. Нагадаю толькі тыя факты, якія дарэмна шукаць у даведачнай літаратуры. Пасля рэвалюцыі княжацкі палац ператварылі ў дзіцячы дом. У час вайны дзяцей эвакуіравалі ў Тамбоўскую вобласць, а гітлераўцы размясцілі ў палацы карны атрад. Калі акупанты адступалі пад ударамі савецкіх войск (27 верасня 1943 года), гэтую пабудову спалілі. З часам пасля рамонту тут зноў размясціўся дзіцячы дом. Да 1948 года палац прыняў былы выгляд. У 1970 годзе па прычыне дзіцячага свавольства з агнём на трэцім паверсе загарэўся склад, быў знішчаны дах і столь верхняга паверха. Аднавіць пабудову дагэтуль так і не змаглі. А між тым, палац мог бы стаць гісторыка-архітэктурнай славутасцю ўсёй вобласці.

... Ад Дзям'янак я накіраваўся ў бок возера Равучае. Па дарозе на непрацяглы час спыніўся ў вёсцы Ачэса-Рудня. Гісторыяй гэтай вёскі ніхто ніколі не займаўся. Адзіным помнікам гісторыі і культуры тут з'яўляецца брацкая магіла 17 воінаў, загінулі ў верасні 1943 года пры вызваленні вёскі ад фашысцкіх акупантаў. Яшчэ ў 1959 годзе на ёй была пастаўлена скульптура воіна з аўтаматам. Дарэчы, брацкія магілы з помнікамі на іх сустракаюцца амаль у кожнай вёсцы Дзям'янкаўскага наваколля. У Дзям'янках, напрыклад, у сямі магілах пахавана 137 салдат з розных куткоў Савецкага Саюза. На каменнай стэле — прозвішчы рускіх, украінцаў, беларусаў, казахаў, узбекаў... Гэта не толькі тыя воіны, якія загінулі пры вызваленні Дзям'янак, але і тыя, хто паміраў ад цяжкіх ран у дзям'янкаўскім эвакашпіталі (памяшканне сённяшняй вясковай бальніцы). Побач — яшчэ адна стэла з імёнамі загінуўшых на франтах жыхароў Дзям'янак, Вылева, вёскі Чырвоны Сцяг (Хаткі) і пасёлка Вялікі Лес.

Але вернемся да Ачэса-Рудні. Гэтая вёска вельмі цікавая сваёй назвай. Першая частка тапоніма ўтварылася ад назвы суседняй рачулкі *Ачэса (Ачаса, Чэса)* балтыйскага паходжання: адпаведныя словы, напрыклад, літоўскай і латышскай моў (kiešá, ciesa) азначаюць "гушчар, вельмі густое, зарослае месца". Такую назву магла насіць толькі невялікая лясная і балоцістая рэчка. Другая частка назвы вёскі *Рудня* — славянскі адпаведнік-пераклад першай часткі тапоніма. *Рудня* — гэта "балоцістая рэчка" (у старажытнарускай мове слова *рудня* ўтварылася ад слова *руда*, якое ўжывалася ў значэннях "рака, рэчка, паток"; такое ж значэнне слова *руд* мае і ў іранскіх мовах). Такім чынам, агульнае значэнне складанай назвы *Ачэса-Рудня* — "балоцістая рэчка, якая працякае праз гушчар, зараснікі травы і кустоў".

Ёсць і яшчэ адна магчымасць тлумачэння, але менш праўдападобная. Зусім іншае слова *руда* ў славянскіх гаворках мае значэнне "балотная руда, балота з іржавай вадой, якая

змяшчае жалеза". Адсюль *Рудня* — "месца здабычы жалезнай руды".

Вызначыць дакладныя абставіны ўзнікнення цікавай назвы цяпер не прадстаўляецца магчымым. Зразумеўшы гэта, я пачаў шукаць мясцовых старажылаў, якія расказалі б мне аб мінулым вёскі. Звесткі, якія я атрымаў, хоць і невялікія, затое цікавыя.

Калісьці да рэвалюцыі ў Ачэса-Рудні жыла дробная польская шляхта, былымі "слядамі" якой з'яўляюцца рэшткі каталіцкага касцёла. Цікава, што жанчынам з Ачэса-Рудні, нават не польскага, а беларускага паходжання, якія выходзілі замуж і пераязджалі ў Дзям'янкі, давалі мянушку "ляхаўка".

Ад Ачэса-Рудні зусім недалёка і да Марозаўкі, побач з якой і знаходзіцца славутае Равучае возера. Але перш чым расказаць аб возеры, некалькі слоў аб самой Марозаўцы. Гэтая вёска мае іншую, неафіцыяльную назву *Новае Закружжа*. Калі ёсць Новае, павінна быць і *Старое Закружжа*. Яно на самой справе існуе. Гэта суседняя вёска Веткаўскага раёна Гомельшчыны. Новае Закружжа, відаць, заснавана выхадцамі-перасяленцамі са Старага Закружжа. І адбылося гэта не раней канца XVI — пачатку XVII ст. Новае пасяленне атрымала найменне *Марозаўка* ад імя нейкага *Марозава* — верхавода перасяленцаў са Старога Закружжа.

Цікавасць выклікае і тапонім *Закружжа*. Ён сведчыць, што як *Старое*, так і *Новае Закружжа* знаходзяцца за *нейкім кругам*. А што ж гэта за *круг?* На яго як быццам указвае яшчэ і назва суседняй вёскі *Кругоўка*, цэнтра Кругоўскага сельсавета, у які ўваходзіць і *Марозаўка* (Новае Закружжа). Ва Усходнім Палессі, да якога прымыкае дзям'янкаўскае наваколле, *круг* — "топкае балота, якое зарасло альхой", "асобнае балота сярод лесу", "невялікае азярцо, ставок". Такім чынам, *Закружжа* — "вёска, якая знаходзіцца за кругам — балотам, азярцом". Цікава, што і возера *Равучае* мае круглаватую форму. Але аб гэтым трохі далей.

Ляжыць возера на ўзгорыстай нізіне, па якой дзе-нідзе расце лес і хмызняк. Яно з'яўляецца своеасаблівым зборным пунктам пералётных плывуноў. У час асенніх і вясенніх пералётаў яго наведваюць усе пералётныя птушкі, тут яны збіраюцца з сіламі перад далейшым падарожжам. Жыхары расказваюць, што ў большасці сваёй тут спыняюцца розныя віды качак. Вада ў возеры даволі чыстая і мяккая. Берагі параслі лясной раслліннасцю, яны нізкія і тарфяныя. Калі верыць расказам, найбольшая глыбіня возера — 9 метраў. Што ж датычыць гулу, аб якім расказвала кніга "Россия", то старажылы штосьці чулі аб гэтым, але самога гулу, рову возера не чулі.

Забылася і іншая назва гэтага вадаёма — *Сарай*, якая была распаўсюджана ў XIX ст. *Сарай* — гэта трохі перайначанае мясцовымі жыхарамі неславянскае слова *сара, сар*, якое ў фіна-ўгорскіх мовах мае значэнне "балота". Некаторыя даследчыкі ўказваюць на адпаведныя старажытныя словы з індаіранскіх моў са значэннем "возера, мора". У гэтых словах яны бачаць праявы даўніх моўных кантактаў плямёнаў Усходняй Еўропы.

Для нас гэтае тлумачэнне дае не менш важную інфармацыю. Яно дазваляе "рэканструяваць" наступную сітуацыю далёкага мінулага. Славянскія плямёны, якія асвойвалі тутэйшыя мясціны, пэўны час мелі трывалыя сувязі з мясцовым насельніцтвам. Гэтае насельніцтва складалася з асобных балцкіх і фіна-ўгорскіх плямён. Ад апошніх славяне запазычылі сярод іншых і назву возера *Сара*, якую перайначылі потым у больш зразумелы для іх *Сарай*. Але гэтае перайначанне адбылося ўжо значна пазней, калі зусім забылася значэнне слова *сар, сара* — "балота, азярцо". Калі ж адзначанае слова яшчэ давала славянскім перасяленцам такую-сякую інфармацыю, яны знайшлі яму свой сінонім, слова-тлумачэнне з блізкім ці падобным значэннем. Гэтым словам быў геаграфічны тэрмін *круг* — "*возера, балота*". Возера, сапраўды, мела круглую форму. Слова *круг* хутка стала з агульнага ўласным. І хоць гэта не памятаюць мясцовыя жыхары, так яно і было на самай справе. Вёскі *Кругоўка* і *Закружжа* (*Старое і Новае*) размешчаны вакол возера *Круг*. Для мясцовых жыхароў, якія будавалі названыя вёскі, возера *Круг* было галоўным арыенцірам. Ад яго і былі ўтвораны назвы суседніх пасяленняў.

... Ля возера Равучае (Сарай-Круг) завяршылася маё падарожжа па дзям'янкаўскаму наваколлю. Я вяртаўся ў Гомель, поўны ўражанняў ад убачанага і пачутага, з новымі планамі аб далейшых паездках.





## АДЗІН ДЗЕНЬ У СТАРЫХ ДЗЯТЛАВІЧАХ

Хутка прадставілася магчымасць зрабіць яшчэ адно невялікае падарожжа, на гэты раз у процілеглым ад Дзям'янак напрамку — на паўднёвы ўсход ад Гомеля, у вёску Старыя Дзятлавічы, якая размешчана ў 35 кіламетрах ад абласнога цэнтра. Цікава, што рашэнне паехаць у Дзятлавічы матывавалася зноў-такі інфармацыяй, якую я пачарпнуў усё ў тым жа старым энцыклапедычным выданні "Россия. Полное географическое описание нашего Отечества. Т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия". Вось з якімі першапачатковымі звесткамі збіраўся я ў дарогу на гэты раз.

У рэчышчы Сожа ў XIX ст. побач з Дзятлавічамі знаходзілі мноства касцей выкапнёвых жывёл. Гэтыя знаходкі далі магчымасць уладальніку Гомеля князю І. Ф. Паскевічу скласці цэлы музей з дагістарычнай тэматыкай. У размешчаным на паўднёвы ўсход ад Дзятлавіч так званым *Кабыліным балоце* (старажытнае рэчышча Сожа) адшуквалі рэшткі суднаў, нагружаных воскам. Дадаткова аўтары "России" адзначалі, што ў другой палове XIX ст. у Дзятлавічах, як і ў іншых населеных пунктах уздоўж Сожа, вялася пабудова непаравых суднаў.

Такая інфармацыя не магла пакінуць абыякавым. Хацелася, як кажуць, уласнымі вачыма ўбачыць гэтыя мясціны. Акрамя таго, была патаемная надзея ўпэўніцца ў тым, што дзіўныя, рэдкія і амаль што экзатычныя знаходкі працягваюцца і ў нашы дні. А што, калі мясцовыя краязнаўцы стварылі дзесьці ў школе ці ў клубе свой музей — гістарычны куток?!

Зразумела, Дзятлавічы вабілі не толькі экзотыкай. Вёска гэтая вельмі старажытная. І хоць гісторыя яе амаль нідзе не фіксавалася, на месцы заўсёды адшукваюцца сляды далёкага мінулага, няхай гэта будуць мясцовыя назвы, легенды і паданні ці расказы старажылаў, пачутыя імі ад сваіх бацькоў і дзядоў.

Сцвярджэнне аб тым, што Дзятлавічам не адна сотня гадоў, грунтуецца на цалкам верагодных фактах. У канцы XVI ст. у Гомелі ў перыяд праўлення літоўскага князя Тышкевіча было складзена дэталёвае апісанне гомельскага замка і ўсіх вёсак гомельскай воласці з указаннем атрымліваемых ад іх даходаў. Сярод 36 вёсак пазначана і вёска Дзятлавічы. Старадаўнія дакументы данеслі да нас нават імя ўладальніка зямель вакол Дзятлавіч. Ім быў свяшчэннік Спаскай царквы ў Гомелі, буйны па тых часах зямельны ўласнік айцец Іерафей. Гэтыя абставіны, у сваю чаргу, дазваляюць зазірнуць у яшчэ больш раннюю гісторыю вёскі. Справа ў тым, што праваслаўныя гомельскія цэрквы, у тым ліку і Спаская, былі ў асабліва добрым стане і квітнелі ў самым пачатку XVI ст., у перыяд з 1500 да 1535 года, калі Гомель і навакольныя землі адышлі ад Вялікага княства Літоўскага і належалі Маскоўскай дзяржаве. Менавіта ў адзначаны час гомельскі правіцель — князь Сямён Мажайскі падараваў гэтыя землі свяшчэнніку галоўнай царквы.

Такім чынам, у пачатку XVI ст. Дзятлавічы з'яўляліся ўжо вёскай, якая цалкам сфарміравалася. Калі ж дапусціць яшчэ больш раннія яе вытокі, то паведамленні аб затанулых старажытных суднах з воскам і аб касцях выкапнёвых жывёлін на сожскім беразе ў раёне Дзятлавіч уяўляліся верагоднымі. На жаль, ні ў мясцовай школе, ні ў бібліятэцы, ні ў сельсавеце не запісваўся летапіс вёскі, не збіраліся мясцовыя факты. Заставалася надзея на мясцовых старажылаў, якія звычайна захоўваюць у сваёй памяці шматлікія падзеі мінулых гадоў. І гэтая надзея ў значнай ступені апраўдалася.

... Мясцовае паданне расказвае, што даўным-даўно на месцы сённяшніх Дзятлавіч быў густы, дрымучы лес. Людзі жылі тады ў іншым месцы, трохі наводдаль, прыкладна там, дзе цяпер знаходзіцца ўрочышча *Селішча*. Але вось рака змяніла сваё цячэнне, павярнулася рэчышча, і вада вясной і пасля спорных і працяглых дажджоў усё часцей стала заліваць пасяленне. Тады людзі пацягнуліся да лесу, дзе і паставілі свае новыя хаты. А ў лесе да гэтага нічога не было. Толькі жылі ў вялікай колькасці дзятлы. Ад гэтых птушак і пайшла назва новай вёскі.

Калі пачаць аналізаваць гэтае паданне, выявіцца, што яно асноўваецца на дастаткова верагодных фактах. Так, урочышча *Селішча*, нягледзячы на тое, штоператварылася ў заліўны луг, прымушае здагадвацца аб былых месцах пасялення: на ім прыкметна выступаюць цікавыя ўзгоркі. Ды і сама назва *Селішча* вельмі красамоўная. Падумалася, вось бы папрацаваць тут археолагам, магчыма, яны адказалі б на пытанне аб дакладным часе перасялення людзей у дзятлавіцкі лес. На беларускай зямлі ў сучасны момант ёсць 14 населеных пунктаў, назвы якіх падобныя на тапонім *Дзятлавічы*. Гэта, у прыватнасці, аднайменныя вёскі Лунінецкага і Драгічынскага раёнаў Брэсцкай

вобласці, Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці; вёска *Дзятлы* Віцебскага раёна; *Дзятлаўка* Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці і Вілейскага раёна Мінскай вобласці; вёска і пасёлак *Дзятлаўшчына* адпаведна Мядзельскага раёна Мінскай вобласці і Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці, а таксама некаторыя іншыя.

Частка з пералічаных геаграфічных назваў узыходзіць да прозвішчаў і мянушак тыпу *Дзяцел, Дзятлік, Дзятлаў*. Але цікава тое, што такія асабовыя імёны фіксуюцца ў беларускіх пісьмовых помніках (дакументах, граматах, летапісах, актах, купчых і т.д.) толькі з XVII ст., у такіх жа рускіх помніках — з XVI ст., ці не значыць гэта, што нашы Дзятлавічы сапраўды атрымалі сваю назву ад лясной птушкі-дзятла? Такі спосаб намінацыі, аднак, для ўсходнеславянскай тапанімii не ўласцівы. Таму адантрапанімічнае паходжанне тапоніма *Дзятлавічы*, як і падобных на яго, застаецца адзіна правільным.

Аб рэальнасці былой расчысткі лесу пад будынкі і раллю сведчыць яшчэ адна мясцовая назва — *Расцяробы* (ад дыялектнага слова *церабіць* — расчышчаць тэрыторыю ад лесу). Так называецца ўрочышча каля самай ракі.

Нарэшце, нельга забываць, што змяненне рэчышча Сожа таксама з'яўляецца рэальнасцю. Цэлая сістэма азёр і рукавоўстарыц у наваколлі Дзятлавіч сведчанне таму.

Адна з такіх нядаўніх старыц носіць цікавае найменне *Параходнае балота*. Праўда, балота цяпер ужо няма, яго зусім нядаўна асушылі. Але старыя памятаюць, як па Параходнаму балоту хадзілі сапраўдныя параходы, якія плылі ўніз і ўверх па Сожу. Менавіта з гэтага балота яшчэ на памяці старых выцягвалі затанулую ці то баржу, ці то іншае нейкае судна з воскам. Акрамя таго, калі капалі па берагах балота торф, то адкопвалі пахаваныя ў даўнія часы ў балотнай дрыгве ствалы і смольныя карчы хваёвых дрэў. А яшчэ знаходзілі (захоўваю тут тэрміналогію расказчыкаў) нейкія "дзіўныя штучкі, "жалезкі", бітыя гаршкі, манеты. Вось вам і Параходнае балота — сапраўды мясцовы археалагічны музей, на якім цяпер, праўда, раскінуліся бульбяныя палеткі.

Параходнае балота — гэта, відаць, параўнальна новая назва, што ўзнікла пасля адпаведных знаходак на ім. У папярэднія часы яго, па ўсёй верагоднасці, называлі *Кабылiным балотам*, як вынікае з паведамлення, змешчанага ў нагаданай вышэй кнізе "Россия". Сувязь гэтай назвы са словам *кабыла* не павінна разумецца літаральна. Азначэнне *кабыліны* ў дадзеным выпадку выкарыстоўваецца ў пераносным сэнсе, і яго асноўная функцыя заключаецца ў тым, каб негатыўна, адмоўна характарызаваць геаграфічны аб'ект, які зусім не выкарыстоўваецца ў гаспадарчым плане і з'яўляецца толькі перашкодай для вядзення земляробства ці жывёлагадоўлі. Такім чынам, *Кабылінае балота* трэба разумець як "непрыгоднае, дрэннае, непатрэбнае". Каб яшчэ лепш зразумець пераноснае значэнне гэтага тапоніма, яго можна параўнаць з такімі шырока вядомымі агульнымі найменнямі раслін, як *конскае шчаўе* і *воўчыя ягады*. Абедзве гэтыя назвы разумеюцца аднолькава — "непрыдатныя

для яды". Дарэчы, на тэрыторыі Палесся сустракаюцца так званыя *Воўчыя рэкі*. Так называліся невялікія вадацёкі, якія былі зусім непрыгодныя для гаспадарчых мэт. Пра косці загадкавых дагістарычных жывёлін старыя не расказвалі. Але мы не будзем браць пад сумненне паведамленні аўтарытэтных геаграфічных апісанняў. Дзятлавіцкія старыцы, якія пахавалі векавыя ствалы дрэў і прынялі на сваё дно старадаўнія лодкі з воскам, магчыма, захоўваюць яшчэ не адну таямніцу. Побач з вёскай *Старыя Дзятлавічы* размешчаны *Дзятлавічы Новыя.* Можна было б думаць, што гэта апошняя вёска параўнальна новая, як вынікае з яе назвы. Аднак, магчыма, гэта далёка не так. Сапраўды новым аказваецца толькі геаграфічнае найменне. Старажылы памятаюць папярэдняе імя вёскі — *Слабада*. Дарэчы, геаграфічныя апісанні пачатку XX ст. не ведаюць Старых і Новых Дзятлавіч, у іх указваюцца толькі Дзятлавічы. Баярскае сяльцо *Слабада* адзначаецца ў нагаданым ужо спісе вёсак Гомельскай воласці канца XVI ст. Праўда, няма дакладных доказаў, што гэта была менавіта дзятлавіцкая Слабада.

Назва сяльца *Слабада* наводзіць на шэраг цікавых роздумаў. Старабеларускія помнікі XVI — XVII стст. сведчаць аб узнікненні слабод на каралеўскіх і царкоўных землях. Слова *слабада* ў гэтых помніках выкарыстоўваецца ў значэннях "ільгота, вызваленне ад павіннасцей на пэўны тэрмін", "ільготнае пасяленне". Слабада сельскага тыпу, якой з'яўлялася ў свой час цяперашняя вёска *Новыя Дзятлавічы*, узнікла на пустых, незаселеных землях. Заснавалі яе перасяленцы з суседніх Дзятлавіч. Найбольш інтэнсіўны працэс складвання слабод назіраўся ў XIV — XV стст. Ці не да гэтага часу адносіцца ўзнікненне і дзятлавіцкай Слабады? А калі гэта так, дык мы дайшлі да самага ранняга часу ў гісторыі гомельскіх Дзятлавіч.

Ужо перад самым ад'ездам з вёскі ў адной з апошніх гутарак з яе жыхарамі пашанцавала, як кажуць, напаследак запісаць яшчэ некалькі ўзораў невычэрпнай народнай мудрасці, назіральнасці, вобразнага мыслення. Маюцца на ўвазе народныя назвы невялікіх аб'ектаў — урочышч, сенажацяў, палеткаў, узлессяў, вадаёмаў, калодзежаў, ручаёў, выганаў. Вось, напрыклад, некалькі такіх найменняў. Урочышча *Пракопаў рог* (тут мясцовы славуты паляўнічы Пракоп згубіў свой паляўнічы рог, у якім трымаў порах); *палянка Бяседкі* (на ёй збіраліся людзі па вечарах адпачыць, пагутарыць, ці, як гавораць у Дзятлавічах, "пабяседваць"); *урочышча Валочкі* (назва захоўвае старое беларускае слова валачыць — "баранаваць"); *возера Заезніца* (яно як бы "выязджае", "выбягае" з ракі Сож, па гэтаму возеру і ў Сож лёгка "заехаць").

Калі б скласці слоўнік падобных назваў, атрымалася б невялікая энцыклапедыя вёскі, якая паведала б і аб тутэйшай гісторыі, і аб прыродзе, а таксама аб людзях, тых, што жылі тут раней, і тых, што жывуць цяпер (аб мясцовых мікраназвах, ці мікратапонімах, якія можна адшукаць у кожным населеным пункце, больш падрабязна расказваецца ў адным з наступных раздзелаў гэтай кнігі — "Не зусім звычайныя назвы").

Адзін дзень, які я правёў у вёсцы Старыя Дзятлавічы, даў шмат матэрыялу для роздуму. А колькі яшчэ можна было б пазнаць, калі б у школе, бібліятэцы, клубе сістэматычна вялася краязнаўчая работа. Арганізаваць яе няцяжка. Патрэбны толькі зацікаўленасць, ініцыятыва, пошук. Далучэнне ж да краязнаўства ў першую чаргу школьнікаў, я ўпэўнены, хутка дало б свае вынікі. Вядома: здабытае, сабранае сваімі рукамі намнога даражэй за тое, аб чым прачытаеш у кніжках. Ці не з гэтага пачынаецца сапраўднае выхаванне пашаны да сваёй зямлі, адданасці роднаму краю.





## ЧАМУ ГУТА — СЦЮДЗЁНАЯ?

На 31-ым кіламетры чарнігаўскай шашы на поўдзень ад Гомеля справа ад дарогі, на ўзлессі, недалёка ад берага старога рукава ракі Сож — возера *Старык* маўкліва стаяць 36 курганоў.

Зрэшты, слова *курганы* да гэтых штучных збудаванняў старажытнасці дапасоўваецца з вялікай нацяжкай. Мы прывыклі лічыць курганамі насыпы, якія ўражваюць сваёй велічнасцю, значнасцю і таямнічасцю. Тут жа — невялікія круглявыя ўзгоркі, якія ледзь толькі ўзвышаюцца над зямлёй і таму амаль не прываблівають пабочны позірк. Самыя вялікія з іх — вышынёй да 1—1,5 метраў. Гэтыя ўзгоркі ўваходзяць у адну з найлепшых зон адпачынку гамяльчан: тут знаходзяцца пансіянаты, турбазы, піянерскія лагеры. На жаль, людзі зусім не здагадваюцца, што яны сутыкаюцца з археалагічнымі помнікамі, якія пакінулі нашы продкі ў дастаткова далёкія часы; што побач з пляжнай зонай у раёне вёскі *Сцюдзёная Гута* знаходзіцца курганны могільнік, які адносіцца, як можна меркаваць, да рубяжу I і II тысячагоддзяў новай эры. Справа ў тым, што дакладны час узнікнення гэтых помнікаў невядомы, паколькі спецыялісты-археолагі, па ўсёй верагоднасці, не даследавалі належным чынам старажытнасці Сцюдзёнай Гуты. Прынамсі, энцыклапедычнае выданне "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць" нічога аб гэтых курганах не паведамляе.

У мясцовага насельніцтва існуе версія, згодна з якой у курганах пахаваны шведскія салдаты з часоў руска-шведскай

вайны пачатку XVIII ст. Аднак гэтая версія — не больш чым "вандроўная" легенда, якую можна пачуць і ў іншых мясцовасцях, дзе маюцца аналагічныя старажытнасці (гл., напрыклад, раздзел гэтай кнігі "Дзям'янкаўскае наваколле"). Гэтую легенду ўжо некалькі дзесяткаў гадоў назад абвергнуў мясцовы настаўнік, гісторык Кузьма Трафімавіч Палубатонаў. Ён быў першым відавочцам таямніц, схаваных у курганах. Людзі цяпер, праўда, помняць толькі аб адной, даволі незвычайнай "таямніцы": пад пластом зямлі ў некаторых з раскапаных К. Т .Палубатонавым курганоў былі знойдзены гліняныя збаны з віном, якое добра захавалася. Гэтыя карчагі, як і іншыя "неабходныя" рэчы, на думку нашых продкаў, выкарыстоўваліся нябожчыкамі ў пасмяротным жыцці.

Курганныя могільнікі звычайна размяшчаюцца недалёка ад таго месца, дзе ў мінулым знаходзілася старажытнае пасяленне. У нашым выпадку такім старажытным пасяленнем трэба лічыць вёску Сцюдзёная Гута. Згодна з яшчэ адным мясцовым паданнем, Сцюдзёная Гута старэйшая за Маскву на 15 год. Калі верыць гэтай мясцовай "храналогіі", то выходзіць, што Сцюдзёная Гута, якая нічым асаблівым не вызначаецца сярод падобных вёсак, акрамя, магчыма, надзвычай маляўнічага краявіду, набліжаецца да свайго 860 "лета". Можна, вядома, сумнявацца ў дакладнасці падобнага датавання, але зусім не верыць яму няма ніякіх падстаў. Больш таго, не выключана, што Сцюдзёная Гута адлічвае свой век з яшчэ больш ранняга часу. Зараз у ёй жыве каля 300 чалавек, аднак закрылася школа з-за адсутнасці жыхароў школьнага ўзросту і павялічваецца колькасць дамоў, якія пустуюць і прадаюцца гарадскім дачнікам.

... Пяць-сем мінут хадзьбы праз лес ад першакласнай шашы ў бок Чарнігава — і позірку падарожніка адкрываецца вялізная прадаўгаватая гара — высокі правы бераг невялікай лясной рачулкі *Сцюдзёнкі*. Рэчка сапраўды надзвычай халодная. Бярэ пачатак яна ў лесе, у балоце і цячэ ў кірунку да старыцы Сожа, да таго месца, дзе размешчаны курган. Ад гэтай Сцюдзёнкі і пайшла назва *Сцюдзёная Гута*. *Гутамі* ж з даўніх пор на Беларусі называлі плавільні, гэта значыць месцы плаўкі руды, а трохі пазней так сталі называць невялікія металічныя ці шкляныя заводы. Цікава, што на тэрыторыі рэспублікі, па падліках вядомага беларускага географа і тапаніміста В. А. Жучкевіча, найменне Гута носяць 43 вёскі. У нашым прыкладзе імя рэчкі Сцюдзёнкі і назва месца *Гута* не выпадкова зліліся ў адно найменне: гута-плавільня размяшчалася якраз на беразе рэчкі, на высокай прыбярэжнай гары.

У старажытнарускі час з дна лясной рачулкі, якая выцякала з балота, даставалі камякі жалезнай руды і тут жа, на месцы, выраблялі з яе разнастайныя вырабы — прылады працы, зброю і, магчыма, упрыгожанні. Побач з гутай, на той жа прыбярэжнай гары, знаходзілася і пасяленне тутэйшых насельнікаў, якія належалі, як можна меркаваць, да племені радзімічаў. Жалезныя вырабы мясцовай вытворчасці служылі прадметам гандлю, а месца абмену, па ўсёй верагоднасці, знаходзілася на беразе ракі, цяперашняй старыцы. Жалезаапрацоўчая вытворчасць вя-

лася ў Сцюдзёнай Гуце на працягу доўгага часу. На гэта ўказваюць 36 лясных курганоў, якія, калі б іх даследавалі археолагі, паведамілі і пачатковую і канечную даты "прамысловага" радзіміцкага пасялення на Сцюдзёнцы.

Па расказах старажылаў, раней лясная рэчка была намнога больш глыбокай і шырокай, чым яна з'яўляецца цяпер. Зрэшты, магчыма, яе рэчышча штучна расшырылі і паглыбілі. І зрабілі гэта вось па якой прычыне. У XVIII ст. у Сцюдзёнай Гуце знаходзіўся своеасаблівы "філіял" польскай шкларобнай вытворчасці. Шкло выраблялі на тым жа прыбярэжным узвышшы, на якім калісьці выплаўлялі балотную руду. Гатовую прадукцыю грузілі на баржы, якія потым перацягвалі ў возера Старык. У вёсцы захаваліся невыразныя ўспаміны аб часах двухвекавой даўніны. У Сцюдзёнцы і на яе берагах мясцовыя жыхары дагэтуль знаходзяць шкляныя адлiўкі.

Але сама *гута* даўно астыла. І ў гэтым плане назва вёскі *Сцюдзёная Гута* набывае сімвалічнае гучанне і своеасаблівы гістарычны сэнс.

Акрамя двух мясцовых паданняў, якія мы нагадалі вышэй, сцюдзёнагутаўцы ведаюць і яшчэ адно. Неяк гомельскі князь, праязджаючы са сваёй жонкай па тутэйшых мясцінах, згубіў бочку з золатам. Фантастычнае гэтае золата ўжо даўно ніхто не шукае, але вось упамінанне князя Паскевіча ў сувязі з вёскай з'яўляецца зусім рэальным.

У Сцюдзёнай Гуце дагэтуль захаваўся дыхтоўны будынак школы, якую пабудавала княгіня Паскевіч. Праўда, дакладна не вядома, якая з княгінь заставіла аб сабе памяць. Але нам здаецца, што гэта хутчэй за ўсё была Елізавета Аляксееўна Паскевіч, уроджаная Грыбаедава, дваюрадная сястра Аляксандра Сяргеевіча Грыбаедава, жонка князя Івана Фёдаравіча Паскевіча — Эрыванскага. Але магчыма, што гэтай невядомай княгіняй Паскевіч на самой справе была Ірына Паскевіч, якая шмат добрых і плённых спраў зрабіла для Гомеля і яго наваколля і ў гонар якой у Гомелі нават была названа вуліца — *Ірынінская* (цяпер яна вядома як Першамайская).

Яшчэ адна славутасць старой Сцюдзёнай Гуты — дарэвалюцыйны лесапільны завод. Лес секлі тут у вялікай колькасці і сплаўлялі па возеры Старык у Сож, у Гомель. Магчыма, лесапільны завод і быў прычынай, з-за якой планіравалася пракласці праз вёску чыгунку. Стараверы з Дабранкі (да рэвалюцыі — гэта адзін з цэнтраў стараверства) фінансавалі пабудову чыгункі, але яна ў канчатковым выніку прайшла праз суседнюю вёску Церуху.

Гісторыяй Сцюдзёнай Гуты, як і большасці іншых вёсак, сур'ёзна ніхто не займаўся. Таму нават паслярэвалюцыйныя падзеі захаваліся толькі ў памяці старажылаў.

Адзін з іх — загадчык сцюдзёнагуцкім клубам Рыгор Іванавіч Краўчанка. Па сваёй асабістай ініцыятыве ён склаў невялікі летапіс Сцюдзёнай Гуты, у якім адлюстраваў найбольш значныя, на яго погляд, падзеі мінулага вёскі.

У 1928 годзе быў створаны калгас "Сацыялізм" у вёсцы *Церуха*. У гэты калгас са Сцюдзёнай Гуты ўступілі 7 сямей, якія

ўтварылі рыбалавецкую арцель. Свой калгас у Сцюдзёнай Гуце арганізавалі ў 1933 годзе (спачатку гэта было толькі аддзяленне цярухскага калгаса), а з 1935 года ўжо ўсё насельніцтва вёскі з'яўлялася калгаснікамі.

Сяляне баяліся кулацкіх бандыцкіх куль, таму першымі актывістамі мясцовага калгаснага руху былі прыезджыя людзі. У 1938 годзе пабудавалі першы ў гісторыі вёскі клуб. Памятаюць у Сцюдзёнай Гуце і такі факт: у гады сталінскіх рэпрэсій бяследна зніклі два жыхары вёскі.

Падзеі Вялікай Айчыннай вайны прайшлі міма лясной вёсачкі. Толькі пры падыходзе Савецкіх войск у 1943 годзе фашысты вырашылі спаліць Сцюдзёную Гуту, але ім перашкодзілі савецкія разведчыкі. Немцы адступілі ў бок вёскі Краўцоўка і спалілі яе.

... Факты, якія паведамляюцца тут, могуць здацца каму-небудзь малазначнымі і не вартымі ўвагі. Але ж "вялікая гісторыя" краю, рэспублікі, усёй краіны якраз і складаецца з такіх вось, на першы погляд, "невыразных" "малых гісторый" нашых вёсак. І ці не тут хаваецца інфармацыя для аднаго з магчымых адказаў на адвечнае пытанне — з чаго пачынаецца Радзіма?

А калі гэта так, дык не такімі ўжо малазначнымі для мінулага нашага краю з'яўляюцца звесткі аб дакладных вытоках лясной рэчкі Сцюдзёнкі, аб паўзабытых курганах, і аб даўняй гуцеплавільне, якая была "прамысловым" цэнтрам ад часоў летапісных радзімічаў да параўнальна нядаўняй пары. І няхай гэтая Гута даўно "сцюдзёная". Урэшце, у кожнай гуты ёсць свой пачатак і свой канец. Галоўнае, відаць, у тым, каб яе гістарычны шлях знайшоў сваё месца ў калейдаскопе гісторыі. У выніку гэты "калейдаскоп" толькі стане яшчэ больш яскравым.





## ХТО ТАКІЯ СЕЎРУКІ?

У пяці кіламетрах на поўдзень ад Гомеля ляжыць вёска *Сеўрукі*. Калісьці тут былі непраходныя балоты і лес. І ёсць тут возера, якое, калі верыць расказам жыхароў, у асобных месцах дасягала глыбіні 12 метраў. На беразе гэтага возера, згодна з легендай, у старадаўнія часы былі пабудаваны хаціны, якія і паклалі пачатак сучаснай вёсцы. А першым пасяленцам быў чалавек па прозвішчу *Сяўрук*. Хто ён і адкуль, дакладна ніхто і не ведае. Старажылы, аднак, запэўніваюць, што ён быў беглым катаржнікам і ў пошуках збаўлення ад няволі трапіў у тутэйшыя мясціны, схаваўся ў балотах, ды так і застаўся тут назаўсёды. А здарылася гэта аж у час панавання імператрыцы Кацярыны II, гэта значыць дзесьці ў XVIII ст.

На гэтым паданні можна было б паставіць кропку і падзякаваць жыхарам вёскі за тое, што яны захавалі гістарычную памяць аб сваім мінулым. Але чытаць гісторыю па мясцовых паданнях — усё роўна, што вывучаць яе выключна па былінах.

Вёска Сеўрукі ля Гомеля — не адзіная ў Беларусі. У Нараўлянскім раёне Гомельшчыны да вайны існаваў хутар *Сеўрукоўскі*. Вёскі *Сеўрукі* ёсць у Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці і ў Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці. Аднайменны хутар існуе і на Віцебшчыне, у Браслаўскім раёне. А калі звярнуцца да архіўных матэрыялаў, выяўляецца, што пасяленні Сеўрукі і Сеўрукоўшчына былі яшчэ і ў былых Віленскім і Ашмянскім паветах Віленскай губерні.

Прозвішчы тыпу *Сяўрук* вядомы ў розных мясцовасцях: у Расіі, на Чарнігаўшчыне, Палтаўшчыне, на Валыні, нават у Польшчы і Літве. Таму ўзнікае пытанне: адкуль распаўсюдзілася гэтае прозвішча, хто такія Сеўрукі?

Імя *Сяўрук* нагадвае такія найменні, як *Мінчук* ці *Пінчук (мінчук, пінчук)*. Але *мінчук* — гэта чалавек з Міншчыны, а *пінчук* — гэта той, хто жыве на Піншчыне. Здаралася так, што калі, напрыклад, чалавек з Піншчыны трапляў у іншае этнічнае асяроддзе, то слова *пінчук*, якое ўказвала першапачаткова толькі на месца яго паходжання, ператваралася ў мянушку, а потым і ў прозвішча. Напрыклад, на Украіне выхадцаў з Беларусі часам вызначалі мянушкай Мазыранін, Пінчук, Случчанін, Туравец, Бабруйка (такія мянушкі даваліся па месцах паходжання тых ці іншых людзей), а іншы раз больш шырока — *Ліцвін*.

Калі гэта так, то трэба паставіць пытанне: а дзе тая мясцовасць, адкуль першапачаткова паходзяць *сеўрукі (Сеўрукі)*?

У 1897 годзе ў Мінску была надрукавана невялікая кніжачка пад назвай "Вывод о происхождении прозвищ Севрук и Курчевич-Севрук", якую напісаў беларускі даследчык Васіль Міхайлавіч Курчэвіч-Сяўрук. Аўтар адным з першых сярод вучоных указаў на сувязь прозвішча *Сяўрук*, якое ўтварылася ад агульнага першапачатковага наймення *сяўрук, сеўрукі*, з назвай старажытнарускага племені *севяран*. Севяране ў IX-XII стст., а можа і яшчэ раней, жылі ў парэччы Дзясны і Сейма. Яны заснавалі горад Ноўгарад-Северскі, іх племянным цэнтрам быў таксама Чарнігаў. Аўтар упамянутай кніжкі імкнуўся нават паказаць сувязь прозвішча *Сяўрук* і племяннной назвы *севяране* з імёнамі некаторых рымскіх сенатараў, патрыцыяў і палкаводцаў, якія мелі прозвішча *Сэвер, Сэвэр* ці *Север*. Гэтыя спробы цяпер, вядома, выглядаюць трохі дзіўнымі. Аднак не гэта галоўнае ў каштоўнай кніжцы. Галоўнае ў тым, што аўтар правільна супастаўляў слова *сяўрук* з этнічным найменнем *севяране*. *Сяўрук*, такім чынам, у літаральным разуменні — жыхар *Сяверыі, Северскай зямлі* (параўнайце: *палешук* — жыхар *Палесся*). У XIV—XVII стст. *сеўрукамі* называлі левабярэжна прыдняпроўскае насельніцтва Украіны, якое жыло ў басейнах Дзясны, Сулы, Псла і Ворсклы. З гэтага часу сеўрукі, а з імі і геаграфічныя назвы тыпу *Сеўрукі* фіксуюцца на Палтаўшчыне, пераходзяць на ўкраінскае Правабярэжжа, дасягаюць Падолля, заходзяць у Беларусь. Вось і вёска *Сеўрукі* Гомельскага раёна была заснавана выхадцамі з той тэрыторыі, дзе гістарычна пражывала этнаграфічная група сеўрукоў. Што ж датычыць саміх сеўрукоў, то вучоныя-археолагі, этнографы і мовазнаўцы лічаць, што на самай справе працягвалі нейкую родную лінію, што звязвала іх з плямёнамі часоў Старажытнай Русі ці нават даславянскімі іранамоўнымі плямёнамі, якія былі асіміляваны славянамі на левабярэжжы Сярэдняга Падняпроўя.

В. М. Курчэвіч-Сяўрук прыводзіць наступны цікавы факт, які ён знайшоў, вывучаючы старажытныя хронікі. У 1406 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўт пачаў вайну з маскоўскім князем Васіліем. Прычынай вайны з'явілася тое, што маскоўскія людзі каля горада Пуціўля, гэта значыць у парэччы Сейма, на зямлі

Ноўгарад-Северскага княства, адабралі сілаю ў "літоўцаў-сеўрукоў двух баброў, кадзь мёду, дзве сякеры, сарвалі з іх тры кафтаны і паясы, у якіх захоўваліся грошы па сотні рублёў". *Літоўцамі-сеўрукамі* называліся мясцовыя жыхары басейна Сейма, якія падпарадкоўваліся літоўскім князям і тэрыторыя якіх уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Адсюль і азначэнне *літоўцы* пры асноўным этнічным імені *сеўрукі*. Менавіта таму літоўцы-сеўрукі і прасілі абароны ў князя Вітаўта...

Распаўсюджанне прозвішчаў тыпу *Сяўрук*, а таксама геаграфічных назваў *Сеўрукі, Сеўрукоўшчына* ў розных раёнах Беларусі і Літвы можа тлумачыцца і тым, што *сеўрукамі* празываліся таксама тыя жыхары Вялікага княства Літоўскага, якія пасяліліся ў Северскім княстве пасля ўваходу яго ў склад гэтага дзяржаўнага ўтварэння ў першай палове XIV ст. і нашчадкі якіх потым вярнуліся ў свае родныя мясціны. Дарэчы, менавіта такім чынам тлумачыць узнікненне свайго прозвішча і В. М. Курчэвіч-Сяўрук.

Адзначым некалькі важных і цікавых фактаў з гісторыі вёскі Сеўрукі Гомельскага раёна. Гэтая вёска ўпершыню фіксуецца ў пісьмовых дакументах у канцы XVI ст. У 70-ых гадах XVIII ст. вёска Сеўрукі са 125 душамі мужчынскага полу па найвысачэйшаму ўказу была куплена казной у яе ўладальнікаў (пані Усціновічавай і памешчыкаў Хялчэўскіх) для павелічэння насельніцтва павятовага горада Новай Беліцы (гл. раздзел "Беліцкая загадка"). Прыгонныя сяляне Сеўрукоў станавіліся свабоднымі, запісваліся ў мяшчанскае саслоўе і перасяляліся большай часткай у павятовы цэнтр.

Частка вёскі Сеўрукі носіць найменне *Чаўнішча*. Яно напамінае аб старажытнай рэчцы *Чолне (Чоўне)*, якая ў мінулым магла быць месцам вырабу лодак, чаўноў. Гэтая рэчка абумовіла ўзнікненне і назвы маляўнічага ўрочышча *Чонкі* (першапачаткова — "*Чолнскі абрыў*", "*Чонскі абрыў*"), размешчанага паблізу Сеўрукоў. Сёння тут — зона адпачынку гамяльчан. А вось гісторыя Чонак — вельмі цікавая і своеасаблівая. У 1760 годзе ў данай мясцовасці ўзнік стараверскі Іасафаўскі скіт, які заснаваў Іасаф, выхадзец з Гжацка. Раскольнікі пабудавалі побач з пасёлкам "бяльцоў" і "жыллё" для манахаў-чарняцоў — мужчынскі Успенскі манастыр, які існаваў да 1797 года, калі ён быў пераўтвораны ў адзінаверскі. Яшчэ ў 1893 годзе гэты манастыр кіраваўся праваслаўным ігуменам, але службы ў ім адбываліся па старадрукаваным кнігам. У пачатку XX ст. у Чонках узнік жаночы праваслаўны Ціхвінскі манастыр, які праіснаваў да 30-ых гадоў. За "манастырскае" мінулае жыхароў пасёлка Чонкі і сеўрукоўцаў называлі "*канунікамі*" — ад слоў *канон, канун* — "узаконенае правіла вышэйшай царкоўнай іерархіі", у дыялектах таксама — "маленне, паніхіда, памінкі: куцця, разведзеная вадой з мёдам, якую ўжываюць пры памінанні".

Вось такія цікавыя факты, звязаныя з наваколлямі Сеўрукоў, удалося адшукаць.





## ЖЫЎ-БЫЎ РЫБАК ВАСІЛЬ

Аднойчы пры размове са студэнтамі-філолагамі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны зайшла размова аб паходжанні назваў гарадоў і вёсак. Аказалася, што многіх студэнтаў цікавіць гэтае пытанне, аднак далёка не кожны з іх змог растлумачыць назву сваёй роднай мясцовасці. Прайшоў некаторы час, і зноў узнікла пытанне аб назвах. Відаць, той-сёй са студэнтаў пацікавіўся дома, параспытваў у сваіх бабуль і дзядуль. І вось чацвёракурсніца Алена Магола расказала такое паданне.

... Калісьці даўным-даўно на бераг ракі Бярэзіны, на тое месца, дзе цяпер размяшчаецца вёска *Васілевічы* Жлобінскага раёна, прыйшоў рыбак, адзін з тых шматлікіх шукальнікаў шчасця і ўдачы, якіх заўсёды клікалі да сябе неабжытыя землі. Звалі рыбака Васілём. Зрубіў ён хату, завёў гаспадарку, а праз некаторы час пацягнуліся да яго іншыя перасяленцы. Так і ўзнікла вёсачка. А калі сталі думаць, якое ёй даць імя, вырашылі назваць проста *Васілевічы*, быццам бы ад імя першапасяленца — рыбака Васіля.

Калі студэнты пачулі гэтае апавяданне, пачаліся спрэчкі. Выказваліся розныя думкі, меркаванні. А ў выніку — адбыўся цікавы дыспут.

Гэты факт, магчыма, і не заслугоўваў бы ўвагі, каб не меў трохі больш шырокі сэнс, чым толькі спрэчка аб адной канкрэтнай назве. У нашых вёсках яшчэ жыве тое пакаленне, якое захавала ў памяці шматлікія казкі, паданні і легенды, у тым ліку

і апавяданні пра ўзнікненне і гісторыю населеных пунктаў. Няўважлівыя адносіны да вуснай спадчыны, як і да многіх іншых элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры народа, ужо далі свае горкія плады. Не трэба шмат разважанняў і доказаў, каб зразумець: той, хто не ведае пачатку сваёй вёскі, не можа растлумачыць назвы рачулкі, на беразе якой нарадзіўся і вырас; хто не ведае імён сваіх бабуль і дзядуль, становіцца "Іванам бязродным". А такі "Іван", не задумваючыся, дазволіць скінуць забруджаную ваду ў рэчку ці возера, пусціць пад сякеру запаведны гай, з усмешкай напіша сваё прозвішча на сцяне унікальнага помніка архітэктуры.

Вось чаму цікавасць студэнтаў да вытокаў гісторыі "малой радзімы" мяне ўзрадавала, упэўніла ў тым, што пры добрай сістэме выхавання і навучання наша гістарычнае краязнаўства не загіне, а пусціць новыя, жывыя карані.

Што датычыць падання пра вёску Васілевічы, то яго таксама ўдалося "разгарнуць" у гістарычным аспекце. Паданне расказвае пра пабудову вёскі перасяленцамі, якія атаясамліваюцца ў вобразе легендарнага "Васіля". Адкуль прыйшлі гэтыя людзі, паданне не сведчыць. Але гаворыць пра гэта назва вёскі. Перасяленцы часта прыносілі з сабой найменне той мясцовасці, адкуль самі былі родам. Таму вельмі праўдападобна лічыць, што вёсачку *Васілевічы* на Бярэзіне заснавалі выхадцы з больш буйных *Васілевіч* Рэчыцкага раёна, у мінулым валаснога цэнтра Рэчыцкага павета, які мае дастаткова вялікую і багатую гісторыю.

А як жа "Васіль"? Ці яго ўвогуле не было? Аспрэчваць існаванне ў мінулым рыбака Васіля няма ніякай магчымасці. Адназначнага адказу ў дадзеным выпадку не будзе.

Людзі, якія заснавалі надбярэзінскія Васілевічы, выбралі для сваіх хат добрае месца. Для першых пабудоў была ўжо гатовая пляцоўка, бо новыя сядзібы размяшчаліся паверх рэштаў жылля больш ранніх эпох. Першае паселішча з'явілася тут яшчэ ў каменным веку — у VI—V тысячагоддзях да нашай эры. Ад яго засталіся толькі крамянёвыя адшчэпы і скрабкі. Трохі пазней, у IV—III тысячагоддзях да новай эры,жыхары гэтага месца ўжо ляпілі гаршкі і карысталіся больш дасканалымі крамянёвымі прыладамі. А яшчэ пазней, у IV—I тысячагоддзях да новай эры выраблялі танкасценны посуд, які ўпрыгожвалі цікавым арнаментам з адбіткамі грэбня, наколкамі, наразнымі лініямі і ямкамі на шыйках сасудаў. Культура гэтай так званай ямачна-грабенчатай керамікі была адной з самых старажытных на поўдні Беларусі. Усё гэта выявілі беларускія археолагі, якія працавалі ў жлобінскіх Васілевічах у 1977 годзе.

Як бачым, месца над Бярэзінай, дзе стаіць вёска Васілевічы і дзе калісьці рыбачыў Васіль, уяўляе сабой сапраўдны гістарычны музей пад адкрытым небам. І няма сумнення, што яшчэ шмат цікавых фактаў з гісторыі вёскі застаюцца пакуль невядомымі нам.





## НЕ ЗУСІМ ЗВЫЧАЙНЫЯ НАЗВЫ

Назвы ўзнікаюць паўсюдна, дзе жыве чалавек. Адны з іх вядомыя больш-менш шырока, бо з'яўляюцца абазначэннямі дастаткова буйных геаграфічных аб'ектаў — гарадоў, вёсак, рэк, азёр. Гэта — афіцыйныя, абавязковыя назвы, якія трапляюць на карты і ў геаграфічныя апісанні і слоўнікі. Але ўнутры амаль кожнага населенага пункта заўсёды ёсць неафіцыйныя найменні частак пасялення: канцоў, асобных кварталаў, вуліц, пераулкаў, прагонаў, садоў, могілак. У наваколлі вёскі свае найменні маюць ручаі, калодзежы і крыніцы, багны, віры і броды, месца вадапою жывёлы. Мясцовае насельніцтва не абыходзіцца без імёнаў бліжэйшых узвышшаў, узгоркаў і курганоў, яроў, далін і пячор. Асобныя назвы, як правіла, маюць лясныя ўгоддзі, невялікія месцы ў лесе, гаі, лясныя палянкі, прасекі і высекі, балоты, лугі і паплавы, а таксама палі, сады, ягаднікі, пасекі, выганы, торфараспрацоўкі, кар'еры.

Усё гэта і ёсць мікратапонімы. Спецыялісты лічаць, што ў наваколлі адной вёскі можна сабраць каля 150—200 падобных назваў.

Напэўна, будзе мала проста сказаць, што імёны невялікіх геаграфічных аб'ектаў з'яўляюцца каштоўнымі фактамі, жывымі прыкладамі моўнай творчасці народа, сапраўднымі гістарычнымі помнікамі. Каб зразумець гэта, трэба сутыкнуцца не з адной ці з дзвюма назвамі, неабходна пазнаць і зразумець усю сістэму найменняў, напрыклад, адной якой-небудзь вёскі. І толькі ва ўзаемасувязі мікраназвы па-сапраўднаму загучаць і

раскажуць і пра гісторыю асваення адпаведных мясцін, і пра першых пасяленцаў, і пра розныя здарэнні і падзеі, і пра мясцовую расліннасць, і пра жывёльны свет. А яшчэ па гэтых назвах можна пазнаць і асаблівасці рэльефу, і якасць глебы ў розных месцах, і тое, дзе, як і калі лепш касіць траву, сеяць хлеб, збіраць ягады і грыбы. Сістэма мікратапонімаў — гэта маленькая "энцыклапедыя" кожнай вёскі. Несумненна, што ўжо нашы далёкія продкі карысталіся ёю ў поўнай меры, стваралі і перадавалі імёны сваім дзецям і ўнукам. Толькі вось недаўгавечныя гэтыя словы па сваёй прыродзе, бо вельмі залежаць ад часу, ад змены ўмоў і абставін, якія іх нарадзілі. Таму і важна сабраць іх як мага больш у розных мясцовасцях, зафіксаваць у спецыяльных картатэках, каб потым вывучаць з іх дапамогай і гісторыю мовы, і гісторыю народа.

У свой час падышла да мяне студэнтка-завочніца Тамара Міхайлаўна Чыкіда, ураджэнка пасёлка Хваенск, што ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці, і расказала, што ад свайго бацькі і суседзяў яна ведае шмат мясцовых назваў, і прапанавала сабраць іх. Так з'явіўся каштоўны збор народных мясцовых назваў з тэрыторыі Тураўскага пасялковага, Верасніцкага і Азяранскага сельскіх Саветаў і часткі Прыпяцкага запаведніка.

Расказаць падрабязна аб кожнай геаграфічнай назве няма магчымасці перш за ўсё таму, што яшчэ далёка не кожнае найменне зразумела з пункту гледжання яго структуры і паходжання. Але асобныя мікратапонімы ўжо цяпер даюць надзвычай цікавую інфармацыю, да таго ж у некаторай ступені і нечаканую.

Сярод запісаных Т. М. Чыкідай неафіцыйных назваў заток ёсць непрыкметнае на першы погляд слова *Бусная затока*. Што гэта за прыметнік *бусная*, што ён азначае, цяжка адразу адказаць. Ды і ці так гэта важна? Мясцовыя жыхары далі такое тлумачэнне: *бусная* — ад *буса*, што значыць *дзяўбаная лодка*. Нашы продкі на такіх невялікіх затоках, як *Бусная*, даўбалі лодкі, на якіх плавалі па Прыпяці і яе прытоках. Дык вось які сэнс: *бусная* — літаральна лодачная. Для мовазнаўцы на гэтым інфармацыя не канчаецца, бо само слова *буса* выклікае шэраг гістарычных асацыяцый. Гэтае слова, як бачым, жыве ў гаворках (дарэчы, яно адзначаецца таксама ў вядомым слоўніку У. І. Даля), але ў мінулым яно было пашырана і ў літаратурнай старажытнарускай мове. Прынамсі, яго сляды адшукваюцца ў чароўнай і ў многім загадкавай мове "Слова пра паход Ігаравы". Успомнім тую частку літаратурнага твора, дзе вялікі кіеўскі князь Святаслаў бачыць трывожны сон. І сніцца яму сярод іншых невыразных і паўфантастычных з'яў, як "гоцкія прыгожыя дзяўчыны заспявалі на беразе сіняга мора, звіняць рускім золатам, услаўляюць час бусаў". "Час бусаў" — тыпічны сімвал старажытнай паэзіі, які абазначаў эпоху марскіх набегаў, калі марскія піраты-готы рабавалі чарнаморскія берагі, Падунаўе, рабілі на бусах-чаўнах, суднах набегі на Русь. Аб гэтых слаўных часах, часах перамог, а не паражэнняў, і спявалі гоцкія дзяўчаты на беразе Чорнага мора.

Сярод тураўскіх мікратапонімаў звяртае ўвагу і неафіцыйная назва пасёлка Хваенск Жыткавіцкага раёна — *Майдан*, якая таксама дае цікавую інфармацыю. У беларускіх гаворках *майдан* — агароджанае ці неагароджанае месца ў полі ці ў лесе, месца для лясных ці рыбных промыслаў, шырокае адкрытае месца. Гэтае слова вядома ў многіх мовах народаў СССР, а таксама ў цюркскіх, іранскіх і арабскіх мовах, дзе асноўнае яго значэнне — плошча, раўніна, адкрытае месца, поле. Пасёлак Хваенск узнік як выселак з суседняй аднайменнай вёскі. Відаць, месца, дзе былі пабудаваны першыя хаты пасёлка, здаўна выкарыстоўвалася пад якія-небудзь прамысловыя патрэбы. Нездарма пасёлак Хваенск размешчаны на тэрыторыі Тураўскага леспрамгаса. Адсюль, зразумела, і слова *майдан*, выбранае мясцовымі жыхарамі для назвы і самога пасёлка, і таго месца, дзе ён стаіць.

Цэлы шэраг геаграфічных назваў Тураўшчыны не патрабуе дадатковага вывучэння, бо іх сэнс дастаткова зразумелы мясцовым жыхарам, і яны самі даюць цікавыя тлумачэнні. Вось поле *Гараваха*: ой і бедавалі ж на ім людзі, колькі пнёў ды карчоў давялося ўбраць. Непадалёку ўчастак *лесу Забаўе*: як пойдзеш у Забаўе, так і забавішся на дзень, лес — як на падбор, а ягад, грыбоў! Ёсць таксама *пруд Канаплянка*: бабы ў ім канаплю мачылі. Назву поля *Іванаўская гута* тлумачаць наступным чынам: тут жыў калісьці Іван і была ў яго гута, шкло ён варыў. На *лузе Кіслым* шмат шчаўя, адсюль і назва. А вось на *лузе Краснае* вельмі чырвоная, глiністая глеба. Аб *затоцы Глухава* гавораць так: адзін выхад мае, трапляеш туды, як у глухі мяшок. Поле ж *Панскі шляшок* вядома тым, што тут была панская дарога, паны ездзілі па ёй на сваіх брычках.

Трапнасці, вобразнасці, выразнасці народных найменняў няма граніц, яны проста ўражваюць! І калі знаёмішся з такімі назвамі, міжвольна прыходзяць думкі аб тым, наколькі прайграюць ім тыя афіцыйныя, гучныя, але пустыя па сэнсу гора-тапонімы, якія, быццам грыбы пасля дажджу, павырасталі на старажытнай палескай зямлі ды і ў іншых раёнах Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі.

...Свабода, Праўда, Адзінства, Камуна, Перамога, Новы Шлях, Светлае Жыццё, Прагрэс, Брацтва, Ударная, Маяк. Дакладны пералік іх патрабуе некалькі старонак тэксту. Толькі вось што раскажуць яны чытачу? Ці прымусяць яны задумацца над вытокамі сваёй вёскі? Ці выхаваюць беражлівыя адносіны да сваёй зямлі, да роднай прыроды? Адной гучнасці ў такой справе малавата.

Таму намнога бліжэй майму сэрцу больш сціплыя па форме, але куды больш выразныя і глыбокія па зместу, натуральныя па сутнасці мікратапонімы — сапраўдныя ўзоры народнай мудрасці і назіральнасці.

А то вось яшчэ моду ўзялі ў апошні час нашы вясковыя ўлады — не называюць, напрыклад, тыя ж палі і балоты, а лічаць, пералічваюць, быццам згубіць баяцца: поле № 1, поле № 2, поле № 3, балота № 10... балота № 16 і г. д. Цяжка нават арыентавацца ў гэтай арыфметыцы. А між тым у кожнай вёсцы

гэтыя аб'екты маюць і іншыя, неафіцыйныя, затое больш трапныя найменні.

У вёсцы Артукі Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці студэнты запісалі наступныя найменні балот: *Ключнікава балота, Леўшунова балота, Мікіткава балота, Манькова балота, Самсонава балота, Юлікава балота*. Тут, як бачым, цэлая сістэма назваў, якія ўзнікалі ў сувязі з іменем таго ці іншага чалавека, які пакінуў пасля сябе памяць у мясцовых жыхароў. Гэтыя назвы перадаюцца з пакалення ў пакаленне на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. За гэты час некаторыя з балот паспелі ператварыцца ў сенажаці ці лясныя палянкі, якія параслі сям-там чахлым хмызняком і травой. Але назвы жывуць, і кожны раз перадача назвы ад бацькі да сына, ад дзеда да ўнука, відаць, пачынаецца аднымі і тымі жа словамі: "Вунь там — Мікіткава балота". — "Мікіткава?" — "А хто такі Мікітка?" Адказ на такое пытанне — гэта ўжо маленькая гісторыя вёскі, з якой знаёміцца чалавек паступова з самага дзяцінства.

Не трэба думаць, што мікратапонімы ёсць толькі ў вёсках. У вялікай колькасці яны адшукваюцца таксама і ў гарадах. У маёй картатэцы зафіксавана 28 мікратапонімаў горада Буда-Кашалёва, райцэнтра ў Гомельскай вобласці. Па сваёй форме і зместу, па выразнасці і вобразнасці яны не ўступаюць аналагічным найменням у сельскай мясцовасці. Прывядзем некаторыя з іх.

*Жарыкі*. Так называецца мікраараён на паўночным захадзе Буда-Кашалёва, дзе заходзіць сонца. У вячэрні час неба з гэтага боку ярка-жоўтае, нібы распаленае, гарачае. Адсюль і назва.

*Красны курган*. Красны — значыць прыгожы. Паходжанне гэтай старой назвы мікраараёна, які ўвайшоў у гарадскую мяжу, нікому з жыхароў не вядома. Відаць, калісьці на гэтым месцы сапраўды знаходзіўся старажытны курган. Цяпер яго няма, але назва засталася. Ад гэтага мікратапоніма нават утварылі найменне вуліцы Краснакурганскай.

*Труба*. Вузкая вуліца ў самым цэнтры горада, якая не мае дагэтуль іншай, афіцыйнай назвы. Факт, прама скажам, унікальны.

*Тоўсты дуб*. Самы тоўсты, вялізны дуб у лесе, вакол якога расце шмат белых грыбоў. Гэта любімае месца адпачынку жыхароў горада.

*Вялікі мох*. Так называецца раён Буда-Кашалёва, які размешчаны на ўскраіне горада. Тут яшчэ ў недалёкім мінулым выраслі вялікія густыя імхі.

Цікавыя мікратапонімы запісаны намі ў гарадскім пасёлку Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Навакольны лес, напрыклад, падзяляецца на некалькі ўчасткаў, кожны з якіх мае сваю назву: *Альшанік, Закалодзец, Белае, Карчма, Тонкі лес, Тоўсты лес*. Дзве часткі пасёлка маюць даволі нечаканыя найменні — *Шанхай* і *Куба*. Такія тапонімы называюцца перанесенымі, да таго ж яны маюць іранічны падтэкст. Узнікненне першай назвы *Шанхай* тлумачыцца тым, што дадзены раён Глушы здаўна быў густанаселеным, прынамсі, такім ён лічыўся сярод мясцовых жыхароў. Што ж датычыць наймення *Куба*, то

яно звязана з аддаленасцю гэтага раёна ў параўнанні з іншымі, са знаходжаннем яго на ўскраіне пасёлка.

Гомельскія старажылы таксама памятаюць найменні, якія мы назвалі перанесенымі. Паўночна-ўсходняя ўскраіна Гомеля ў канцы XIX — пачатку XX ст. (цяпер гэта раён грузавога порта) называлася *Каўказ*. На стромых адхонах рвоў (адсюль, верагодна, і назва) у невялікіх хацінах жылі рыбакі, лодачнікі, рамеснікі. Да Каўказа прымыкала яшчэ адна былая ўскраіна *Свісток*. Гэта раён цяперашняй Садовай вуліцы, самы цэнтр горада. У адрозненне ад Каўказа яшчэ ў пачатку стагоддзя дадзеная ўскраіна была добра распланавана, забудавана; у ёй жылі чыноўнікі і афіцэры. Таму раён і атрымаў назву *Свісток*. Паміж чыгункай, вакзалам і коннай плошчай (цяпер — цэнтральны гарадскі рынак) размяшчалася яшчэ адна ўскраіна старога Гомеля — *Амерыка*. Гэта была сапраўдная "прамысловая рэспубліка", з кузнямі, ляснымі складамі, са шматлікім насельніцтвам. Жылі тут шаўцы, краўцы, сталяры, бляхары, кушняры, цырульнікі, рамізнікі, чырванадрэўшчыкі, нават жывапісцы. Каго тут толькі ні было! У 10-20-ыя гады XX ст. некаторыя сем'і ўязджалі ў Амерыку, іх двары сталі называць "праходнымі", бо яны былі пустымі, безгаспадарнымі, цераз гэтыя двары можна было прайсці з адной вуліцы, напрыклад, Сянной, дзе гандлявалі сенам, на Сталярную, на якой жылі сталяры. Адзначаныя абставіны даюць магчымасць без цяжкасці зразумець узнікненне і гэтай назвы — *Амерыка*.





## КОЛЬКІ ГАДОЎ СВЕТЛАГОРСКУ?

Яшчэ зусім нядаўна такое пытанне большасць жыхароў горада над Бярэзінай палічыла б сама меней дзіўным. Светлагорск нарадзіўся ў сакавіку 1954 года разам з пачаткам будаўніцтва славутай цяпер на ўсю Беларусь Васілевіцкай ГРЭС. Але ж кожны вялікі горад рэдка вырастае на пустым месцы. Звычайна ён пачынаецца з невялікай вёсачкі, гістарычны радавод якой, нібы рэчышча невялікага струменя, да часу амаль нябачны нават воку дапытлівага даследчыка, пакуль не ўвальецца нарэшце ў шырокі і магутны паток новых падзей і здзяйсненняў. Аб гэтым у нас доўгі час не лічылі патрэбным нават і думаць. У выніку губляліся не толькі каштоўныя гістарычныя факты, забывалася і само імя былога пасялення.

Менавіта так здарылася і ў нашым выпадку. Будаваўся вялікі горад — горад будучага, прамысловы гігант. І ці не смешна было ў такіх абставінах памятаць аб нейкіх там гістарычных традыцыях і ўздыхаць аб невядома што абазначаўшай спрадвечнай назве? Гораду было вырашана даць новае найменне, накіраванае не ў мінулае, а ў будучыню. *Светлы горад, Светлагорск* — так павінен быў называцца горад, які будаваўся. Мы не будзем аналізаваць, наколькі гэтая назва адпавядала рэчаіснасці. Зусім магчыма, што яна сапраўды пэўны час натхняла і клікала наперад, узносілася пад нябёсы і абнадзейвала. Займацца толькі такім аналізам — марная справа. Тым больш, што прайшоў час, калі мы зразумелі ўсю дарэмнасць штучнага набліжэння светлага "заўтра", няхай нават і з дапамогай геаг-

рафічнай назвы. І ці не знамянальна, што ў верасні 1989 года жыхары Светлагорска ўрачыста святкавалі 350-годдзе з моманту ўпамінання ў пісьмовых крыніцах той невялікай вёсачкі, на ціхіх вулачках якой у сярэдзіне 50-ых гадоў з'явіліся будаўнікі новага горада.

Сёння тыя, хто прыязджае ў Светлагорск, бачаць устаноўлены памятны знак на велізарным камні ў цэнтры горада: "*Шацілкавічы — Светлагорск*. 1639—1989". У 1639 годзе "Вопіс Бабруйскага староства" называе сярод іншых невялікую вёску *Шацілавічы*, ці *Шацілкавічы* на Бярэзіне з 19 хатамі. Наступны вядомы дакумент, таксама гаспадарчы вопіс, датуецца ўжо 1858 годам. У ім вёска называецца трохі інакш — *Шацілкі*. Нарэшце, у "Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць" у артыкуле "Светлагорск" адзначаецца, што форма *Шацілкавічы* быццам бы ўпаміналася яшчэ ў XVI стагоддзі.

Такім чынам, да нядаўняга часу ў распараджэнні даследчыкаў былі тры формы тапоніма — *Шацілкавічы, Шацілавічы* і *Шацілкі* (менавіта ў такім парадку, згодна з часам іх упамінання, павінны былі пералічвацца гэтыя формы). Але восенню 1989 года па запытанню членаў гісторыка-краязнаўчага аб'яднання "Поўня" супрацоўнікі Дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР знайшлі зусім нечаканы і вельмі цікавы старадаўні дакумент. У архіўным фондзе "Мінскі земскі павятовы суд" у актавай кнізе Мінскага земскага павятовага суда за студзень 1798 года запісана прывілея польскага караля Сігізмунда Аўгуста (дарэчы, адначасова ён з'яўляўся таксама вялікім князем літоўскім і быў літоўцам па нацыянальнасці, а сапраўднае імя яго было *Жыгімонд*) ад 15 ліпеня 1560 года зямяніну Ждану Манкевічу на *Востраў Шатылінскі* на гары на тракце Горвальскім на рацэ Бярэзіне. Гэтая прывілея перадавалася Ждану Манкевічу пасля смерці папярэдняга ўладальніка Рамана Шацілы. Новы гаспадар атрымліваў маёнтак у пажыццёвае ўладанне з абавязковым выкананнем вайсковай службы. У той жа справе зроблены запіс ад 27 студзеня 1798 года, згодна з якім зямельнае абмерванне Вострава Шатылінскага было выканана ў 1571 годзе. Нарэшце, у дваранскіх справах за 1805—1815 гады знойдзены запіс аб тым, што дваранскі род Манкевічаў бярэ пачатак з маёнткаў Востраў і Шацілкі.

Для тапаніміста ў гэтых паведамленнях самым цікавым, безумоўна, з'яўляецца яшчэ адна тапанімічная форма — *Востраў Шатылінскі*. Яна дазваляе прыадкрыць найбольш раннія на сённяшні дзень гістарычныя старонкі *Шацілак* (*Шацілавіч, Шацілкавіч*).

У словазлучэнні *Востраў Шатылінскі*, перш за ўсё, слова *Востраў* нельга разумець выключна ў значэнні "ўчастак сушы, акружаны з усіх бакоў вадой". Гэтае слова пры выкарыстанні яго ў якасці назвы з'яўляецца вельмі шматзначным. Ёсць сэнс нагадаць асноўныя яго значэнні: участак лесу адной пароды сярод лесу іншых парод, невялікі асобны лясок, лясны гай, поле ў круглай мяжы, узвышша на раўніне, палянка ў лесе, сухі грудок з сенажаццю або лесам сярод балота, невялікі лужок сярод лесу або на зарастаючай драбналессем балоціне, поле

паміж лугамі, кожны ўчастак зямлі, які чымсьці вырозніваецца сярод навакольных мясцін*.

На тэрыторыі Беларусі, па падліках вядомага географа і тапаніміста В. А. Жучкевіча, аснова востраў выкарыстоўваецца ў складзе каля 80 геаграфічных найменняў. Прычым у кожным канкрэтным выпадку толькі непасрэднае даследаванне мясцовасці можа падказаць, якое ж з пералічаных значэнняў ляжыць у аснове адпаведнай назвы.

Што ж датычыць *Вострава Шатылінскага*, то ў нагаданым дакуменце яго месцазнаходжанне вызначана выразна — правы бераг Бярэзіны на тракце ў вёску Горваль (цяпер — населены пункт Рэчыцкага раёна). Указваецца таксама цікавы геаграфічны арыенцір — гара па-над Бярэзінай. Гэтая гара (з прычыны паступовага перамяшчэння рэчышча Бярэзіны прыбярэжнае ўзвышша было змыта вадой, цяпер на яго месцы — звычайная нізіна, зарослая вербалозам) і была тым "востравам", які мы бачым у складзе геаграфічнай назвы Востраў Шатылінскі.

Якую інфармацыю дае азначэнне *Шатылінскі*? Польскае гучанне слова (дакумент ад 15 ліпеня 1560 года напісаны папольску) не перашкаджае бачыць яго словаўтваральную аснову. Азначэнне *Шатылінскі* паказвае, што нейкі ўчастак зямлі, ці маёнтак пад назвай Востраў з'яўляецца неад'емнай часткай вёскі *Шатылы*, ці *Шацілы*. Для параўнання нагадаем вёску *Шарынскі Востраў*, якая існавала да 1937 года ў Багуціцкім сельсавеце Ельскага раёна побач з вёскай *Шарын*. Вёска *Шарынскі Востраў* узнікла як выселкі з пасялення *Шарын*. Адпаведна гэтаму і *Шатылінскі Востраў* з'яўляўся своеасаблівай "калоніяй" вёскі *Шацілы* (*Шатылы*; трэба не забываць пра польскае гучанне арыгінала).

Зразумела, што гэтыя апошнія населеныя пункты мелі свайго гаспадара. У пісьмовай крыніцы нагадваецца яго прозвішча — *Раман Шаціла*. Аднак ці можна гэтага Рамана Шацілу лічыць верагодным заснавальнікам пасялення Шацілы? На наш погляд, падстаў для гэтага няма. І першае, што гаворыць супраць такога тлумачэння, — гэта форма тапоніма *Шацілы*. Дарэчы, чаму мы настойваем, што вёска мела такую першапачатковую назву? Аб гэтым сведчыць найбольш вядомая сучаснікам форма *Шацілкі*, якая стаіць менавіта ў множным ліку. А сама гэтая форма магла ўтварыцца толькі ад формы *Шацілы* з дапамогай суфікса -к-. Множны лік пярэчыць магчымаму тлумачэнню назвы ад прозвішча аднаго чалавека. У аснове тапоніма Шацілы ляжыць агульнае найменне *шацілы* — тыя, хто ходзіць без справы, валацугі, бадзягі**. Так маглі быць названы між іншым перасяленцы з якіх-небудзь мясцовасцей, якія з'явіліся на Бярэзіне і заснавалі пасяленне. Паколькі ў гэтым абазначэнні выразна адчуваецца адмоўная экспрэсіўная афарбоўка, то не выглядае дзіўным, што хутка слова *шацілы* пераўтварылася ў

---

* *Яшкін І. Я.* Беларускія геаграфічныя назвы. Мн., 1971. С. 16, 37; Мурзаев Э. М. Словарь народных географических терминов. М., 1984. С. 419.

** *Бірыла М. В.* Беларуская антрапанімія. Мн., 1969. С. 472.

*шацілкі.* Апошняя форма па сваёй структуры больш адпавядае адмоўнай афарбоўцы агульнага найменне. У далейшым абедзве формы — *шацілы* і *шацілкі* — сталі ўласнымі найменнямі, геаграфічнымі назвамі. Але першай была форма *Шацілы.*

На думку вядомага беларускага этымолага Р. М. Казловай, гэтае слова — *шацілы* магло таксама абазначаць тых людзей, якія спецыялізаваліся па вырабу шатаў, гэта значыць адзення.

У мінулым так і здаралася: агульнае абазначэнне пэўнай групы людзей, групавое прозвішча хутка пераўтваралася ў прозвішча асабовае і ў геаграфічную назву, найменне таго месца, дзе жывуць гэтыя людзі. Таму Раман Шаціла, хоць і ўладальнік вёскі Шацілы і ўрочышча Шатылінскі / Шаціленскі Востраў, але ж толькі адзін з патомкаў тых, хто першапачаткова атрымаў такое прозвішча. Сама ж вёска Шацілы (Шацілкі) існавала і да гэтага Рамана.

Дарэчы, той факт, што пасяленне і навакольныя зямельныя ўгоддзі належалі менавіта *Шацілам*, а не носьбітам іншага прозвішча (зразумела, што ў тым жа XVI і тым больш у наступныя стагоддзі ў *Шацілах-Шацілках* жылі людзі з рознымі прозвішчамі), абумовіў узнікненне яшчэ адной формы тапоніма — *Шацілавічы.* У гэтай форме выразна выдзяляецца суфікс прыналежнасці-*авічы.* Ён указваў на прыналежнасць вёскі ўладальнікам з прозвішчам *Шаціла.* Што ж датычыць такой формы той жа назвы, як *Шацілкавічы*, то яна, як можна меркаваць, узнікла па аналогіі з формай *Шацілавічы* (*Шацілы-Шацілкі, Шацілавічы-Шацілкавічы*).

Такім чынам, паслядоўнасць узнікнення чатырох форм адной і той жа назвы выглядае наступным чынам: *Шацілы* (ад агульнага прозвішча *шацілы*) — *Шацілкі* (ад агульнага прозвішча *шацілкі* з адмоўнай экспрэсіяй) — *Шацілавічы* (указвае на прыналежнасць пасялення Шацілам) — *Шацілкавічы* (узнікла па аналогіі з формай *Шацілавічы*).

Як бачым, Светлагорск адлічвае свой век зусім не з 1954 года. XVI стагоддзе — найбольш верагодны рубеж, з якога пачаўся гістарычны шлях пасялення над Бярэзінай. На заканчэнне нагадаем, што роднасныя геаграфічныя найменні сустракаюцца і ў іншых раёнах Беларусі: *Шацілаўка* (вёска Горацкага раёна Магілёўскай вобласці), *Шацілава* (вёска Полацкага раёна Віцебскай вобласці), *Шацілы* (вёска Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці). Дарэчы, у гэтых трох раёнах Беларусі ёсць геаграфічныя найменні, якія недвухсэнсава ўказваюць на ўкраінамоўных перасяленцаў (вёска *Харкаўка* Горацкага раёна, вёска *Чаркасы* Дзяржынскага раёна, вёска *Завалынка* Полацкага раёна). *Харкаўку* заснавалі верагодныя перасяленцы з Харкаўшчыны, *чаркасамі*

і *валынцамі* з XVI стагоддзя называлі на Беларусі перасяленцаў з Украіны. Назва *Завалынка* сведчыць, што пасяленне знаходзіцца "за Валынню"; *Валынь*, *Валынка* — так прыкладна магла гучаць назва суседняй вёскі, якая цяпер не фіксуецца ў адміністрацыйных даведніках, бо, відаць, не існуе, але пасяленні *Валынь* і *Валынцы* вядомы цяпер адпаведна ў Глыбоцкім і Верхнядзвінскім раёнах Віцебшчыны.

Што даюць нагаданыя паралелі тапонімаў? Калі лічыць, што шацілы — гэта "бадзягі, перасяленцы", то наяўнасць вёсак, якія маглі быць заснаваны ўкраінамоўнымі перасяленцамі, у тых раёнах, дзе існуюць тапонімы *Шацілы*, *Шацілаўка*, *Шацілава*, трэба лічыць дастаткова красамоўнай.





# ПАЛЕСКІЯ МАРДЗВІНЫ

Запіс "*Мардзвін* (*Мардзвіны*) — вёска ў Снядзінскім сельсавеце Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці" з'явіўся ў маёй картатэцы некалькі гадоў назад, калі я ўпершыню зацікавіўся такімі найменнямі населеных пунктаў, у якіх адлюстраваны імёны розных народаў. Сярод разнастайных найменняў беларускіх вёсак сустракаюцца *Ляхі* і *Мазуры*, *Ліцвіны* і *Русакі*, *Чэхі* і *Татары*. Чаму ж не быць і *Мардзвінам*? Так думаў я тады. Гэтая думка, здавалася, і была адказам на пытанне аб паходжанні незвычайнага імені палескай вёсачкі, тым больш, што ў існуючых даведніках-тлумачальніках геаграфічных назваў Беларусі тапонім *Мардзвін*, ці *Мардзвіны* якраз і тлумачыўся з дапамогай этнічнага імя *мардзвін*, *мардва**.

Але назва ніколі не ўзнікае проста так, без усякай сувязі з рэчаіснасцю. І калі назвалі вёску *Мардзвін*, то ці не ўказвае гэтая назва на паходжанне жыхароў населенага пункта ці хоць бы на паходжанне яго заснавальнікаў, першых пасяленцаў, якія з'явіліся ў даўнія часы ў глыбіні Палесся і пабудавалі свае першыя хаты на месцы цяперашняй вёскі?

Палескія Мардзвіны патрабавалі сваёй расшыфроўкі: мне ніяк не хацелася згаджацца з тым, што вёска магла быць заснавана перасяленцамі мардоўскай нацыянальнасці. Спыніцца на такім рашэнні — азначала падганяць пад знешнюю

* *Жучкевич В. А.* Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974. С. 241.

форму, гучанне назвы, гістарычныя факты. Зрэшты, нават гістарычных фактаў аб мардзвінах, мардоўцах-перасяленцах на Палессі не было. Мардзвін — тыпова беларуская вёска, жывуць тут сапраўдныя палешукі-беларусы, і дзяды іх і прадзеды былі такімі ж палешукамі.

Праўда, нам невядомы дакладны час заснавання вёскі. Як быццам нічога не перашкаджае меркаваць, што населены пункт Мардзвіны ўзнік не ў новы час, гэта значыць дзесьці ў XVI—XIX стст., а ў той дагістарычны для палескага краю перыяд, калі этнічная карта была зусім іншай, нязвычнай для нашага сучасніка. Што я маю на ўвазе? Паспрабую растлумачыць.

Неяк давялося пазнаёміцца з вельмі цікавым артыкулам выдатнага айчыннага філолага А. А. Шахматава "К вопросу о финско-кельтских и финско-славянских отношениях"*, у 1911 годзе. Вучоны лічыў, што ў басейне Прыпяці, на тэрыторыі Мінскай і Гродзенскай губерняў, жылі продкі заходніх фінаў, а ў басейне верхняга цячэння Дняпра і Дзясны — продкі мардвы. Вось мне і падумалася: а ці не з'яўляецца палескі тапонім Мардзвін (Мардзвіны) своеасаблівым адлюстраваннем этнічных працэсаў той эпохі?

Меркаванне зрабіць, зразумела, няцяжка. Але ж яно павінна чымсьці абгрунтоўвацца, прынамсі, нейкімі археалагічнымі, этнаграфічнымі ці лінгвістычнымі (акрамя самой назвы) абставінамі. Вось гэтых абставін якраз і не хапала.

Даволі часта адшукаць ключ да незразумелай геаграфічнай назвы дапамагаюць мясцовыя легенды і гістарычныя паданні. Але ў Мардзвіне такіх легенд няма, і мясцовыя жыхары толькі паціскаюць плячыма на пытанне аб першапачатковым значэнні і паходжанні наймення іх роднай вёскі.

Не дапамагала спачатку і "падарожжа" па геаграфічнай карце ў пошуках падобных тапонімаў. Праўда, у Любанскім раёне Мінскай вобласці да 1976 года існавала вёска Мардзвілавічы, але яе назву больш лагічна тлумачыць на аснове прозвішча *Мардзвіла*, якое з этнічным найменнем *мардва, мардзвін*, магчыма, зусім не звязана. На тэрыторыі Беларусі іншых, падобных на *Мардзвін*, геаграфічных найменняў няма. А вось на тэрыторыі Украіны ёсць, у Кіраваградскай вобласці існуе вёска Мардва, а ў Запарожскай вобласці Мардзвінаўка. Украінскія даследчыкі лічаць, што гэтыя найменні ўзніклі ў час засялення Наварасіі, гэта значыць дзесьці на працягу XVIII ст.

Ці не існуе нейкай сувязі паміж узнікненнем тапонімаў *Мардва* і *Мардзвінаўка* на Украіне і назвай *Мардзвін* на Беларускім Палессі? Магчымасць такога тлумачэння трэба мець на ўвазе, але для яго абгрунтавання патрэбны перш за ўсё гістарычныя матэрыялы, аб адсутнасці якіх мы ўжо гаварылі.

Не ведаю, ці будуць такія матэрыялы ў далейшым знойдзены. Пакуль жа ёсць магчымасць растлумачыць цікавую назву *Мардзвін*, грунтуючыся толькі на "прачытанні" самога слова.

---

* Известия Императорской Академии наук. IV серия. Т. 5. СПб., 1911. С. 711.

З фармальнага пункту гледжання, тапонім *Мардзвін* нагадвае прозвішча ці мянушку. Калі ж вёска мае яшчэ і паралельнае найменне — Мардзвіны, значыць, мяркуемае прозвішча ці верагодная мянушка былі характэрнымі не толькі для аднаго якога-небудзь чалавека — першага пасяленца, заснавальніка ці ўладальніка населенага пункта, якому належала і мясцовае насельніцтва (на гэта ўказвае суфікс -ін), але і для многіх жыхароў.

На тэрыторыі Беларусі ў мінулым многія геаграфічныя імёны ўзнікалі першапачаткова як абазначэнні жыхароў з боку суседзяў, а потым ужо станавіліся назвамі населеных месц.

Ёсць у заходніх раёнах Беларусі, а таксама на Міншчыне, напрыклад, вёскі з назвамі *Сакі, Сакуны, Сакаўка* і падобныя на іх. *Сакі* — гэта прозвішча; так называлі тых, хто "сакае", гэта значыць адрозніваецца асаблівасцямі ў вымаўленні: замест *-ся* гаворыцца *-са* (радаваўса, смяяўса) ці замест гукаў *ж, ш* вымаўляе *з, с.*

Можна прыводзіць і іншыя прыклады. Перасяленцы з-пад Магілёва называліся звычайна *магілёўцамі.* А калі такія перасяленцы-магілёўцы заснавалі вёсачку ў Пружанскім раёне на Брэстчыне, то і яна атрымала найменне *Магілёўцы.* Назва вёскі Валынцы ў Кармянскім раёне Гомельскай вобласці, як і аднайменная вёска ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці, узнікла ад слова *валынцы*, якім абазначалі ўкраінскіх перасяленцаў, што з XVI ст. сяліліся на тэрыторыі Беларусі. Ад прозвішчаў ці мянушак паходзяць і такія назвы вёсак на Гомельшчыне, як *Дразды* (Мазырскі раён), *Махаеды* (з 20 сакавіка 1939 года — *Кіраў*) (Нараўлянскі раён), *Ёвічы* (Жыткавіцкі раён) (відаць, так называлі тых, чые прозвішчы канчаліся выключна на *-овіч* ці *-ёвіч*). Ад прозвішча ўзнікла і назва вёскі *Енцы* Кармянскага раёна Гомельскай вобласці (*е́нцамі называлі палонных). Цікава, што слова е́нец — польскага паходжання. У назве вёскі Відзюны* Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці таксама можна бачыць прозвішча: *відзюнамі* маглі называць тых, хто замест беларускага слова *бачыць* ужываў польскае *widzieć* (видеть).

Гэтыя і іншыя прыклады паказалі магчымы шлях да тлумачэння і геаграфічнай назвы Мардзвін. Заставалася толькі адшукаць тое слова, якое лягло ў аснову прозвішча. Але і гэтыя пошукі не такія лёгкія: патрабуецца прагледзець шматлікія слоўнікі, у тым ліку гістарычныя і дыялектныя. І вось у складзеным у 1870 годзе "Слоўніку беларускай мовы" І. І. Насовіча мне сустрэлася слова *мардва* ў значэннях "шумнае зборышча", "турботныя, дакучлівыя людзі", "свавольнікі і крыкуны дзеці". Магчыма, *мардзвіны,*

гэта значыць жыхары вёскі *Мардзвін (ы)* лічыліся суседзямі "турботнымі, дакучлівымі людзьмі", якія дапякалі чымсьці навакольнаму насельніцтву, прычынялі яму нейкія непрыемнасці. Такое прозвішчнае абазначэнне не абавязкова мела абсалютную прыкмету, яно магло ўзнікнуць на аснове выпадковых асацыяцый ці падзей, актуальных для аднаго пакалення і неактуальных для іншага. І калі назва *Мардзвін (Мардзвіны)* ужо даўно ніяк не асэнсоўваецца і не тлумачыцца ні самімі жыхарамі, ні іх суседзямі, то гэта і доказвае абмежаванасць у часе такога ў цэлым адмоўнага прозвішча.





## СЛЯНЗАКІ — СІЛЕЗЦЫ ПЕТРЫКАЎСКАГА РАЁНА

Дзесьці ў XVIII ст., як можна меркаваць, некалькі заможных жыхароў, магчыма, дробная шляхта, вёсак Брынёў і Дарашэвічы былога Мазырскага павета (цяпер Петрыкаўскі раён) атрымалі ад уладальніка ў арэнду частку зямель, што не ўвайшлі ў сялянскія надзелы, і на гэтых землях паблізу ад пайменаваных вёсак пабудавалі свае новыя хаты.

Так узніклі невялікія засценкі пад назвамі *Слянзакі Брынёўскія* і *Слянзакі Дарашэвіцкія*, а таксама хутар *Слянзакі*. Мінуў час, і ўжо ў канцы XIX ст. у некалі малых пасяленнях, як паведамляе В. С. Ярмаловіч, жыло ўжо адпаведна 74, 88 і 39 чалавек*.

Цяпер у Петрыкаўскім раёне існуе толькі адна вёска Слянзакі, якая вядзе свой пачатак ад засценка дарашэвіцкіх перасяленцаў. Яшчэ адзін пасёлак *Слянзакі* існаваў да 1972 года, калі ён стаў часткай вёскі Славінск.

Вядома, што *слянзакамі* ў польскай і беларускай мовах здаўна называлі выхадцаў са Шлёнска, ці польскай Сілезіі, гэта значыць паўднёва-заходняй часткі Польшчы. Беларускі

* *Ярмолович В. С.* Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.

этнонім *слянзак* (*слянзакі*), па ўсёй верагоднасці, быў запазычаны з польскай мовы, дзе slazak — "сілезец, ураджэнец Сілезіі" шырока распаўсюджаны ў самастойным ужыванні, а не толькі ў тапаніміі, як на беларускіх землях. Цікава адзначыць, што найменні *сленжак* і *сленжачка* прыводзяцца ў араскім варыянце "Грамматики славянской" 1645 года, складзенай І. Ужэвічам*.

Калі жыхароў пабудаваных засценкаў адразу назвалі слянзакамі, то для гэтага сапраўды былі важкія падставы. Палескія слянзакі з'яўляюцца патомкамі шматлікіх польскіх перасяленцаў, якія накіроўваліся на Беларусь з канца XVI ст., пасля Люблінскай уніі 1569 года і ўтварэння дзяржавы Рэчы Паспалітай. Цікава, што, згодна з перапісам 1897 года, толькі ў адным Мазырскім павеце былой Мінскай губерні налічвалася 3752 жыхары польскай нацыянальнасці. Яшчэ большая колькасць палякаў была ў суседніх — Слуцкім і Пінскім паветах: больш за 7 тысяч чалавек у кожным.

У былым Мазырскім павеце акрамя слянзакаў жылі і перасяленцы з іншых раёнаў Польшчы; у прыватнасці, магчыма, *мазуры*. Мазурамі лічыліся жыхары краю Мазоўша ў паўночна-ўсходняй частцы Польшчы, якая непасрэдна прымыкала да беларускіх зямель. Старадаўнія геаграфічныя апісанні ўпамінаюць у Мазырскім павеце вёску і засценак *Мазуры*. На пачатку XX ст. у першым населеным пункце жыло 62 чалавекі, а ў другім — 140 чалавек. А вось у палове XIX ст. у вёсцы Мазуры было ўсяго 2 двары і налічвалася 16 жыхароў, засценак Мазуры ў той час зусім не ўпамінаецца ў ліку буйных населеных пунктаў. Такім чынам, гэтыя дзве вёскі, дакладней вёска і засценак, нельга лічыць вельмі старымі населенымі пунктамі.

Гэта ж можна сказаць і аб іншых пасяленнях, якія фармальна сваімі назвамі маюць нейкую сувязь з мазурамі. На Палессі гэта вёскі *Мазуры* (Кобрынскі раён), *Мазуркі* (Ляхавіцкі раён), *Мазуршчына* (Салігорскі раён). Апошні населены пункт у пачатку нашага стагоддзя з'яўляўся толькі хутарам, а першы і другі не лічацца колькі-небудзь значнымі пасяленнямі ў кнізе "Волости и важнейшие селения Европейской России" (выпуск 5. Губернии Литовской и Белорусской областей. СПб., 1886). Тапонімы, утвораныя ад этноніма *мазуры*, сустракаюцца і за межамі Палесся, напрыклад, у Валожынскім раёне Мінскай вобласці (вёска *Мазурка*), у Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці (вёска *Мазураўка*), у Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці (вёска *Мазуры*) і некаторых іншых. Праўда, не выключана, што,

---

* Граматика слов'янська І. Ужевича. Київ, 1970. Араскі варыянт, л. 40 а.

напрыклад, тапонім *Мазураўка*, які дарэчы мае націск на першым складзе, паходзіць не ад этнічнага найменння, а ад прозвішча тыпу *Мазураў, Мазур*. Такога ж паходжання, хутчэй за ўсё, і тапонімы *Мазу́рына* (вёскі Браслаўскага, Верхнядзвінскага, Міёрскага раёнаў Віцебшчыны), *Ма́зурава* (вёска Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці).

У беларускай мове XIX ст. этнічнае найменне *мазур* мела наступныя значэнні: 1. "мазаўшанін, чарнарус"; 2. "той, хто ходзіць не мыўшыся, з запэцканым тварам" (пераасэнсаванне ад слова *мазаць*); 3. "ад прыроды чорны тварам*. А калі гэта так, то ўзнікненне некаторых з адзначаных вышэй геаграфічных назваў можна звязваць не з рэальным этнонімам, не з рэальнымі мазурамі, а з іранічным і кплівым метафарычным пераасэнсаваннем этнічнага наймення *мазуры*, прычым гэтае пераасэнсаванне датычылася зусім не польскіх перасяленцаў, а беларусаў, спрадвечных жыхароў на нашай зямлі. Толькі вось якія канкрэтна геаграфічныя найменні ўзніклі ад рэальнага этноніма, а якія — ад іншых, неэтнанімічных значэнняў слова *мазуры*, адказаць даволі цяжка. Трэба працягваць пошукі і весці іх у кожным населеным пункце з дапамогай мясцовых жыхароў.

Сёння ж пакуль можна з упэўненасцю сказаць толькі вось што. Найбольш старажытнымі з разглядаемай групы тапонімаў на тэрыторыі Беларускага Палесся з'яўляюцца геаграфічныя назвы, якія ўтварыліся ад этнічнага наймення *ляхі*. Аб гэтым сведчаць, перш за ўсё, статыстычныя матэрыялы. У сярэдзіне XIX ст. у вёсцы *Ляхавічы* былога Кобрынскага павета налічвалася 40 двароў і 547 жыхароў; у вёсцы *Ляхаўцы* былога Брэсцкага павета — адпаведна 66 двароў і 776 жыхароў, у вёсцы *Ляхавічы* былога Мазырскага павета — 44 двары і 276 жыхароў, у мястэчку *Ляхавічы* былога Слуцкага павета (цяпер — раённы цэнтр Брэсцкай вобласці) — 152 двары і 829 жыхароў. Апошні населены пункт вядомы з XVI ст., ужо тады ён лічыўся буйным каралеўскім маёнткам, дзе існаваў замак пад назвай "Ляхавіцкая фартэцыя".

Этнонім *ляхі* лічыцца найбольш старажытным найменнем, якое выкарыстоўвалася для абазначэння польскага насельніцтва. Пра абставіны з'яўлення *ляхаў*, дарэчы, як і *мазураў-мазаўшан* на беларускіх землях мы ўжо расказвалі ў раздзеле "Ля вытокаў Мазыра". Таму не будзем паўтараць тое, што ўжо было сказана. Адзначым толькі, што вытокі палескіх пасяленняў, назвы якіх утвораны ад этнічных іменаў *ляхі, мазуры, слянзакі*, неабходна шукаць у кожным

---

* *Насовіч І. І.* Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. С. 277.

выпадку асобна. Гэтыя пасяленні ўзнікалі і ў IX — XI стст. (*Ляхавічы, Ляхаўцы* і падобныя на іх), і ў больш новы час, у XVIII—XIX стст. (*Слянзакі, Мазуры, Мазуршчына*). Некаторыя з іх былі заснаваны, магчыма, яшчэ ў час этнічных кантактаў паміж усходнімі і заходнімі славянскімі плямёнамі ў VIII—IX стст. (гл. раздзел "Загадка дрыгавічоў").

Назва месца мае вялікую і трывалую традыцыю. Можа стацца, што ў пайменаваных вёсках цяпер ужо няма ніводнага паляка, аднак назва красамоўна гаворыць аб далёкіх продках сучасных жыхароў, аб паходжанні іх прадзедаў.





## ВАЛАТАЎСКІЯ ТАЯМНІЦЫ

Відаць, не будзе вялікім адкрыццём думка аб тым, што кожны вялікі горад гістарычна складваецца з пасяленняў, якія размяшчаліся ў адпаведны перыяд на яго ўскраінах. Але тым не менш, калі апісваюць мінулае горада, даволі рэдка ўспамінаюць, што да пэўнага моманту многія з яго цяперашніх мікрараёнаў мелі свой самастойны гістарычны шлях. Гісторыя былых вёсак забываецца хутка, бо аб пераемнасці традыцый і гістарычнай памяці (што захоўваецца яшчэ ў звычайных вясковых пасяленнях, як правіла, людзьмі старэйшага ўзросту) у шматпавярховых мікрараёнах, якія насяляюцца "прышэльцамі" з розных мясцін, гаварыць не прыходзіцца. Добра яшчэ, калі за такім мікрараёнам замацоўваецца імя былой вёскі.

Здараецца і так, што вёска, якая ўвайшла ў гарадскую мяжу, доўгі час яшчэ жыве, захоўвае свой знешні выгляд і асноўны склад насельніцтва. У такіх "аазісах" і неабходна спяшацца запісваць тое, што не згубілася зусім і ўяўляе сабой параўнальна малую, але цікавую і важную вяху ў "вялікай" гісторыі горада.

...Слова *Валатава* добра вядома жыхарам сучаснага Гомеля. Так называецца мікраараён, які ўзнік і хутка расце ў паўночна-ўсходняй частцы горада і на сённяшні дзень налічвае ўжо больш за 30 тысяч чалавек. Сваё найменне жылы масіў атрымаў ад вёсачкі, якая размешчана ад яго ў напрамку на поўдзень на адлегласці каля двух кіламетраў. Вёска Валатава афіцыяльна ўвайшла ў склад горада 1 жніўня 1974 года. Але дагэтуль яна фактычна з'яўляецца сапраўднай вёскай і па свайму знешняму

выгляду і па размяшчэнню (Валатава "адрэзана" ад цэнтра горада вялізнай пясчанай нізінай — рачной абалонай).

Яшчэ ў даваенны час Валатава складалася з некалькіх дзесяткаў хацінак, якія ляпіліся на высокім правым беразе старога рэчышча ракі Сож. Многія з іх захаваліся і да нашых дзён, бо ваеннае ліхалецце па шчаслівай выпадковасці абыйшло вёсачку бокам. І хоць у ёй знаходзіўся нямецкі гарнізон, стаялі зенітки, а з высокага стромкага берага асвятлялі зарэчныя далячыні і цёмнае начное неба магутныя пражэктары, баёў тут не было, і пры падыходзе савецкіх войскаў немцы спешна зняліся ноччу з месца, а раніцай ад іх не засталося і следу.

Хоць Валатава ўспамінаецца ўпершыню ў канцы XVI стагоддзя, а ўзнікла яна яшчэ раней — дзесьці ў старажытнарускі час, вядомая нам гісторыя вёскі налічвае ледзь два стагоддзі. У першыя гады XIX стагоддзя ўрочышча пад цікавым і дастаткова загадкавым найменнем Волатава (да разгадкі назвы мы звернемся ніжэй) прыцягвае ўвагу графа Мікалая Пятровіча Румянцава, тагачаснага ўладальніка Гомеля. Прычына — надзвычай маляўнічыя краявіды, дзіўнай прыгажосці, якія адкрываліся позірку з рачнога берага. Унізе цякла рака, прычым гэта было не "старое", а асноўнае і адзінае тады рэчышча Сожа. Ля самага ўрочышча рака рабіла прыгожы паварот. На нізкім левым беразе пахнула некранутая расліннасць і ў вялікай колькасці вадзіліся птушкі, на высокім правым здавён-даўна раслі волаты-дубы.

Відаць, было чым палюбавацца ва ўрочышчы, калі граф Румянцаў у 1805 годзе распачаў тут будаўніцтва царквы, надта арыгінальнай архітэктуры, па праекце вядомага ў той час архітэктара Джона Кларка. Ідэя графа і архітэктара заключалася ў тым, каб Мікалаеўская царква (так яна была названа), якая ўзводзілася, была часткай архітэктурнага ансамбля княжацкага парку. Шлях па рацэ Сож ад парку да царквы і назад станавіўся першым турысцкім маршрутам дарэвалюцыйнага горада.

Яшчэ адной акцыяй графа М. П. Румянцава з'явілася пасяленне ў Волатава немцаў-каланістаў, якія займаліся рознымі рамёствамі. Немцы канчаткова абруселі і растварыліся сярод мясцовага насельніцтва ў пачатку XX стагоддзя.

У канцы XIX стагоддзя геаграфічна-статыстычнае выданне "Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. V, Губернии Литовской и Белорусской областей" упамінала ваколіцу *Валатоўку* з цагельным заводам у складзе прыгарада Гомеля.

Гісторыя Мікалаеўскай царквы непарыўна звязана з гісторыяй вёскі, паколькі храм з'яўляўся яе галоўнай славутасцю. Пазалоту купалоў і пераліvы званоў дагэтуль памятаюць старажылы, зрэшты, як і "наезды" гомельскай знаці. У 30-ыя гады, калі храмы разглядаліся не як гісторыка-архітэктурныя помнікі, а як цэнтры цемрашальства і рэакцыі, квітучаму стану Мікалаеўскай царквы, а разам з ёй і вёскі Валатава быў пакладзены канец. Царкву ператварылі спачатку ў клуб, потым у магазін. Затым пачаўся безгаспадарчы яе стан, які прывёў да канчатковага амаль спусташэння і разбурэння ў ваенны і пасляваенны перыяды.

І стаяць нямым дакорам на беразе старыцы Сожа "асколкі" некалі слаўнага будынка. Напамінаюць пра былое. А яго ўжо не вярнуць. Ніколі не быць тут больш турысцкаму маршруту, паколькі рэчышча ракі ператварылася ў зарослае пустазеллем балота.

Хто ведае, калі б не нарадзілася па графскай прыхамаці прынадная ідэя ператварыць маляўнічае ўрочышча ў загарадную зону для пацехі знаці, магчыма, ніколі б не вырасла тут ваколіца Валатоўка і не адбыліся тыя падзеі, пра якія мы расказалі.

Калі мы смуткуем аб лёсе сапраўды каштоўнага ў наш час архітэктурнага помніка, то амаль не здагадваемся аб існаванні запаведнага месца, якім з'яўляліся наваколлі Валатавы да вядомай графскай "волі". Памяць аб гэтым сцерлася, а між тым да прыходу сюды графскіх людзей і да пабудовы царквы гэтае ўрочышча з невялікай колькасцю карэнных жыхароў на перасечанай, узгорыста-абрывістай мясцовасці з магутнымі векавымі дубамі і загадкавымі насыпамі-пагоркамі ўяўлялася гамяльчанам таямнічым і незвычайным. Тут здавён-даўна было памятнае месца, своеасаблівы гістарычны і прыродны запаведнік з унікальнай для тутэйшых мясцін назвай — Волатава. І ўражанне гэтае ўрочышча на навакольных жыхароў рабіла вялікае.

У запісках і матэрыялах нашага земляка, ураджэнца Новай Беліцы, выдатнага этнографа, археолага, мовазнаўца і фальклрыста Еўдакіма Раманавіча Раманава захаваўся наступны унікальны для нас запіс. Цытую: "На маёй радзіме, у Гомелі, я чуў у дзяцінстве невыразнае паданне аб тым, што ў Валатаве (пагост у 2 вярстах ад Гомеля) жылі ў старадаўнасці асілкі, што з пераходам Гомеля да Румянцава асілкі зніклі, але час ад часу з'яўляліся выбраным шчасліўцам і пазней. Апошняе з'яўленне было мяшчанцы Васілісе Яфрэмавай у 1867—1869 гадах, там жа, у Валата́вы, у садзе. Па яе апавяданню, якое я сам чуў, калі мне было 12—13 гадоў, асілак быў вельмі высокага росту, апрануты ў дарагое адзенне (шаўкі ды аксаміты) і ўразіў Васілісу незвычайнай прыгажосцю твару. Ён быў без зброі, з Васілісай не гаварыў, але і шкоды ёй не зрабіў. Яна бачыла ў гэтым для сябе прадвесце незвычайнага шчасця..."*.

Вось, значыць, як: *Волатава* (пазней *Валатава*) — гэта старадаўняя вёсачка, дзе жывуць *во́латы*. Такія мясцовасці ў народзе звычайна лічыліся запаведнымі, прычым, у тым сэнсе, што яны не вельмі ахвотна наведваліся, паколькі былі звязаны з незразумелай для сучаснікаў таямніцай.

Мы не будзем аспрэчваць сведчанне мяшчанкі Васілісы Яфрэмавай. Довады "за" ці "супраць" яе дзівоснай праявы ўвялі б нас далёка ў бок ад асноўнага апавядання.

Куды больш важна паспрабаваць растлумачыць вытокі ўяўленняў аб волатах — жыхарах пэўных мясцовасцей. Ва

---

* *Веселовский А. Н.* Русские и вильтины в саге о Тидреке Бернском (Веронском) // Известия отделения русского языка и словесности императорской Академии Наук. Т. XI. Кн. 3. СПб., 1906. С. 16.

ўсходнеславянскіх паданнях асілкі-волаты паўстаюць як першыя людзі, якія жылі да сучасных. У некаторых паданнях волаты з'яўляюцца заснавальнікамі адпаведных вёсак. Трэба было чакаць, што паказаныя ў такой ролі асілкі-волаты акажуцца разам з тым і продкамі-родапачынальнікамі карэнных жыхароў заснаваных імі вёсак. Аднак аб гэтым у паданнях нічога не апавядаецца. Мясцовыя жыхары, наадварот, адчужаюць сябе ад волатаў, нярэдка пры адначасовым іх шанаванні, блізкім да абагатварэння. Падставай для гэтага служаць разнастайныя археалагічныя старажытнасці, у прыватнасці, каменныя сякеры, камяні са слядамі апрацоўкі, каменныя наканечнікі стрэл, якія знаходзяць у месцах, прымеркаваных да старажытных збудаванняў, стаянак і пахаванняў. Беларускія казкі і паданні сведчаць аб выключнай развітасці культу валатоўскага молата ці булавы. Пад валатоўскай зброяй грамавержца, бога навальніцы Перуна, нібыта скінутай з нябёсаў, разумеліся выкапнёвыя каменныя сякеры. У Валатаве ж здаўна знаходзілі прылады каменнага веку і іншыя археалагічныя старажытнасці. Вось гэтыя абставіны і абумовілі ўзнікненне і развіццё ўяўленняў аб волатах, якія жылі ў старажытным урочышчы над Сожам у былыя часы, да "пераходу Гомеля да Румянцава".





## ДЗВЕ ЗАГАДКІ СТАРАЖЫТНАГА СОЖА

Быў час, калі людзі бачылі ў рацэ жывую істоту. І чым іншым, як не гэтай таямнічай істотай, магла здавацца старажытнаму чалавеку рака, якая заўсёды кудысьці імкнулася, бегла, зіхацела на сонцы сваёй паверхняй і халодным змрокам палохала ў глыбіні; рака, здольная то разліцца, як мора, то звузіцца да невялікага ручая. Яна давала рыбу і дапамагала ў падарожжы да суседзяў, а ў гневе шкодзіла, губіла гандлёвыя чоўны, захоплівала ў свае віры няўважлівага плыўца. А яшчэ рака, як і ўсё, што існуе навокал, мела свой жыццёвы пачатак, і людзі павінны былі ведаць пра гэта.

...Сярод глухіх пушчаў, цёмных бароў стаяў калісьці стары палац вялікага валадара, сівавалосага старога Рыдана. З канца ў канец зямлі быў славуты гэты чалавек сваім багаццем незлічоным, асабліва славілася залатая карона. Зіхацелі дарагія камяні на царскай кароне так, што, калі на зямлі была ноч, яна днём станавілася. І вось здарылася — укралі гэту карону. Паслаў тады стары валадар да сваіх сыноў — Дняпра і Сожа. Даў наказ Дняпру бегчы наўздагон садамі і лугамі аж да скалістых гор. А праз некаторы час паслаў Сожа бегчы імхамі, балотамі на падмогу Дняпру, бо ён адзін, як здавалася Рыдану, не можа прабіцца праз скалістыя горы. Доўга чакаў стары бацька, не дачакаўся сваіх сыноў. А яны за доўгія гады блуканняў па зямлі ператварыліся ў рэкі. Плыве Дняпро садамі ды лугамі, а Сож — імхамі ды балотамі.

У гэтым паданні ёсць верагодныя факты, бо кожнае паданне заўсёды абапіраецца на рэальнасць. Перш за ўсё, імя старога Рыдана вельмі нагадвае назву ракі *Эрыдан*, якая выкарыстоўвалася грэчаскімі і рымскімі географамі і гісторыкамі для назвы то *Рэйна*, то *Заходняй Дзвіны*, а часцей за ўсё для абазначэння нейкай загадкавай ракі, якая цячэ на далёкай поўначы і адкуль бяруць пачатак усе астатнія рэкі, што ўпадаюць і ў паўночныя, і ў паўднёвыя моры і акіяны.

Вядома, што Сож цячэ паміж пакатых берагоў, пераважна па лясной мясцовасці, нярэдка сярод балоцістых месцаў, парослых хмызняком. У парэччы Сожа, асабліва ў яго нізоўях, налічваецца больш як дзвесце азёр, многія з якіх злучаны з ракой. Безліч заток і старыц, багатыя для палявання мясціны прыцягвалі людзей у гэты край. Сож лічыўся зручным водным шляхам з Дняпра ў Волжскую сістэму. Шлях гэты называўся "на радзімічы". Нездарма па археалагічных матэрыялах вызначаюцца кантакты верхнедняпроўскіх плямён з жыхарамі Падзясення, Падзвіння і Паволжа. М. В. Доўнар-Запольскі*, які вывучаў старажытныя водныя шляхі, лічыць, што па Сожы было больш зручна плысці да Смаленска і далей на ўсход, чым па Дняпры, які рабіў значную дугу. Шлях па Сожы скарачаў час, таму ім і карысталіся часцей за ўсё.

Сувязі паміж Падзясеннем, Пасожжам і Паволжам з'явіліся прычынай існавання аднолькавых рачных назваў у гэтым арэале. Слова *Сож* раней вымаўлялася як *Сожа*. Аб гэтым сведчаць старыя пісьмовыя крыніцы. У басейне Дзясны і Сейма ёсць дзве рэчкі *Усожа*; на мяжы Смаленскай і Маскоўскай абласцей, і ў Калужскай вобласці цякуць рэчкі пад назвай *Сежа*. Як бачым, назва беларускай ракі *Сож* у розных гукавых варыянтах сустракаецца ў многіх мясцовасцях. Гэта і з'яўляецца адной з загадак, звязаных з Сожам, бо распаўсюджанне аднолькавых назваў заўсёды мае важнае значэнне ў гістарычным плане.

Пакуль цяжка дакладна адказаць на пытанне, што азначае назва *Сож*. Ёсць некаторыя падставы лічыць, што слова, якое ляжыць у яе аснове, мела значэнне "балоцісты". Аднак гэтае слова знікла з мовы, і пацвердзіць такую думку можна толькі з дапамогай народнага падання, якое сведчыць аб тым, што Сож цячэ балотамі і імхамі.

Зрэшты, ёсць яшчэ адна магчымасць для абгрунтавання адзначанай версіі. Трэба звярнуць увагу на тое, што родныя (прынамсі, аднолькавыя па гучанню) слову *Сож* рачныя імёны сустракаюцца менавіта ў басейне Сейма (*Усожа*, варыянты наймення — *Усож, Усожь, Сожа*), а не дзе-небудзь у іншым месцы. Цячэнне Сейма геаграфічна прымыкае да арэалаў шматлікіх рэчак з цікавай назвай *Сазан* і *Сазон*, якая не толькі напамінае нам назву больш буйнага Сожа, але і тлумачыцца на аснове іранскага тэрміна *саедзаен* — балоцісты.

Безумоўна, сучасны Сож зусім не напамінае балоцістую раку. Але пры вывучэнні тапонімаў трэба мець на ўвазе, што

---

* *Доўнар-Запольскі М. В.* Нарыс гісторыі крывіцкай і дрыгавіцкай зямель да канца дванаццатага стагоддзя. Кіев, 1891.

рачныя назвы першапачаткова ўзнікалі ў якім-небудзь адным месцы і затым паступова распаўсюджваліся на ўсю раку. Відаць, так было і ў выпадку з Сожам. На старажытнай карце XVI ст. наша рака па-лацінску называлася *Nereia flumen* ("Нерея флюмэн"), гэта значыць "цячэнне, рака Нярэя". Мы ўжо тлумачылі гэтае цікавае і загадкавае найменне (гл. раздзел "Ад Гаміюка да Гомеля"). Напомнім чытачу, што, на нашу думку, яно ўзыходзіць да геаграфічных тэрмінаў балцкіх моў: літоўскага nėrija і латышскага nērija ў значэннях "вузкая доўгая пясчаная паласа, водмель у моры ўздоўж берага". Само значэнне гэтых слоў сведчыць, што ўзнікненне геаграфічнай назвы *Нярэя, рака Нярэя* магло адбыцца сапраўды у якім-небудзь адным месцы. Такім месцам, хутчэй за ўсё, з'яўлялася тэрыторыя вакол найбольш значнага пасялення, размешчанага на сожскім беразе, якое выконвала ролю гандлёвага цэнтра. Такім цэнтрам на Сожы, як мы бачылі, з даўніх часоў быў Гомель (Гомій). А паколькі найменне Нярэя ўпамінаецца ў кнізе Ф. А. Жудро, І. А. Сербава, Д. І. Даўгялы "Горад Гомель" (Вильна, 1911), то, як мы мяркуем, у аўтараў былі падставы, каб паведамляць аб загадкавым і забытым найменні XVI ст. менавіта ў сувязі з Гомелем.

І яшчэ мы адзначылі, што насупраць таго месца, дзе пачынаўся старажытны Гомій, пасярэдзіне ракі ў мінулым былі вялікія пясчаныя водмелі (нездарма ўзнікла паданне, згодна з якім слова *Гомель* паходзіць ад спалучэння слоў "*Го ! Мель !*"). А калі ўсё гэта менавіта так, а не інакш, то атрымліваецца, што лінгвістычныя (тапанімічныя), гістарычныя і геаграфічныя факты ўзаемна пацвярджаюць адзін аднаго.

Такім чынам, існуюць вельмі важкія падставы, каб лічыць, што тапонім *Нярэя флюмэн, рака Нярэя* ўзнік у раёне Гомеля. Адбылося гэта не ў XVI ст., калі ён,тапонім (выпадкова?), быў адзначаны на нейкай карце, а ў значна раннія часы, на заранку дзяржаўнасці на ўсходнеславянскіх землях. І яшчэ: тапонім *Нярэя* — балцкага паходжання. Гэта значыць, што ён узнік у мове носьбітаў балцкіх гаворак, якія насялялі Пасожжа ў перыяд да прыходу туды радзімічаў (да VIII ст.).

Радзімічы, несумненна, пераянялі балцкі тапонім, як і шэраг іншых найменняў у Пасожжы. Але, як гэта часта здараецца на землях, дзе суіснуюць нейкі час розныя народы, разам з запазычаннем чужога наймення радзімічы таксама "пераклалі" яго на сваю мову, гэта значыць адшукалі для балцкага тапоніма славянскі эквівалент-сінонім. Такім "перакладам" была назва *Сож (Сожа)*.

Напісанне гэтай назвы праз *"ж" (Сож, Сожа)* не перашкаджае магчымаму супастаўленню яе з такімі найменнямі, як *Соша, Сошынка, Усошня, Сошня, Сошыца*, якія існуюць, напрыклад, у басейне Акі, на ніжнім цячэнні Днястра і ў іншых землях. Чаргаванне *ж/ш* у рачных імёнах з'ява распаўсюджаная, якая ілюструецца шматлікімі прыкладамі: *Бежанка — Бешанка, Вішанка — Вежанка, Мурмаж — Мурмаш, Вожанка — Вошанка, Інабежка — Інабешка, Уша — Ужніца, Валожынка — Валошына, Шаня, Шанка, Шанька — Жанін,*

*Мялежа — Мялешка, Важа — Ваша* і іншыя (басейны Дняпра, Бярэзіны, Акі, Дзясны). Найменні ж тыпу *Соша, Сошынка* маюць той жа корань, што і слова *суша*, толькі з іншай ступенню чаргавання галосных. Такім чынам, *Сож (Сожа)* — літаральна "рака, якая мае "сухія" месцы, гэта значыць водмелі, пясчаныя наносы". У такім сэнсе тапонімы *Сож* і *Нярэя* сапраўды будуць сінонімамі.

Прапаноўваемае тлумачэнне рачнога імені *Сож* супярэчыць таму, аб якім мы расказвалі трохі вышэй. Аднак існаванне розных версій, тлумачэнняў не перашкаджае, а, наадварот, дапамагае высвятленню складанай тапанімічнай загадкі, якой з'яўляецца слова *Сож*.

У Сожа ёсць яшчэ адна таямніца, якая носіць ужо больш гісторыка-геаграфічны аспект, аднак, як мы ўбачым далей, яна таксама звязана з першай таямніцай (тапанімічнай) і амаль ці не з'яўляецца яе працягам.

Назіральны чалавек мог заўважыць, што зона адпачынку на левым беразе Сожа насупраць парку ўяўляе сабой паўвостраў. Рака робіць значную дугу, каб абагнуць невялікую пясчаную тэрыторыю, дзе растуць толькі вербы. У час паводкі яна затапляецца.

А чаму б рацэ не цячы праз гэтую хмызняковую нізіну? У мінулым так і было: Сож не рабіў ніякіх паваротаў, у межах горада яго цячэнне было прамым. Пра гэта сведчаць рэшткі невялікіх азёр-старыц у зарэчнай зоне, якія раскіданы не абы-як, а ўтвараюць ланцужок, які знаходзіць сваё заканчэнне ў вядомым гамяльчанам рачным заліве. Гэтая старыца, што якраз насупраць Гаміюка — паркавага возера, лепш за ўсё захавала контуры былога рачнога фарватэру. Сож змяніў сваё цячэнне. Чаму і калі? Аб прычынах змянення рэчышча, відаць, павінны разважаць спецыялісты — геолагі і географы. Што ж датычыць часу, калі гэта адбылося, то, на наш погляд, яшчэ ў X ст. Сож працякаў так, як мы мяркуем, а на тым месцы, дзе цяпер пралягае рэчышча, існавалі вялікія пясчаныя наносы. Утваралі іх на працягу стагоддзяў тыя рэчкі Гаміюкі, якія веерам выцякалі з адзінага цэнтра і накіроўваліся да Сожа, вымываючы пры гэтым на адхонах высокага правага берага вялікай ракі велізарныя яры (гл. раздзел "Ад Гаміюка да Гомеля"). Чаму мы з такой упэўненасцю называем час — X ст.? Каб зразумець гэта, лепш звярнуцца да летапісу "Повести временных лет":

"У лета 984. Пайшоў Уладзімір на радзімічаў. Быў у яго ваявода Воўчы Хвост. І паслаў Уладзімір Воўчага Хваста ўперад сябе, і сустрэй той радзімічаў на рацэ Пішчане, і перамог радзімічаў Воўчы Хвост. Таму і дразняць рускія радзімічаў, кажучы: "Пішчанцы воўчага хваста бегаюць".

Цікавая інфармацыя для роздуму вынікае з гэтага паведамлення. Перш за ўсё, летапіс даносіць да нашага часу зусім забыты этнонім *пішчанцы*, які выкарыстоўваўся для абазначэння той часткі радзімічаў, якая жыла на берагах рэчкі Пішчаны. Калі вялікі кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч накіраваў увесь свой удар менавіта па *пішчанцах*, то, відаць, яны (гэтыя пішчаны) і з'ўляліся рэальнай пагрозай для здзяйснення заду-

мы вярхоўнага правіцеля Русі. Можна меркаваць, што летапіснымі пішчанцамі была тая групоўка радзімічаў, якая пражывала вакол найбольш значнага племяннога цэнтра. Інакш навошта ваяваць з насельніцтвам, якое не валодала ні палітычнай, ні вайскавой сілай?

Самым значным племянным цэнтрам радзімічаў быў Гомель (Гомій), захоп якога гарантаваў Уладзіміру Святаславічу атрыманне пастаяннай даніны з гэтага племені. Вось мы і лічым, што пад *пішчанцамі* летапісец разумеў менавіта гомельскіх радзімічаў, а бітва на Пішчане адбылася якраз на подступах да старажытнага Гомія.

Назву рэчкі *Пішчана*, на наш погляд, трэба разумець як "Пясчана", "Пясчаная рака". Тут, дарэчы, будуць нашы развbooжанні накont паходжання назваў *Сож (Сожа)* і *Нярэя*, а таксама інфармацыя з галіны гістарычнай геаграфіі аб утварэнні пясчаных наносаў у раёне Гомеля. *Пішчанай*, верагодна, называлася адна з тых рэчак, якія мы мелі на ўвазе, калі разважалі аб назве *Гомель* (гл. раздзел "Ад Гаміюка да Гомеля").

Неабходна агаварыць і вось яшчэ што. У гістарычных даследаваннях часта пры каменціраванні нагаданага летапіснага паведамлення ўказваюць на рэчку Пішчану, што ўпадае ў Сож паблізу горада Слаўгарада Магілёўскай вобласці. Аднак пры такім вырашэнні пытання, як нам здаецца, арыентуюцца больш на супадзенне гучання імя летапіснай рэчкі, з найменнем сучаснага воднага аб'екта, чым на факты. Па-першае, у Верхнім Падняпроўі можна адшукаць шмат рачулак з назвамі тыпу *Пясчана, Пясочна, Пескаватка, Пясчанка*. Па-другое, невядома, каб на гэтых рачулках размяшчаліся радзіміцкія цэнтры. Нарэшце, этнічнае найменне *пішчанцы* магло ўзнікнуць толькі на тэрыторыі з высокай шчыльнасцю насельніцтва, у наваколлі буйнага племяннога цэнтра. Пры іншых умовах этнічныя найменні не ўзнікаюць.

І тым не менш мы далёкія ад таго, каб настойваць на канчатковым вырашэнні пытання. Версія ёсць версія. І далейшыя даследаванні пацвердзяць або абвергнуць зробленыя тут меркаванні.





# АДКУЛЬ ПАЙШЛА НАЗВА СВЕДЗЬ, ШТО ТАКОЕ ХОЎХЛА І ЧАМУ ВЁСКА ГАРДУНАМІ ЗАВЕЦЦА?

Да мяне часта звяртаюцца настаўнікі, якія кіруюць гурткамі роднай мовы і гісторыі Палескага краю, бібліятэкары, якія складаюць летапісы сваіх населеных пунктаў, студэнты, якія пішуць курсавыя і дыпломныя работы, проста зацікаўленыя і неабыякавыя да ўсяго людзі. Пытаюцца пра паходжанне тых ці іншых назваў населеных пунктаў, рэк, азёраў. Скажу шчыра: не кожнае пытанне цікавае для мяне з навуковага пункту гледжання. Часта раю людзям зазірнуць у той ці іншы слоўнік, тапанімічны даведнік, адпаведную кнігу. Рэдка, але трапляюцца пытанні, якія прыносяць сапраўднае задавальненне, бо дазваляюць не толькі даць дакладны адказ тым, хто пытае, але і даюць магчымасць зрабіць уласнае меркаванне, супаставіць розныя пункты погляду, прыадкрыць таямніцы цікавых найменняў.

Аб адказах на тры такія пытанні і пойдзе размова ў гэтым раздзеле.

I. Рэчка *Сведзь* і вёска *Сведскае* Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці.

Што ўражвае ў тапонімах у першую чаргу? Відаць, незвычайная, разнастайная, непадобная адна на адну знешняя форма назваў. Сапраўды, параўнайце: Бярлянка, Тросна, Зубар, Палонка, Лоша, Каўпата, Стомець, Габель, Судзінка, Сведзь... Усё гэта — невялікія рачулкі ў Пасожжы. Сама Зямля нібы размаўляе з намі на дзіўнай мове назваў, і з яе дапамогай можна

скласці цікавы і вельмі патрэбны нашым сучаснікам і нашчадкам летапіс былых падзей і здарэнняў.

Толькі вось зразумець гэтыя словы вельмі цяжка. Часам быццам бы знойдзены сэнс аказваецца на справе самай звычайнай легендай, хоць і цікавай, але ў большасці сваёй выдуманай.

Так вось атрымалася і з назвай рачулкі Сведзь. Гэтая рэчка бярэ пачатак непадалёку ад вёскі Лукі, што ў Калінкавіцкім раёне, працякае па тэрыторыі Светлагорскага раёна і ў Рэчыцкім раёне ўпадае ў Бярэзіну. Менавіта на апошніх кіламетрах яе цячэння ў нейкі час нарадзілася паданне. Жыхары вёскі *Сведскае* (а гэтая вёска атрымала сваё імя якраз ад рачной назвы *Сведзь* ) па гучанні зблізілі слова *Сведзь* з этнічнай назвай *шведы*. Падставы для такога тлумачэння наступныя: у час руска-шведскай вайны ў пачатку XVIII ст. шведскія войскі быццам бы праходзілі па гэтых месцах, вось у рачным найменні і зафіксавалася гэтая акалічнасць. Для падмацавання версіі прыводзіцца такі факт: у суседніх урочышчах *Горкі* і *Гарадок*, што ля вёскі Акцябр (былая Задзярэеўка) у Камсамольскім сельсавеце Рэчыцкага раёна, існуюць старыя курганы, якія лічацца месцамі пахавання шведскіх салдат.

Але знаёмства з картай маршрута войскаў Карла XII у Расію паказвае, што на берагах нашай Сведзі шведаў не было. Шведскія войскі рухаліся праз Шклоў, Магілёў, Прапойск (Слаўгарад), на Старадуб (цяпер населены пункт Бранскай вобласці), а адтуль — на тэрыторыю Украіны. Што датычыць "шведскіх магілак" — курганоў, дык у дадзеным выпадку мы яшчэ раз знаёмімся з цікавым моўным фактам. "Шведскімі магілкамі" часта на Беларусі называюць узвышшы, узгоркі, якія былі насыпаны людзьмі шмат стагоддзяў назад на месцах пахавання. Толькі пахаванні гэтыя адбываліся ў такія часы, якіх нават памяць чалавечая не дакранае. А вось водгалас падзей руска-шведскай вайны як самых далёкіх, па народнаму разуменню, што адбываліся на нашай зямлі, яшчэ перадаецца з пакалення ў пакаленне, тым больш, што гэтая вайна мае прамое дачыненне да тэрыторыі Беларусі.

А калі размова зайшла канкрэтна пра курганы па-над Сведдзю, то трэба сказаць, што яны, відаць, звязаны з гарадзішчам ля вёскі Акцябр. Гарадзішча ніколі не раскопвалася, таму цяжка нават сказаць, да якіх стагоддзяў яно адносіцца.

Такім чынам, рака Сведзь не атрымала сваё імя ад шведаў. Назва Сведзь узнікла раней за вядомыя падзеі першай паловы XVIII ст. У парэччы Дняпра ёсць некалькі рачных імёнаў, якія маюць той жа корань, што і назва *Сведзь*. Гэта назвы рачулак *Света, Светка, Світка, Свідзера, Свідня, Свідавец, Усвятка.* Сама Сведзь мае яшчэ паралельныя назвы — *Свіда* і *Свяда.* Адно з падобных рачных імёнаў ёсць і ў парэччы Прыпяці — *Свідаўка.* Другая назва гэтай ракі *Балотніца.* "Пераклад" дазваляе меркаваць, што і першая назва *Свідаўка* таксама мела значэнне, якое можна сфармуляваць як невялікая нізіна, балоцістае рэчышча невялікай лясной рачулкі. Відаць, такі ці блізкі сэнс мелі і іншыя прыведзеныя назвы, у тым ліку *Сведзь.* Аналагічны корань маецца і ў назве горада *Нясвіж* (першапа-

чаткова *Несъвьжъ*) у спалучэнні з адмоў'ем не-(*ня-*). *Нясвіж* літаральна — "не балота, не балоцісты". Нясвіж атрымаў назву ад воднага аб'екта, верагоднага волака паміж рэчкамі Ушай і Ланню, які, мабыць, меў найменне *Сведзь, Свеж, Свіж.*

Напрошваецца пытанне: а дзе ж тое слова, якое адлюстравалася ў назве *Сведзь* і падобных на яе? Такое слова не абавязкова павінна быць у мясцовых гаворках. Магчыма, яно засталося ў мінуўшчыне, і толькі назва данесла яго да нашага часу. Такое слова можа быць і ў іншых мовах народаў СССР, з якімі здаўна мелі кантакты ўсходнія славяне.

Некаторыя даследчыкі бачаць у гідронімах (водных назвах, ад грэчаскага *гідра* — вада + *оніма* — імя) тыпу *Сведзь, Свідаўка, Свіднік, Свідавец* (апошнія формы сустракаюцца на тэрыторыі Украіны) — адлюстраванне назвы расліны *Cornus sanguinea; свідзіны* ( у рускіх гаворках мае таксама абазначэнні *слепокур, курослеп*, параўн. таксама рускія дыялектныя словы *свидый, свидоватый* — "няспелы, зялёны, сыры, кіслы, аскомісты" (У. І. Даль).

Наша рэчка Сведзь выцякае амаль з таго самага месца, што і рака Ведрыч, прыток Дняпра. У гідроніме *Ведрыч* вычляняецца корань, які мае яшчэ індаеўрапейскія вытокі: *ūdo (r), udos* — "вада". У Верхнім Падняпроўі, парэччы Акі і ў іншых раёнах Усходняй Славіі наогул шмат водных аб'ектаў, якія носяць назвы з гэтым коранем у розных гукавых варыянтах: *Выдраж, Атражык, Вядзерка, Одрына, Адроўка,Выдра, Вотра, Атраш, Выдзерка, Ватрынка*, а таксама — *Патра, Петрынка, Педрынка, Бодрава, Мудроўка, Бедрына* (чаргаванне губных зычных *п, б, в, м* уласціва для ўсходнеславянскай гідранімії). Нагадаем яшчэ адну назву. У вёсцы Сведскае існуе цікавая вуліца з назвай *Каменны Крыж*. Старажылы гавораць, што, згодна з летапісам, які калісьці пісаўся ў мясцовай царкве, тут быў старажытны насып з каменным крыжам наверсе. А дзе той летапіс цяпер? Ці ён беззваротна знік? А можа хто і захаваў яго фрагменты, не ведаючы аб гэтым сам? А што за крыж на месцы загадкавага пахавання-насыпу? Ці не ўзыходзіў ён да старажытных часоў, калі пераможныя крокі новай веры — хрысціянства адзначаліся менавіта такімі крыжамі ў некаторых месцах?

Пытанняў, як бачым, шмат. Застаецца спадзявацца, што археолагі і гісторыкі зацікавяцца той інфармацыяй, якую дае назва. Было б добра, калі б і мясцовыя краязнаўцы не засталіся ўбаку.

II. *Што такое Хоўхла?*

*Хоўхла* — гэта невялікая вёсачка ў Буда-Кашалёўскім раёне Гомельскай вобласці, нічым не горшая і нічым не лепшая за падобныя на яе. Але вось назва... Ці не адна з самых загадкавых і складаных для "расшыфроўкі".

Для чытачоў, напэўна, будзе цікавым не толькі канкрэтны адказ на пытанне аб паходжанні гэтага тапоніма, але і сам механізм пошуку, які прыводзіць да вырашэння пытання. Таму перш чым расказаць аб магчымым узнікненні гэтай вельмі "цьмянай" геаграфічнай назвы, трэба спыніцца вось на чым. Вядома, што адно ізаляванае слова, разглядаемае без параўнання з іншымі, ніколі не раскрые тайну свайго паходжання.

Геаграфічная ж назва па сваёй прыродзе якраз і нагадвае ізаляванае слова, бо можа існаваць на дадзенай тэрыторыі без усякай сувязі з найменнямі суседніх аб'ектаў. Так, у непасрэднай блізкасці ад вёскі Хоўхла існуюць населеныя пункты Берагавая Слабада, Чабатовічы, Івольск, Целяшы, Барвёнаўка, Чорнае. Кожная з назваў гэтых населеных пунктаў мае сваю асобую, таму і непаўторную гісторыю. Вось чаму, калі спрабаваць растлумачыць адпаведнае імя, узятае само па сабе, усе, здавалася б, вытанчаныя намаганні акажуцца дарэмнымі.

Але ізаляванасць геаграфічных назваў з'яўляецца адноснай. Калі зрабіць "падарожжа" па геаграфічнай карце, абавязкова адшукаюцца падобныя адно на другое найменні ў розных, нават і суседніх землях. Для кожнай назвы неабходна вызначыць перш за ўсё яе геаграфічнае распаўсюджанне. І толькі тады стане больш-менш празрыстым першапачатковае значэнне кожнага загадкавага імя.

Самымі блізкімі тэрытарыяльнымі адпаведнасцямі для назвы Хоўхла Буда-Кашалёўскага раёна будуць найменні вёсак *Хаўхоліца* Барысаўскага і *Хоўхлава* Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Дарэчы, цікава, што яшчэ ў XVI ст. гэты апошні населены пункт лічыўся як мястэчка *Хоўхла*, дзе жыў і працаваў вядомы беларускі асветнік Сымон Будны. У Навагрудскім раёне, на Гродзеншчыне, вядома вёска *Хохлава*. Іншыя паралелі будуць цалкам "рачнымі". Цэлая "калекцыя" рэчак з назвамі *Халахольня, Халхольня, Халахолец, Холх, Холг, Хахолк, Халхоў* адшукваецца ў басейне Акі. Ёсць такія назвы і ў Падняпроўі. Пераважная большасць "рачных" імёнаў у параўнанні з назвамі населеных пунктаў сведчыць, што нагаданыя вышэй найменні вёсак узніклі ад абазначэнняў водных аб'ектаў, на якіх яны размяшчаліся. Такім чынам, вёска Хоўхла, відаць, узнікла на рэчцы Хоўхла. Гэтай ракі можа цяпер і не быць. Але аб яе існаванні ў мінулым сведчыць назва населенага пункта. Дарэчы, за 2 кіламетры на захад ад вёскі Пакалюбічы Гомельскага раёна працякае невялікі ручай *Хоўхля*, які ўпадае ў Сож. Ля Пакалюбіч — нізоўі Хоўхлі, а вытокі, магчыма, трэба шукаць дзесьці на захад, на тэрыторыі суседняга Буда-Кашалёўскага раёна. Ці не тая гэта *Хоўхля-Хоўхла*, якая дала сваё імя і вёсцы Буда-Кашалёўскага раёна?

У некаторых беларускіх гаворках ужываюцца словы *хехла, холхла, хелхла, хоўхла, халхоліца** ў значэнні "балоцістая нізіна, зараснікі хмызняку ля старога рэчышча". Як бачым, сувязь паміж гэтымі словамі і геаграфічнымі назвамі несумненная. Магчыма, што адзначаныя словы і падказваюць першапачатковае значэнне адпаведных геаграфічных імён.

Што вынікае з той інфармацыі, якую мы атрымалі? Перш за ўсё, паралелі паміж адпаведнымі назвамі ў Падняпроўі, на тэрыторыі Беларусі і ў басейне Акі сведчаць аб старажытных сувязях гэтых двух усходнеславянскіх арэалаў. Па-другое, наяўнасць такіх варыянтаў назваў рэчак, як *Халахолка, Халхольня*, з аднаго боку, і *Калкаляйка* з іншага боку, у басейне Акі дае магчымасць

---

* *Яшкіна І. Я.* Беларускія геаграфічныя назвы. Мн., 1971.

шукаць адпаведныя з'явы і ў нашым краі. І яны сапраўды ёсць. Мы лічым, што назву *Хоўхла* магчыма параўноўваць з геаграфічнымі найменнямі тыпу *Колкі* (вёска Колкі ёсць, напрыклад, у Петрыкаўскім раёне). *Колкамі* называюць у Беларусі "бярозавае рэдкалессе; часцей за ўсё на балоце". А ў рускіх гаворках вядомы і іншыя значэнні слоў *колак, колкі* — "сырое, балоцістае месца, зарослае хмызняком", "усякі мелкі невысокі лес, хмызняк". Ёсць у асобных рускіх пагаворках і цікавае слова *колокол* — "малады бярозавы лес". Геаграфічныя назвы *Колкі* вядомы таксама на Украінскім Палессі.

Такім чынам, мы бачым, што цікавячая нас геаграфічная назва Хоўхла Буда-Кашалёўскага раёна зусім не ізаляваная і "цьмяная", як магло здавацца спачатку.

III. Чаму вёска Гардунамі завецца?

Імя кожнага геаграфічнага аб'екта адлюстроўвае такую характэрную яго асаблівасць, якая была найбольш выразнай, самай адметнай рысай у момант узнікнення назвы.

На наш погляд, назва вёскі Гардуны, што ў Добрушскім раёне Гомельскай вобласці, утварылася менавіта такім чынам. Гардуны — гэта верагоднае прозвішча, якое належала якому-небудзь чалавеку, *Гардуну*. Магло быць і так, што назва гэтая ўзнікла ад калектыўнага наймення ўсіх яе жыхароў, дадзенага ім суседзямі.

Калі звярнуцца да слоўнікаў, дзе зафіксавана моўная разнастайнасць розных беларускіх гаворак, мы ўбачым шмат слоў, падобных па сваёй структуры на цікавячую нас назву. Напрыклад, чалавека, які часта хварэе, называюць *хваруном* ці *кашлюном*; таго, хто вельмі тоўсты, тлусты, гладкі, ведаюць як *гладуна*. Ёсць і іншыя словы: ляўша — *ляўшун*, сёрбала — *сярбун*, прыгожы — *прыгажун*. Прыклады можна было б працягваць бясконца: тут і *весялун*, і *вяртун*, і *скакун*, а яшчэ *пабягун, лапатун, сапун, дзікун, ласун, плаксун*...

Мянушка ці прозвішча гардун, якое ляжыць у аснове назвы Гардуны, утварылася ад прыметніка *горды*. Відаць, *гардунамі* назвалі жыхароў вёскі іх суседзі за горды, незалежны, а магчыма і за фанабэрысты, ганарысты, пагардлівы характар.

Вёска Гардуны цікавая не толькі сваёй назвай. Побач з ёй, на беразе невялічкай рачулкі Вуць, знаходзіцца музей пад адкрытым небам — старажытнае гарадзішча, знойдзенае яшчэ ў 70-ых гадах XIX ст., але дагэтуль дастаткова не даследаванае і не раскапанае. Дарэчы, на рэчцы Вуць, побач з аднайменнай вёскай — цэнтрам Вуцеўскага сельсавета, у склад якога ўваходзяць і Гардуны, існуе яшчэ адно недаследаванае гарадзішча. Археалагічныя помнікі сведчаць аб багатай падзеямі старажытнай гісторыі гэтых мясцін і падкрэсліваюць невыпадковасць такой надзвычай даўняй рэаліі краю, як назва рэчкі Вуць. Рачное імя *Вуць* утварылася ад слова, якое калісьці выкарыстоўвалася ў Пасожжы ў якасці самастойнага геаграфічнага тэрміна са значэннем "вада, рака". Гэтае слова, якое мае яшчэ індаеўрапейскія вытокі, даўно знікла з мовы, але яго "сляды" захаваліся ў старадаўніх назвах і такіх суседніх з Вуццю рэчак, як *Харапуць (Харап-уць)* і *Іпуць (Іп-уць)*.





## ПРА КРОШАЧКУ-ХАЎРОШАЧКУ І РАКУ ХАЎРАТКУ

Напэўна, няма чалавека, які б не ведаў, хто такая Крошачка-Хаўрошачка. Гэтая маленькая дзяўчынка прыходзіць да нас у дзяцінстве, і яе вобраз застаецца ў нашай памяці назаўсёды. Бо прымушаў нас радавацца і засмучацца, вучыць адрозніваць дабро ад зла. Мінае час, і казка зноў прыцягвае нашу ўвагу, але на гэты раз ужо ў сувязі з іншымі, больш складанымі, хоць і не менш цікавымі пытаннямі.

Хто адразу скажа, чаму дзяўчынку Крошачку завуць Хаўрошачкай, чаму ёй дапамагае менавіта чароўная карова? Відаць, камусьці гэтыя пытанні здадуцца дзіўнымі і нязначнымі. Ці так гэта важна, чаму дзяўчынцы дапамагала карова, а не конь ці сабака, ці не якая-небудзь іншая свойская жывёла? Калі глядзець на карову вачамі толькі нашага сучасніка, гэта пытанне на самай справе не вартае ўвагі. Бо наш сучаснік амаль не надае значэння тым старажытным сімвалам і абрадам, аб якіх, мабыць, яшчэ ведаюць адна-дзве з самых старых бабуль у нашых вёсках. Наш сучаснік купляе ў магазіне абаранкі, любіць паласавацца смачным крэндзелем і не ведае, што менавіта такая форма гэтых пшанічных вырабаў існуе зусім не выпадкова.

Калісьці, у глыбокай старажытнасці, у продкаў сучасных усходніх славян існаваў культ каровы і быка. Карова лічылася свяшчэннай жывёлай, з ёй звязваліся надзеі на ўрадлівасць, сімвалам якой яна і была. Карова ці бык, акрамя таго, былі

ахвярнымі жывёламі, іх прыносілі багам і чакалі добрых вынікаў ад гэтага.

Прайшоў нейкі час — карова з абстрактнага сімвала ператварылася ў неабходную прыналежнасць кожнай сялянскай гаспадаркі, бо без малака і мяса цяжка было пражыць людзям, якія цяпер ужо не спадзяваліся толькі на выгады палявання. Аднак памяць аб сімвалічным значэнні каровы засталася. Асноўную некалі ахвярную жывёлу — карову замяніў каравай. Цікава, што слова *каравай* мае той жа самы корань, што і слова *карова*. Саму ж карову ва ўсялякіх рытуальных дзеяннях пачалі абазначаць з дапамогай абаранкаў і крэндзеляў. Яшчэ ў XIX ст. каравайныя рытуалы складалі аснову вясельнага абраду. У некаторых месцах Беларусі каравай выпякаўся і на свята сустракання вясны. Гэты вялікі хлеб, які ўпрыгожваўся малюнкамі сонца, месяца, шышак, жывёл і птушак, атаясамліваўся ў свядомасці людзей з дзённым свяцілам, шчасцем, надзеяй на поспех ва ўсіх справах.

Вось які сэнс мае казачная карова ў добра вядомай казцы. Яна — водгалас ушанавання, старажытнага культу буйнай рагатай жывёлы ў многіх народаў Усходняй Еўропы.

Але нечаканае и незвычайнае ў гэтай казцы яшчэ не канчаецца. Аказваецца, што маленькая дзяўчынка Крошачка па прозвішчу Хаўрошачка сімвалізуе не толькі сіроцкую нядолю. Вытокі імя гэтай казачнай гераіні выяўляюць глыбінныя яго сувязі з гісторыяй славянскіх народаў.

Каб зразумець гэта, давайце зробім невялікае падарожжа праз стагоддзі ў мінулае. У далёкі час сярод шматлікіх славянскіх плямёнаў, што рассяліліся на вялікіх прасторах Усходняй Еўропы, існавала племя харватаў. Сёння гэтае імя вядома як абазначэнне аднаго з балканскіх народаў на тэрыторыі Югаславіі. Але ў X ст. харваты ўпаміналіся не толькі на Балканах, але і на больш паўночных тэрыторыях, у прыватнасці, у вярхоўях Днястра, а на думку некаторых вучоных, сляды харватаў адшукваюцца нават у парэччы Прыпяці.

Так гэта ці не, але вось што цікава: у сістэме Дняпра ( у тым ліку і на Гомельшчыне) ёсць некалькі невялічкіх рэчак з назвамі *Харватка, Хаўратка, Хаўрачка, Хамрач*. Гэтыя рачныя імёны мовазнаўцы тлумачаць якраз у сувязі з племянным найменнем харватаў. І яшчэ адзін цікавы факт: зноў-такі ў Падняпроўі, у Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці, існуе вёска пад назвай *Каравацічы*. Дык вось, ёсць падставы і гэтае геаграфічнае імя лічыць звязаным з харватамі.

Слова *харваты* — вельмі старажытнае і ў нейкай ступені даволі таямнічае. Згодна з адной са шматлікіх спроб растлумачыць гэта этнічнае найменне, *харваты* — літаральна ў перакладзе з іранскіх моў "жаночыя, багатыя жанчынамі". Аўтары такога тлумачэння (а сярод іх вядомы савецкі этымолаг А. М. Трубачоў) лічаць, што этнонім *харваты* нарадзіўся ў прыазоўскіх стэпах, адкуль пастунова перавандраваў на захад. У Прыазоўі гістарычна былі вельмі моцнымі элементы матрыярхату, менавіта там нарадзіўся шырока вядома ва ўсім свеце міф аб амазонках — жанчынах-ваяўніцах.

Наша Крошачка-Хаўрошачка — далёка не ваяўніца, але яе імя недвухсэнсава сведчыць аб прыналежнасці да харватаў. Менавіта так — Крошачка-Харватка — павінна было гучаць, а, магчыма, так і гучала яе імя. Крошачка Харватка — гэта тое ж, што "Крошачка Дзяўчынка". Аб тым, што такі пераклад мае сэнс, сведчаць дзве назвы адной і той жа ракі ў парэччы Днястра: адна назва гучыць як *Оўрад* (вучоныя таксама звязваюць яе з харватамі), а іншая — Дзеўка. Оўрад-Дзеўка, Крошачка-Хаўрошачка, Крошачка-Дзяўчынка.

Ці не дастаткова гэтых падабенстваў, каб задумацца аб іх прычыне?

Гістарычныя прыклады з Крошачкай-Хаўрошачкай на гэтым не скончыліся, бо існуюць яшчэ і іншыя магчымыя тлумачэнні этнічнага наймення *харваты*, да якога ўзыходзіць імя гэтай казачнай гераіні.

Так, згодна з яшчэ адным тлумачэннем, этнонім з коранем *харв,-серв- (серб)* з'яўляецца абазначэннем аднаго з самых старажытных праславянскіх плямён. Пры гэтым этнонім *харваты* ёсць не што іншае, як іранская перадача славянскага наймення *сербы*. Гэты апошні ў сваю чаргу ў грэчаскай транскрыпцыі гучаў як *карбоны, карвоны*, што па структуры магчыма супаставіць з лацінскім *cervus* — "карова", "алень".

Такім чынам, атрымліваецца, што этнонім *харваты* (дакладней, старажытны корань у выглядзе *харв,- серв-, серб-*) адлюстроўвае культ каровы, быка, які існаваў як у праваслаўных плямён, так і ў народаў, з якімі славяне мелі трывалыя кантакты.

Вось такая сувязь існуе паміж імем Крошачкі-Хаўрошачкі і назвай ракі Хаўраткі. У такім аспекце зразумела, чаму Крошачку Хаўрошачку апякуе менавіта карова.

## ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

Невялікае падарожжа ў мінулае асобных гарадоў і вёсак Палескага краю падыйшло да канца. Безумоўна, аб вытоках шматлікіх палескіх населеных пунктаў, аб паходжанні іх назваў, якія ў значнай ступені, як маглі ўпэўніцца чытачы, дапамагаюць прыадкрыць пачатковыя старонкі нашых населеных месц, можна яшчэ расказваць ды расказваць.

Але і тое, аб чым апавядалася ў гэтай кніжцы, на думку аўтара, будзе цікавым і карысным для ўсіх тых, каму неабыякава беларуская гісторыя, спадчына мінулых стагоддзяў.

Мы разлічвалі на шырокія колы чытачоў, у тым ліку і на тых, для каго найменні родных мясцін пакуль яшчэ застаюцца толькі адрасным знакам. "Мая справа — запаліць (няхай і не ў кожным, няхай у адным з сотні маіх чытачоў) цікавасць да дзіўнай, нялёгкай і цудоўнай навукі. Калі гэта здарыцца, вы знойдзеце, як пракласці шляхі да паглыбення вашых звестак аб ёй". Гэтыя словы пісьменніка Л. В. Успенскага аб тапаніміцы як мага лепш адлюстроўваюць асноўную мэту напісання дадзенай кніжкі.

Галоўным для нас з'яўлялася тое, каб упэўніць чытача ў неабходнасці паўсядзённых уважлівых і беражлівых адносін да нацыянальных моўных скарбаў, сапраўдных помнікаў культуры і гісторыі — тапонімаў. Гэтай мэце зусім не супярэчыць тое, што ў асобных выпадках мы расказвалі не толькі і не столькі пра тапонімы, колькі пра разнастайныя падзеі, што адбываліся ў мінулым у тых ці іншых населеных пунктах краю. Рабілі мы гэта таму, што геаграфічныя найменні жывуць і функцыяніруюць толькі ў гісторыі, што вельмі часта зразумець тыя ці іншыя падзеі можна толькі з дапамогай тапонімаў, і наогул кожны тапанімічны факт — гэта своеасаблівае спалучэнне

лінгвістычнай, геаграфічнай і гістарычнай інфармацыі. Адсюль становіцца зразумелым, чаму мы паслядоўна і настойліва праводзілі праз усю кнігу тэзіс аб энцыклапедычнасці той інфармацыі, якую можна атрымаць, пракладваючы сцежкі ў даўніну з дапамогай геаграфічных назваў.

Мы спадзяемся, што нашу кнігу прачыталі спецыялісты-гісторыкі, тапанімісты, краязнаўцы, і ўпэўнены, што далёка не ўсё для іх у ёй будзе бясспрэчным. Аднак, на наш погляд, так і павінна быць. Сам змест кнігі, прапаноўваемыя тлумачэнні многіх геаграфічных назваў, пабудаваныя згодна аўтарскай канцэпцыі, вывады, якія робяцца на аснове тапанімічных этымалогій, — усё гэта змяшчае дастаткова вялікі зарад палемічнасці. І калі наша кніга паслужыць імпульсам для новых краязнаўчых даследаванняў з тапанімічным падтэкстам не толькі ў палескім, але і ў іншых рэгіёнах Беларусі, мы будзем лічыць сваю задачу поўнасцю выкананай.

## ПРА ГЕАГРАФІЧНЫЯ НАЗВЫ

*Агеева Р. А.* Происхождение имен рек и озер. М., 1985.
*Агеева Р. А.* Страны и народы: происхождение названий. М., 1990.
*Барашков В. Ф.* Знакомые с детства названия. М., 1982.
*Гурулев С. А.* Что в имени твоем, Байкал? Новосибирск, 1982.
*Жучкевич В. А.* Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1974.
*Жучкевич В. А.* Общая топонимика. Мн., 1980.
*Жучкевич В. А.* Топонимика Белоруссии. Мн., 1968.
*Жучкевич В. А.* Происхождение географических названий Белоруссии. Мн., 1961.
Імя тваё — Белая Русь. Мн., 1991.
*Морозова М. Н.* Вопросы топонимики. М., 1969.
*Мурзаев Э. М.* Топонимика популярная. М., 1973.
*Мурзаев Э. М.* Очерки топонимики. М., 1974.
*Мурзаев Э. М.* География в названиях. М., 1982.
*Мурзаев Э. М.* Словарь народных географических терминов. М., 1984.
*Нерознак В. П.* Названия древнерусских городов. М., 1983.
*Никонов В. А.* Краткий топонимический словарь. М., 1966.
*Никонов В. А.* Введение в топонимику. М., 1965.
*Попов А. И.* Географические названия: Введение в топонимику. М.-Л., 1965.
*Попов А. И.* Названия народов СССР: Введение в этнонимику. Л., 1973.
*Попов А. И.* Следы времен минувших. Л., 1981.
*Поспелов Е. М.* Школьный топонимический словарь. М., 1988.
*Поспелов Е. М.* Туристу о географических названиях. М., 1988.
*Поспелов Е. М.* Топонимика в школьной географии. М., 1981.
*Смолицкая Г. П.* Занимательная топонимика. М., 1990.
*Суперанская А. В.* Что такое топонимика? М., 1985.
*Трубачев О. Н.* В поисках единства. "А кто там идет?" Взгляд на этногенез белорусов //Русская речь. 1991. № 3—4.
*Трубачев О. Н.* В поисках единства. Откуду есть пошёл Киев... и другие вопросы //Русская речь. 1990. № 5—6.
*Трубачев О. Н.* Русь, Россия //Русская речь. 1987. № 3.
*Яшкін І. Я.* Беларускія геаграфічныя назвы. Мн., 1971.

## ЗМЕСТ

Научно-популярное издание

РОГАЛЕВ АЛЕКСАНДР ФЕДОРОВИЧ

ДОРОГИ В СТАРИНУ:
Географические названия Белорусского Полесья

Минск, издательство "Полымя"
На белорусском языке

Навукова-папулярнае выданне

РОГАЛЕЎ АЛЯКСАНДР ФЁДАРАВІЧ

СЦЕЖКІ Ў ДАЎНІНУ:
Геаграфічныя назвы Беларускага Палесся

Рэдактар П. П. Сушко
Мастацкі рэдактар І. А. Дзямкоўскі
Тэхнічны рэдактар Т. А. Тарасенка
Карэктар Л. М. Сцяпанава
Аператары Л. І. Панцялеенка, Л. А. Кулакоўская

ІБ № 922
Падпісана да друку з арыг.-макета 29.01.92. Фармат 60х901/16. Папера афсетная № 1. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 10,0. Ум.фарб.-адб. 20,05. Ул-выд.арк. 10,92. Тыраж 4400 экз. Выд. № 7604. Зак. 108. Цана 3 р. 20 к.
Выдавецтва "Полымя"Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
220600, Мінск, пр. Машэрава, 11
Надрукавана на Мінскай фабрыцы каляровага друку. 220115, Мінск, Каржанеўскага, 20.

